*Наша памяць падобна на вітрыны магазінаў,*
*дзе выстаўляюцца то адна, то другая*
*фатаграфіі ўсё аднаго і таго ж твару.*
*І звычайна самую апошнюю не здымаюць*
*даўжэй за астатнія.*

*Марсель Пруст*

# Уступ

Кожны населены пункт варты сваёй кнігі. Крынкі вартыя яе напэўна. Іх гісторыя – гэта працяглыя, кароткія, імгненныя, скамечаныя, зайздросныя, светлыя і змрочныя, складаныя, цяжкія, але ўсё адно адметныя, бо ніколі непаўторныя, лёсы людзей. Гісторыя па большасці не запомніла іх; праглынулася ўсё, ці амаль усё значнае, важкае ў жыцці местачкоўцаў: усмешкі, жарты, сумненні, хваляванні, усю гаму эмоцый і ўсё багацце слоў.

Штодзённае жыццё мястэчка, бясконцыя клопаты і турботы яго тубыльцаў, мітусня дзён праходзілі на фоне розных падзей дзяржаўнага, нацыянальнага маштабу. Местачкоўцы жылі сваім жыццём і адначасова, болей несвядома, але часам і даволі асэнсавана, жыццём краю, па законах дзяржавы-ўлады, немавядома ўжо якой па ліку.

Нарысы ахопліваюць невялікі, трошкі болей чым стогадовы адрэзак крынкаўскай гісторыі – з 1795 па 1918 год. Абапіраючыся на факты, дакументы, лічбы, імёны, прозвішчы, выцягваючы з суцэльнага забыцця постаці сялян і мяшчан, гаспадароў маёнткаў і чыноўнікаў, угледзімся ў мінуўшчыну Крынак як у кавалак люстэр-ка гісторыі Краю. Каб зразумець тых крынчан, трэба будзе неаднара-зова дастаўляць дадатковыя кавалкі нашай гісторыі, бо маштаб іх спраў і ўчынкаў час ад часу выходзілі за межы адзінага мястэчка.

Крынкі ад мінуўшчыны, неаднаразова засведчанай у славутай Літоўскай метрыцы, дажылі знаным мястэчкам да сумных дзён часоў трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай [1]. Наперадзе быў новы, супярэчлівы адрэзак іх жыцця. Якім ён стане для мястэчка з яго ўжо чатырохсотгадовай пісьмовай гісторыяй, у 1795 годзе можна было толькі здагадвацца.

---

[1] Lietuvos Metrika. – Kn. 9 (1511–1518). – Vilnius: Zaka, 2003. – P. 380.

Адзіная магчымасць пазнаёміцца з жыхарамі мястэчка – паглыбіцца ў гушчар архіўных жоўтых аркушаў, немалая частка якіх, на шчасце даследчыка, не кранута рукою папярэдніка-гісторыка, а толькі архіварыуса. Увогуле з крынкаўскімі паперамі гэта адбывалася амаль заўсёды, калі не лічыць пэўнага стосу дакументаў, дэталёва прааналізаваных Алесем Чобатам.

Мінуўшчына мястэчка Крынкі па-рознаму адзначана на старонках гістарычных прац. Найбольшай увагі даследчыкаў заслужылі такія старонкі гісторыі расійскага перыяду, як дзейнасць крынкаўскага касцёла і жыццё габрэйскай абшчыны. Апошняе азначае, што яны звярталіся да гісторыі крынкаўскага гарбарства, рэвалюцыйнага руху пачатку ХХ стагоддзя, іудзейскага асветніцтва і адукацыі. Амаль не адлюстраваны ў літаратуры падзеі гаспадарчага жыцця. Зусім не звярталіся да ваенных падзей як 1812, так і 1915 гг. Фактычна даследчыкі абышлі ўвагаю вельмі цікавы працэс урбанізацыі ў Крынках у пачатку ХХ ст. Усё разам прымушала збіраць звесткі аб жыцці мястэчка па кроплях, радавацца кожнаму новаму прозвішчу крынчаніна, кожнай новай лічбе гаспадарчага развіцця, кожнаму згадванню, ацэнцы, меркаванню пра той ці іншы бок жыццяпісу гэтага мястэчка.

Галоўнымі крыніцамі збору звестак для дадзенай кнігі сталі Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродне, Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці, аддзелы рэдкай кнігі Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-архіўнага музея, бібліятэка НАН Беларусі, Нацыянальная бібліятэка Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная бібліятэка Расіі ў Санкт-Пецярбургу (бібіліятэка імя М.Я. Салтыкова-Шчадрына), бібліятэка Саюза палякаў Беларусі ў г. Гродне.

Ідэя напісання гэтай кнігі належыць выбітнаму грамадзяніну Крынак, пісьменніку і публіцысту Сакрату Яновічу. Менавіта па яго прапанове і пры яго падтрымцы кніга пабачыла свет. Гэтае выданне было б зусім іншым без дапамогі супрацоўнікаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў г. Гродне і асабіста дырэктара Таццяны Афанасьевай, якія прыязна дазволілі выкарыстаць каштоўны картаграфічны матэрыял архіва, гродзенскага настаўніка беларускай славеснасці і паэта Фёдара Чычкана. Хочацца ім выказаць вялікую ўдзячнасць.

# КААРДЫНАТЫ КРЫНАК

## Храналогія

1434 год

✓ У Крынках адбылася сустрэча караля Польшчы Уладзіслава (Ягайлы) з Жыгімонтам Кейстутавічам

1509 г.

✓ Крынкі – месца, а іх жыхары – местачкоўцы

1516 г.

✓ Цераз Крынкі праязджае Сігізмунд Герберштэйн у складзе Пасольства Свяшчэннай Рымскай імперыі ў Масковію.

*"З Нарэвы трэба ехаць восем міляў лесам (а ўздоўж дарогі ніводнай хаты), за якімі – (горад) Крынкі ( Grinki), дзе (у першы дзень вялікага паста) чакалі мяне людзі караля, даставілі мне харчаванне – іх называюць прыставамі – і праважалі да самай Вільні. Потым у Гродна (Grodno), шэсць міляў"*[2].

1517 г., 12 снежня

✓ *"На кастел Светое Ганны, которы новобудують у Крынках, дано тры земли пустых в Крынскои волости, а к тому корчму волную в Крынках, а к тому десятину з дворцовъ, з Острова и з Молявицы, а писан лист до старосты городенского п(а)на Юря. Писан у Колод(еж), дек(абря) 11 ден, индик(т) 6"*[3].

1518 г., 28 ліпеня

✓ Юры Радзівіл (1480–1541 гг.), стараста гродзенскі, атрымлівае ад Жыгімонта Старога Азёры і Крынкі.

*"Привелей пану Юрию Миколаевичу, старосте городенскому, на держанне дворов Озер и Кринок в суме п(е)н(я) зем тисечи копах*

---

[2] Герберштейн, С. Записки о Московии / С. Герберштейн. – М.: Изд-во МГУ, 1988. – С. 232.
[3] Lietuvos Metrika. – Kn. 9 (1511–1518). – Vilnius: Zaka, 2003. – P. 380.

*грошей. Жикгимонт. Божъю м(и)л(о)стюю Чиним знаменито. Тыми ряды писали до нас панове рада наша Великого Князтва Литовского иж их милосць, безъ бытъности тамъ нашое, взяли ку потребе нашом и земьском в старосты городенского, пана Юрия Миколаевича тисечу копъ грошеи литовское монеты по десяти пенязен в грошъ, а в тых пенязях заставили их милосць ему двор наш Городенского повета Озеры и Кринки со въсими людми тыхъ дворовъ нашыхъ путъными, и делъными, и тягълыми, и с конюхи, и с псарцы, и с ловцы, и с осочъники, и з соленики, и со въсими иными людми тых волостен нашых и зъ ихъ всими служъбами, и з даньми грошовыми и медовыми, и бобровыми, и купичъными, и з озеры, и зъ дяклы оржаными и овсяными и з сеном подякольным, и с колодниною, и с пашънями, и с пашънями…*[4]

1522 г.

✓ Асвячэнне крынкаўскага касцёла св. Ганны. Настаяцель касцёла – кс. Павел Ціхановіч.

1524 г.

✓ Каралева Бона Сфорца атрымала права на Гродзенскую пушчу.

1527 г., 1 студзеня

✓ Сігізмунд Герберштэйн у Крынках на шляху з Масквы. *"Крынкі, шэсць міляў. Калі мы рушылі сюды 1 студзеня, то быў жорсткі мароз і парывісты вецер віхурай круціў і раскідваў снег, так, што з-за гэтакага моцнага і лютага холаду замярзалі, адміралі і адвальваліся..сасцы ў сабак. Я сам ледзь не страціў нос, але прыстаў сваечасова папярэдзіў мяне. Калі толькі мы прыбылі ў гасцініцу, я... пачаў мачыць і расціраць нос снегам, і нез болю зноў пачаў адчуваць яго... Маскавіцкі певень сядзеў у нас, па-нашаму звычаю на фурманцы, ён ледзь не памёр ад холада , але слуга адразу атрэзаў яму грэбень, які зацвярдзеў на марозе, і гэтым не толькі вырataваў пеўня, але дабіўся таго, што той выцягнуў шыю, на наша здзіўленне адразу пачаў спяваць. Ад Крынак ( 3 студзеня) цераз вялікі лес у Нарэў, восем міляў..."*[5]

---

[4] Lietuvos Metrika. – Kn. 11 (1518–1523). – Vilnius: Zaka, 1997.
[5] Герберштейн, С. Записки о Московии / С. Герберштейн. – М.: Изд-во МГУ, 1988. – С. 256-257.

1549 г.

✓ Штогоднія таргі па чацвяргах сваім прывілеем дазваляе Жыгімонт I Стары.

1588 г.

✓ Крынкі на карце Вацлава Градзецкага.

1569 г.

✓ Па прывілею Жыгімонта II Аўгуста Крынкі атрымліваюць магдэбургскае права і герб "Леў"; у іх з'яўляецца яшчэ адзін дзень торгу – субота.

*"...Ich pieczec Miejska Lwa naznaczamy i podaiemy, w tymze liscie naszym, wszystkim obywatelom Krynskim od nas danym, takowa pieczec iHerb na swiadectwo jasnieysze wyrazisciemy Lwa rozkazali..."*
*(пераклад са старабеларускага) З прывілею Жыгімонта II*[6].

1587 г.

✓ Крынкі ў складзе Гродзенскай эканоміі.

1605 г.

✓ Янам Мянжынскім распачата Метрычная кніга крынкаўскага касцёла (будзе скончана ў 1668 г. Мельхіёрам Гедройцам).

1639 г.

✓ Прывілей караля Уладзіслава IV габрэям, які дазваляў апошнім набываць зямлю ў месцы, будаваць жыллё і весці гаспадарку.

1647 г.

✓ Цімафей Сарочынскі ў тэстаменце запісаў крынкаўскаму касцёлу 28 моргаў зямлі.

1648 г.

✓ Грэгар Яцініч, шляхціц гэрбу Адарваз, заснаваў у касцёле алтар Св. Ганны.

---

[6] Шаланда, А. Месца Крынкі і яго герб у XVI–XVIII стст. / А. Шаланда // Герольд-Litherland. – 2002. – № 1-2. – С. 8.

1659-1660 гг.

- ✓ Спусташэнне Крынак падчас руска-польскай вайны войскамі Хаванскага.

1662 г.

- ✓ Прывілей крынкаўскаму кагалу на будаўніцтва сінагогі, лазні і стварэнне могілак.

1665 г.

- ✓ У месцы ёсць школа.

1679 г.

- ✓ У Крынках раздзяліліся Старое Месца і Новае Месца. Ёсць два рынкі, 13 вуліц, 166 валокаў зямлі, 144 сям'і мяшчан.

1691 г.

- ✓ Напамін пра габрэяў у Крынках, кагал якіх павінен быў плаціць падатку ў год 500 злотых.

1706 г., 13 студзеня

- ✓ У мястэчку падчас Паўночнай вайны спыніліся шведскі кароль і палкаводзец Карл XII.

1740 г.

- ✓ Першы захаваны інвентар крынскага касцёла.

1740 г.

- ✓ Пажар у Крынках, пасля якога месца на дзесяць год было вызвалена ад падаткаў.

1745 г.

- ✓ Аўгуст III пацвярджае ўласным прывілеем правы крынкаўскіх габрэяў.

1756 г.

- ✓ У Крынках пабудавана драўляная сінагога.

1770–1780-я гг.

- ✓ Рэарганізацыя гаспадаркі Крынак А. Тызенгаўзам. Перапланаванне галоўнай плошчы месца.

1795 г.

✓ У Крынках праводзіцца 5-ы расійскі рэвізскі перапіс. Агульная колькасць крынчан – не менш за 1230 чалавек.

1796 г.

✓ Крынкі передаюцца расійскім імператарам Паўлам І у якасці маёнткаў расійскім памешчыкам Івану Дзівову і Івану Сакалову.

1808–1810 гг.

✓ У Крынках дзейнічае расійская мытня.

1812 г.

✓ У Крынках акупацыйны рэжым напалеонаўскіх войск, у ваколіцах у снежні разгортваюцца ар'ергардныя манеўры аўстрыйскіх адступаючых войск.

1820 г.

✓ Сяляне Крынак Павел Касацкі, Мікалай Мічэйка, Мацвей Міклашэвіч і Лаўрэнцій Балінскі накіроўваюць прашэнне на імя расійскага самадзержца аб вяртанні ім мяшчанскай волі.

1824 г.

✓ Сенат Расійскай імперыіануляваў сілу каралеўскіх прывілеяў і Соймавай Канстытуцыі 1776 г. для Крынак.

1827 г.

✓ Першая ў мястэчку суконная фабрыка Ёселя Геля.

1834 г.

✓ Маёнтак Крынкі І. Сакалова перадаецца па "купчай крэпасці" Івану Восіпавічу Вірыёну (Jan de Virion).

1839 г.

✓ Ліквідаванне уніятаў у Крынках. Царква становіцца праваслаўнай.

1843 г.

✓ Чатыры прашэнні аб волі накіравалі да цара крынскія сяляне Сільвестр Федзюкевіч, Іосіф Куцэвіч, Лука Яновіч, Якаў Касацкі, Тэадор Рудзіла, Міхаіл Макарэвіч і інш.

1844 г.

✓ Заканчэнне будаўніцтва і асвяшчэнне новага драўлянага касцёла Св. Ганны.

1850 г.

✓ Пабудавана каўказская сінагога.

1862 г.

✓ Да цара звярнуліся сяляне Андрэй Дамброўскі, Антон і Іван Анісімовічы, Кляменцій Касацкі, Рыгор Кузьмін, Сільвестр Міклашэвіч.

✓ У Крынках адчыняюцца вінакурныя заводы Аляксандра фон Ліпхарта і Івана Восіпавіча Вірыёна.

1863 г.

✓ Крынкі ў эпіцэнтры барацьбы інсургентаў з царскімі войскамі. У плябаніі мястэчка размешчаны лазарэт паўстанцаў.

✓ У драўляным касцёле быў адрамантаваны 10-галосы арган.

1864 г.

✓ Пачатак будаўніцтва новай праваслаўнай царквы ў Крынках – “мураўёўкі”.

✓ Згодна з новым адміністрацыйным падзелам Крынкі становяцца цэнтрам 2-га стану, аднаго з пяці станаў (акруг) Гродзенскага павета.

1885 г.

✓ Заняпад тэкстыльнай вытворчасці ў мястэчку.

1886 г.

✓ У Крынках царква, касцёл, 5 сінагог, сельская і габрэйская школы, мяшчанская ўправа, валасное праўленне, станавая кватэра 2-га стану. У год праводзіцца 52 кірмашы і 4 ярмаркі.

1888 г.

✓ Вялікі пажар у Крынках. Знішчана 2/3 мястэчка.

1890-я–1914 гг.

✓ Росквіт гарбарнай прамысловасці ў Крынках.

1897 г.

✓ Згодна з першым агульнарасійскім перапісам у мястэчку пражывалі 4957 чалавек.

✓ У Крынках адбываецца першая палітычная забастоўка.

1900-1901 гг.

✓ Будуецца крынкаўская дзяржаўная лячэбніца. Галоўны ўрач – Генрых Іванавіч Ржэчэўскі.

1902–1904 гг.

✓ Распрацоўваецца наступная прапанова МУС Расіі: з-за вялікай колькасці насельніцтва (каля 5 тыс. чалавек) і фабрычна-завадскога характару прамысловай вытворчасці змяніць мястэчку Крынкі адміністрацыйны статус на гарадскі.

✓ Будуецца новая шаша Крынкі-Саколка.

1903 г.

✓ У адной з местачковых сінагог Бейт-на-Мідраш слонімскіх хасідаў арганізавана іешыва.

1904 г.

✓ 16 буйных гарбарных заводаў Крынак мелі гадавы абарот да 1 500 000 рублёў.

✓ Пажар, які адбыўся 2 ліпеня, знішчыў большую частку мястэчка.

1905 г.

✓ Тры дні, 18–20 студзеня, 1500 крынкаўскіх рабочых бесперапынна супрацьстаялі дзяржаўным уладам і войскам – так званая рэвалюцыйная “Крынкаўская рэспубліка”.

1906–1912 гг.

✓ Будаўніцтва ў Крынках новага мураванага касцёла Св. Ганны (архітэктар Ст. Шылер).

1913 г.

- ✓ У мястэчку дзейнічае 13 хедэраў.

1914 г.

- ✓ У Крынках пачынае дзейнічаць кінатэатр “Мадэрн”.
- ✓ Насельніцтва мястэчка складае ў лістападзе 8125 чалавек.

1914 г., 1 жніўня

- ✓ Пачатак Першай сусветнай вайны – Крынкі на ваенным становішчы.

1915 год, лета

- ✓ Акупацыя Крынак кайзераўскімі войскамі (да 1918 г.)

# Месца на картах

Кожны населены пункт як заснаваны на адным месцы, так (за некаторымі выключэннямі) там і застаецца. Вакол жа змяняецца ўсё, і заўсёды – краіны, межы, ландшафты. Змяняюцца магчымасці камунікацыі людзей і ўвага да Краю, дзе знаходзіцца тое мястэчка, у палітыцы і гаспадарцы. У выніку месцазнаходжанне мястэчка, горада або вёскі  кардынальна змяняе сваю ролю, штораз дэманструючы то новыя козыры, то новыя хібы свайго месца на карце.

Калі разглядаць карту Каралеўства Польскага і ВКЛ, складзеную ў 1753 г. І. Пробстам, месцазнаходжанне пазначаных на ёй Крынак звяртае на сябе ўвагу[7] (карта 1).

Аддаленасць мястэчка ад водных шляхоў, адгароджанасць з паўночнага захаду пушчамі, бліжэйшы на той час горад – правінцыяльны Гродна рабілі яго правінцыяй у правінцыі. Да часоў А. Тызенгаўза, які ўдыхнуў у Гродна і землі Гродзенскай эканоміі новае жыццё, месцазнаходжанне Крынак, якія ўваходзяць у склад Трокскага ваяводства Рэчы Паспалітай, не вельмі спрыяе іх росквіту.

Карта з “Historischer atlas von Polen” І. Левела 1847 г. паказвае час трох падзелаў Рэчы Паспалітай. На ёй не вызначаны Крынкі, але выразна відаць Беласток – новы знакаміты сусед мястэчка (карта 2) [8].

Гэта час рэфармавання і перабудовы Крынак па ініцыятывах выбітнага гродзенскага старасты. Пасля гвалтоўнага ўключэння Крынак у склад Расіі, па выніках вялікай палітыкі, мястэчка ў перыяд 1795–1807 гг. апынулася на мяжы з Прусіяй. Другім адміністрацыйным суседам Крынак становіцца новая тэрытарыяльная адзінка Расійскай імперыі –  Царства Польскае. Складальнік вядомага зборніка статыстычных і геаграфічных матэрыялаў аб Гродзеншчыне

---

[7] Ширяев, Е. Русь Белая, Русь Чёрная и Литва в картах / Е. Ширяев.  – Минск: Наука и техника, 1991. – С. 35.
[8] Тамсама. – С. 47.

П. Баброўскі адзначае: “Па ўсёй мяжы з Прусіяй мястэчкі напаўняліся габрэямі, нават у вёсках паміж Брэстам і Крынкамі яны (габрэі) наймалі памяшканні за дужа высокі кошт. У г. Гродне і м. Крынках знаходзіліся заставы, а ў г. Брэст-Літоўску – мытня. Але пакольки тавары большай часткаю, менавіта 4/5, ішлі на Крынкі і толькі 1/5 – на Брэст, то вырашана было перанесці мытню з Брэста ў Крынкі”[9]. Паправім П. Баброўскага: брэсцкая мытня засталася, але функцыянаванне крынскай мытні сапраўды прасочваецца па некаторых матэрыялах гродзенскага архіва. У 1808 годзе начальнік Крынкаўскай памежнай мытні рапартуе В.С. Ланскому, тагачаснаму гродзенскаму губернатару, аб абставінах пропуску праз мытны пункт замежных падданых, звяртаючы ўвагу на падкрэсленую неабходнасць створанай дзеля гэтага крынкаўскай памежнай мытні. У тым жа рапарце, дарэчы, ён пазначае такую акалічнасць пропуску цераз крынкаўскі кардон, як вялікую колькасць праязджаючых праз яго “гродзенскіх і віленскіх купцоў, прыказчыкаў і камісіянераў з работнікамі, якія жылі ў памежных губернях і перасякалі мяжу па спрошчанаму тыпу дакументаў – па пашпартах Літоўскага ваеннага губернатара, а не, як трэба было, па пашпартах з візаю міністра замежных спраў”[10]. Разрыў тэрыторый, які рабіла штучна зробленая мяжа, перш за ўсё адчуваўся жыхарамі памежных паселішчаў, у тым ліку і крынчанамі. Другі дакумент, які нагадвае пра функцыянаванне мытні ў Крынках, датуецца 11 лютым 1810 г., згадвае пра факт кантрабанды маскоўскіх купцоў і пропуску праз мытню “лесу, хлеба і іншага”[11]. Наяўнасць мытні – адна з рысачак жыцця крынкаўчан у першай трэці XIX стагоддзя.

З адкрыццём навігацыі па Днепра-Бугскаму і Агінскаму каналах узрастала значэнне водных шляхоў. Разам з тым, з-за суседства з Царствам Польскім Крынкі побач з такімі населенымі пункамі, як Шэрашаў, Камянец, Свіслач, адсоўваліся ад актыўнага гандлю новымі Самоцічамі, Цэханаўцом і Беластокам[12] (карта 3)[13].

[9] Материалы для географии статистики России. Гродненская губерния / сост. П. Бобровский: в 2 ч. – СПб., 1863. – Ч. 1. – С. 102.
[10] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 159. Арк. 17-17 адв., 26.
[11] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 179. Арк. 5, 16.
[12] Материалы для географии статистики России. Гродненская губерния / сост. П. Бобровский: в 2 ч. – СПб., 1863. – Ч. 2. – С. 233.
[13] Карта Гродненского повета, 1903 г. // http://rodmurmana.narod.ru/maps/Grodno_uezd.htm. – Режим доступа: 12.08.09.

Заходняе для Расійскай імперыі становішча Крынак рабіла іх пярэднім рубяжом у кожнай вайне паміж еўрапейскімі краінамі і Расіяй. Першай такой вайной стала вайна з Напалеонам, падчас якой, у перыяд адступлення напалеонаўскіх войск, у ваколіцах мястэчка адбыліся ар'ергардныя баі аўстрыйскіх часцей з наступаючымі рускімі. Месцазнаходжанне мястэчка ў самай сярэдзіне Гродзенскай губерні ставіла Крынкі быццам і на перакрыжаванне гандлёвых шляхоў, але паступова, з цягам развіцця транспарту і транспартных шляхоў, гэта ж месца ў губерні змясціла Крынкі ў гушчар падзей паўстання 1863 г. на Гродзеншчыне. Лясістая мясцовасць навакольных Гродзенскай і Белавежскіх пушчаў выдатна абараняла інсургентаў ад царскіх войск.

У часы росквіту гарбарнай прамысловай вытворчасці, у 90-я гг. XIX – пачатку XX стст., таварна-грашовыя капіталістычныя адносіны эканамічнай неабходнасцю рашуча прыцягваюць Крынкі да розных частак краю ўсёй велізарнай імперыі і нават да аддаленых краін – Германіі, Амерыкі. Транспартныя шляхі, якія актыўна будуюцца ў гэты час, становяцца галоўным інструментам разнастайных кантактаў. Аналізуючы становішча гандлю крынкаўскімі гарбарнымі таварамі, карэспандэнт гродзенскага штодзённіка "Наше утро" наракае на адсутнасць чыгункі, што прыкметна адбівалася на мясцовых прадпрымальных справах. "Калі б у нас была чыгунка, то пры такіх прамыслоўцах Крынкі, безумоўна, ператварыліся б у адзін з найбуйнейшых цэнтраў гарбарства ў Паўднёва-Заходнім краі", – гаварылася ў газетным артыкуле[14].

Размешчаныя паміж пераабсталяванай Брэсцкай і пабудаванымі Асавецкай і Гродзенскай крэпасцямі, Крынкі напярэдадні Першай сусветнай вайны апынуліся ў акружэнні адпаведных крэпасных раёнаў. Гэта абяцала жыхарам мястэчка жорсткі ваенны лад жыцця, што хутка пацвердзілі падзеі ваенных кампаній 1914 і 1915 гг. (карта 4)

Агульнай характарыстыкай геаграфічнага месцазнаходжання Крынак было і ёсць іх спрадвечнае памежнае становішча. Ускраіна заўсёды была важная з ваенна-палітычнага пункту гледжання, і яе часта абыходзілі пры эканамічным дзяржаўным разліку. Гісторыя мястэчка паказвае прысутнасць усяго гэтага разам.

[14] Наше утро. – 1912. – № 64. – 5 августа.

# Насельніцтва Крынак у 1795-1918 гг.

Дэмаграфічны партрэт насельніцтва мястэчка не проста змяняўся на працягу ўсёй гісторыі Крынак. Ён чуйна ўбіраў у сябе ўсе без выключэння падзеі, якія непасрэдна ці ўскосна закраналі жыццё местачкоўцаў. Рознымі характарыстыкамі – колькасцю, пола-ўзроставым складам, складам вернікаў, складам нацыянальных груп, смяротнасцю і нараджальнасцю – крынчане цікавяць нас як местачкоўцы, як жыхары Краю і як людзі, якія стаялі “на плячах” сваіх продкаў і былі пачынальнікамі гісторыі мястэчка ў XX стагоддзі і ў наш час.

Сярод разнастайных гістарычных крыніц, як мерыдыяны на шляху вандравання па пакаленнях крынчан, – спісы насельніцтва мястэчка: “рэвізскія казкі”, інвентарныя кнігі, перапіс 1897 года, розныя дробныя ўлікі жыхароў на патрэбу мноства эканамічных і палітычных дзяржаўных устаноў. Акрамя ўласнага значэння статыстычнай і дэмаграфічнай інфармацыі, іх дадзеныя важныя яшчэ і таму, што далей імёны, якія названы ў апавяданні пра легендарныя падзеі 1812 года, змаганне за страчаную мяшчанскую волю, паўстанні, якія не абышлі Крынак, маруднае, але развіццё капіталізму ў вёсцы і мястэчку, стануць для нас імёнамі добрых знаёмых. А для кагосьці з сучаснікаў – імёнамі сваіх продкаў. Зважаючы ў гістарычным апавяданні на прозвішча чарговага местачкоўца, мы па магчымасці будзем спрабаваць успомніць пра яго продкаў, і тады наш герой стане больш зразумелым і запамінальным.

Крынкі ў канцы Рэчы Паспалітай XVIII стагоддзя – гэта дзяржаўнае месца, мястэчка каралеўскай Гродзенскай эканоміі. Адразу пасля гвалтоўнага ўключэння ў склад Расійскай імперыі Крынкі, натуральна, сталі прадметам align="center"рознагаліновай і разнапланавай унутранай палітыкі расійскага ўрада і яго мясцовых уладаў. Пачаткам

такой палітыкі была арганізацыя ўліку насельніцтва. Як вядома, традыцыйна ў Расіі XVIII – XIX (да 1858 г.) стст. перапіс насельніцтва, якое плаціла падаткі і адбывала рэкруцкую павіннасць, называўся рэвізіяй. Такі спосаб уліку насельніцтва быў выкліканы падушным падаткаабкладаннем. Крынкаўчане, якія адпавядалі гэтым патрабаванням, сталі называцца "рэвізскімі душамі", а іх імёны былі ўнесены ў так званыя "рэвізскія казкі" – імянныя спісы насельніцтва[15]. Дарэчы, яны – найбольш дакладныя крыніцы па гісторыі тагачаснага насельніцтва Краю[16].

У 1795 годзе чарговая, пятая для Расіі, рэвізія закранула Крынкі. Як адзначае даследчык П.Г. Казлоўскі, які разглядаў праблемы землеўладання і землекарыстання ў Беларусі ў XVIII–XIX стст., пятая рэвізія менавіта па беларускіх губернях была вельмі недакладная. Праверка рэвізіі расцягнулася да 1808 г.[17] Яе вынікі засталіся ў фондах гродзенскага архіва. Яны будуць нашай адпраўной кропкай адліку.

Крынкі, калі трапілі ў склад расійскай дзяржавы, былі мястэчкам шматнацыянальным і шматканфесійным, як амаль кожнае на нашых землях. Кацярынінская мяжа аселасці габрэяў 1794 года яшчэ не паспела рэвалюцыйна паўплываць на дэмаграфічную карціну мястэчак і гарадоў. Структура насельніцтва была традыцыйнай па эканамічных абставінах і спрадвечна талерантнаму юрыдычнаму парадку звыклага для мяшчан і сялян мястэчка трэцяга Статута ВКЛ.

Пятая рэвізія налічыла ў Крынках 453 габрэяў, як дарослых, так і дзяцей. Мужчынскае габрэйскае насельніцтва складалі 203 чалавекі, жаночае – 250[18]. Гэтая колькасць жыхароў размяркоўвалася на 137 сем'яў ад 1 да 8 чалавек у кожнай, у сярэднім – па 3,3 чалавекі[19]. Сярэдні ўзрост жанчын складаў 34 гады, мужчын – 35,7 года[20]. Пераважная колькасць мужчын-габрэяў Крынак мела ўзрост ад 18 да 45 гадоў (58,7 %). Дзеці да 15 гадоў складалі 103 чалавекі. Пройдзе час дзевятнаццатага стагоддзя, больш хуткага і мабільнага за

[15] Рэвізіі. Рэвізская душа. Рэвізскія казкі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. – Мінск: БелЭн, 2001. – Т. 6. – С. 165-166.
[16] Улащик, Н. Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии / Н. Улащик. – М.: Наука, 1965. – С. 34–46.
[17] Козловский, П.Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII–1-й половине XIX в. / П.Г. Козловский. – Минск: Наука и техника, 1982. – С. 52.
[18] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 16. Арк. 59 адв.-65 (падлік – В.К.).
[19] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 16. Арк. 59 адв.-65 (падлік – В.К.).
[20] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 16. Арк. 59 адв.-65.

папярэдняе, і колькасць крынчан узрасце ў некалькі разоў. Але жыццё крынкаўскага габрэйскага кагалу ўжо было непарыўнай часткаю жыцця Крынак, да ладу і рытму якога яно, мястэчка, прызвычаілася ўжо. Гэта быў яго лад.

Сялян-падаткаплацельшчыкаў Крынак рэвізія 1795 года таксама палічыла. Мужчын усіх узростаў было 419 чалавек, жанчын – 358. Разам – 777 жыхароў усіх хрысціянскіх канфесій. Дарэчы, канфесійную хрысціянскую адметнасць дадзеныя рэвізскія казкі не адзначалі. З гэтай колькасці дарослыя мужчыны і жанчыны складалі 458 чалавек. Сярэдні ўзрост жанчын – 34 гады, мужчын – 36,6. Дзяцей у хрысціянскіх хатах крынкаўчан налічвалася 319[21].

Дзякуючы характару рэвізскіх казак пятага перапісу мы можам па імёнах даведацца пра тых, хто жыў у мястэчку на розных вуліцах (глядзі дадатак 1). Згодна з тэкстам казак хрысціянскае насельніцтва жыло на Першай Новай (241 чал.), Свіслацкай (221 чал.) і Гродзенскай (324 чал.) вуліцах[22].

138 хрысціянскіх сем'яў налічвалі ў сярэднім пяць чалавек. Таксама меліся выразныя выключэнні ў бок павелічэння колькасці членаў сям'і да 8–10 і нават 12 чалавек[23].

Што можа быць цікавым у гэтых лічбах больш чым двухсотгадовай даўніны? Возьмем спачатку агульную колькасць насельніцтва мястэчка. Яно складала не менш за 1230 чалавек. Параўнаем гэтую лічбу з колькасным паказчыкам Гродна ў 1795 г. Тады налічвалася 5398 жыхароў[24]. У Навагрудку ў тым жа годзе пражывалі 1633 местачкоўцы[25]. Гэтыя два прыклады невыпадковыя. Названыя беларускія мясціны мелі ў розныя часы вялікую рэлігійна-палітычную, ваенную і эканамічную вагу ў дзяржавах, у якія ўваходзілі. Гэта засталося ў мінулым, а цяпер, на мяжы двух, XVIII–XIX, стагоддзяў гэтыя легендарныя беларускія цэнтры жыцця можна было параўноўваць з дадзеным мястэчкам. Разуменне гэтага – у геаэканамічным месцазнаходжанні Крынак у Рэчы Паспалітай і

[21] Тое самае (падлік – В.К.).
[22] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 16. Арк. 66-69 адв., 70–78.
[23] Тое самае (падлік – В.К.).
[24] Гостев, А. Кронан / А. Гостев, В. Швед. – Гродно, 1994. – С. 48.
[25] Памяць: гіст.-дакумент. хроніка Навагрудскага раёна. – Мінск, 1996. – С. 165.

гаспадарчых захадах А. Тызенгаўза, якія ў немалой ступені стымулявалі рост колькасці насельніцтва.

Вернемся да дадзеных рэвізіі. Мяшчанскія і сялянскія сем'і крынкаўчан звычайна складаліся з прадстаўнікоў некалькіх пакаленняў сваякоў. Нямала сем'яў мелі парабкаў, прыслугу, жабракоў, кутнікаў[*]. У сем'ях пятнаццаці гаспадароў крынкаўчан-сялян (Рудніка Іосіфа, Станкевіча Аляксандра, Курцэвіча Амброзія, Счасновіча Самуіла, Счасновіча Албрагіма, Васілеўскага Станіслава, Місюкевіча Піліпа, Юшкевіча Станіслава, Касацкага Гжэгажа, Касацкага Юрыя, Наўмановіча Якуба, Гірбы Фёдара, Анісімовіча Іосіфа, Міклашэвіча Фёдара, Манціні Яна) знаходзілася прыслуга альбо кутнікі. Прычым у сям'і Самуіла Счасновіча было два такія чалавекі, а ў Албрагіма Счасновіча – тры. Кутнікаў налічвалася па ўсіх сем'ях 25 чалавек, шмат у каго з іх былі ўласныя сем'і. У Пятра Мічэйкі па "рэвізскіх казках" было пазначана чатыры кутніцкія сям'і[26]. Каб лепш уявіць лад крынкаўскіх жыхароў, згадаем характарыстыку, дадзеную Дз. Пахілевічам: "Кутнік – фігура няўстойлівая. Гэта часцей за ўсё сезонныя наёмныя рабочыя. Заўтра ён можа быць чаляднікам двара або ў заможнага селяніна, а можа мець сям'ю або пайсці ў прымакі і, нарэшце, можа ў некаторых выпадках вярнуцца ў сваю сям'ю. Кутнікі часцей за ўсё – вынік ужо зніклай, расцярушанай гаспадаркі (дзеці халупнікаў)"[27].

Частка гаспадароў з ліку сялян – 26 чалавек – у "рэвізскіх казках" пазначаны як халупнікі, беззямельныя ці малазямельныя крынкаўчане. У адрозненне ад сельскай мясцовасці, у мястэчках гэтая катэгорыя сялян улічвалася як падаткаабкладальная[28]. Аднак ужо з

---

[*] *Жабракі* – людзі, якія існавалі за кошт міласціны і ахвяраванняў. Пасылалі жабраваць дзяцей з бедных сем'яў, каб здабыць сродкі існавання. *Кутнікі* – катэгорыя збяднелых беззямельных сялян у XVI–XIX стст., якія не мелі ўласнай хаты, таму наймалі для жылля кут (адсюль і назва). Займаліся пераважна рамяством, промысламі, выконвалі работу па найму. У XIX ст. кутнікі зліліся з асноўнай масаю прыгонных сялян. *Парабкі* – наёмныя работнікі з беззямельных сялян, якія працавалі па найму ў феадалаў у фальварках і ў гаспадарках заможных сялян (Жабракі. Кутнікі. Парабкі // Этнаграфія Беларусі: энцыкл. – Мінск: БелСЭ, 1989. – С. 193, 287, 388).

[26]НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 16. Арк. 66–69 адв., 70–78 (падлік – В.К.).

[27] Похилевич, Д. Крестьяне Литвы и Белоруссии во второй половине XVIII в. / Д. Похилевич. – Вильнюс, 1966. – С. 78.

[28] Козловский, П.Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII–1-й половине XIX в. / П.Г. Козловский. – Минск: Наука и техника, 1982. – С. 55.

XVII ст. яны лічыліся ў якасці цяглага насельніцтва і таксама падлягалі падаткаабкладанню.

Кутнікі, халупнікі, парабкі вызначаюць немаёмасныя катэгорыі сялян, аднак відавочна, што гэтыя катэгорыі сялян прыстасоўваліся да жыцця па-рознаму. Склад сем'яў крынкаўчан сведчыць, што нягледзячы на сваю незайздросную гаспадарку, халупнікі (пяць выпадкаў з 26-ці) у сваіх хатах размяшчалі кутнікаў. Гэта гаспадары Чарнецкі Тэадор, Філіповічава Багуміла (удава), Бутрымовіч Дзмітрый, Тамашэвіч Васіль і Абрамовічава Разалія (удава).

Памеры сялянскіх сем'яў крынкаўчан за сваёй колькасцю хаваюць складаныя сваяцкія адносіны. Пад адным дахам часта – 45 выпадкаў з 138 – пражывалі некалькі пакаленняў местачкоўцаў аднаго прозвішча ці некалькіх прозвішчаў у сваяцтве.

Кожная сям'я фарміруе ўласны дабрабыт з улікам усіх наяўных магчымасцей. І, напэўна, галоўнай яго крыніцай быў той занятак, які забяспечваў асноўны прыбытак. Вельмі каштоўнай адметнасцю "рэвізскіх казак" з'яўляецца часта пазначаны ў іх род заняткаў жыхароў мястэчка. Веды пра прафесію гаспадара сям'і даюць магчымасць зразумець тую атмасферу, якая панавала ў ягоным доме. Вобразна зазірнем у хату крынкаўчаніна.

Перш за ўсё вызначаецца сям'я тагачаснага бурмістра Крынак Іосіфа Анісімовіча. На час рэвізіі яму ішоў сорак другі год. Ён, ягоная жонка Ганна, малодшая за мужа на 15 гадоў, і дзеці – 6-гадовы Андрэй і 4-гадовая Пракседа – жылі разам з жабраком-шляхціцам Ігнаціем Лайковічам на Гродзенскай вуліцы. Мелі прыслугу – Цыцылію Завачанку. Пасада бурмістра нагадвае аб існуючым на час далучэння да Расіі ў Крынках з 1569 г. магдэбургскім самакіраванні[29].

Вызначальна, што "казкі" ўзгадваюць пра двух лекараў у Крынках сярод хрысціянскага насельніцтва (на жаль, спісы габрэйскіх сем'яў гэта не пазначаюць). Гэта 22-гадовы фельчар Ян Руда, халупнік, які жыў на Гродзенскай вуліцы разам са сваёй жонкай Мар'янаю, сынам-немаўляткам Міхаілам, і "фельчар замежны" Ян Манціні, 46 год, які таксама жыў на Гродзенскай вуліцы з жонкаю Сюзанаю, чаляднікам Мікалаем Юшкевічам і прыслугаю Тэафіліяй Пульсноўскай.

[29] Nadanie Krynkom praw miejskich w 1569 // Tutaj w Krynkach i okolicy. – 2003. – Maj. – S. 7–9.

Многія хрысціяне-крынкаўчане займаліся рамёствамі. На Першай Новай вуліцы, напрыклад, жылі чаляднік** Ян Шульц (пад дахам сям'і Аляксандра Станкевіча), гарбар Ян Бурман, выхадзец з немцаў – майстра гарбарні Шмойлы Нярцовіча. На вуліцы Свіслацкай – шавец Ян Вільчынскі, браты-гарбары Піліп і Ян Масюкевічы, шавец-халупнік Ян Вечыжынскі (пад дахам сям'і Антонія Паддубніка). Але найбольш іх было на Гродзенскай: ганчар-халупнік Павел Наўмановіч, шавец Варфаламей Войцуль, ганчар Мацвей Бяганскі, ганчар Фёдар Гірба, ганчар Антоній Бяганскі, ганчар Францішак Пухальскі, шавец Мар'ян Кізюкевіч, чаляднік Масей Будровіч (з дому Мар'яна Кізюкевіча), ганчар Матэвуш Наўмановіч, чаляднік Мікалай Юшкевіч (той самы, што жыў разам з лекарам-італьянцам), кравец Ян Чабан.

Насупраць імёнаў крынкаўчан Брыгіты Ляўчук (18 год), Тадэвуша Крыжаноўскага (20 год), Францішка Пратасевіча (10 год), Філіцыяна Філіповіча (19 год), Мацея Філіповіча (15 год), Яна Пратасевіча (з габрэяў) (15 год), Тэадора Маркава (12 год) (з габрэяў) у "рэвізскіх казках" пазначана: "служыць" ці "служыць у Лунна", "служыць у Гродне"[30].

Вельмі паказальная характарыстыка сем'яў – колькасць дзяцей у іх. Са спісаў пятай рэвізіі бачна, што ў хрысціянскіх сем'ях у сярэднім даволі вялікі гэты паказчык атрымліваўся не з-за вялікай колькасці дзяцей, а з-за супольнага пражывання ў адным доме некалькіх сем'яў: сваёй і той, якой гаспадары далі прытулак, альбо дзяцей, якія яшчэ не пайшлі на ўласную гаспадарку. Уласна колькасць дзяцей у сем'ях склала наступныя лічбы. 46 сем'яў жылі з адным дзіцём, 53 – з двума, 33 сям'і мелі траіх, у 17-ці было чацвёра і 5 сем'яў гадавалі пяць дзяцей. Да таго ж, трэба адзначыць яшчэ адну вельмі істотную акалічнасць. У хаце, калі пражывала некалькі сем'яў, дзяцей, вядома, было больш, і іх колькасць дасягала 6–10 чалавек.

Пералік крынчан, якія жылі ў мястэчку на мяжы XVIII–XIX стст., звяртае ўвагу на імёны местачкоўцаў, як жаночыя, так і

** Чаляднік – рамеснік у цэхавага майстра ў феадальных гарадах Беларусі, Літвы і Польшчы. Работнік, які скончыў курс вучнёўства, але не выканаў усе патрабаванні, каб перайсці ў падмайстры (з артыкула "Чаляднік" // Беларуская гістарычная энцыклапедыя: у 6 т. – Мінск: БелЭн, – 2003. – Т. 6II. – С. 134.

[30] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 16. Арк. 66–78.

мужчынскія. Якія тады былі найбольш ва ўжытку? Сярод жаночых – Мар'яна, Ганна, Тарэза, Разалія, Магдалена, Соф'я. Сярод мужчынскіх – Станіслаў, Іосіф, Ян, Фёдар, Павел, Пётр, Мацей. Аднак увогуле багацце як мужчынскіх, так і жаночых імёнаў крынкаўчан напрыканцы XVIII стагоддзя даволі значнае і... роўнае: сустракаюцца 47 жаночых імёнаў і столькі ж мужчынскіх[***].

Усе вышэйпералічаныя дэмаграфічныя характарыстыкі насельніцтва Крынак вынікаюць з непасрэднага знаёмства з матэрыяламі пятай рэвізіі 1795 г. Пры згаданай няпоўнасці іх змест, аднак, больш багацейшы ў параўнанні з наступнымі рэвізіямі. Матэрыялы гродзенскага архіва даюць магчымасць пазнаёміцца з інфармацыяй аб насельніцтве мястэчка за 1816 год. З часу пятай рэвізіі мінуў 21 год. Гэты тэрмін быў поўны на лёсавызначальныя падзеі для крынчан. У 1802 годзе была абвешчана Гродзенская губерня, куды ўвайшлі Крынкі. Яны, як і раней, былі звязаны з Гродна, але, як ужо ўзгадвалася, апынуліся на заходняй мяжы з Царствам Польскім, якое засталося ў складзе Расіі са згоды Агульнаеўрапейскага кангрэсу ў Вене (1814–1815 гг.)[31]. За перыяд з 1795 г. насельніцтва мястэчка перажыло шмат новага ў гаспадарчым і сацыяльна-палітычным жыцці, бо гэты час уключыў у сябе палітыку Паўла I і значна больш працяглы адрэзак палітыкі Аляксандра I.

Перш за ўсё крынкаўчане хрысціянскага веравызнання, якія займаліся сельскагаспадарчай дзейнасцю, змянілі свой сацыяльна-прававы стан: яны былі перададзены згодна з загадам Паўла I у памешчыцкае ўладанне. Дакумент паведамляе: "Мястэчка Крынкі, якое знаходзілася раней ва ўласным праве і ўключала ў сябе разам з вёскамі каля 1000 душ мужчынскага полу (гаворка ідзе пра хрысціянскае падатнае насельніцтва), карысталася мяшчанскімі

---

[***] *Жаночыя імёны крынкаўчан:* Агата, Агнешка, Аксенія, Апалонія, Аўдоцця, Барбара, Багуміла, Брыгіта, Вікторыя, Ганна, Дарота, Ева, Ізабэла, Іаанна, Караліна, Канстанцыя, Кацярына, Клара, Крысціна, Людвіка, Люцыя, Магдалена, Малгажата, Мансэля, Манцэся, Мар'яна, Марцэся, Настасся, Наталля, Петрунэла, Пракседа, Разалія, Рэгіна, Соф'я, Таццяна, Тэафіла, Тэрэза, Фядора (Хвядора), Феліцыяна, Францыска, Цыцылія, Хелена, Элеанора, Эльжбета, Юльяна, Юсціна.
*Мужчынскія імёны крынкаўчан*: Адам, Аляксандр, Амброзій, Андрэй, Антоній, Ануфрый, Апалон, Базіл, Варфаламей, Васіль, Ваўжынец, Вінцэнт, Война, Дамінік, Ігнацій, Іосіф, Казімір, Каспер, Лаўрын, Леон, Раман, Лукаш (Лука), Максім, Мар'ян, Масей, Матэвуш, Мацей, Мікалай, Мірон, Міхаіл, Павел, Пётр, Пракоп, Сільвестр, Станіслаў, Стэфан, Сымон, Томаш, Тэадор (Фёдар), Феліцыян, Піліп, Францішак, Элун, Юрый (Ежы), Якуб, Ян.

[31] Шыбека, З. Нарыс гісторыі Беларусі (1795–2002 гг.) / З. Шыбека. – Мінск: Энцыклапедыс, 2003. – С. 29.

правамі і таму лічылася мястэчкам, было перададзена... Сакалову.., Дзівову.., Колесаву”[32].

Другая значная падзея, якая закранула мястэчка і яго жыхароў, – вайна 1812 года напалеонаўскай Францыі з Расіяй. Крынкаўчане, як і жыхары астатніх далучаных да Расіі мясцін, былі ўцягнуты ў гэтыя падзеі, і гэта не магло не адбіцца на дэмаграфічным і эканамічным стане мястэчка. Сёмая рэвізія 1815 г., якая прадстаўлена ў гродзенскіх фондах, у звестках пра Крынкі змяшчае сярод іншых характарыстык тагачаснага насельніцтва даты смерці крынкаўчан пачынаючы з 1811 года. А значыць, і 1812 г. – таксама!

На 15 сакавіка 1816 г. у м. Крынкі згодна з рэвізскім перапісам пражывала хрысціянскага насельніцтва памешчыка П.Г. Дзівова 94 сям’і і памешчыка П. Сакалова – 34 сям’і. Трэба заўважыць, што тут гаворка ідзе не пра ўсіх, што пражывалі ў маёнтку Крынкі, якое ўключала ў сябе шэраг навакольных вёсак і ўрочышчаў, а пра тую яго частку, якая складалася з насельніцтва менавіта мястэчка. Восемдзесят сем сем’яў Дзівова (розніца ў лічбах з 94-ма з-за таго, што казкі пазначалі і “мёртвых душ”, а разлік наш ідзе ў дачыненні да жывых) складаліся з 385 чалавек. У сярэднім на сям’ю прыходзілася 4,4 чалавекі. Суадносіны паміж мужчынамі і жанчынамі сялян Дзівова складалі 163 і 222 чалавекі адпаведна[33]. Колькасць дзяцей да 15-гадовага ўзросту складала 130 чалавек, ці 33,7%, ад усёй колькасці сялян. Сем’яў, якія мелі па 4 дзіцяці, было 6 (6,8 %), і адна сям’я мела пяцёра дзяцей.

У валоданні П. Сакалова было 34 сям’і, якія жылі ў мястэчку з 154 чалавек. Мужчын было 75, жанчын – 79. На агульную колькасць прыгонных сялян Крынак – 539 чалавек – сярэдні памер сям’і складаў 4,4 чалавекі. Дзяцей да 15 гадоў у сем’ях сялян П. Сакалова было 35 чалавек (22,7 %). Значыць, ад 539 чалавек дзяцей было 165, або 30 %. У параўнанні з 1795 г. розніца складае -11 %. Гэта адзін з істотных паказчыкаў страты крынкаўчанамі волі.

Па матэрыялах дадзенай рэвізіі можна вызначыць колькасць памерлых у 1812 годзе і параўнаць з папярэднім 1811 годам і наступнымі 1813, 1814 гг. Гэтыя паказчыкі такія: 1811 г. – 8 памерлых,

[32] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 17. Адз. зах. 445. Арк. 72 адв.
[33] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 32а. Арк. 1165–1185 адв.

1812 г. – 32 памерлыя (з іх 8 чалавек – дзеці да 4 год), 1813 г. – 18 памерлых, 1814 г. – 12 памерлых, 1815 г. – 12 памерлых.

Аб'ядноўваючы паказчыкі смяротнасці з 1811 па 1816 гг. (сялян Дзівова і Сакалова), атрымліваем агульную колькасць памерлых – 94 чалавекі, у тым ліку за 1812 год – 32 чалавекі (32,9 %). Колькасць народжаных у гэтым жа годзе склала 19 чалавек[34]. Натуральны прырост за год складае -12.

Але для агульнай колькасці насельніцтва рэвізскія казкі дадаюць звесткі аб яшчэ некалькіх катэгорыях хрысціянскага насельніцтва. Гэта дваравыя вольныя людзі памешчыка Дзівова: Андрэй Цімафеевіч Бяганскі, Іосіф Іванавіч Астапоўскі, дваравыя прыгонныя Міхаіл Іванавіч Ільяшэвіч (10), Адам Казіміравіч Альяшэвіч (12). Акрамя іх, пазначаны ў спісах майстравыя вольныя людзі: цясляр Іосіф Мацвеевіч Бачынскі, ганчар Станіслаў Іванавіч Каранеўскі, памерлыя, дарэчы ў 1812 г., каваль Кузьма Іванавіч Астапоўскі і гарбар Іван Готфрыдавіч Штэйнер, муляр Іосіф Безліч (памёр у 1813 г.). Асобнай катэгорыяй крынкаўчан у рэвізіі змешчаны вольныя служачыя агульнай колькасцю тры чалавекі: Грыгорый Пятровіч Грылюк, яго жонка Рэгіна і Іосіф Заспіч. Астатнія – гэта "мёртвыя душы": Якаў Мікалаевіч Ярэміч, Варфаламей Лаўрэнцьевіч Радомскі, ці беглыя з Крынак, як Сямён Мацвеевіч Нятупскі, Сямён Сямёнавіч Кірылюк, Васіль Дзяшко, Фама Казлоўскі, Мацвей Казлоўскі, Іосіф Макар. Сярод вольных значыліся яшчэ рэкрут Аляксандр Туміловіч і сярод прыгонных П. Сакалова – памерлы ў 1812 г. мельнік Максім Пуда[35].

Па казках 1816 г. таксама можна высветліць колькасць рэкрутаў. У пачатку XIX ст. у рэкруты, як вядома, бралі па 4-5 чалавек ад 500 душ мужчынскага полу[36]. У 1813 г. з прыгонных і вольных крынкаўчан было ўзята на вайсковую службу 9 чалавек[*].

У адрозненне ад казак 1795 г., перапіс 1816 г. не паказвае такіх груп месточкоўцаў, як халупнікі і жабракі. Толькі ў адной сям'і Цімафея Царэвіча значыцца парабак Адам Заданоўскі. З былых

[34] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 32а. Арк. 1156 адв.–1165.
[35] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 32а. Арк. 1084 адв.–1085.
[36] Рэкрут. Рэкруцкая павіннасць // Беларуская гістарычная энцыклапедыя. – Мінск: БелЭн, 2001. – Т. 6. Кн. 1. – С. 170.
[*] *Рэкруты:* Андрэй Паўлавіч Лашакевіч, Мацвей Юр'евіч Грышкевіч, Міхаіл Юр'евіч Кузьма, Павел Фадзеевіч Міклашэвіч, Лявонцій Сільверставіч Яновіч, Лаўрэнцій Цутрукевіч, Варфаламей Іванавіч Войцуль, Кузьма Мацвеевіч Наймановіч, Аляксандр Туміловіч.

катэгорый маламаёмасных сялян і мяшчан засталіся ў рэвізіі кутнікі, але і іх толькі дзевяць[37].

Наступны шырокі дэмаграфічны матэрыял "рэвізскіх казак" па мястэчку звязаны з дзесятым, так званым "народным перапісам" 1858 г. Гэта быў апошні ўсеагульны перапіс рэвізскіх душ. Матэрыялы архіва таксама захоўваюць даволі поўныя звесткі аб яго выніках. 1858 год аддзяляюць ад 1816 г. 42 гады. У гэты перыяд не было вайны, як вайна 1812 г., але затое было паўстанне 1830–1831 гг., былі мабілізацыі на Крымскую вайну, якую вяла Расія ў 1853–1855 гг. Быў апошні, як паказаў бліжэйшы час, крызіс прыгону з максімальным уціскам землеўладальнікаў на сялян і разнастайнымі захадамі царскага ўраду, каб пазбегнуць "рэвалюцыі знізу" (рэформы Кісялёва). За больш чым сорак гадоў змянілася амаль два пакаленні дзеездольных крынкаўчан. А тыя, хто пазначаны ў "казках" 1858 года ў дзіцячым і юнацкім узростах, стануць непасрэднымі ўдзельнікамі развіцця Крынак пасля прыгону (з 1861 г.). Перапіс дзесятай рэвізіі не толькі ўтрымлівае важныя дэмаграфічныя паказчыкі насельніцтва мястэчка, але ўскосна дапамагае шмат зразумець адносна адной з найбольш яскравых і адначасова драматычных старонак жыцця крынкаўчан у 1-й палове XIX ст. – іх барацьбы за вяртанне мяшчанскіх правоў і ўвогуле за волю.

Спачатку прасочым гэтую барацьбу ў параўнанні з двума папярэднімі згаданымі перапісамі, выкарыстоўваючы асноўныя характарыстыкі насельніцтва Крынак у сярэдзіне XIX стагоддзя. Мястэчка ў гэты час было ўжо ў іншых гаспадароў-памешчыкаў: Ліпхартаў і Вірыёнаў. Колькасць сялян Івана Вірыёна на час рэвізіі 1858 г. налічвала 173 чалавекі, 81 – мужчынскага полу і 92 – жаночага[38]. У Аляксандра фон Ліпхарта іх было 342 чалавекі, з іх 173 – мужчынскага полу і 169 – жаночага. Таму прыгонных крынкаўчан налічвалася 515 чалавек. Да гэтай лічбы трэба дадаць колькасць вольных з ліку дваран, свецкіх і царкоўных служачых і сялян і хрысціян-рамеснікаў, якіх на 40–50-я гг. у Крынках налічвалася 25 гаспадароў[**]. Агульная лічба – не менш за 540 чалавек.

---

[37] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 32а (падлік – В.К.).
[38] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 89. Арк. 1100.
[**] Юльян Іванавіч Шыманскі, *павераны аканом Дзівапола*, Антон Францавіч Манюшка, *пісар у маёнтку Дзівова*, Клемент Восіпавіч Эйсмант, *аканом Дзівова*, Севасцьян дэ Бурга Клява, *медык*

Згодна з дзевятай рэвізіяй (бо ёсць больш грунтоўныя матэрыялы, чым пра 1858 г.) габрэі Крынак складалі на 1850–1852 гг. (час удакладнення падлікаў) 1739 чалавек, мужчын – 798, жанчын – 941, склад сем'яў – 4,3 чалавекі. Але 19 сем'яў мелі ад 10 да 15 чалавек[39]. Гэтая лічба не супадае з дадзенымі, прыведзенымі ў вядомай "Габрэйскай энцыклапедыі" А. Гаркаві і Л. Кацнельсона. У гэтым выданні паказана на 1847 год 1856 габрэяў[40]. Заўважым, што ў 1834 г. адпаведна з восьмымі "рэвізскімі казкамі", якія, на жаль, няпоўныя ў гродзенскім архіве, у 426 сем'ях пражывалі 809 мужчын[41]. І з пазіцыі гэтых лічбаў дадзеныя "Габрэйскай энцыклапедыі" ўяўляюцца даволі рэальнымі. А розніцу паміж 1847 і 1858 гг. у 117 чалавек можна тлумачыць шэрагам неўраджайных гадоў і значнай смяротнасцю сярод насельніцтва. (У 1845 і 1847 гг. былі неўраджаі, з 1853 па 1856 гг. – эпідэміі, у 1848 годзе – халера[42].) Голад і хваробы выклікалі смяротнасць: за два гады колькасць памерлых перавышала ўдвая лічбу народжаных, у 1854 і 1855 гг. колькасць насельніцтва зменшылася на 6 %. Наступствы голаду цягнуліся ажно да жніва 1856 г.[43] Аднак усё роўна рост за перыяд з 1795 (453 чалавекі) да 1852 (1739 чалавек) (у 3,8 разоў) можна тлумачыць недакладнымі дадзенымі 1795 г. і адпаведнай дэмаграфічнай антысеміцкай палітыкай расійскага ўрада (маецца на ўвазе мяжа аселасці габрэяў). Ужо "рэвізскія казкі" за 1806 год падаюць такую інфармацыю аб насельніцтве і рамёствах габрэяў і, што асабліва каштоўна (аб гэтым будзе сказана пазней), паказваюць геаграфію вучобы майстроў-габрэяў Крынак[44 *].

---

*Дзівова*, Іосіф Францавіч Кудрэвіч, *урач у Крынках*, Аляксандр Марцінавіч Мучынскі, *настаўнік дзяцей Шыманскага*, Фрыдрых Ташэндорф, *цясляр,* Франц Галаубка (з чэхаў), *суконшчык,* Іван Траутэх (з чэхаў), *суконшчык,* Іван Экерт, *гарбар*, Баніфацый Мацвеевіч Петрашэўскі, *шляхціц*, Іван Ступніцкі, *пробашч грэка-уніяцкі*, Тэадор Юльевіч Качаноўскі, *выконваючы абавязкі святара уніяцкай царквы*, Бенедыкт Міхайлавіч Страпелка, *гаспадар плябаніі з духоўнага звання,* Кацярына Качаноўская, *пляменніца святара*, Мацвей Іванавіч Нятупскі, *царкоўны служачы,* Антон Дубянецкі, *царкоўны служачы*, Іосіф Серафімовіч, *арандатар маёнтка П. Сакалова*, Аляксандр Станіслававіч Глябовіч, *аканом маёнтка Сакалова, дачка доктара маёнтка* Івана Семіёна, Мустафа Шчасновіч і брат Астафа, *гарбары, татары,* Аўгусцін Савашкевіч, *адміністратар плябаніі, ксёндз,* Варфаламей Зубялевіч, *святар, грека-уніяцкі*, Юры Міхайлавіч Карней, *арганіст касцёла* (НГАБ у г. Гродне. – Ф. 92. Воп. 1. Адз. зах. 258. Арк. 265 адв–288).

39 НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 78. Арк. 784–871.

40 Еврейская энциклопедия / под ред. А. Гаркави и Л. Кацнельсона: в 16 т. – СПб. – Т. 9. – С. 585.

41 НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 88. Арк. 297–329.

42 Материалы для географии статистики России. Гродненская губерния / сост. П. Бобровский: в 2 ч. – СПб., 1863. – Ч. 1. – С. 311.

43 Тамсама. – С. 92.

44 НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 24. Арк. 22 адв.–29.

Кожны з царкоўных прыходаў, уніяцкі і рымска-каталіцкі, мелі прыпісаныя да іх сялянскія сем'і. Скласці ўяўленне аб іх можна на падставе рэвізіі 1811 г. у дачыненні да абодвух прыходаў і ў выпадку з касцёльнымі сялянамі параўнаць некаторыя змены ў іх колькасці і сямейным стане на 1834 г.[45] Перапіс за 1811 год згадвае імёны Івана Тамкевіча, які служыў у канторы крынкаўскай царквы, царкоўнага пісара Івана-Бенедыкта Анісімовіча, царкоўнага назіральніка Антона Дамброўскага. Таксама да прыходу былі прыпісаны гаспадары з разраду агароднікаў Тадэвуш Станкевіч, Лаўрын Верэгет, Іван Казлоўскі, Пракоп Міхайлоўскі[46]. Дваравыя людзі касцёла, па звестках 1811 г., – гэта Павел Падунскі, Андрэй Ціхановіч, Фама Зелянкевіч, Іван Юзэфовіч, Юрый Чарнецкі, Ленці Чарнецкі, Іван Ласко, Сцяпан Чарнецкі, Данііл і Якаў Савічы, Станіслаў Калінскі, Венедыкт Янулевіч, Кузьма Вашкевіч, Васіль Гірба і іх сваякі[47].

Вернемся да дзесятага перапісу 1858 г. Агульная колькасць прыгонных сялян – 515 чалавек, 80 сем'яў, якія пражывалі ў мястэчку, у тым ліку сяляне Вірыёна, якія жылі на Новаастроўскай вуліцы. У сярэднім у гэтых сем'ях было 6,4 чалавекі. Аднак пры даволі вялікай колькасці сем'яў, якія складаюцца з 7–9 чалавек (28 з 80), сем'яў, якія налічвалі 10 і болей чалавек, зафіксавана толькі сем.

У другой палове XIX–пачатку XX стст. колькасць насельніцтва Крынак павялічваецца хуткімі тэмпамі. Шпарка ўзрастае і габрэйская яго частка. У 1847 г. габрэйскае насельніцтва будзе налічваць 1686 чалавек, а праз 36 гадоў, у 1883 г., у мястэчку ўжо пражывае 2823 габрэі. Яшчэ на 719 чалавек яно павялічылася за апошнія дваццаць

---

* Тодрыеў Гарбоўскі, гарбар, Зельман Давідовіч, срэбранік, Цобых Хост, кравец, Орка Носен Фанвела, шавец, Хеліх Хаіма, маляр, Шмуль Хайт, кравец, Янкель Кесаль, шапачнік, Портха Бас, шавец, Ізраіль Сілсберг, срэбранік, Юдэль Едваб, балоншчык, Абрам Эбштэйн, пекар, Арон Бендэнта, кравец, Берко Кіршнер, кушнер, Мовіша Шліндэр, кравец, Рубін Вейб, кравец, Шлёма Кірзнер, Зосель Сандлер, шавец, Ізко Колтвун, кравец, Файвель Капуста, кушнер, Ізраэль Шмейл, кушнер, Гершэль Вайнер, цясляр, Пінхус Сохер, кравец, Хаім Геван, кравец, Янкель Схісельгер, канвісар, Кадзіш Геліг, гарбар, Мроль Гарба, гарбар, Вольф Эрэль, гарбар, Вольф Фейнсільберг, срэбранік, Зелко Глад, шклільшчык, Юда Таль, катляр, Мовша Панетрагер, кравец, Давід Голд, срэбранік, Файвель Хайт, кравец, Іцко Схнайдэр, кравец, Ост Грун, кравец, Кастэль Хайт, кравец, Зіндэль Едваб, балоншчык, Абрахам Эбштэйн, маляр, Шыман Сховіч, цясляр, Арон Хайт, кравец, Давід Гелд, срэбранік, Файвель Хайт (другі), кравец, Іцко Шнайдэр, кравец, Овсей Грун, кравец, Кафель Хайт, кравец, Янкель, кравец, Арон Шустэр, шавец.

[45] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 27. Арк. 149, 151-151 адв.; Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 45. Арк. 94–98.

[46] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 27. Арк. 149.

[47] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 27. Арк. 150-150 адв.

гадоў XIX стагоддзя. Як пазначана ў кнізе “Pinkas Krynki”, колькасць іх за сорак гадоў павялічылася ў два разы[48].

У 1895 г. у мястэчку пражывае, згодна з дадзенымі энцыклапедычнага даведніка Бракгауза і Эфрона, 3825 чалавек.

Даведачнае выданне “Статистика России” за 1890 год інфармуе аб 3997 жыхарах Крынак (2079 мужчын і 1918 жанчын)[49]. У 1897 г. (перапіс 1897 г.) амаль на тысячу больш – 4957 чалавек[50]. На 1900 г. насельніцтва мястэчка мае розныя паказчыкі – 4249 чалавек (Памятная кніжка Гродзенскай губерні) і 4833 чалавекі (Ф. 14. НГАБ у Гродне).

На 1901 год на тэрыторыі мястэчка пражываюць 4993 чалавекі. 4040 з іх былі габрэйскай часткай насельніцтва. Далей у дэмаграфічнай раскладцы ішла колькасць сялян – 793 (438 праваслаўных і 475 католікаў), 35 дваран, 10 купцоў, 15 мяшчан хрысціянскага веравызнання, 30 мяшчан мусульманскай веры[51]. Такая стракатая структура насельніцтва мястэчка рабіла яго месцам правядзення ўсёй нацыянальнай і рэлігійнай дзяржаўнай расійскай палітыкі.

Сапраўдны дэмаграфічны выбух у Крынках ў гэты час быў звязаны з росквітам мясцовага гарбарства і некаторых адпаведных палітыка-адміністрацыйных захадаў улад у дачыненні да мястэчка. Вынік гэтага – рост насельніцтва мястэчка на 1914 г. да 8–10 тысяч чалавек[52]. Такая колькасць яго жыхароў, з якіх каля дзвюх тысяч складалі рабочыя гарбарняў, фактычна рабіла Крынкі горадам.

---

[48] Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry. – S. 62.
[49] Статистика Российской империи. Вып. XI: Гродненская губерния. – СПб., 1890. – С. 2.
[50] Кринки // Еврейская энциклопедия: в 16 т. – СПб.: Издательство общества для научных еврейских изданий и издательство Брокгауза и Эфрона. – Т. 9. – С. 858.
[51] Тамсама. – Арк. 73 адв.
[52] Паводле звестак павятовых спраўнікаў у 1913 годзе ў Крынках налічваўся 8231 чалавек (НГАБ у Гродне. – Ф. 14. Воп. 1. Адз. зах. 368. Арк. 7).

# Архітэктурнае аблічча

Воблік мястэчка непадобны на іншыя ў наваколлі. І гэтае непадабенства фарміруе плошча. Калі ў большасці іншых мястэчак плошча з’яўляецца простым плацам-чатырохкутнікам, то плошча Крынак – сама па сабе выява дойлідскага планавання. Яна ўяўляе сабою няправільны шасцікутнік, ад граняў якога, часта як і ад саміх кутоў, адыходзілі 12 вуліц. Хаця ў кожным сяле, мястэчку і горадзе традыцыйна вызначаюцца культавыя пабудовы, гэтую плошчу можна лічыць архітэктурнай дамінантай мястэчка.

Гэта тым больш становіцца зразумелым, калі звернеш увагу на геаграфічную лакалізацыю мястэчка. Яна ў прыкметна ярка выражанай даліне даўжынёй у некалькі сотняў метраў па цячэнню р. Крынкі, якая бярэ пачатак на паўднёвым захадзе ад мястэчка ля дарогі Крынкі-Востраў у адлегласці каля 2 км па прамой лініі ад цэнтра мястэчка[53].

Двор Вірыёнаў, рэшткі якога ў выглядзе элементаў сядзібнага парка і руінаў гаспадарчай пабудовы засталіся па наш час, і двор Дзівоваў-Ліпхартаў – “Дзівапол” (град Дзівова), аб якім нагадваюць толькі рукатворныя пасадкі дрэў, былі раскіданы па-за межамі тагачаснага мястэчка і дапаўнялі яго воблік толькі пры ўмове, калі азіраць Крынкі з узвышша “Шыбеніцы” або з боку Саколкі. Тады адкрытая прастора выразна дэманструе радыяльную раскіданасць вуліц, сярод якіх была ў свой час Абводная (падкрэсленасць радыяльнасці забудовы).

Як выглядаў маёнтак Дзівоваў, Ліпхартаў і іх шматлікіх пераемнікаў, цяпер сказаць складана, бо толькі месца яго памятаюць сучасныя крынкаўчане. Вірыёнаўскаму двару пашчасціла больш. Маёнтак Вірыёнаў павернуты галоўнай дарогаю ў бок касцёла. Гэтая дарога і вяла ад касцёльнай званіцы аж да палацавага будынка. Калі

---

[53] Ocena jacosci wod rzeki Krynki w latach 1985–1994. – Warszawa, 1995. – S. 30.

рушыць па шашы ад мястэчка і павярнуць управа на гэтую дарогу, то дойдзеш да даволі вялікага масіва дрэў – месца былой сядзібы. Дрэвы прысадаў і парка падкрэсліваюць тэрыторыю былых панскіх пенатаў. Каля ледзь захаванага ручая пачынаецца велічная кляновая прысада, якая перасякаецца другой. На гэтых ростанях можна павярнуць управа або ўлева, бо гэтая дарога перасякае па сярэдзіне сядзібны комплекс. Калі крочыць далей па галоўнай прысадзе, то хутка справа можна ўбачыць адкрытую пляцоўку, якая нагадвае пра былую вялікую пабудову, што стаяла тут, – месца сядзібнага дома. Справа скрозь дрэвы можна заўважыць рэшткі двухпавярховай гаспадарчай пабудовы. Муры яе складзены з чырвонай цэглы і камянёў. На даўжыню трыццаці чатырох крокаў гэтая пабудова, хаця і ў руінах, але захавалася. Далей, яшчэ амаль столькі ж крокаў даўжыні, толькі рвом, вызначаны рэшткі падмурка. Тут жа, непадалёк ад гэтых муроў, у полі, у накірунку мястэчка, бачна сажалка. Такі воблік сучаснага стану вірыёнаўскай сядзібы. Яе месцазнаходжанне невыпадковае. Бліжэйшы бок Крынак – гэта і вуліца Новаастроўская, на якой сяліліся местачкоўцы, што былі ў прыгоннай залежнасці ў Сакалова, а потым Вірыёнаў. Блізкасць касцёла таксама была зручная для гаспадароў-католікаў гэтага маёнтка Крынкі.

“Душу” Крынак, іх «genius loci» (М. Анцыфераў), нельга зразумець без іх мовы – назваў вуліц. Як паўсюль, яны шматразова змяняліся, пакідаючы жыхарам мястэчка ў спадчыну дзяржаўныя каштоўнасці, ідэалы і імёны герояў. Час расійскага панавання сфарміраваў свой набор назваў, і такім чынам унёс адну са сваіх лептаў у стварэнне “душы мястэчка”. Адна іх частка дазваляла кожнаму, хто трапляў у Крынкі, зразумець прыярытэты эканамічных кантактаў местачкоўцаў і зарыентавацца ў накірунках бліжэйшых гарадскіх цэнтраў, нават не зазіраючы ў апісанне маёнткаў, дзе заўсёды паказваліся дакладныя вёрсты да бліжэйшых гарадоў. Беластоцкая, Гродзенская, Варшаўская, Заблудаўская, Пажэцкая, Свіслацкая, Наваплянтаўская, Сакольская накіроўваліся ад плошчы ў адпаведных напрамках (гл. план).

Назвы найбольшай колькасці вуліц тлумачылі і распавядалі аб найбольш значных занятках яго жыхароў або найбольш прыкметных установах або пабудовах, якія тут былі. Гэта вуліцы Фурманская, Фабрычная, Царкоўная, Дворная, Такарская, Дзягцярская, Чайная, Школьная, Агародная, Зашкольная, Гарбарская, Сінагожская, Цэймерскі праспект[54]. Асобна трэба згадаць вуліцу Раздзельную. Яе назва паходзіць ад лініі, якая падзяляла землі Дзівапола і землі Крынак, якія належалі Вірыёнам[55]. Як вядома, сяляне Вірыёнаў жылі на Нова-Аляксандраўскай вуліцы. Таксама сярод даволі буйных вуліц трэба згадаць Жаб'ю, Тайную і Бацяную. Акрамя іх, мястэчка перасякала вялікая колькасць завулкаў і вулачак, якія спалучалі часткі мястэчка і разыходзіліся ад Базару.

Цэнтральная, яна ж Рынкавая, Базарная, плошча Крынак – напамін пра ўвагу да мястэчка з боку Антонія Тызенгаўза, заўсёды вызначалася гандлёвымі радамі. Жыхары ў першае дзесяцігоддзе XX стагоддзя ведалі, што на плошчы можна было набыць літаральна ўсё. Дакладна 39 лавак складалі асобны архітэктурны ансамбль плошчы. Знаходзілася гэтае працяглае гандлёвае месца пад агульным дахам. Вакол лавак была веранда, пад якой можна было схавацца ад дажджу[56]. За час, што мінуў з моманту будаўніцтва лавак, менавіта з 40–50-х гг. XIX ст., драўляныя канструкцыі моцна знасіліся. Часткова ў 1906 г. яны былі адрамантаваны, аднак добраўпарадкаванне цэнтра горада-мястэчка, аднаго з найбольш прыбытковых месцаў Крынак, патрабавала далейшай працы. Да таго ж, старыя базарныя пабудовы палохалі магчымасцю ўзнікнення пажару, які мог успыхнуць там з-за дрэннага стану лавак альбо з прычыны падпалу[57].

З усёй вялікай колькасці вуліц і вулачак Крынак у другой палове XIX ст. забрукаваных было не шмат. Брук, безумоўна, рабіў выгляд вуліц больш ахайным, прывабным і менш небяспечным. Але клопат і матэрыяльныя выдаткі аб такім элеменце добраўпарадкавання мясцовыя ўлады часта ўскладалі на саміх местачкоўцаў – жыхароў той

[54] Тамсама.
[55] Тамсама.
[56] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1956. Арк. 1-1 адв., 11-11 адв.
[57] Тамсама. – Арк. 11 адв., 24.

ці іншай вуліцы. Гэта істотна замаруджвала справу. Так, амаль год цягнулася цяжба паліцэйскіх уладаў з жыхарамі Дабравольскай вуліцы наконт забрукоўвання гэтай часткі горада. Вуліца насамрэч палохала рвамі і брудам[58]. Брук быў пакладзены, і вуліца перастала турбаваць крынчан сваімі "пасткамі". Тым не менш, само жыццё, напрыклад, пашырэнне колькасці гарбарняў, падштурхоўвала справу добраўпарадкавання мястэчка.

Звернемся да культавых пабудоў Крынак. Іх заўсёды было нямала ў мястэчку. Царква, касцёл, сінагога спрадвеку былі цэнтрамі духоўнага жыцця крынкаўчан. Іх аблічча не было выключна арыгінальным, па меншай меры, пра гэта не згадваюць крыніцы. Хутчэй наадварот, і "мураўёўка", і будынкі касцёлаў, што тройчы змянялі адзін другога на працягу расійскага тэрміну гісторыі мястэчка, неслі на сабе адметныя рысы шматлікіх псеўдарускіх або неагатычных культавых пабудоў. Гэта, вядома, не асноўная адметнасць для верніка. "Я церкви не люблю, где зодчий мне больше говорит, чем Бог...", – слушна пісала паэтка. Больш таго, і ў краявідзе Крынак усе культавыя пабудовы перш за ўсё заўсёды дэманстравалі спрадвечную талерантнасць местачкоўцаў. Хаця, вядома, што за іх дабрачынным абліччам ценем стаяла зацятая рэлігійная палітыка.

Аднак усё ж архітэктура, безумоўна, уласцівымі ёй сродкамі арганізоўвала агульную культурную прастору мястэчка. І Крынкі другой паловы XIX стагоддзя немагчыма ўявіць без залатых крыжоў царквы, без гмаху касцёла і трох будынкаў сінагог.

Як ужо адзначалася, гісторыі крынкаўскага касцёла прысвечаны шэраг даследчыцкіх прац. Сярод іх трэба вылучыць вынікі архіўных і літаратурных пошукаў Т. Бельскага, Я. Бельскага і П. Кулакоўскага[59]. Звернем увагу на некаторыя дэталі ўпрыгожвання касцёлаў, як драўлянага, так і мураванага.

---

[58] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 16. Адз. зах. 200. Арк. 2, 3.

[59] Bielski, T. Krynki i okolice (mps) / T. Bielski. – Poznan, 1972; Bielski, J. Dzieje parafii Krynki (1795–1919) / J. Bielski // Praca magisterska, napisana pod kierunkiem ks. Dra T. Krahela na Wydziale Teologicznym Uniwersitetu Kardynala S. Wyszynskiego w Warszawe. – Warszawa, 2002. – 90 s.; Kulakowski, G. Dzieje parafii Krynki (1522–1795) / G. Kulakowski // Praca magisterska, napisana pod kierunkiem ks. Dra T. Krahela na Wydziale Teologicznym Uniwersitetu Lublenskiego. – Lublin, 1995. – 69 s.

Выключнай уласцівасцю кожнага помніка дойлідства можна лічыць тое, што ён нясе ў сваім абліччы тую прыгажосць, якую бачылі людзі да нас, сучаснікі гэтай пабудовы. Яны бачылі яе і выказвалі на гэты конт свае пачуцці. Эстэтыка пабудоў выхоўвала іх густ і разуменне прыгожага. Таму цікава ўгледзецца ў апісанне таго касцёла, які з 1674 па 1817 гг. разам з іншымі храмамі ачольваў мястэчка. Згодна з інвентаром 1796 года гэта быў драўляны касцёл св. Ганны з дзвюма капліцамі. Сонейка пранікала ўнутр яго праз 15 вокнаў і накіроўвала сваё святло на шэсць алтароў. Галоўны алтар з вобразамі Маці Божай Чанстахоўскай і Св. Тадэвуша змяшчаў дзесяць фігур святых. Другі алтар быў прысвечаны Св. Францыску Ксаверыю, трэці – Св. Антонію Падуанскаму. На чацвёртым алтары разьбяры размясцілі вобразы Св. Ганны і Маці Божай. Пяты алтар з Св. Тройцаю і Узнясеннем Хрыстовым і шосты з Св. Марцінам і Маці Божаю завяршалі кола тытанаў духу. Помнікам цяслярскага мастацтва выглядаў амбон[60].

Пабудаваны да 1844 г. і асвечаны новы драўляны касцёл Крынак згодна з інвентарамі 1873, 1878 і 1906 гг., як адзначае Я. Бельскі, меў вышыню ў 15,5 аршыны ў прадбістэрыі і 11 аршын у бакавых капліцах. Вежы вышынёю 28 аршын з жалезнымі крыжамі абапал франтальнай часткі і трэцяя па-над прадбістэрыем са звонам узносілі храм яшчэ вышэй. У 1860 годзе касцёл быў пафарбаваны ў белы колер.

Унутранае аблічча гэтага касцёла складалася з аргана, сканструяванага ў 1845 годзе і падрыхтаванага ў 1863 г. арганістам Янам Швайкоўскім[61]. Шаснаццаць вокнаў markers рознага памеру рабілі ўнутраную прастору храма напоўненай святлом. Адметнымі былі пяць яго алтароў разьбярскага выканання.

Гэты касцёл існаваў да 1913 года, пасля быў разбураны. З яго матэрыялу была пабудавана плябанія новага касцёла Св. Ганны па праекце архітэктара Стэфана Шылера[62].

Равеснік XX стагоддзя, гэты касцёл быў узведзены ў часы “распаўсюджання пальшчызны ў каталіцкіх масах”, выкліканай

[60] Bielski, J. Dzieje parafii Krynki (1795–1919)... / J. Bielski. – S. 35.
[61] Ibid. – S. 37-38.
[62] Ibid. – S. 40.

“антыкаталіцкай палітыкай царскага рэжыму” як бы насупраць. Гэта, як заўважае С. Яновіч, падштурхнула значную частку крынкаўчан да каталіцтва[63]. Колькасць вернікаў у праваслаўнай і каталіцкай парафіях напярэдадні яго будаўніцтва складала, адпаведна, праваслаўных 4000 чалавек і католікаў – 7500[64]. У такіх умовах дыскусія аб вартасці будаўніцтва новага крынкаўскага касцёла доўжылася з 1901 па 1905 гг. У ёй спрычыніліся як шэраговыя вернікі прыходу, так і чыноўнікі і прадстаўнікі кліру. Аргументы абодвух бакоў былі традыцыйнымі. Праваслаўныя казалі пра шкоднасць уплыву “такой велічнай пабудовы ў параўнальна невялікім (!) мястэчку”. Маўляў, істотна саступала яму мясцовая “сціплая па памерах і архітэктуры” (епіскап Гродзенскі і Брэсцкі Іакім) царква. Супраць іх былі прыхаджане касцёла з Крынак, якія выступілі з хадайніцтвам – фігуруюць імёны Фелікса Кундзіча, Восіпа Карпінскага, Казіміра Баха і Фердынанда Калінскага – да Віленскага, Ковенскага і Гродзенскага генерал-губернатара М. Асаргіна, Віленскай кансісторыі і да МУС Расіі[65]. Зрэшты, было прынята рашэнне аб будаўніцтве, якое распачалося ў 1906 годзе. На ўзвядзенне будынка было выдаткавана 31 093 рублі[66]. Гэта было значна менш, чым прадугледжвалі чыноўнікі ад царкоўнага будаўніцтва. Яны меркавалі, што кошт складзе больш за 50 тысяч рублёў срэбрам. Закончана будаўніцтва было ўвосень 1912 года.

Працяглы перыяд уніяцтва скончыўся для Крынак, як і для ўсёй тэрыторыі, што была гвалтоўна далучана да Расіі з уніяцкай паствою, у 1839 годзе. Узамен – дзяржаўнае ачольванне праваслаўнай царквы і паскоранае пашырэнне апошняй уплыву на насельніцтва. Сярод іншых сродкаў такой палітыкі – інтэнсіўнае будаўніцтва і перабудова храмаў. Артадаксальнае праваслаўе не задавальнялася нават уласна праваслаўнымі храмамі з-за іх самабытнасці, і яны падвяргаліся пераробкам у псеўдарускім стылі. Той факт, што толькі з 1858 па 1862 гг. у Магілёўскай губерні было “капитально исправлено” 16 мураваных і 192 драўляных храмаў, сведчыў аб спланаванай і мэтанакіраванай

[63] Яновіч, С. Пад знакам Арла і Пагоні / С. Яновіч. – Крынкі, 2003. – С. 83.
[64] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 18. Арк. 35 адв.
[65] Тамсама. – Арк. 14, 16, 20–23.
[66] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 2. Воп. 2. Адз. зах. 1826. Арк. 29.

палітыцы[67]. Турбаванне за "чысціню веры" бачыцца ў рэзалюцыях і распараджэннях царскіх чыноўнікаў у беларускім краі наконт перабудовы каталіцкіх касцёлаў і перадачы розных рэчаў з іх у праваслаўныя цэрквы[68]. 4 верасня 1866 г. Епіскап Брэсцкі Ігнацій пісаў гродзенскаму губернатару І.М. Скварцову, што капліца ў Масалянах "урачыстасцю багаслужэння прыцягвае з навакольных вёсак праваслаўных сялян, якія таму рэдка ходзяць у сваю царкву і адыходзяць ад сваёй веры... Я лічу (*піша а. Ігнацій.* – заўвага В.К.) карысным і нават неабходным ператварыць гэтую капліцу ў праваслаўную часоўню"[69].

Прыкладна да таго ж часу – 1868 год – адносіцца скарга сялян Крынак аб ціску на іх дзеля пераходу з рымска-каталіцкай веры ў праваслаўную. Тэкст скаргі (ад 10 красавіка 1868 г.) быў доўгі, і падпісалі яе 62 чалавекі, не толькі з Крынак, але і з мясцовасці навокал. Васемнаццаць подпісаў належала крынкаўцам. Сярод іх – Іван Бяганскі, Антон Мачэйка, Мацвей Сяжброўскі, Антон Федзюкевіч, Антон Кулакоўскі, Антон Панцэвіч, Якаў Сінкевіч, Іван Пухальскі, Павел Кулакоўскі, Станіслаў Кулакоўскі, Міхаіл Грыгаровіч, Адам Астроўскі, Ацэнцій Бах, Кляменцій Харужый, Мацвей Грыгаровіч, Іван Грынкевіч, Антон Пацэвіч, Осіп Пацэвіч[70]. На аргументы сялян, сярод якіх "мы – нашчадкі сваіх продкаў і бацькоў нашых", "два гады таму запар нас прымушаюць прыняць праваслаўе", "мы, прасіцелі, знаходзімся ў сталым узросце", "праваслаўных абрадаў не можам выконваць, бо праваслаўных малітваў не ведаем" рэзалюцыя гродзенскага губернатара Дз.М. Крапоткіна была падобная на яго папярэднія: "21-му можна застацца каталікамі, а 41 селянін, маці якіх праваслаўныя, павінны быць вернуты ў праваслаўную веру". З тых 18 крынкаўцаў – апошняя

[67] Габрусь, Т. Адлюстраванне канфесійна-палітычнай сітуацыі ў культавым дойлідстве Беларусі / Т. Габрусь // Беларусіка-Albaruthenica. – Мінск: Нацыянальны навукова-даследчы цэнтр імя Ф. Скарыны, 1993. – Кн. 2. – С. 316.
[68] Семянчук, Г. Гісторыя праваслаўнай царквы на Беласточчыне ў фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне / Г. Семянчук // Bialoruskie Zeszyty Historycznie. – 1997. – № 8. – S. 67.
[69] Пацэйка, М.І. Паўстанне 1863 г. на Бераставіччыне / М.І. Пацэйка // Памяць: гіст.-дакументальная хроніка Бераставіцкага раёна. – Мінск: БЕЛТА, 1999.
[70] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 1556. Арк. 5-5 адв.

частка распараджэння губернатара тычылася Антона Федзюкевіча, Антона Пацэвіча, Паўла Кулакоўскага, Станіслава Кулакоўскага, Мацвея Грыгаровіча, Івана Грышкевіча[71].

Напісаць рэзалюцыю аб вяртанні ў веру было, безумоўна, недастаткова, бо, як адзначалася ў справе аб прыведзенай вышэй скарзе, "да зацятага супраціву праваслаўю асобаў, якім належыць далучацца да праваслаўя, шмат садзейнічаюць тыя абставіны, што асобы гэтыя, як заўважана, штомесяц накіроўваюцца для малітваў у Ваўкавыскі павет, у м. Рось, дзе знаходзіцца касцёл і ксёндз яго гаворыць пропаведзі, якія натхняюць упартых..."[72]. Святар крынкаўскай царквы ў тым жа годзе заўважыў, што ў 1868 г. шмат сялян Крынкаўскай воласці звярталіся да гродзенскага губернатара з просьбаю дазволіць ім быць каталікамі[73].

У такіх акалічнасцях будаўніцтва новай крынкаўскай царквы станавілася не толькі значнай падзеяй для ўсіх местачкоўцаў і сялян навакольных вёсак, але і палітычна важнай акцыяй для ўладаў. Гэтым можна растлумачыць і захады арганізатараў будаўніцтва, і кола ўдзельнікаў яго фінансавання.

Гродзенскі галоўны камітэт па стварэнню праваслаўных цэркваў – так называлася ўстанова, якая была спецыяльна арганізавана для каардынацыі і кантролю за масавым тагачасным царкоўным будаўніцтвам. Яго дзейнасць –таксама адна з праяў адпаведнай царкоўнай палітыкі ў краі. Гэты камітэт па свайму профілю быў галоўным арганізатарам будаўніцтва "мураўёўкі" ў Крынках. Яно пачалося пасля дзвюх прапаноў гродзенскага начальніка губерні ад 4 і 24 жніўня 1864 г. У першай прапанове агаворваліся крыніцы фінансавання будоўлі, у другой – рэкамендавалася найхутчэй пачынаць работы непасрэдна па будаўніцтву[74]. Паводле гэтых губернатарскіх дакументаў Часовы камітэт павінен быў заснаваць з ліку прыхаджан крынкаўскага прыходу Царкоўную раду. Прычыну такой арганізацыі будаўніцтва трэба бачыць у заяве сялян Крынак за 4 жніўня 1864 г. на імя

[71] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 1556. Арк. 2-2 адв.
[72] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 1556. Арк. 2 адв.–3.
[73] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 1556. Арк. 11-12 адв.
[74] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 845. Воп. 1. Адз. зах. 11. Арк. 4-4 адв.

міравога пасрэдніка Гродзенскага павета 2-га стану І.М. Жыткова аб пабудове замест драўлянай царквы ў м. Крынкі новай каменнай[75]. Такім чынам, першапачаткова ў храналагічным парадку арганізацыі перабудовы царквы ідзе заява крынкаўскіх сялян у павятовыя структуры. Далей – прапановы губернатара і рашэнні агульнагубернскага адпаведнага камітэта. Але ў гэтым ланцугу падзей ёсць яшчэ адно ранейшае звяно. Сярод губернатарскіх папер ёсць справа "Аб адкрыцці пазыкі на пабудову праваслаўнай царквы ў м. Крынкі" за чэрвень 1864 г. З яе зместу, у прыватнасці, становіцца вядомым, што былы генерал-губернатар граф М. Мураўёў асігнаваў у тым самым годзе на пабудову новай праваслаўнай царквы ў м. Крынкі 2 тысячы рублёў і, што важна, прапанаваў суму, якой не хапала (2902 руб. 48 кап.), спагнаць з уладальнікаў Крынак – памешчыкаў Ліпхартаў і Вірыёнаў[76]. Гэтая інфармацыя шмат тлумачыць аб ролі, якая надавалася факту перабудовы.

Аб згаданых сумах кошту будаўніцтва скажам ніжэй, а зараз – аб наступных кроках па арганізацыі гэтага адметнага ў Крынках і акрузе мерапрыемства. 27 жніўня 1864 г. губернатарам было загадана стварыць Царкоўную раду. Для гэтага прадстаўнікі Часовага камітэта адправіліся ў Крынкі. Адначасова губернатарам накіроўваецца яшчэ адзін член гэтага ж камітэта, каб разам са святаром і міравым пасрэднікам ацаніць і размеркаваць будаўнічы матэрыял[77].

8 верасня 1864 г. пры ўдзеле Гродзенскага павятовага спраўніка, міравога пасрэдніка Гродзенскага павета 2-га стану, мясцовага святара Грыгорыя Пранеўскага на падставе адпаведных правіл для духоўных радаў у губернях – Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай – была выбрана Царкоўная рада. Традыцыйна ў гэты орган уключалі 8-9 лепшых, найбольш адданых царкве прыхаджан[78]. У Крынках у яе ўвайшлі: Барыс Міхал (старшыня), Веняздзікт Каліш, Іван Стадольнік, Андрэй Крэнза, Піліп Сяргейчык, Антон

---

[75] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 845. Воп. 1. Адз. зах. 11. Арк. 1-1 адв.
[76] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 26. Адз. зах. 47. Арк. 1.
[77] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 845. Воп. 1. Адз. зах. 11. Арк. 4 адв.
[78] Миловидов, А.И. Церковно-строительное дело в Северо-Западном крае / А.И. Миловидов. – Вильно, 1913. – С. 10 (51 с.).

Курчук, Мацвей Захарковіч, Мікалай Цюхай[79]. У склад Рады, да таго ж, увайшлі царкоўны стараста Ілья Занеўскі і валасны старшыня Франц Міклашэвіч[80]. Да функцый створанай Рады адносіліся размеркаванне працы паміж прыхаджанамі на будоўлі, арганізацыя пошуку і збор сродкаў на працяг і заканчэнне будаўніцтва. 11 мая 1865 года і 14 сакавіка 1866 г. Рада заключыла дамовы падрада з майстрам Андрэем Латышам на правядзенне каменных і дахавых работ[81]. Сярод іншых абставін выбару падрадчыка была ідэалагічная: "Згодна з распараджэннем Мураўёва нарады падрада на будаўніцтва цэркваў можна было даваць толькі праваслаўным, пажадана, з "унутраных губерняў", габрэям і каталікам – ні ў якім разе" (час паказаў, што былі выключэнні, і неаднаразовыя)[82].

Архітэктурны праект царквы (гл. копію плана) быў дасланы губернатару, аб чым згадвае Епіскап Брэсцкі а. Ігнацій[83]. Псеўдарускі стыль рабіў будучую царкву адной з шматлікіх. Маючы намер насадзіць у краі фанатычнае праваслаўе ва ўсіх праявах, – занатаваў у пачатку XX ст. расійскі даследчык А. Мілавідаў, – Мураўёў патрабаваў, каб усе цэрквы, што будаваліся, былі падобныя на вялікарускія не толькі вонкава, але і ўнутры"[84]. Тыповая смета на пабудову праваслаўнай царквы на 1864 г., якая захавалася ў Гродзенскім архіве, нагадвае пра "канвеер". Прадугледжвалася, у прыватнасці, "пабудаваць калакольню, ніжнія два ярусы якой вывесці з каменю, а верхні ярус – з цэглы, шпіль накрыць жалезам, галаву – англійскай меддзю, крыж вызалаціць.., замест гонтавага даху зрабіць жалезны..."[85].

8 верасня 1865 г. адбылася закладка царквы ў Крынках[86]. Рэалізацыя гэтага архітэктурнага праекта ў Крынках працягвалася да 15 кастрычніка 1875 г., калі былі цалкам выкананы каменныя работы. Але заканчэнне калакольні было пакінута на будучыню[87].

---

[79] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 845. Воп. 1. Адз. зах. 11. Арк. 6 адв.
[80] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 845. Воп. 1. Адз. зах. 11. Арк. 14.
[81] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 97. Воп. 1. Адз. зах. 457. Арк. 1-1 адв.
[82] Миловидов, А.И. Згад. твор / А.И. Миловидов. – С. 10, 24-25.
[83] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 845. Воп. 1. Адз. зах. 11. Арк. 1 адв., 102.
[84] Миловидов, А.И. Згад. твор / А.И. Миловидов. – С. 17.
[85] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 92. Воп. 2. Адз. зах. 13. Арк. 2.
[86] Миловидов, А.И. Згад. твор / А.И. Миловидов. – С. 49.
[87] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 845. Воп. 1. Адз. зах. 11. Арк. 33.

Каштарыс запланаванай царквы складаў 8133 рублі[88]. З самага пачатку крыніцамі фінансавання будоўлі ўлады прызначылі ахвяраванні прыхаджан і добразычліўцаў. Пра гэта пісаў у канцылярыю губернатара а. Ігнацій. Адным з такіх добразычліўцаў, як ужо нагадвалася, стаў сумнавядомы ў краі М. Мураўёў. Вялікую суму грошай не адразу, але атрымалі ад тагачасных памешчыкаў Крынак Аляксандра Ліпхарта і Івана Вірыёна[89]. Дарэчы, практыка адміністрацыйнага выкарыстання сродкаў з маёнткаў прыхода для забяспечвання царкоўных патрэб была правілам. Некалькі раней, у 1847 г., Гродзенскі губернскі камітэт па забеспячэнню праваслаўнага святарства адмовіў А. Ліпхарту ў скарзе на прымусовае спагнанне з яго гаспадаркі сродкаў на будаўніцтва дамоў для святара крынкаўскай царквы і прыбудоў самой царквы. Палічыўшы, што з 942 прыхаджан крынкаўскай царквы на “Дыванпол”, на маёнтак Ліпхарта ў Крынках прыпадае 132 чалавекі, губернскае кіраўніцтва пакінула за памешчыкам значную долю фінансавання царкоўных будынкаў[90]. І цяпер, падчас будоўлі царквы, не адразу, але пасля чарговага хадайніцтва Царкоўнай рады да губернскіх уладаў і адпаведнага зварота апошніх да заможных гаспадароў асігнаванне ажыццяўлялася[91].

На 25 мая 1866 г. з 2902 рублёў 48 капеек, якія патрэбна было пералічыць памешчыкам, будаўнікі царквы атрымалі 1953 рублі 24 капейкі[92]. З прычыны паступовага фінансавання будаўніцтва расцягвалася ў часе. З агульнай колькасці сметных грошай 5826 рублёў 36 капеек было пералічана ад Мураўёва, Ліпхарта і Вірыёна 4902 рублі 48 капеек. Розніцу паміж 5826 руб. 36 кап. і 4902 руб. 48 кап. заплацілі самі прыхаджане, збіраючы па прынцыпу: ад селяніна-ўласніка 77 капеек з душы[93]. Астатнюю суму – значную розніцу паміж 8133 руб. 12 кап. і 5826 руб. 36 кап. склала дармовая праца прыхаджан, якія дастаўлялі камень, ваду, пясок, друз на будоўлю[94].

---

[88] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 845. Воп. 1. Адз. зах. 11. Арк. 19.
[89] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 845. Воп. 1. Адз. зах. 11. Арк. 13, 58, 62.
[90] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 135. Воп. 1. Адз. зах. 220. Арк. 16, 21-21 адв.
[91] НГАБу г. Гродне. – Ф. 845. Воп. 1. Адз. зах. 11. Арк. 11.
[92] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 845. Воп. 1. Адз. зах. 11. Арк. 58.
[93] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 845. Воп. 1. Адз. зах. 11. Арк. 62.
[94] Тамсама.

У працэсе будаўніцтва было вырашана памеры будучай царквы павялічыць у даўжыню. Але паколькі Цэнтральная рада сама ініцыявала такія канструктыўныя змены (“з-за дбайнасці”, як пазначалася ў допісу губернатару), то і дафінансаванне патрэбных дадатковых матэрыялаў было ўскладзена на прыхаджан. На павялічаны памер царквы быў складзены адпаведны план вытворцам работ Міхельсонам. Адначасова ўдасканальваўся спраектаваны вобраз царквы. Розніца паміж разлічанай сметай і рэальнымі выдаткамі была істотная. Як адзначалі папячыцелі крынкаўскай царквы ў 1877 г. у адной з шматлікіх тлумачальных запісак да Гродзенскай губернскай цэнтральнай будаўнічай прысутнасці, выкананне далёка не ўсіх вобразаў драўлянага іканастаса каштавала 195 рублёў 40 капеек, у параўнанні з запланаванаю сумаю на ўвесь іканастас у 222 рублі[95]. Георгій Пранеўскі неаднаразова скардзіўся на недахоп грошай[96].

Паралельна з будаўніцтвам крынкаўскай царквы павялічваўся крынкаўскі каталіцкі прыход. Справа ў тым, што згодна з палітыкай па агульнаму скарачэнню колькасці каталіцкіх прыходаў па распараджэнню гродзенскага губернатара ад 07.06.1866 г. і гродзенскага дэкана ад 11.06.1866 г. маёмасць Мала-Бераставіцкага касцёла перадавалася ў Крынкі. Мала-Бераставіцкі касцёл зачыняўся 18 чэрвеня 1866 г., а крынкаўскі пашыраў тэрыторыю сваёй парафіі[97]. У такіх умовах будаўніцтву царквы надавалася яшчэ большая ўвага, у тым ліку і фінансавая.

Яе святар на рубяжы XIX–XX стагоддзяў Грыгорый Пранеўскі, як пазначалася, быў заможным землеўладальнікам і ўвогуле асобаю ў мястэчку прыкметнаю. Яго намаганнямі  пры ўсебаковым ачольванні з боку дзяржаўных уладаў роля царквы як арганізатара местачковага жыцця была даволі актыўнай. Такія старонкі жыцця мястэчка, як набыццё сялянамі зямельных угоддзяў, узвядзенне касцёлаў, падзеі 1863 года, арганізацыя эвакуацыі насельніцтва ў гады вайны з кайзераўскай Германіяй, былі б няпоўнымі без месца тут

[95] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 97. Воп. 1. Адз. зах. 325. Арк. 32-32 адв.
[96] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 97. Воп. 1. Адз. зах. 325. Арк. 38.
[97] З Рапарту Ваеннага начальніка Гродна і павета Гродзенскаму губернатару аб закрыцці Мала-Бераставіцкага касцёла. 20 чэрвеня 1866 г. // Памяць: гіст.-дакументальная хроніка Бераставіцкага раёна. – Мінск: БЕЛТА, 1999. – С. 83.

праваслаўных святароў. Царква была моцным інструментам дзяржаўнай палітыкі ў мястэчку і на гэтым адносна маленькім кавалачку імперыі праводзіла і падтрымлівала яе рашуча і паслядоўна.

У традыцыйнае і натуральнае кола ўвагі кожнай царквы, і праваслаўнай, вядома ж, таксама, уваходзіла ачольванне могілак. Праваслаўныя, раней уніяцкія могілкі Крынак, што каля Шыбеніцы, даглядаліся царкоўнікамі і крынчанамі. На пачатак ХХ стагоддзя плошча могільнікавай зямлі ўжо не адпавядала колькасці насельніцтва, і па просьбе Прыходскага папячыцельства могілкі былі пашыраны за кошт памежнай сялянскай зямлі. Просьба далікатная, адмовіцца складана. І сяляне Іван Баліцкі, Васіль Курчук, Адам і Восіп Шамрукевічы, Міхаіл Даброўскі, Антон і Сцяпан Яновічы згадзіліся на продаж часткі сваёй зямлі царкве. Справа, між іншым, была для іх няпростая. Тая зямля яшчэ не была выкуплена, і каб завяршыць здзелку са святарамі, сялянам патрэбна было ў хуткім парадку разлічыцца з дзяржаваю[98]. Так, у 1903 годзе крынкаўская “мураўёўка” павялічыла плошчу праваслаўных могілак на 1539,45 квадратных сажаняў.

Знакамітыя сінагогі Крынак, напэўна, больш за ўсе астатнія пабудовы цярпелі ад пажараў. Іх часта адбудоўвалі, і напрыканцы XIX стагоддзя гэтых будынкаў, па адных звестках, налічвалася пяць[99], па другіх – тры.

Агульным у архітэктурным абліччы гэтых будынкаў было тое, што, як адзначае даследчыца гісторыі гродзенскай габрэйскай абшчыны В. Сабалеўская, для беларускіх іудзейскіх храмаў характэрны ўвасоблены і стылізаваны вобраз жытла, каўчэга. Гэта значыць, што будынкі іх заўсёды мелі цэласны, непадзельны аб’ём[100]. На месцы пабудаванай яшчэ ў 1756 г. драўлянай сінагогі ў XIX ст. была ўзведзена новая, мураваная. У другой палове гэтага ж стагоддзя слонімскія хасіды арганізавалі і пабудавалі сваю Бейт-на-Мідраш. З 1850 г. існуе каўказская сінагога, якая была найбольш запатрабаваная рабочымі гарбарных заводаў мястэчка[101].

---

[98] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 7. Адз. зах. 871. Арк. 5.
[99] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 2. Воп. 32. Адз. зах. 1501. Арк. 53 адв.
[100] Сабалеўская, В. Спрадвечныя іншаземцы: старонкі гісторыі гродзенскіх яўрэяў / В. Сабалеўская. – Гародня, 200. – С. 50-51.
[101] www.izrael.badacz.org/zydzi_w_polsce/obiekty-sinagog_spis.html

Напамін пра гэтыя сінагогі застаўся ў цяперашніх Крынках. З часоў Другой сусветнай вайны праз нялюдствы Халакосту вялікая сінагога па вуліцы Гарбарскай – у руінах. Адбудаваная каўказская на перасячэнні вуліц Пілсудскага і Беластоцкай пераўтворана ў кінатэатр, які цяпер гасцінна прымае розныя прадстаўнічыя імпрэзы, якія арганізоўваюць крынкаўчане. А будынак слонімскіх хасідаў на сённяшняй вуліцы Чыстай  запатрабаваны пад краму.

Калі казаць пра архітэктурнае аблічча Крынак, то нельга не заўважыць такі выключны аб’ект, як кіркут – габрэйскія могілкі. Кіркут – адзін з трох крынкаўскіх некропаляў – фармальна быў закладзены ў 1862 г., хаця пахаванні тут вяліся раней, па розных звестках, з XVII стагоддзя.

Гэты аб’ект мае 2,2 га плошчы, на якой захоўваецца каля трох тысяч надмагілляў. Яны вельмі розных часоў. Найстарэйшае датуецца 1750 г. Але гэта тыя, на якіх увогуле можна штосьці зразумець з напісанага. Значная большасць не мае ніякіх надпісаў[102]. Кіркут у Крынках – адзін са знакамітых помнікаў гісторыі, які з’яўляецца прадметам навуковых даследаванняў[103].

Архітэктурнае аблічча індустрыяльнага мястэчка – асобная старонка гісторыі Крынак, вартая ўвагі. Прамысловая вытворчасць змянялася, і разам з ёю змяняліся Крынкі.

Забудову Крынак у час індустрыяльнага росквіту можна ўмоўна падзяліць на дзве часткі: адна – гэта асобныя знакамітыя кварталы, дзе можна было афіцыйна будаваць гарбарныя і іншыя прадпрыемствы. Другая частка –жылая тэрыторыя мястэчка. Умоўнасць такога падзелу вынікае з таго, што як і сярод жылых двароў былі размешчаны вытворчыя магутнасці, так і сярод заводаў, майстэрань і фабрык прамысловых кварталаў знаходзіліся жылыя пабудовы крынкаўчан.

Перыяд, калі тэхнічны прагрэс падштурхнуў фабрыкантаў да ўсталявання паравых машын і катлоў, а значыць, і будаўніцтва вельмі

[102] Pamiatki i zabytki kultury zydowskiej w Polsce zebral, opracowal i wstepem opatrzyl Przemyslaw Burchard. – Warszawa, 1990. – S. 61-62.
[103] Michniuk, M. Kirkut w Krynkach / M. Michniuk // Tutaj w Krynkach i okolicy. – 2003. – № 6. – C. 9–11.

доўгіх кацельных труб, ператварыў мястэчка ў індустрыяльную пляцоўку, дзе жылыя дамы выглядалі вымушаным дадаткам.

Высокі кошт чыншавай зямлі прымушаў да сціслай пабудовы. Для прадпрымальніка важна было выкарыстаць кожны аршын пляца. Аб выніках такой эканоміі мы згадаем, гаворачы пра пажарную небяспеку і ўмовы працы рабочых-гарбароў. Цяпер жа адзначым, што жыллё не выглядала прывабным і ўтульным. Разам з тым, адметным архітэктурным аб’ектам мястэчка былі габрэйскія жылыя дамы. Іх шырокі фасад у тры акны, што сведчыў пра вялікія габрэйскія сем’і і нярэдка заможны стан, звяртаў на сябе ўвагу. Часам частка дома здавалася ў арэнду пад вінную лаўку або іншую краму. Зрэшты, трэба адзначыць, што грунтоўным становішча гэтай часткі жыхароў Крынак стала толькі ў часы індустрыяльнага і гандлёвага росквіту на мяжы XIX–XX стст. Гэтага ніяк нельга было сказаць пра ўзровень жыцця габрэйскай часткі мястэчка яшчэ гадоў 50–70 да гэтага часу, калі іх побыт кідаўся ў вочы “суцэльным убоствам і нэнзаю”[104].

Гарадское будаўніцтва на рубяжы XIX–пачатку XX стст. вызначалася такімі архітэктурнымі супрацьпажарнымі пабудовамі, як брандмуры – мураваныя сцены, прызначаныя для раздзялення сумежных памяшканняў аднаго будынка або двух сумежных будынкаў з мэтай перашкодзіць распаўсюджанню агню[105].

Рубеж стагоддзяў прынёс эклектыку і неаготыку ў шэраг найноўшых пабудоў мястэчка-горада Крынкі. У гэты час пачалі ўзводзіць у такой эстэтыцы крынкаўскі кінатэатр. З захапленнем крынкаўчане дзівіліся на будаўніцтва неагатычнага касцёла.

Нягледзячы на істотныя архітэктурныя пераўтварэнні, змены гаспадарчых прыярытэтаў і шматлікія пажары, якія знішчалі мястэчка, агульная планіроўка Крынак захавалася на працягу ўсяго расійскага перыяду. Як пакажа час, вытрымае яна і вынішчэнне забудовы ў Другой сусветнай вайне. І цяпер акрэсленыя вуліцамі кварталы мястэчка звыкла абдымаюць даліну ракі Крынкі, захоўваючы архітэктурнае аблічча.

[104] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 2724. Арк. 13 адв.
[105] Суднік, С. Лідскія брандмуры / С. Суднік // Лідскі летапісец. – 2001. – № 2(14). – С. 24–30.

# ГАСПАДАРКА, КАМУНІКАЦЫІ, КУЛЬТУРА

## Сялянства мястэчка

Жыццё Крынак немагчыма разглядаць без сялянскай часткі насельніцтва: без ладу сялянскага жыцця, інтарэсаў сялян і іх праблем, учынкаў, удзелу ў местачковых пераменах. Ад пачатку існавання мястэчка сяляне – адны з асноўных яго жыхароў. У адрозненне ад месца, дзе сялянская гаспадарка і сялянскі лад жыцця з'яўляліся часовымі і паступова зыходзілі з ліку асноўных, мястэчка ўстойліва спалучала два дабрабыты і гэтым заўсёды адрознівалася і ад вёскі, і ад месца. Доля сялян у гэтым спалучэнні ў розныя часы была розная. Некалькі заняпадаў і адраджэнняў Крынак у іх гісторыі сведчаць аб няпростым абліччы дадзенага паселішча. Усе змены – і тыя, што былі звязаны з сялянамі, і якія зыходзілі з боку ўладаў і самога жыцця непасрэдна – станавіліся зменамі ўсяго мястэчка. І гэта дае падставу разглядаць сялянства як мага больш дэталёва і ўважліва, асэнсоўваючы ўсё ў яго гісторыі.

Сяляне ў Крынках часоў расійскага панавання перажылі ў сваім жыцці і гаспадарцы некалькі істотных зменаў. Гэтыя змены без перабольшвання можна назваць лёсавызначальнымі. Звязаны яны з пераўтварэннямі ў сялянскай гаспадарцы як асноўным кампаненце ўсёй дзяржаўнай эканомікі. Адной зменай былі прававыя і сацыяльныя пераўтварэнні ў жыцці мяшчан-хрысціян Крынак, якія, як і значная колькасць такіх жа жыхароў дзяржаўных мястэчак, перайшлі ў сацыяльны стан прыгонных сялян. Атрымалася гэтая дэкласацыя мяшчанства ў выніку згаданай раней перадачы мястэчка ў вотчыннае ўладаранне расійскіх памешчыкаў напрыканцы XVIII стагоддзя. Сялянства змянілася колькасна і якасна. У яго лік уключылася значная частка мяшчан са сваімі традыцыямі і прафесійнымі навыкамі.

Другой зменай будзе спачатку паступовы, а потым амаль рэвалюцыйны пераход ад прыгоннага стану да капіталістычнага. Гэтая змена таксама была працэсам, як вядома, і прававым, і сацыяльным, і палітычным.

Трэцяя змена выклікана хуткімі крокамі развіцця фабрычна-завадской прамысловасці на мяжы XIX–XX стст. У выпадку Крынак гэта была гарбарная галіна прамысловасці. Сялянства не адсоўваецца ад агульнай долі эканамічнага дабрабыту, бо працэсы пашырэння рыначных адносін адначасова актывізуюць гэтую групу крынкаўчан. Узаемадапаўняльнасць яе разам з мяшчанамі, пераважна габрэямі, складала той непаўторны вобраз, які стаў стэрэатыпам не толькі Крынак, але і іншых мястэчак.

Асаблівым бокам жыцця сялян, які варты ўвагі і вывучэння, з'яўляецца іх змаганне за волю, за вяртанне шляхецкіх правоў. Упартая ідэя аб вяртанні крынкаўчанам-хрысціянам шэрагу былых каралеўскіх прывілеяў дэманстравала іх асаблівае становішча сярод іншых жыхароў мястэчка.

Галоўнай у жыцці селяніна-крынкаўчаніна была яго гаспадарка. Мы ў першую чаргу ацэнім яе асаблівасці, месца ў агульнай эканоміцы мястэчка. Першыя звесткі аб сельскай гаспадарцы ў расійскі перыяд гісторыі мы знаходзім у "рэвізскіх казках" 1795 г.[106] Мы ўжо адзначалі наяўнасць рознага роду сялянскіх катэгорый: кутнікаў, халупнікаў. Кожная з іх сведчыла пра стан гаспадаркі селяніна, пераважна малазямельнай і галечнай. Ураджаі крынкаўскіх сялян на мяжы XVIII-XIX стст. былі зусім невялікія – сам 1 – сам 3. Набор жа павіннасцей быў немалы. Ён яшчэ больш павялічыўся з ініцыятывамі А. Тызенгаўза[107]. Уваход у склад прыгонных новых гаспадароў Крынак Дзівова і Сакалова яшчэ больш узмацніў гэты цяжар.

Асобным родам павіннасцей крынкаўчан у Расіі стала рэкрутчына. З Крынак з 1808 па 1812 гг. былі ўзяты ў салдаты 15 чалавек[108].

---

[106] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 66–78.
[107] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 2005. Арк. 73.
[108] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 264. Воп. 1. Адз. зах. 1. Арк. 30 адв., 31 адв., 13 адв.; Адз. зах. 2. Арк. 268 адв., 276 адв.; Адз. зах. 3. Арк. 6, 35, 44-45 адв. Адз. зах. 4. Арк. 351 адв.-352, 353 адв. – 354 (1809: Дамінік Лявонцьевіч Анісімовіч (20), Бенядыкт Васільевіч Мічэйка (24), Базіл Рыгоравіч Кішкель (19), Казімір Мацвеевіч Кузьма (20), 1810: Апалон Станіслававіч Міхневіч (24), Лявонцій Рыгоравіч Касацкі (23), Станіслаў Якаўлевіч Юрылік (23), 1811: Матэвуш Юр'евіч (?) (20); Антон Станіслававіч Коўшык (8), Антон Іванавіч Анісімовіч; 1812 г.; Кузьма Пятровіч Кандратовіч.

Гэта было нормаю для рэкруцкага абавязку. Больш нормы, як ужо адзначалася вышэй, набор быў у 1813 г. з-за ваенных людскіх страт.

Падмурак кожнай сялянскай гаспадаркі – зямля. Дакументы, такія як “Інвентары маёнтку Крынкі” Вірыёнаў і Ліпхартаў, вызначаюць, што ў гэтым мястэчку “ландшафт зямлі ва ўсім маёнтку па большай частцы ўзгоркавы, а месцамі нізінны. Глебы гліністыя, маргелавыя, змешаныя з вялікім жвірам, урадлівыя”. У інвентары І. Вірыёна: “глеба пясчана-камяністая”[109]. Гэты інвентар ацэньваў землі Крынак як “сярэднія сенакосна-лугавыя”[110]. Лясы знаходзіліся ў непасрэдным уладаранні памешчыкаў, але іх плошчы былі невялікія. Таму сяляне карысталіся ядлоўцам, хмызняком, часам торфам, якія былі на іх землях[111].

Аб дакладнай колькасці зямлі, якая была ў распараджэнні сялян, можна даведацца на прыкладзе прыгонных крынкаўчан Дзівапола памешчыц Вольгі Паўлаўны і Марыі Паўлаўны на чэрвень 1845 г. Гэта, між іншым, большая частка прыгонных крынкаўчан. Інфармацыя аб іх узята з інвентарнага апісання “дзеля прадстаўлення для пазыкі грошай у Санкт-Пецярбургскай апякунскай радзе”[112]. Яго пацвярджае дублікат такога ж апісання на студзень 1845 г.[113] Адпаведна гэтым дакументам сялянскія землі складаліся з ворнай зямлі – 1080 дзесяцін, зямлі пад сеннымі пакосамі – 119 дзесяцін, пад пабудовамі і агародам – 59 дзесяцін, нязручнай зямлі было 2 дзесяціны[114]. Гэта агульная колькасць зямлі ў 1260 дзесяцін раскладалася на 510 сялян. Вядома з сёмай рэвізіі (1816 г.), што ў хрысціян сем’і складалі ў сярэднім 4,4 чалавекі. Значыць, на сям’ю прыходзілася прыкладна 11,1 дзесяціны рознай зямлі, з яе ворнай – 9,3 дзесяціны. Гэтыя дадзеныя адпавядаюць разліку М. Улашчыка, які на 1846–1848 гг. адзначаў наступную колькасць зямлі на сялянскі двор у Гродзенскай губерні: у сярэднім 15,9 дзесяціны ўсяго, і ворнай з гэтай колькасці было 9,2 дзесяціны[115]. На кожны такі двор прыходзілася пад сядзібу 1800

[109] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 367. Арк. 37.
[110] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 365. Арк. 2. Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 367. Арк. 38.
[111] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 365. Арк. 79.
[112] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 11. Адз. зах. 1110. Арк. 67.
[113] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 12. Адз. зах. 56. Арк. 12–14.
[114] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 11. Адз. зах. 1110. Арк. 68 адв.
[115] Козловский, П.Г. Згад. твор / П.Г. Козловский. – С. 167.

сажаняў, ворнай – 9 дзесяцін, сенакоснай – 1 дзесяціна 1 сажань[116]. Пасевы на гэтых землях у сялян Дзівапола складалі 379 чвэрцей як азімага (180), так і яравога (199)[117].

Сяляне І. Вірыёна, якія жылі на Новааструўскай вуліцы Крынак, мелі ў карыстанні на 1845 г. (час складання інвентару маёнтка) разам з хутарамі Засценнікі і Жылічы 19 дзесяцін 1093¾ сажаняў сядзібнай, 1011 дзесяцін 718 сажаняў ворнай, 131 дзесяціну 1088 сажаняў сенакоснай і 12 дзесяцін 1765 сажаняў ворных угоддзяў[118]. Гэта складала 1174 дзесяціны 2264 сажані. Асобна сяляне-крынкаўчане мелі з гэтай колькасці 16 дзесяцін сядзібы, 182 дзесяціны 1451 сажань ворных, 12 дзесяцін 1249 сажаняў сенакоснай, 11 дзесяцін 1488 сажаняў ворнай зямлі[119]. У гаспадароў вуліцы Новааструўскай было па 1200 сажаняў сядзібнай і агароднай, 4 дзесяціны 2302 сажані ворнай і 1819 сажаняў сенакоснай зямлі[120].

Але трэба дадаць, што сяляне Вірыёна ў Крынках сумесна карысталіся ворывам, якое належала дочкам П. Дзівова. Тая колькасць зямлі, якую мелі сяляне Новааструўскай вуліцы, была ў сапраўднасці даволі розная. Інвентар яе дакладна і не вызначае, бо гэтаму шкодзіла тое, што надзелы часта перадаваліся ад аднаго селяніна другому і знаходзіліся на так званай цераспалосіцы, мяжуючы з зямлёю сялян Ліпхарта[121].

На плошчы ў 1011 дзесяцін 718 сажаняў сяляне фальваркаў Крынкі і хутароў Жылічы і Засценікі сеялі азімага жыта 117 чвэрцей і пшаніцы 14 чвэрцей, яравых 223 чвэрці; ячмень, авёс, гарох, бульба, грэчка разам  складалі 354 чвэрці[122]. Паляводства ў Крынках сялянамі абодвух памешчыкаў вялося па сістэме трохполля. У адпаведнасці з якасцямі глебы на насенне сяляне Крынак ужывалі на кожныя 6 чвэрцяў 319 чвэрцей жыта і 450 чвэрцей яравога хлеба і бульбы[123]. Тая акалічнасць, што ў зямлю з угнаеннем клалі больш насення, а ў

[116] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 367. Арк. 36 адв.-37.
[117] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 11. Адз. зах. 1110. Арк. 69.
[118] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 365. Арк. 2.
[119] Тамсама.  – Арк. 2 адв.
[120] Тамсама. –  Арк. 79адв.
[121] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 365. Арк. 11.
[122] Тамсама. – Арк. 4 адв.
[123] Тамсама. – Арк. 5 адв.

бедную – менш, не дазваляе вызначыць колькасць пасеву на 1 дзесяціну зямлі.

Плён сялянскай працы – гэта ўраджай, які ў сярэднім у межах гэтага маёнтка на 1845 г. складаў азімага хлеба сам 5, яравога – сам 6, бульбы – сам 8, сена з дзесяціны – 90 пудоў. Інвентар маёнтка І. Вірыёна змяшчае зводную табліцу ўраджаяў як панскай эканоміі, так і сялянскай гаспадаркі амаль за дзесяцігоддзе (гл. табліцу 1)[124].

Табліца 1

| Ураджай хлеба, бульбы і сена | Штогадовы ураджай (пуды) | | | | Сярэдні ўраджай 10-гадовы | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | азімага | яравога | бульбы | сена | азімага | яравога | бульбы | сена |
| 1834 | 5 | 8 | 8 | 90 | | | | |
| 1835 | 6 | 7 | 7 | 100 | | | | |
| 1836 | 5 | 8 | 8 | 80 | | | | |
| 1837 | 6 | 7 | 8 | 90 | | | | |
| 1838 | 4 | 5 | 8 | 90 | 5 | 6 | 8 | 90 |
| 1839 | 4 | 5 | 8 | 100 | | | | |
| 1840 | 5 | 6 | 8 | 100 | | | | |
| 1841 | 4 | 6 | 8 | 80 | | | | |
| 1842 | 5 | 6 | 8 | 80 | | | | |
| 1843 | 6 | 7 | 9 | 90 | | | | |

Аднак неўраджайныя гады, у прыватнасці 1844, а таксама эпідэміі (падзеж жывёлы ў 1844 і 1845 гг.) былі моцнымі ўдарамі па сялянскаму дабрабыту, ад якіх ачомваліся яны не адзін год[125].

Стасункі гаспадароў-сялян у Крынках, як і ў кожным беларускім маёнтку, усталёўваліся, з аднаго боку, з панскай эканоміяй, у дачыненні да якой гаспадар разам з сям'ёй нёс вялікі пералік абавязкаў і павіннасцей. З другога боку, гэта быў стасунак з мясцовымі габрэямі (найвялікшаю часткаю крынкаўчан на той час) – гандлярамі, майстрамі, якія істотна фарміравалі эканамічнае жыццё мястэчка.

Прыгонны стан сялян Крынак пры розных гаспадарах да скасавання прыгону цалкам вызначаў парадак іх жыцця. “Працэс змяншэння формы рэнты – гэта важны фактар эвалюцыі надзелу ва ўсёй Беларусі ў другой палове XVIII – 1-й палове XIX стст.”, –

[124] Тамсама. – Арк. 5.
[125] Тамсама. – Арк. 16.

адзначаў П.Г. Казлоўскі[126]. Інвентары паказваюць, як, развіваючы таварную вытворчасць хлеба, землеўладальнікі Крынак спрабавалі выкарыстоўваць працу прыгонных сялян, пераводзілі на паншчыну чыншавікоў і павялічвалі памеры павіннасцей.

Інвентары маёнткаў падрабязна распісвалі ўсе варыянты і формы працы сялян на памешчыка. Даволі вялікая колькасць скаргаў і судовых матэрыялаў дадае новыя штрыхі да агульнай карціны жыцця крынкаўчаніна-селяніна ў апошнія дзесяцігоддзі прыгоннага існавання. Кожны працаўнік або працаўніца павінны былі ў дзень выканаць *адну з наступных прац*. Працоўным лічыўся ўзрост для мужчын з 14 да 60 гадоў, жанчын – з 14 да 55. Між тым, гэтая істотная ўмова працы была адною з прычын скаргаў сялян, і недарэмна. Пры разглядзе чарговай скаргі гродзенскім губернатарам высветліўся той факт, што ўзрост працаздольнасці складае з 16 да 55 гадоў, які быў павялічаны Вірыёнам на пазначаны вышэй. Але інвентары пазначалі яго працягласць і ў бок юнацкага, і ў бок сталага ўзростаў[127].

Такім чынам, вось як выглядалі варыянты і формы выканання паншчыны. З выкарыстаннем жывёлы гаспадар павінен быў заараць сахою 1/3 часткі дзесяціны ці забаранаваць адным канём і парай валоў 2/3 дзесяціны; калі з дзвюма збруямі, то – 1 1/3 дзесяціны. Можна было заараць свабодную з-пад хмызняку зямлю першы раз 1½ дзесяціны, другі раз – 1/6 дзесяціны, трэці раз – 1/3 частку дзесяціны. Таксама можна было правесці разоры на 4 дзесяцінах альбо вывезці на палеткі 18 вазоў гною на пазначаную адлегласць.

Існаваў пералік працы без выкарыстання хатняй жывёлы. Напрыклад, зняць азімага хлеба на зямлі лепшага ўраджаю з 1/6 часткі дзесяціны, сярэдняга ўраджаю – 1/5 часткі, горшага – ¼ часткі; ці зняць яравога хлеба лепшага ўраджаю з 1/5 часткі дзесяціны, сярэдняга – 1/6 часткі, горшага – 1/3 часткі. Яшчэ былі працы выкасіць сенакосных лугоў з 1/3 часткі дзесяціны, хлеба – з 2/3 дзесяціны, расцярушыць назему на 1/3 частцы дзесяціны, пасеяць хлеб на 3 дзесяцінах, пасадзіць бульбу на 1/3 дзесяціны, высечы трохпаленных дроў на 1/3 часткі сажані, абмалаціць хлеба з 1 красавіка па 1 верасня – азімага 40 снапоў, яравога – 80 снапоў.

---

[126] Козловский, П.Г. Згад. твор / П.Г. Козловский. – С. 177.
[127] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 196. Воп. 29. Адз. зах. 21. Арк. 3-4 адв., 11 адв.

Увосень і ўзімку штодзень азімага – 30 снапоў, яравога – 60 снапоў. Заўважым, што пазначалася і таўшчыня снапа ў месцы пярэвясла. Яна павінна была складаць не менш за 1¼ аршына.

Адным з традыцыйных абавязкаў было прадзенне. Выпрасці чыстага льну трэба было на дзень 1¼ фута ці 1 тальку даўжынёю 1 аршын таўшчынёю 40 пасаў, пачэсанага для тоўстага палатна – 1 фунт, кастрычнага на мяшкі – 3 фунта[128].

Але гэта далёка не поўны пералік абавязкаў селяніна. Былі і іншыя. Возьмем так званы прагонны абавязак. Яго сяляне Крынак служылі з ¼ увалокі ў тыдзень 2 дні з вупражам. Ці, напрыклад, абавязак згоны, які выконваўся штогод 1 дзень з двара з вупражам і таксама пехатой з душы 5 дзён. Шарваркі выконваліся з двара 20 дзён вупражных і аброкам грашыма з ½ увалокі 1 руб. 1/2 кап. Трэба дадаць даніну ¾ фунтамі льну, курыцай і 6 яйкамі. Агароднікі плацілі толькі чынш 3 руб. срэбрам у год з двара. Рамонт дарог, мастоў, платоў і сялянскіх будынкаў быў асобным абавязкам сялян. З-за недахопу дрэва ў панскай эканоміі было прапанавана сялянам будаваць свае дамы з так званага “верысу” з глінай. Вядома, што гэта рабілася ў вольныя ад павіннасцей дні.

Асаблівым абавязкам сялян была “падарожчына” – павозная павіннасць. З уласнымі фурманкамі сяляне крынкаўскіх памешчыкаў у якасці паншчыны перавозілі ў выпадку неабходнасці грузы панскай эканоміі. Пры перавозцы тавараў маёнтка на кірмаш ці да сплаўных рэк вага грузу разлічвалася да 20 пудоў на 28 вёрст, улегцы – 42 вярсты (дарога да Гродна або Беластока) – як адзін працадзень. Аднак жа, калі даводзілася перавозіць ваенныя каманды, то такая праца як паншчына не залічвалася.

Павіннасць вартаўніцтва выконвалася наступным чынам. Узімку (гэта значыць з 1 кастрычніка па 1 мая) сяляне павінны былі накіроўваць у двор памешчыка штотыднёва на чарзе па 5 мужчын і 1 жанчыне, якія аказвалі розныя паслугі. І яшчэ адзін чалавек – для living рознага кшталту пасылак. З 1 мая па 1 кастрычніка вартаваць адпраўляліся толькі трое мужчын і жанчына, і яшчэ адзін з вупражам. Такі абавязак падлічваўся ў розныя часы па-рознаму: спачатку толькі за два дні паншчыны, пазней – за тыдзень.

[128] Тамсама. – Арк. 6-6 адв.

У восеньскія і зімовыя дні і вечары сялян чакала і такая праца, як выдзелка воўны (пражы), палатна і простага сукна. Памешчыцкая эканомія Крынак раздавала матэрыял. Гэта работа таксама лічылася прыгонным абавязкам.

Начны каравул неслі таксама сяляне. Штодзень па чарзе 3 чалавекі прыходзілі на двор памешчыка. Былі яны там ад прыцемку да світання. Спаць ім не выпадала, бо каравульная служба ўключала ў сябе абавязкі насячы дроў, забяспечыць вадою двор. Адначасова з кожнай вёскі і самога мястэчка адзін селянін павінен быў сачыць за парадкам на вуліцах, другі быў пры конях на начлезе.

Усе пералічаныя работы планаваліся эканоміяй двара. Абавязкам кожнага гаспадара-селяніна было выканаць усе працы ў тэрмін і якасна. Працоўны дзень вызначаўся не па гадзінах, а па сонцы. Аднак складальнікі інвентара агаворваюць, што цяпер (гэта значыць у 40-х гг. XIX ст.) працоўны дзень вызначаецца гадзінамі – ад 5 гадзін раніцы да 8 вечара. Гэтак ад красавіка да кастрычніка, а ў астатні час – ад світання да прыцемкаў. Парадак працы на панскім полі дазваляў скончыць працу і раней вызначанага працоўнага дня, калі гэта, канешне, атрымлівалася. Але ж калі адпаведны “ўрок” не быў выкананы ў працоўны дзень, то на заўтра трэба было яго адпрацаваць. Неабходна памятаць, што сяляне яшчэ працавалі на сваёй гаспадарцы і што ім забаранялася аддаваць і зямлю, і жывёлу ў наём.

І яшчэ “дробязь”. Калі выпадала, што на тыдзень прыходзілася тры святочныя дні запар, то яны выдзяляліся для працы на сялянскай гаспадарцы. Хочаш – працуй, не хочаш – гуляй. На працу да пана селянін павінен быў, не звяртаючы ўвагі на святы, выйсці тры дні, не прапускаючы “ўрокаў”[129]. З цягам часу, калі сяляне будуць працаваць на зямлі памешчыкаў як вольнанаёмныя рабочыя, характар іх працы не зменіцца. Працягласць працоўнага дня не стане карацейшай. У сяўбу або жніво ў заможных сялянскіх ці памешчыцкіх гаспадарках на ўборцы траў і хлеба працавалі па 16-17 гадзін у суткі, ад зоркі да зоркі. Зімовы дзень карацейшы, але і тады батракі працавалі па 12-13 гадзін. У час уборкі ўраджаю нярэдка праца ішла ноччу, пры

[129] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 29. Адз. зах. 21. Арк. 12-12 адв.

вогнішчах, паходнях ці пры святле месяца. Таксама ноччу малацілі хлеб. На адпачынак заставалася практычна 2-3 гадзіны[130].

Праца не была адзіным абавязкам прыгонных сялян Крынак. Да яе дадаваліся і рознага кшталту падаткі, якія крынкаўчане плацілі па выніках працы на сваёй гаспадарцы. Такімі выплатамі былі вінакурная пошліна і рознага роду земскія павіннасці. З ліку агароднікаў майстравыя, якія жылі ў Крынках, звыш чыншу, які плацілі па абавязку за агароды, павінны былі плаціць эканоміі з заробку 10 % ці выконваць згоны штогод 24 дні на душу. Такі абавязак разглядаўся коштам так званага ачольвання з боку памешчыкаў[131].

Дзеля выратавання з галечы ў галодныя гады, якія здараліся нярэдка, сяляне частку ўраджаю ссыпалі ў так званыя запасныя магазіны. З магазінных засекаў яны ж і бралі частку збожжа на насенне яравога хлеба. Увесь гэты парадак работ клаўся на плечы сялянскіх гаспадарак, якія, натуральна, розніліся па свайму дабрабыту, маёмасных і дэмаграфічных магчымасцях. Інвентары Вірыёнаў і Ліпхартаў не вызначаюць асабістую маёмасць сялян мястэчка Крынкі, а аб’ядноўваюць яе з маёмасцю сялян усяго маёнтка. Калі на 112 сямействаў (108 цяглых і 4 агароднікаў) маёнтка Вірыёна прыходзілася 112 дамоў, альбо камор, то клуняў і гумен – ужо 108, амбараў – 40, жывёльных двароў – 30, хлявоў – 85, коней – 56 (удвая менш!), валоў – 136, кароў – 93, дробнай жывёлы – 78, свіней – 523, авечак – 215[132]. Жывёлагадоўля не была значнай часткаю гаспадаркі крынкаўчан, а вялася толькі дзеля таго, каб забяспечыць уласную патрэбу ў цяглавай сіле і харчаванні[133]. Ужо ў больш позні, парэформенны час – 1869 г., міравы пасрэднік II стану, да якога належалі Крынкі, адзначаў суцэльны земляробчы характар тутэйшай сельскай гаспадаркі, адсутнасць сялянскай прамысловасці, а таксама той факт, што пчалярства знаходзіцца на вельмі нізкім узроўні без прамысловага кірунку: “На ўвесь участак ці набярэцца 40 гаспадароў, якія разам трымаюць 30 вулляў”. Таксама адзначалася ў паперах

[130] Панютич, В.П. Наёмный труд в сельском хозяйстве Беларуси (1861–1914) / В.П. Панютич. – Минск: Навука і тэхніка, 1996. – С. 61.
[131] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 365. Арк. 8 адв.
[132] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 196. Воп. 29. Адз. зах. 21. Арк. 5 адв.
[133] Тамсама. – Арк. 87 адв.

мясцовага чыноўніка адсутнасць рыбнага промыслу, сплаўнога і возніцкага заняткаў[134].

Каб атрымаць грошы, сяляне прадавалі тавар як у самім мястэчку, так і далей – у Супраслі, Саколцы, а часам і ў Гродне ці Беластоку. Гандаль быў вядучай функцыяй мястэчак і ў значнай ступені фарміраваў іх аблічча як спецыфічных пасяленняў, блізкіх да горада[135]. Як месца значнага сялянскага гандлю, Крынкі пазначаны Х. Бейлькіным сярод асноўных ярмарачных і рыначных месцаў[136]. Статыстычныя звесткі гродзенскага губернатарства згадваюць у 1885 годзе 52 базарныя дні і 4 ярмарачныя. Для параўнання: ва ўсім Гродзенскім павеце яшчэ тры ярмаркі праводзіліся ў Вялікай Бераставіцы і пяць – у Воўпе[137]. Таму ўсё насельніцтва, і сяляне ў тым ліку, мела дачыненне да гэтага занятку. Вялікую долю наменклатуры тавараў, якія можна было набыць у мястэчку, складалі вынікі сялянскай працы. Перш за ўсё гэта былі прадукты харчавання, сыравіна для гарбарнай і тэкстыльнай прамысловасці: воўна, скура, лён, лес[138].

Развіццё тэкстыльнай вытворчасці і асабліва гарбарства ў сярэдзіне XIX ст. было заснавана на мясцовай сыравіне. Але гандаль выходзіў за межы мястэчка, ахопліваючы ўсю губерню. Большая ж частка тавараў прадавалася на месцы. Ярмаркі ў Крынках – гэта Вазнясенская (28 мая), Духаўская (7 чэрвеня), Ражэственская (8 верасня). Ведамасць за 1849 г. адзначала: “Гэтыя ярмаркі працавалі толькі па аднаму дню. Сялянамі на продаж прывозіліся рознага кшталту тавары: хлеб, агародніна і садавіна, гаспадарчыя прылады працы, розны посуд.., а таксама коні, працоўная жывёла, птушкі. І ўсё гэта прыбыўшыя сяляне і дробнапамесная шляхта распрадаюць, а непрададзеныя тавары пасля базару адвозяць дадому. Жывёлу найбольш набываюць габрэі на забой, а мяса дастаўляюць у Гродна і

[134] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 13. Адз. зах. 698. Арк. 259-259 адв.
[135] Соркіна, І. Роля мястэчак у сацыяльна-эканамічным і культурным развіцці Беларусі ў канцы XVIII–першай палове XIX ст.: аўтарэф. дыс. … канд. гіст. навук / І. Соркіна. – Мінск: НАН Беларусі, Ін-т гісторыі, 1998. – С. 4.
[136] Бейлькин, Х.Ю. Сельскохозяйственный рынок Беларуси. 1861–1914 / Х.Ю. Бейлькин. – Минск, 1989. – С. 154.
[137] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 2. Воп. 32. Адз. зах. 1501. Арк. 62 адв.
[138] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 21. Адз. зах. 30. Арк. 134; Ф. 1. Воп. 23. Адз. зах. 165. Арк. 80, 81.

развозяць па мястэчках”[139]. Пра гандаль на крынкаўскіх ярмарках сведчыць статыстыка. Паводле яе звестак памеры продажу былі заўважныя, аднак не надта вялікія[140].

Аналізуючы характар і памеры падаткаў, якія павінны былі плаціць прыгонныя сяляне Крынак, спалучаючы гэтыя дадзеныя з коштамі на тагачасных рынках, можна ацаніць ступень тых намаганняў, якія вымушаны былі праяўляць самі сяляне. 32 гаспадары Вірыёна ў Крынках павінны былі, згодна з інвентаром, у год заплаціць звыш такіх павіннасцей, як гвалты, згоны, шарваркі і іншыя 73 руб. срэбрам. Памер гэтай сумы ў 1849 г., калі складаўся інвентар, патрабаваў ад селяніна прадаць альбо 9 пудоў сена (25 кап. срэбрам за пуд), альбо 73 фунты ялавічыны, ці 55 фунтаў свініны, альбо мукі жытняй, якую трэба было змалоць, 2,4 чвэрці (90 кап. срэбра за чвэрць), ці больш паловы чвэрці жыта-збожжа[141].

Сельская абшчына культывавалася гаспадарамі маёнткаў і Вірыёна, і Ліпхарта, бо для эканоміі ўдзел у выкананні павіннасцей быў найбольш важнай справай. Таму ў выпадках, калі тая ці іншая сялянская гаспадарка не мела магчымасці выконваць працу з-за адсутнасці жывёлы, за яе адпрацоўвалі талакою, а тая гаспадарка далучалася да іншых работ на карысць памагатых. У гэтым бачыўся залог роўнасці развіцця гаспадарак сялян.

Маёмаснай роўнасці, вядома, ніколі не было і за прыгонам. Хоць такога рашучага расслаення сялянскага грамадства Крынкі яшчэ не ведалі, але тое будзе наперадзе, пасля 1861 года. Але ўжо адно толькі параўнанне ўласнай хатняй жывёлы гаспадарак шмат пра што гаворыць. З 28 крынкаўчан-гаспадароў І. Вірыёна, пазначаных у інвентары, коней мелі 10 чалавек (35,7 %). Гэта Іосіф Пратасевіч, Іосіф Насевіч, Марцін Будроўскі, Варфаламей Кукіш, Фёдар Руднік, Аляксандр Руднік, Мацвей Грыгаровіч, Андрэй Грыгаровіч, Міхаіл Скроўба, Матвэуш Захаркевіч. У 22 (78 %) гаспадароў былі валы і коні. Прычым у сямі (25 %) гаспадароў (І. Пратасевіч, М. Будроўскі,

[139] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 27. Адз. зах. 766. Арк. 365.
[140] Напрыклад, на Вазнясенскай ярмарцы ў 1857 г. мелася прывезеных тавараў на 580 рублёў, а прададзеных – на суму 355 рублёў, а на Ражэственскай – на 659 рублёў і 507 рублёў адпаведна. Для параўнання: у м. Камянец на Юр’еўскай ярмарцы 23 красавіка сума прывозу складала 2120 рублёў, а продажу – 1803 рублі (НГАБ у Гродне. – Ф. 1. Воп. 28. Адз. зах. 927. Арк. 227).
[141] Губернские ведомости. – 1949. – 4 января (четверг). – № 2.

В. Кукіш, А. Грыгаровіч, М. Скроўба, М. Захаркевіч) налічвалася ў гаспадарцы 3-4 буйныя хатнія жывёліны. І адначасова ў 9 (32 %) “бясконных” гаспадарках хоць і былі валы, але не было каровы. 6 гаспадароў не мелі ні каня, ні вала (Марцін Кандратовіч, Марцін Калінскі, Міхаіл Кандратовіч, Максім Трулік, Міхаіл Скроўба, Якаў Цырук)[142]. Аднак каб параўнанне было больш карэктным, нельга не звярнуць увагі на колькасны склад гэтых сем’яў. “З коньмі 10 гаспадароў мелі ад 5 да 9 членаў сям’і (большасць – 6-7). Тыя, хто не меў “ні каня, ні вала” на гаспадарцы, мелі таксама ад 4 да 9 чалавек у хатах. У большасці – па сем”[143]. Гэта, безумоўна, прыводзіла да няроўнасці. Большасць сялян мела коней альбо валоў (22 чалавекі, ці 78 %), 15 чалавек (53 %) мелі альбо вала, альбо карову, 6 гаспадароў (21 %) мелі і каня, і вала, і карову. Як адзначае вядомы беларускі даследчык аграрнай гісторыі XIX стагоддзя В.П. Панюціч, пазбавіўшыся каня, селянін пазбаўляўся і зямлі, якую ён не мог апрацоўваць і ўжо не мог стаць на ногі. “Аднаконныя” сялянскія двары таксама адносіліся да сельскага пралетарыяту. Яны часта вымушаны былі звяртацца да рознага кшталту дадатковых заробкаў[144].

Зробленымі сродкамі сяляне распараджаліся абачліва. Праўда, спакусаў патраціць грошы і ў Крынках было нямала. Галоўнымі “спакушальнікамі” былі карчмы і шынкі.

Адмена прыгоннага права стала паказчыкам новага этапа ў сацыяльна-эканамічным жыцці мястэчка. Сялян гэта тычылася перш за ўсё. Але пачатак гэтых зменаў быў павольны. Парэформенныя пераўтварэнні закранулі ўсе без выключэння бакі жыцця крынкаўчан. Асноўныя перамены былі звязаны, несумненна, з зямлёю. Працэс набыцця зямлі сялянамі ва ўласнасць, розныя тэмпы развіцця іх гаспадаркі і, адпаведна, маёмасны падзел, новыя стасункі сялян як самастойных гаспадароў з крынкаўскімі гарбарамі і гандлярамі, захаванне абшчынных форм самакіравання сельскага крынкаўскага таварыства; з’ява перасялення крынкаўчан на больш перспектыўныя землі, праца на памешчыка ў якасці вольнанаёмных, набыццё зямлі праз зямельны банк – усе гэтыя бакі жыцця і ёсць тое новае, што нёс парэформенны

142 НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 365. Арк. 9 адв.-10, 10 адв.-11.
143 Тамсама. – Арк. 9 адв.–11.
144 Панютич, В.П. Из истории формирования пролетариата Белоруссии 1861–1914 гг. / В.А. Панютич. – Минск: Наука и техника, 1969. – С. 23.

час. На жаль, у гэты перыяд не праводзіліся такія рэвізіі, як, напрыклад, апошняя дзесятая “народная” 1558 г. Таму сямейную пераемнасць вызначыць сярод крынкаўчан больш складана. Звесткі аб радаводных пераменах можна знайсці толькі ў нешматлікіх крыніцах – спісах або зводных дакументах, падрыхтаваных на пачатак XX ст. з нагоды пераўтварэння мястэчка Крынкі ў горад гарбарнай прамысловасці. Усё разам дазваляе толькі вельмі агульна высветліць сваяцкія сувязі крынкаўчан, а значыць, лепш зразумець перамены ў іх жыцці.

Падзеі зямельнай рэформы 1861 г., як вядома, паклалі пачатак актыўнаму капіталізму ў вёсцы[145]. Тагачасныя гаспадары мястэчка – Іван Вірыён, а з 1877 г. ягоны сын, маршалак гродзенскі (1878–1883 гг.) Уладзімір Іванавіч Вірыён (спадчына Сакалова) і дочкі Дзівова Марыя і Вольга – і сталі выканаўцамі зацверджанага царом “Мясцовага палажэння” зямельнай рэформы.

Стварэнню  Статутных грамат, як вядома, папярэднічаў працэс складання інвентароў у час так званай інвентарнай рэформы 1840–1850-х гг. Афіцыйны дакумент – выкупны акт па маёнтку Крынкі памешчыка Івана Восіпавіча Вірыёна ад 19 жніўня 1864 г. ва ўсіх дробязях дэманструе ўмовы, на якіх сяляне Крынак, што жылі на Новаастроўскай вуліцы і належалі маёнтку, станавіліся паўнавартаснымі гаспадарамі. З’явіўся гэты акт не адразу. Спачатку, у 1862 г., складзеная статутная грамата мусіла была быць прынята сельскім сходам і такім чынам канчаткова зацверджана. Міравы пасрэднік прыбыў з паперамі 19 студзеня ў Крынкі. Але сход грамату не зацвердзіў, не дазволіў нават чытаць, сцвярджаючы, што яны “вольныя людзі, грамата ім не патрэбна і яны будуць несці старую павіннасць”. Міравы пасрэднік не знайшоў слоў для таго, каб кагосьці ўпэўніць, і вырашыў далажыць начальству, што грамата канчаткова ўведзена ва ўжытак. Так ён і зрабіў у хуткім часе[146]. Пра адмову ад выканання на карысць памешчыкаў павіннасцей у шэрагу мясцовасцей Гродзенскага павета, у тым ліку і ў Крынскай воласці, паведамлялася чарговымі данясеннямі гродзенскага губернатара міністру ўнутраных спраў 28 лютага 1863 года. У лісце звярталася ўвага міністра на тое, што з дапамогаю земскіх пасрэднікаў, а пазней

[145] Фрыдман, М.Б. Адмена прыгоннага права ў Беларусі / М.Б. Фрыдман. – Мінск, 1958. – С. 17.
[146] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 17. Адз. зах. 445. Арк. 288-288 адв.

міравых пасрэднікаў, спрабавалі прыпыніць супрацьстаянне сялян, нават у горад выклікалі і дастаўлялі пад паліцэйскім канвоем старшыняў, сельскіх старастаў і сялян-завадатараў. Пабывалі "на дыване" ў губернатарскіх чыноўнікаў і сяляне Крынкаўскай воласці. Іх словы ў адказ на абвінавачванні ў падбухторванні да непадпарадкавання ўладам былі пра адно – пра недахоп зямлі для выканання ўскладзеных на іх павіннасцей[147].

Сяляне Вірыёна м. Крынкі згодна з паверкаю, якую здзяйсняў другі Паверачны камітэт Гродзенскага павета, мелі згодна з Статутнай граматай сядзібнай зямлі 15 дзесяцін 800 сажаняў, ворнай – 252 дзесяціны, сенакоснай – 21 дзесяціну, ворыва (звыш сядзібных "выкасаў" і "выпускаў"*) у агульным валоданні з памешчыкам 17 дзесяцін 200 сажаняў. Разам гэта складала 288 дзесяцін 1800 сажаняў добрай зямлі. Паверка ж высветліла, што сядзібнай зямлі было некалькі больш – 16 дзесяцін 2154 сажані, а ворнай значна менш – 189 дзесяцін. Разам гэта складала 226 дзесяцін 2154 сажані. Акрамя таго, па пастанове гэтага Камітэта чатыры батракі (Разалія Крэйц, Іван Муха, Ягор Васілеўскі, Лаўрэнцій Юзэфчык) атрымалі агароднай і сядзібнай зямлі 1 дзесяціну 1200 сажаняў, яшчэ тры батракі (Адам Макаровіч, Іван Руднік, Ганна Саковіч) – надзелы ў тры дзесяціны. Разам усе землі сялян склалі 237 дзесяцін 954 сажані[148]. З нязручнай зямлёй (64 дзесяціны 798 сажаняў) да выкупу ў Вірыёна было 314 дзесяцін 1780 сажаняў. Сяляне пераводзіліся па Вышэйшаму загаду ад 1 сакавіка 1863 г. на аброк. Разлік быў наступны: з участка – 33 рублі 25 капеек срэбрам. З усіх сялян аброк складаў 698 руб. 25 кап. у год. З 20-працэнтным змяншэннем – 26 руб. 60 кап. Гэтая сума змяншалася на 19 руб. 34 ½ кап. і адпавядала 72 кап. за дзесяціну. За поўны надзел селяніну патрэбна было плаціць гаспадару 7 руб. 25½ кап. у год. За трохдзесяцінны кавалак з селяніна бралі 2 руб. 16 кап., за агарод у 1200 сажаняў – 50 кап., у 800 сажаняў – 33 1/3 кап., за агарод у 354 сажані – 14¾ кап., а ўсяго за выкуп новаастроўскія сяляне Крынак у год павінны былі выплаціць 161 руб. 48¼ кап. срэбрам. Пры капіталізацыі шасціпрацэнтная выкупная сума складала 2691 руб. 29½ кап.[149]

[147] Белоруссия после отмены крепостного права (1861-1862). – М., 1959. – С. 295–297.
[148] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 17. Адз. зах. 445. Арк. 40-40 адв.
[149] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 17. Адз. зах. 445. Арк. 41-41 адв.

Уздагон Выкупному акту было праведзена дасканалае даследаванне змен зямельнай маёмасці сялян. Яно было выклікана як незадавальненнем самога Вірыёна, так і сялян. Першы быў незадаволены малой сумай грошаў, якія павінны былі плаціць сяляне. Сяляне ж не былі згодны з колькасцю зямлі, якую атрымлівалі па выкупному акту. Адразу высветлілася неаднаразовае наўмыснае змяншэнне Вірыёнам сялянскіх надзелаў. Рабілася гэта ім яшчэ ў 40-я гг., потым і ў 50-я. Гэтак у інвентарах маёнтка Крынкі Вірыён кожны раз у пяці запатрабаваных ад яго інвентарных дакументах запісваў розныя, у бок змяншэння, паказчыкі надзелаў сялян (2,138 дзесяцін – 1,902 – 1,702 – 1,484 – 1,077)[150]*. Як адзначана ў матэрыялах Гродзенскай губернскай па сялянскіх справах прысутнасці, прапанаваны ў 1845 годзе Вірыёнам інвентар Крынскага маёнтка доўгі час не зацвярджаўся з-за таго, што памешчык зашмат напісаў у ім павіннасцей для сялян. Тое ж адбылося ў 1847 і 1848 гг. Кожны раз варыянт інвентара вяртаўся на выпраўленне. Нарэшце, у 1849 г. генерал-губернатар зацвердзіў варыянт інвентара Вірыёна *часова*. Памешчык павінен быў пасля ліквідавання цераспалосіцы з Ліпхартамі абавязкова скласці новы інвентар.

Але наступным інвентарным варыянтам 1850 і 1852 гг. было адмоўлена ў яго зацвярджэнні. Прычына адна: неадпавядаючыя рэальнасці паказчыкі зямлі і вялікія павіннасці сялян. Вірыён, у сваю чаргу, не згаджаўся з памерам у 72 капейкі за дзесяціну як адзінку выкупу местачковымі сялянамі зямлі. Сярод аргументаў памешчыка галоўнымі былі наступныя: маўляў, "якасныя землі", а таксама месцазнаходжанне на адлегласці ў 40 км ад Гродна і Беластока і наяўнасць навакольных фабрычных мястэчак – падставы для добрага гандлю сялян[151]. З боку сялян гучалі іншыя доказы: аброк завышаны, бо "землі па большасці няўрадлівыя, камяністыя", "знаходзяцца на вялікай адлегласці ад месца пражывання сялян", "вялікія сем'і сялян у выніку раздзелу агульнага надзелу сялян прывялі б да драбнюсенькіх

[150] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 17. Адз. зах. 445. Арк. 73-74*. Цікава, што такая несумленная дзейнасць не замінала І. Вірыёну быць актыўным прадстаўніком Гродзенскай масонскай ложы "Сябры Чалавецтва на Усходзе Гродна", у статуце якой, у прыватнасці, пазначалася: "Увесь свет ёсць Айчына Вольнага Муляра (д.с. –масона), а ўсё, што тычыцца чалавека, не ёсць для яго чужым" (Швед, В.В. Губернскі Гродна / В.В. Швед. – Баранавічы, 2003. – С. 32-33).
[151] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 17. Адз. зах. 445. Арк. 11-11 адв.

надзелаў менш чым па 1 дзесяціне ворнай зямлі на душу"[152]. У выніку працяглых цяжбаў паміж Вірыёнам, дзяржслужбамі і сялянамі ў рэшце рэшт 7 снежня 1864 г. было прынята канчатковае рашэнне. Згодна з ім памер выкупной плошчы ў адпаведнасці з Выкупным актам зацвярджаўся дзяржаўнымі службамі, ворыва ў памеры 11 дзесяцін 580 сажаняў перадавалася для агульнага з памешчыкам карыстання, сяляне атрымлівалі права рыбнай лоўлі і пераводзіліся на аброк[153].

Можна дадаць, што дзяржаўныя сяляне Мельхіёр Лук'янавіч Чарнецкі, Казімір Калінскі, Сцяпан Іванавіч Калінскі, Павел Якаўлевіч Пажарскі, Станіслаў Станіслававіч Калінскі, якія сталі роўнымі з былымі прыгоннымі, бо ўсе разам лічыліся вольнымі землеўладальнікамі, мелі ад 7,96 да 8,01 дзесяцін добрай зямлі агульнай колькасцю 39,82 дзесяціны[154].

За амаль дзесяцігоддзе палітычнай свабоды (1870 г.) эканамічную незалежнасць з 6404 сялян Крынкаўскай воласці атрымалі 58 гаспадароў. Для астатніх справа выкупу была наперадзе. На агульную колькасць сялян воласці прыходзіцца 23 535 дзесяцін 1385 сажаняў добрай зямлі. На двор жа селяніна такой зямлі прыходзілася 10 дзесяцін 2023½ сажані[155].

Вялікая архіўная справа ў 908 старонак працяглага працэсу перадачы зямлі двара Вірыёнаў сялянам і ўрэгулявання гаспадарчых узаемаадносін паміж новымі гаспадарамі – яскравы доказ складанейшай гістарычнай з'явы эканамічнага жыцця мястэчка. Даведкі, якія Губернская па сялянскіх справах прысутнасць складала да 16 лістапада 1891 г., маюць стэрэатыпны характар зместу: "У м. Крынкі У.І. Вірыёна межаванне сялянскіх зямель закончана, вынік межавання зацверджаны г. прыставам, і цяпер ніякіх спраў і спрэчак не вядзецца"[156].

У ходзе гаспадарання ва ўмовах паступовага развіцця рыначных зносін і, хоць няхуткага, выкупу зямлі сяляне ўсяляк спрабавалі павялічыць сваю гаспадарку і замацаваць наяўнае. Такі факт іх жыцця, як страхаванне маёмасці, стаў характарыстыкай гаспадарання новага часу. Зразумела, што найперш страхаваць сваю маёмасць спра-

[152] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 17. Адз. зах. 445. Арк. 14 адв.
[153] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 17. Адз. зах. 445. Арк. 74 адв.
[154] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 870. Воп. 1. Адз. зах. 1312. Арк. 5 адв.–6.
[155] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 13. Адз. зах. 698. Арк. 144 адв.–145.
[156] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 17. Адз. зах. 445. Арк. 880 адв.

бавалі заможныя гаспадары, бо ім было за што хваляваацца. Архіўныя дакументы захавалі некаторыя прыклады такіх спраў. Яшчэ ў 1898 г. сваю маёмасць застрахаваў тагачасны сельскі стараста Лаўрэнцій Міклашэвіч[157]. У 1911 г. былі застрахаваны будынкі Сцяпана Андрэевіча, Андрэя Аляксеевіча і Ганны Аляксееўны Латышаў, ацэненыя ў 2300 рублёў. У 10-я гг. XX стагоддзя пра свае хатнія будынкі клапаціліся шляхціц з крушынянскіх татараў Амурат Мількаманавіч, валасны стараста Іван Дзядзель, сельскі стараста Восіп Насевіч[158]. Страхаванне было сведчаннем маёмаснага росту крынкаўчан і давала нейкую надзею на кампенсацыю пасля магчымых пажараў.

Але найбольш красамоўнымі прыкладамі росту заможнасці часткі сялян сталі захады па набыццю зямлі такіх гаспадароў, як Павел Францавіч Міклашэвіч, Восіп Іванавіч Яновіч і Іван Высоцкі. Як вядома, у сялянскім землеўладанні з кожным годам парэформеннага часу ўсё большую ролю адыгрывалі арандаваныя і купчыя землі. Набыццё зямлі сялянамі прымала вялікія памеры. Плошчы сялянскай купчай зямлі (1612,2 дзесяціны, што складала 21,1% усёй зямлі сялян) у Беларусі з 1877 па 1905 гг. павялічыліся ў 7,8 раза[159]. Крынкі таксама мелі свае прыклады такіх эканамічных працэсаў.

Дэманстрацыяй маёмаснай адметнасці Паўла Міклашэвіча з'яўляецца ягоны ўдзел у аўкцыёне зямлі маёнтка Гудзевічы. Гэты маёнтак прадавалі за пазыкі. У справу распродажу Гудзевічаў, што было натуральным для нашых зямель, умяшалася расійская палітыка, бо ўлады клапаціліся, каб землі не набывалі толькі землеўладальнікі-католікі, таму што, як адзначалася ў перапісцы са святарамі, "будзе створана чыста каталіцкае наваколле" (набыць Гудзевічы выказала намер група сялян Сакольскага павета)[160]. Саракагадовы П. Міклашэвіч на час набыцця гудзевіцкай зямлі, а гэта адбывалася ў 1886 г., меў чатырох дзяцей – Антона (4 гадоў), Марыю (16 гадоў), Вольгу (12), Рыгора (10 гадоў) і жонку Марыю. Непісьменны Міклашэвіч, аднак, валодаў талентам прадпрымальніка, і падзеі гудзевіцкай справы гэта прадэманстравалі. Зямлі і грошай у яго было даволі: акрамя надзелу ў Крынках, ён валодаў маёнткам Астапкаўшчызна памерам 150 дзесяцін

[157] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 18. Воп. 2. Адз. зах. 641. Арк. 2, 6, 32.
[158] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 18. Воп. 2. Адз. зах. 514. Арк. 3 адв., 6.
[159] Панютич, В.П. Из истории формирования... / В.П. Панютич. – С. 16.
[160] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 18. Адз. зах. 842. Арк. 7-7 адв.

і “дастатковымі сродкамі”. Грошай хапала для таго, каб прыняць удзел у распродажы зямлі графіні Соф’і Лубенскай[161]. Не першы раз П. Міклашэвіч меў стасункі з шляхціцамі. У 1876 г. ён набыў 8 дзесяцін зямлі маёнтка Геніюшы Фадзея Валкавыцкага[162]. Маючы добрую рэпутацыю ў уладаў, праваслаўны (немалаважная акалічнасць, калі ведаць дэкрэтныя абмежаванні для землеўладальнікаў-католікаў*) Міклашэвіч 30 красавіка 1886 г. атрымаў дзяржаўную згоду на набыццё зямлі фальварка. Каб “нейтралізаваць” іншых патэнцыяльных пакупнікоў, ён дамовіўся з такім жа заможным, як і сам, селянінам Восіпам Іванавічам Яновічам аб дапамозе. Для гэтай справы патрэбны быў “свой” чалавек, да якога можна было мець давер. Менавіта Яновіч і быў такім чалавекам для Міклашэвіча, бо жыццё іх ужо аднойчы зводзіла разам. Гэта было ў 1878 г., калі гэтыя сяляне-прадпрымальнікі набылі Астапкаўшчызну. Потым Міклашэвіч адкупіў частку ў Яновіча.

Цяпер дамова сялян была наступная. Яновіч павінен быў пачаць удзел у таргах і не даць сваімі запытамі “перабіць” канкурэнтам цану Міклашэвіча, падняць яе на непатрэбную для Паўла Францавіча вышыню. Міклашэвіч загадзя дамовіўся з графіняй Лубенскай аб кошце зямлі і, вядома, трымаўся яго. Яновіч жа набываць Гудзевічы не меў намеру, а Міклашэвіч, упэўнены ў станоўчым выніку, ужо спланаваў гэтыя землі перапісаць на сваю старэйшую дачку[163].

Такім чынам, у 1886 г. Міклашэвіч узяў на сябе пазыку Гудзевічаў (17 тысяч рублёў) і арандаваў землі на 20 гадоў. У поўнае яго валоданне зямля Гудзевічаў перайшла 29 снежня 1892 г., а гэта было 470 дзесяцін[164]. Набытыя землі яшчэ больш умацавалі гаспадарку Міклашэвіча, якая будзе павялічвацца і далей, асабліва падчас распродажу зямель Дзівапола.

Другім гаспадаром, пра якога мы таксама ўзгадвалі, быў В.І. Яновіч, 45-гадовы селянін, які меў ва ўласнасці на час гудзевіцкай справы Хмеляўшчызну (185 дзесяцін), дзе працаваў сам са сваёю

---

[161] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 18. Адз. зах. 842. Арк. 1, 2.
[162] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 15. Адз. зах. 918. Арк. 4.
* Католікі-сяляне мелі права набываць зямлю да 60 дзесяцін (загад ад 23 лютага 1885 г. Віленскага генерал- губернатара (НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 18. Адз. зах. 842. Арк. 21)).
[163] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 18. Адз. зах. 842. Арк. 12-12 адв.
[164] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 3. Адз. зах. 3223. Арк. 1.

сям'ёй, і Зубрыцы (360 дзесяцін, якія потым выгадна прадаў сялянам за 15 000 рублёў). Спачатку жыццё зусім не абяцала Яновічу хоць нейкай заможнасці. Бацька яго, Іван Яновіч, які памёр у 1869 г. ва ўзросце 66 гадоў, пакінуў яму і ягоным братам, 25-гадоваму Антону і 16-гадоваму Міхаілу, надзел нявыкупленай зямлі[165]. З гэтага і пачынаў гаспадарчы шлях 28-гадовы Восіп Яновіч. Ён так развіваў гаспадарку, што Міхаіл стаў яго наёмным работнікам (Антон хутка трапіў у войска). За кароткі час гаспадарання Восіп сабраў каля 11 тысяч рублёў, якія і сталі для яго выдатнай магчымасцю набыць разам з П. Міклашэвічам тую самую Астапкаўшчызну[166]. Потым Міхаіл скардзіўся на брата нават уладам, але марна. З трох братоў менавіта Восіп стаў селянінам-прадпрымальнікам.

Можна ўявіць, колькі думак-перасудаў нараджалі адносіны паміж братамі сярод крынкаўчан. Капіталізм уступаў у свае правы. Чалавечыя якасці не заўсёды суседнічалі з планамі на будучыню часткі гаспадароў. Як і ў выпадку з маёмасцю Сцяпана і Восіпа Калінскіх, непаўнагадовых малодшых братоў Марціна Якаўлевіча Калінскага. Той выкупіў усю зямлю, а потым прадаў яе іншым гаспадарам (Аляксандру і Віктару Скроўбам і Станіславу Жыткевічу), пакінуўшы братоў увогуле без маёмасці[167].

Яшчэ адным яскравым прыкладам рэчаіснасці Крынак было іх сялянскае самакіраванне. З 1861 г. у Крынках існавала валаснoе праўленне. На чале яго стаяў валасны старшыня з ліку "свядомых", "аўтарытэтных" сялян. Крынкі належалі да 2-га стану валаснога кіраўніцтва. У яго ўваходзілі Крынкаўская, Індурская, Мала-Бераставіцкая, Вяліка-Бераставіцкая, Галынкаўская воласці.

Крынкаўская воласць, у сваю чаргу, у 1890 г. складалася з самаго мястэчка як цэнтра, вёсак Служкі, Сеннікі, Лапічы, Петрашэвічы, Кудрычы, Астапкаўшчызна, Белагорцы, Курцэвічы, Макараўцы, Русакі, Сямёнаўка, Лядзянка, Адла, Геніюшы, Парэчча, маёнткаў Крынкі, Лішкі, Астапкаўшчызна, Белагорцы, Уснарж Мураваны, Уснарж Макараўскі, Нятупа, Кудрычы, Марцюкаполь, Сямёнаўка, фальваркаў Парэчча, Жылічы, ваколіцаў Працэвічы, Ігнатовічы,

[165] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 15. Адз. зах. 383. Арк. 1 адв.
[166] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 17. Адз. зах. 445. Арк. 839-839 адв.
[167] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 17. Адз. зах. 445. Арк. 906-906 адв.

Кундзічы, Белакозы, Нятупа, урочышча Бергеляйшчызна, сядзібы Кудраўшчызна, крынкаўскіх царкоўных і касцёльных прытч[168]. Каб кіраваць такой “гаспадаркай”, трэба было мець на гэта здольнасці. Там-сям у паперах сустракаюцца прозвішчы як валасных старшыняў, так і сельскіх старастаў Крынак. На 1866 г. згадваецца ў якасці крынкаўскага абшчыннага старасты Антон Яновіч. У 1869 г. на гэтай пасадзе – Іван Міхнюк, у 1874 г. – Антон Піцэвіч, у 1894 г. – Мацвей Яновіч, у 1898 г. – Лаўрэнцій Міклашэвіч, у 1903 г. – Павел Яновіч, у 1910 г. – А. Скроўба. Сярод валасных старшыняў згадаем як адных з першых Франца Міклашэвіча (1864 г.) і Івана Дзядзеля (1902 г.).

Сялянскі свет Крынак быў беларускім. Гэта пацвярджаюць архіўныя крыніцы, напрыклад, шматлікія матэрыялы апытанняў сведкаў рэвалюцыйных падзей, якія адбываліся ў студзені 1905 г. Абсалютная большасць апытаных запісалі сябе беларусамі. Іх сямейныя сувязі прасочваюцца скрозь усю гісторыю часоў расійскага панавання. Аднак сяляне-беларусы Крынак, як, дарэчы, і іншых гарадоў і буйных мястэчак, “запаўнялі сферу найму і гарадскога земляробства, у сферу ж рэальнага кіравання і гандлёва-прамысловай дзейнасці яны амаль не ўваходзілі. Сяляне ў такіх населеных пунктах прыстасоўваліся да новых умоў жыцця, а значыць, і русіфікаваліся. У 1897 г. каля 60 % гарадскіх сялян Беларусі ўжо мала чым адрозніваліся ад гараджанаў. Горад не стаў месцам сустрэчы выхадцаў са шляхты і сялян для фарміравання шматлікай нацыянальнай інтэлігенцыі, бо яго сацыяльныя нішы былі штучна запоўнены цкаванымі габрэямі і адміністрацыйна прысланымі расіянамі” (З. Шыбека).

Сялянскі свет, аднак, быў стрыжнем Крынак. Гэтая якасць з’яўлялася падмуркам эканомікі гэтага мястэчка, што найбольш яскрава праявілася ў сацыяльнай барацьбе.

---

[168] Крынская валасць // Памяць: гіст.-дакумент. хроніка Бераставіцкага раёна. – Мінск: БелТА, 1999. – С. 92.

# Памешчыцкае землеўладанне

Крынкі як мястэчка, як адзін з ключоў Гродзенскай каралеўскай эканоміі ўжо ў другой палове XVIII ст. пры кіраванні Антонія Тызенгаўза істотна змянілі сваё гаспадарчае становішча. Яны апынуліся ў ліку тых гарадоў і мястэчак, з дапамогай якіх вядомы гродзенскі рэфарматар небеспаспяхова паспрабаваў павялічыць прыбыткі за кошт пашырэння фальваркавай гаспадаркі[169]. Ужо вядомы крынкаўчанам вольны мяшчанскі лад жыцця панёс даволі адчувальную страту часткі эканамічнай свабоды. Мяшчанскае насельніцтва было абкладзена, акрамя грашовых падаткаў, асабістымі павіннасцямі – талокамі, шарваркамі, пасылкамі, старажоўкамі, гвалтамі для збору хлеба[170]. Кожны жыхар Крынак у адпаведнасці з інвентарным вопісам, адноўленым у 1796 годзе, абавязаны быў цераз год у зімовы час два разы адвезці хлеб у Гродна на судне; улетку выйсці з сям'ёю чатыры разы на гвалты для ўборкі хлеба; для пасылкі на адлегласць 6 міляў даць фурманку тры разы ў год. Павіннасці маглі змяняцца па жаданню дворнага начальства, але адзінае правіла было непарушным: мяшчане Крынак не маглі быць прымушаны да палявых работ і абмалоту хлеба[171].

Усё прынцыпова змянілася ў 1796 г., калі расійскі самадзержац Павел І пажалаваў у "спрадвечнае і спадчыннае валоданне" землі Крынак некалькім рускім памешчыкам: Паўлу Рыгоравічу Дзівову, быламу сенатару 3-га дэпартамента Савета, і сапраўднаму стацкаму саветніку і сенатару Івану Аляксеевічу Сакалову[172]. Дзівоў спачатку атрымаў землі мяшчан мястэчка Крынкі і вёскі Парэчча агульнай колькасцю 90 увалок 18 моргаў і 215 прутаў[173]. Сакалову адышлі 43 увалокі 1 морг 28 прутаў. У матэрыялах па скарзе сялян на Вірыёна за 1867 год і ў справе аб выкупе права прапінацыі ў Крынках за 1897 год згадваецца прозвішча стацкага саветніка Івана Колесава і яго жонкі

[169] Голубеў, В. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI–XVIII стст. / В. Голубеў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – С. 123.
[170] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 2005. Арк. 73.
[171] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 367. Арк. 68 адв.
[172] Тамсама. – Арк. 73.
[173] НГАБ г. Гродне. – Ф. 30. Воп. 1. Адз. зах. 201. Арк. 39.

Кацярыны, якім таксама ў канцы XVIII стагоддзя перайшло 47 увалок 19 моргаў 86 прутаў крынкаўскай зямлі[174].

Працэс размежавання крынкаўскага ключа паміж яго новымі гаспадарамі прымусіў умяшацца эканамічную экспедыцыю губернскага гродзенскага межавога суда. Яе намаганнямі канчаткова былі вызначаны валоданні кожнага з вышэйзгаданых рускіх памешчыкаў. Таксама была акрэслена колькасць зямлі, якая заставалася ў дзяржаўных сялян. Згодна з гэтымі вынікамі з 365 увалок 18 моргаў 210 прутоў зямлі на 1009 душ крынкаўскіх сялян (гаворка ідзе, вядома, пра мужчынскія рэвізскія душы) Дзівоў канчаткова атрымліваў 144 увалокі 6 моргаў 177 прутаў зямлі, Сакалову даставалася 90 увалок 17 моргаў 2129 прутаў і Колесаву – 35 увалок 4 моргі і 141 прут зямлі. Дзяржаўным сялянам крынскага ключа пакідалі 95 увалок 19 моргаў 269 прутаў[175].

У межах гэтай колькасці зямлі была размеркавана спрэчная частка тэрыторыі, вакол якой, уласна кажучы, і разгарнулася эпапея пераразмеркавання. Справа ў тым, што згодна з дакументам ніжняга земскага гродзенскага суда ад 16 чэрвеня 1799 г. *“считающуюся при целом Кринском ключе земли 51 уволок разделили на части господ Соколова и Дивова по предписанной в этом же уезде пропорции. Остающуюся же отдали смотрителю Максимовичу для раздела на крестьян...”*[176]*

Калі прытрымлівацца класіфікацыі памешчыцкіх маёнткаў, то гаспадары Крынак памешчыкі – ад Дзівова і Сакалова і да пераемнікаў іх – адносіліся да сярэднепамесных уладальнікаў[177]. Даследчыкі аграрнай гісторыі (М. Улашчык, П. Казлоўскі) прыводзілі сведчанні людзей XIX ст., што найлепшыя вынікі давалі сярэднія маёнткі, у якіх памешчыкі самі вялі гаспадарку[178]. З гаспадаркай Крынкаўскага маёнтка гэта адбывалася амаль на працягу ўсяго стагоддзя. За час першай паловы XIX ст. маёнткі П. Дзівова і І. Сакалова па эканамічных паказчыках змяняліся і колькасна, і якасна. Змянілі яны і гаспадароў.

---

[174] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 17. Адз. зах. 445. Арк. 72 адв.; Ф. 30. Воп. 1. Адз. зах. 201. Арк. 41.

[175] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 30. Воп. 1. Адз. зах. 201. Арк. 41.

[176] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1118. Воп. 1. Адз. зах. 2. Арк. 241 (Дзівоў атрымаў 20 у. 20 м. 134 п., Сакалоў – 12 у. 24 м. 211 п.).

[177] Козловский, П.Г. Згад. твор / П.Г. Козловский. – С. 80.

[178] Тамсама. – С. 125.

Разам з азначанай вышэй плошчай зямлі І. Сакалоў атрымаў 250 падатных душ “вёсак ключа крынкаўскага”. У тым ліку з в. Лапічы – 59 мужчын і 65 жанчын, з в. Сліжкі, адпаведна, – 23 і 25, з в. Саннікі – 26 і 26, з в. Жылічы – 12 і 16, з в. Засценнікі – 14 і 16, з в. Нарэйкі – 19 і 12, з мястэчка Крынкі – 97 мяшчан з іх землямі. Усяго атрымлівалася 250 і 255 чалавек[179]. Дзівоў атрымаў ад дзяржавы 398 душ, Колесаў – 97 душ. Дзяржаўных сялян крынскага ключа заставалася 264 рэвізскія душы.

Уладаранне Івана Сакалова ў Крынках доўжылася да 25 чэрвеня 1834 года. Тады ягоныя землі былі набыты памешчыкам Іванам Карлавічам Вірыёнам, падкаморыем і кавалерам ордэна Св. Уладзіміра, сынам надворнага стацкага саветніка[180]. Непасрэднымі пераемнікамі І. Сакалова пазначаны ў інвентары І. Вірыёна за 1845 г. надворныя саветнікі Міхаіл і Дзмітрый Мікалаевічы Сакаловы, тытулярны саветнік Андрэй Аляксеевіч Сакалоў, адстаўны гвардыі штабс-капітан і кавалер Аляксандр Мікалаевіч і калежскі асэсар Аляксей Мікалаевіч Усавы. Ад іх Вірыён разам з жонкаю Мар’янаю (народжанаю Бруна) “па купчай крэпасці” пераняў “маёнтак Крынкі з хутарамі, часткаю мястэчка Крынкі з вёскамі Лішкі, Жылічы, Саннікі, Нарэйкі і іншымі” агульнай колькасцю 279 душ мужскога полу, “за выключэннем дзеўкі Ганны Лапінскай”[181]. За гэтую маёмасць Сакаловы і Усавы ўзялі з Вірыёна 36 000 рублёў срэбрам з улікам той акалічнасці, што ўся нерухомасць маёнтка з душамі знаходзілася на час падпісання купчай у закладзе Імператарскаму выхаваўчаму дому ў Санкт-Пецярбургу, а калі больш дакладна, яго апякунчай радзе за пазыку ў памеры 4185 рублёў плюс 13 950 рублёў асігнацыямі. Набываючы Крынкі, Вірыёны атрымлівалі і ўвесь гэты доўг[182].

Колесавы ў гісторыі гаспадарання над крынкаўскімі землямі ў XIX стагоддзі не згадваюцца, і, мяркуючы па памерах зямлі Вірыёнаў, колесаўская частка крынкаўскіх земляў трапіла ва ўласнасць Сакалова яшчэ да гэтай здзелкі 1834 года.

Маёнтак Дзівапол пасля смерці яго гаспадара П. Дзівова адышоў ягоным дочкам Марыі Паўлаўне, якая была замужам за палкоўнікам у адстаўцы Аляксандрам фон Ліпхартам, і Вользе

---

[179] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 30. Воп. 1. Адз. зах. 201. Арк. 35.
[180] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 92. Воп. 1. Адз. зах. 258. Арк. 271; Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 365. Арк. 110.
[181] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 30. Воп. 1. Адз. зах. 201. Арк. 12.
[182] Тамсама. – Арк. 12-13.

Паўлаўне, у замужжы баранесе Местмахер[183]. Якраз на час іх гаспадарання выпадаюць усе самыя складаныя працэсы апошняй фазы крызісу феадальнай прыгонніцкай гаспадаркі. Дзякуючы захаванню інвентароў маёнткаў Вірыёнаў і Ліпхартаў мы можам скласці ўяўленне аб памерах, характары, асаблівасцях памешчыцкіх гаспадарак Крынак у сярэдзіне XIX стагоддзя.

У 70-я гг. гэтага стагоддзя дочкі Марыі Паўлаўны, якая хварэла на невылечную хваробу, Вольга Дзітырых і Марыя Дзяконская разам з бацькам, іх апекуном, працягвалі валодаць спадчынай Дзівова[184].

На мяжы XIX–XX стст. рост рыначных адносін падштурхнуў крынкаўскіх гаспадароў-памешчыкаў да атрымання прыбыткаў шляхам перадачы земляў у арэнду, але больш да продажу зямель як дзяржаве, так і прыватным асобам, пераважна сялянам Крынак і навакольных вёсак, урочышчаў. Былыя абшары Дзівапола раздрабніліся. З 1 снежня 1879 г. уладаром Дзівапола лічыцца Алена Аляксандраўна Міхайлава-Раслаўлёва, дачка Марыі Паўлаўны фон Ліпхарт, на 1893 г. – удава штабс-капітана, унучка заснавальніка Дзівапола[185].

Яшчэ ў 1774 годзе апякун М.П. Ліпхарт былы генерал-маёр Пётр Кузьміч Дзяконскі заключыў кантракт, які, як паказаў час, меў выключнае значэнне для развіцця мястэчка, з купцом 2-й гільдыі Гіршам Янкелевічам Рафалоўскім і яго жонкаю Энтай. Дакумент быў складзены адносна арэнднага валодання ўсёй без выключэння маёмасцю маёнтка Крынкі (Дзівапола) з фальваркамі. Раслаўлёва, якая жыла ў Саратаўскай губерні, пацвердзіла дамову аб арэндзе Крынак з Энтай Рафалоўскай з 27 сакавіка 1881 года да 1 красавіка 1917 года. На 36 гадоў![186] Кошт арэнды на год складаў 6000 рублёў. Гэта шмат. Такім чынам, Крынкі з’яўляюцца яскравай ілюстрацыяй эканамічнай з’явы, уласцівай еўрапейскай частцы Расіі, калі арэндная плата складзе 1/3 (у 80-я гг.), а то і 2/5 (90-я гг.) даходу, прымушаючы арандатара літаральна выцягваць усё магчымае з атрыманай у арэнду гаспадаркі, каб мець важкі прыбытак[187].

---

[183] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 367. Арк. 33.
[184] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 15. Адз. зах. 1376. Арк. 1-2.
[185] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 2. Адз. зах. 3882. Арк. 30-31; Ф. 1. Воп. 17. Адз. зах. 241. Арк. 48 адв.-49.
[186] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 30. Воп. 1. Адз. зах. 201. Арк. 72.
[187] Анфимов, А.М. Земельная аренда в России в начале XX в. / А.М. Анфимов. – М., 1961. – С. 145.

Пакуль купчыха Рафалоўская (пазней Рафалоўская-Вольфсан) кіравала Дзіваполам, гэтыя землі ў чарговы раз мянялі ўладара. Спадчына Дзівова памерам у 1077 дзесяцін 892 сажані перайшла ў рукі дачкі А.А. Міхайлавай-Раслаўлёвай – баранесе Соф'і Міхайлаўны Нолькен. У гродзенскіх губернскіх паперах Дзівапол пазначаны як маёнтак Нолькен у 1888 годзе[188]. Але купчая датуецца 1897 годам. Згодна з ёю новай гаспадыні Дзівапола адыходзілі: 1) землі мястэчка, якія межавалі з землямі Сямёнаўкі і Астапкаўшчызны, крынкаўскай праваслаўнай царквы і маёнткам Вірыёнаў, землямі вёсак Служкі, Парэчча і сялян в. Крынкі; 2) фальварак Парэчча, які межаваў з землямі ваколіцы Геніюшы і сялянскімі ўгоддзямі вёсак Парэчча і Сямёнаўкі; 3) фальварак Александрова; 4) урочышча Служкі і два ўчасткі зямлі без назвы ў ваколіцах Крынак. Такім чынам з Крынкамі аказаўся звязаны баронскі род, які паходзіў з графства Бентгейм у Вестфаліі з XV ст. Адна з яго галін у XVIII ст. пераехала ў Рэч Паспалітую і нават была ўнесена ў рэвізскія кнігі Магілёўскай губерні[189]. У 1899 годзе С.М. Нолькен валодала, адпаведна звесткам акладных кніг Казённай палаты, маёмасцю ў 1063 дзесяціны 1944 сажані зручнай і 75 дзесяцін 1256 сажаняў нязручнай зямлі.

У 1902 г. ад Нолькен набыў маёнтак Крынкі гродзенскі натарыус, калежскі асэсар Іван Васільевіч Шахновіч[190].

Яшчэ адзін гаспадар Крынак, як і маёнтка Дзівапола, у пачатку XX стагоддзя адзначаны ў дакументах – гэта памешчык Аляксандр Рыгоравіч Цвет[191]. З 10 чэрвеня 1904 г. яго землі, дакладней сказаць, тое, што засталося ад іх пасля буйнога распродажу, знаходзіліся ва ўласнасці яго духоўных нашчадкаў – жонкі Соф'і Паўлаўны Цвет і яе сыноў: Рыгора, Аляксандра, Мікалая, Сяргея[192].

Якой жа была гаспадарка маёнткаў Крынкі да рэформы 1861 г.? Згодна з інвентарамі, у Дзіваполе на 1850 г. было 2583 дзесяціны 92 сажані зямлі, у тым ліку больш за 1794 дзесяціны зямлі ворнай[193]. Сярэдняя ўрадлівасць азімага хлеба складала сам 5, яравога хлеба – сам 7, бульбы – сам 10,5[194]. Акрамя пабудоў прыгонных сялян,

---

[188] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 17. Воп. 1. Адз. зах. 528. Арк. 67.
[189] Нолькейн // Энциклопедический словарь Брокгауза и Эфрона. — СПб., 1897. – Т. XXI. – С. 326.
[190] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 3. Адз. зах. 3683. Арк. 118; Ф. 17. Воп. 1. Адз. зах. 289. Арк. 73.
[191] Тамсама. – Арк. 1.
[192] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 2. Адз. зах. 3882. Арк. 255.
[193] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 367. Арк. 35.
[194] Тамсама. – Арк. 41.

маёнтак Ліпхартаў меў дзве карчмы – у Парэччы і ў Нятупе, ля дарогі; вадзяны млын разам з сукавальным фолюшам, 121 галаву буйной жывёлы, 30 коней, суконную фабрыку, піваварню на 800 вёдзер піва ў год, вінакурню[195]. Адметнай акалічнасцю гаспадаркі Дзівапола была яе хранічная запазычанасць. Доўжылася яна дзесяцігоддзямі і ўрэшце рэшт стала асноўнай падставаю заняпаду вялікага маёнтка. Інвентарныя апісанні былі складзеныя ў 1841, 1845, 1858–1860 гг. з прычыны ўліку маёмасці з-за няўплаты працэнтаў на зямлю ў Санкт-Пецярбургскую апякунскую раду[196].

Вірыёны, у сваю чаргу, мелі на 1845 г. 3509 дзесяцін 640 сажаняў зямлі, з якіх 2577 дзесяцін 1965 сажаняў былі ворныя[197]. Таксама, як і Ліпхарты, Вірыёны мелі вінакурню, да таго ж, трымалі корчмы.

Важнай з’яваю ў сярэдзіне XIX ст. у сельскім жыцці Крынак было ліквідаванне цераспалосіцы паміж Ліпхартамі і Вірыёнамі. Пачалося яно ў 1859 г. Для ўпарадкавання існуючых цераспалосных казённых надзелаў зямлі дзяржаўнага маёнтка Плебаніцы, раскіданых паміж зямлёй Ліпхартаў і Вірыёнаў, было зроблена наступнае. Ліпхарты перадалі ў казну 26 дзесяцін, Вірыёны – 6 дзесяцін. Участкі з плошчы той зямлі, якую перадаваў казне Ліпхарт, аддавалі Вірыёну. Дзяржаўныя сяляне – 2 цяглых і 5 агароднікаў, якія жылі ў Крынках на зямлі, якая пераходзіла да Ліпхартаў і Вірыёнаў, пераводзіліся арганізавана ў маёнтак Плябанаўцы[198]. Працэс пераразмеркавання зямлі закранаў лёсы тых сямей, якіх гэта тычылася. Дробязей у такіх справах не было, і ліквідаванне цераспалосіцы цягнулася да 1868 г. Амаль дзесяць год! Але і потым яго наступствы адгукаліся. Напрыклад, справа 1874–1876 гг. Яна была звязана з ворывам каля Нятупскай граніцы і надзелу, які межаваў з сенакосам і выганам, якія належалі сялянам[199]. Спачатку давераныя сялян Марцін Будроўскі і Мацвей Грыгаровіч, потым Сцяпан Будроўскі і Фелікс Грыгаровіч, а яшчэ Міхаіл Міхнюк і Юрый Кішкель, а ад дзяржаўных сялян Гаспар Пажарскі аспрэчвалі рашэнне аб перадачы зямлі памешчыцкаму

---

[195] Тамсама. – Арк. 39-39 адв.
[196] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 11. Адз. зах. 1110. Арк. 67–71; Ф. 1. Воп. 12. Адз. зах. 56. Арк. 13-14 адв.; Ф. 2. Воп. 29. Адз. зах. 2110. Арк. 5–149.
[197] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 365. Арк. 1.
[198] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 17. Адз. зах. 445. Арк. 200 адв-201 (Іван Станіслававіч Калінскі, Станіслаў Станіслававіч Калінскі, Мацвей Станіслававіч Калінскі, Люцыян Лявонцьевіч Чарнецкі, Усцін Восіпавіч Янулевіч, Павел Іванавіч Юзэфовіч, Павел Якаўлевіч Пажарыцкі (для пераезду было выдаткавана па 30 рублёў і лесу па 40 дрэў для будоўлі).
[199] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 17. Адз. зах. 445. Арк. 409-410.

двару. Але марна. Воляй губернатара А. Зурава, які выконваў абавязкі старшыні пасяджэння Міравога суда, было адмоўлена сялянам у сумесным валоданні выганам і сенакосам.

У выніку пераразмеркавання зямлі згодна з умовамі рэформы 1861 г. зямельная ўласнасць гаспадароў Крынак, натуральна, зменшылася. У 1872 г. маёнтак Крынкі з фальваркамі Парэчча, Мар’янаўка і Аляксандрава, што каля Крынак, Марыі фон Ліпхарт складаў 1187 дзесяцін 1047 сажаняў зручнай зямлі і 124 дзесяціны 1353 сажані нязручнай[200]. У валоданні А.А. Міхайлавай-Раслаўлёвай, згодна з акладнымі кнігамі Казённай палаты Гродзенскай губерні, у 1893 г. было 1368 дзесяцін зямлі, з якой 1283 дзесяціны 67 сажаняў – зручнай[201].

Гаспадары Крынак не заўсёды жылі ў самым маёнтку. Асабліва гэта тычылася позніх уладароў, дзяцей П. Дзівова і І. Вірыёна. Напрыклад, Рыгор Аляксандравіч Цвет (малодшы) размясціўся ў Гродне[202]. І калі Вірыёны трымаліся сваіх зямельных уладанняў, то гэтага нельга сказаць пра спадчыну Дзівова. З цягам часу ўсе гаспадары Дзівапола патроху распрадавалі зямлю гаспадаркі, асабліва спадарыня С. Нолькен[203], а за ёю – і Іван Васільевіч Шахновіч[204].

Найбольш актыўна продажам зямлі займаўся А.Р. Цвет і яго дзеці. Пра яго гаворка асобная. Зямлю ў гэтага памешчыка набывалі многія, паасобку і групамі. У 1904 г. 113 чалавек Сямёнаўскага і Парэцкага сельскіх таварыстваў купілі 88 дзесяцін 3150 сажаняў[205]. У наступны год ім было прададзена яшчэ 201,17 дзесяціны 7312 сажаняў зямлі[206]. Сярод пакупнікоў, у прыватнасці, Міхаіл Іванавіч Анісімовіч (5 дзесяцін 1200 сажаняў), Іван Якаўлевіч Жэмер (4 дзесяціны 156 сажаняў), мешчанін Павел Францавіч Міклашэвіч, які набыў 36 дзесяцін 1272 сажані. На купленай у А. Цвета зямлі Аўсей Фінк і Хаім Пружанскі арганізавалі ў 1907 г. гарбарную вытворчасць[207]. У 1907 г. ад зямельнай маёмасці А.Р. Цвета засталося 603½ дзесяціны зямлі. Праз тры месяцы колькасць складала ўжо 520½ дзесяціны. Далей, у

---

[200] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 367. Арк. 35.
[201] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 3. Адз. зах. 3272. Арк. 130.
[202] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 17. Адз. зах. 241. Арк. 49.
[203] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 3. Адз. зах. 3683. Арк. 69–71, 152, 158, 159.
[204] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 18. Адз. зах. 926. Арк. 203.
[205] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 3. Адз. зах. 3778. Арк. 35, 36.
[206] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 3. Адз. зах. 3901. Арк. 26–31; Ф. 24. Воп. 2. Адз. зах. 3882. Арк. 1, 2, 3 адв., 4, 6 адв., 8, 15-16, 18, 24-25, 28-29 адв., 31, 36-36 адв., 41 адв.-42.
[207] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1832. Арк. 5.

1908 г., 4 студзеня яна зменшылася да 508 дзесяцін[208]. Выкупалася не толькі ворная зямля, але і лес. У 1908 г. сяляне Андрэй Рыгоравіч Хлябіч і Павел Аляксандравіч Міхнюк набылі ў А.Г. Цвета кавалак лесу пад угоддзі[209]. Зямля Цвета прадавалася і далей, і ў 1909 годзе яе плошча складала ўжо 427 дзесяцін[210]. У спадчыннікаў А.Р. Цвета ў верасні 1908 г., па звестках даверанага ўдавы С.П. Цвет і яе дзяцей Мардэхеля Гдалевіча Люблінскага, было 260 дзесяцін 240 сажаняў добрай зямлі, з іх зямлі м. Крынкі з урочышчам Нятупа – 220 дзесяцін 2116 сажаняў[211]. У параўнанні з 1904 годам (усяго за тры гады да гэтага!) колькасць зямлі зменшылася больш чым на 405 дзесяцін (больш за 60 %). Але на гэтым распродаж Дзіваполу не скончыўся[212].

Дарэчы, аб памерах распродажу зямлі сведчаць і змены ў маёмасці святара айца Г. Пранеўскага. Ён быў адметным уладальнікам зямлі ў мястэчку, і ў яго на 1888 г. было 306 дзесяцін зямлі[213]. Цікава, што праз 19 гадоў, у 1907 г., у якасці балатоўкі ў Дзяржаўную думу крынскі святар згадвае ўжо 40 дзесяцін зямлі[214].

Землі Вірыёнаў таксама перажылі драбленне, але не такое вялікае. Пасля 1861 года зямля мястэчка Крынкі з фальваркамі Лішкі, Жылічы, Засценнікі, Нарэйкі – двара Івана Карлавіча Вірыёна складала 2613 дзесяцін 2093 сажані зручнай і 103 дзесяціны 1267 сажаняў нязручнай зямлі[215]. Пераважную яе частку складалі сельскагаспадарчыя ўгоддзі. Сяляне Вірыёна м. Крынкі валодалі 320 дзесяцінамі 1295 сажанямі зямлі, агульным ворывам з Вірыёнам у 15 дзесяцін і зямлёю ў м. Крынкі плошчай 5 дзесяцін 10 сажаняў[216].

Высветлілася, што зямельная спадчына Івана Вірыёна яшчэ за два гады да смерці гаспадара 15 мая 1879 года палюбоўна была падзелена паміж яго сынамі: Уладзімірам, Станіславам і Мечыславам*. Паводле дакумента 1877 г. землі вуліцы Новааляксандраўскай, вёскі

[208] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 2. Адз. зах. 3882. Арк. 69, 97, 108, 120. У гэтыя 508 дзесяцін уваходзілі: сядзібная – 51¼ дзесяціна, ворная: пад пшаніцай – 39 дзесяцін, пад грэчкай – 71¼ дзесяціна, ворыва – 34½ дзесяціна, лес – 152 дзесяціны, нязручнай зямлі – 57¼ дзесяціны, сенакосы – 67¼ дзесяціна, багны – 5 дзесяцін.
[209] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 11. Воп. 6. Адз. зах. 207. Арк. 1.
[210] Тамсама. – Арк. 255.
[211] Тамсама. – Арк. 255 адв., 257-257 адв.
[212] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 304. Воп. 1. Адз. зах. 63. Арк. 4, 10, 14.
[213] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 770. Воп. 2. Адз. зах. 5. Арк. 100.
[214] Гродненские губернские ведомости. – 1907. – № 54. – 10 июля.
[215] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 92. Воп. 1. Адз. зах. 255. Арк. 8, 9 адв.-10.
[216] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 10. Воп. 17. Адз. зах. 445. Арк. 732 адв.
* Поўныя імёны сыноў Івана-Фадзея-Фелікса-Вікенція Восіпавіча Вірыёна: Станіслаў-Карл-Сямён, Уладзімір-Уладзіслаў-Казімір, Мечыслаў-Антон.

Лапічы, Лішкі, Засценнікі – усяго 741 дзесяціна 1903 сажані, мельніца ў Крынках, сукавальня ў Санніках, вінзавод і корчмы ў Крынках, два дамы ў арэндзе гарбароў мястэчка, дом у Лапічах – усё агульным коштам 42 000 рублёў адыходзіла Уладзіміру Іванавічу Вірыёну. Лішкі, дамы ў Кундзічах і Ігнатовічах – Станіславу Іванавічу, а Жылічы з хутарамі Засценнікі і Нарэйкі (788 дзесяцін 14 сажаняў) заставаліся за Мечыславам Іванавічам[217]. У адпаведнасці са “спісамі маёнткаў асобаў польскага і рускага паходжання” 80-х гг. Уладзімір Вірыён меў у валоданні маёнтак Крынкі, гэта значыць 741 дзесяціну 1200 сажаняў зямлі (зручнай – 541 дзесяціна 1200 сажаняў, лесу – 120 дзесяцін, нязручнай – 80 дзесяцін), Станіслаў валодаў Лішкамі і 374 дзесяцінамі 1200 сажанямі зямлі (324 дзесяціны 1200 сажаняў – зручнай, 50 дзесяцін – лес), Мечыслаў гаспадарыў у Жылічах на 688 дзесяцінах (453 дзесяціны зручнай зямлі, 120 дзесяцін лесу, 215 дзесяцін нязручнай)[218]. Свае зямельныя валоданні Станіслаў і Мечыслаў захавалі праз бурлівы час зямельнага гандлю ў першым дзесяцігоддзі XX стагоддзя. Аб гэтым сведчаць заяўленыя імі зямельныя ўгоддзі ў якасці выбарчага цэнзу ў Думу ў 1907 г. (Станіслаў – 379 дзесяцін, Мечыслаў – 787 дзесяцін)[219].

У параўнанні з вялікай колькасцю архіўных спраў аб продажы спадчыны Дзівова матэрыялаў аб продажы зямлі Вірыёнаў амаль няма. Пра захаванне зямельнай маёмасці Вірыёнаў сведчаць і падзеі 1929 г., звязаныя з парцэляцыяй зямлі Йозэфа дэ Вірыёна, якой у яго было 500 гектараў (з яе – 420 ворнай, але ўжо без лесу)[220]*. Удава Уладзіміра Вірыёна Стэфанія Аляксандраўна Вірыён (народжаная Солтан), якая лічылася апякуншай, з дзецьмі Вандай (па мужу Міцкевіч), Марыяй, Людвікай, Адамам і Уладзімірам перадала 17 верасня 1897 г. правы на “кіраванне і распараджэнне належачай ім рухомай і нерухомай маёмасцю і вядзенне ўсіх спраў” даверанай асобе двараніну Сігізмунду Адольфавічу Лемпіцкаму[221]. На 23

[217] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 30. Воп. 2. Адз. зах. 210. Арк. 16-16 адв.
[218] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 77. Воп. 2. Адз. зах. 5. Арк. 7 адв.
[219] Гродненские губернские ведомости. – 1907. – № 54. – 10 июля.
[220] Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці. – Ф. 89. Воп. 1. Адз. зах. 2615. Арк. 2 адв., 33. У выніку парцэляцыі ў 1929 г. зямлі Вірыёнаў атрымалі Мікалай Аляксандравіч Эйсмант (4 га), Мікалай Казіміравіч Эйсмант (8 га), Тэадор Альзаровіч (6,5 га), Юльян Пульяноўскі (3,5 га), Йозэф Пульяноўскі (2,5 га), Ян Малецкі (3,5 га), Антоній Цыдзік (4,5 га), Йозэф Ігнатовіч (7 га), Павел Ігнатовіч і Павел Францавіч Яновіч (6,75 га).
[221] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1495. Арк. 2-3 адв.

лістапада 1899 г. спадчынай Вірыёнаў лічыліся 741 дзесяціна 1093 сажані зямлі, а таксама доўг у 4471 рубель і пазыка 5700 рублёў[222].

Вядома, што памешчыкі мелі прыбытак не толькі з зямлі. Немалыя грошы прыносілі прамысловая вытворчасць і прапінацыйны гандаль. Панская гаспадарка Крынак знаходзілася ў стасунках з такімі раздзеламі местачковай эканомікі, як вінакурэнне і шынкарства.

Шынкарства – занятак знакаміты, а шынкар – асоба, вядомая ў кожным мястэчку. У розніцу і оптам гандлявалі спіртным ад імя памешчыка і габрэі, і хрысціяне. Заробак мелі добры. На час складання інвентара за год карчмар-арандатар мог мець прыбытку да 1700 рублёў срэбрам[223]. Прадаваліся віно, гарэлка і піва мясцовага гатунку. Права на выраб гэтых тавараў мелі толькі памешчыкі. Ніжэй мы звернем увагу на характар вінакурэння ў Крынках. Продаж быў пад кантролем кіраўніцтва кагалу (да 1844 г.), пазней – мяшчанскага старасты і панскай эканоміі. Таму частае хабарніцтва зборшчыкаў дадзеных падаткаў заўсёды было прадметам скаргаў і спрэчак паміж габрэйскім кіраўніцтвам, дзяржаўнымі органамі і дваром. Памятаецца гучная справа аб Юселі Лейбовічу, які сабраў з шынкароў да 2000 рублёў пад выглядам скарбавых падаткаў, а з гэтай сумы ў казначэйства адправіў толькі 700 рублёў. За шынкароў заступіўся кагал, і былі выбраны новы зборшчык падаткаў Лейзар Бярновіч, 8 сведкаў, якім даручалася наглядаць за зборам падаткаў, і яшчэ 7 ацэншчыкаў, каб вызначаць памеры падаткаў з кагалу. Даверу не было, таму – трайны кантроль[224]. Гэты яркі і тыповы прэцэдэнт паказвае яшчэ адзін бок жыцця мястэчка.

Стасункі паміж дваром і кагалам былі няпростыя. Землі ў мястэчку лічыліся чыншавымі, плаціў кагал. Падаткі з гандлю спіртным, як і прыбыткі, былі найвялікшымі. Шынкі і карчмы заставаліся найбольш устойлівымі аб’ектамі местачковага гандлю. Напярэдадні Першай сусветнай вайны, па звестках аб скарбавых вінных лаўках і прыватных установах, якія гандлявалі спіртнымі напоямі, такіх у Крынках было трынаццаць. Іх пераважная большасць размяшчалася на базарнай плошчы. Гэта былі карчмы 2 разраду Ігнацыя Крывашэіна, Хаіма Нікеля Соуфа, піўныя лаўкі Гіршы Моўшавіча Марголіса, Моўшы Хаіма Лоша, Соф’і Аляксандраўны Рыдзігер, Моўшы Йоселевіча

[222] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 30. Воп. 2. Адз. зах. 206. Арк. 53.
[223] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 365. Арк. 86 адв.
[224] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 2724. Арк. 5 адв., 10 адв.-11, 15 адв.-16.

Айёна, Хайкеля Гіршавіча Ольяна, склеп Беньяміна Вайраха, вінная лаўка 2 разраду Яўгена Шалюты і шынок 3 разраду Вікенція Урбановіча. Яны размяшчаліся на Сакольскай вуліцы. "*Распивочная и на вынос*" лаўка Вольфа Лейбавіча Шындэра і склеп Іцкі Хаімавіча Слопака – на Цымерманскім праспекце. Хая-Блюм Эдэльштэйн размясціў сваю лаўку ў Фурманскім завулку[225]. На перасячэнні Кузнецкай і Фурманскай у 1900–1915 гг. у прыватным будынку Мардхеля Тэркеля, на Сакольскай вуліцы ў доме Лейзера Пачабуцкага, у доме Іцкі Слоера на вуліцы Касцельнай арандавалася плошча пад казённыя вінныя лаўкі[226].

Марудная справа падзелу прапінацыйнай спадчыны паміж нашчадкамі І.В. Вірыёна, якая цягнулася не адзін год (было з-за чаго спрачацца), дазваляе ўбачыць памеры віна-гарэлачнага гандлю. Уладзімір Вірыён атрымаў у спадчыну чатыры піўныя ўстановы, якія знаходзіліся ў розных частках мястэчка і мелі назвы "Дабраволя", "Гурно", "Прафітка", "Пагулянка"[227]. Арандатарам гэтых устаноў з 1851 года быў Файвель Баткоўскі. Ускосна дакументы згадваюць аб існаванні і пятай кропкі Вірыёнаў – "Аўстэрыі"[228]. За 1890–1894 гг. карчмы "Гурно" і "Дабраволя" і карчма пры вірыёнаўскім вінзаводзе № 23 прадавалі ў год у сярэднім ад 1411 да 2449 вёдзер гарэлкі[229]. Набываўся гэты тавар з завода па кошту 4-4,6 рублёў за вядро, а прадаваўся за 5,55-6 рублёў. Аб'ёмы продажу складалі 3031 рубель 72 капейкі з установы. Такі бізнес – яшчэ адна рыса памешчыцкай гаспадаркі Крынак. Але гэтым не абмяжоўваецца прысутнасць памешчыцкага землеўладання ў мястэчку.

---

[225] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 77. Воп. 1. Адз. зах. 59. Арк. 546-546 адв.
[226] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 30. Воп. 2. Адз. зах. 253. Арк. 3, 22, 64.
[227] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 30. Воп. 2. Адз. зах. 201. Арк. 35.
[228] Тамсама. – Арк. 20.
[229] Тамсама. – Арк. 10.

# Прамысловая вытворчасць і гандаль

Жыццё мястэчка спалучала два светы: свет сельскі і свет гарадскі. Два лады жыцця, аграрны і прамыслова-гандлёвы, арганічна дапаўнялі адзін аднаго. Кожны меў сваіх знакамітасцяў, пра якіх усім усё было вядома, пра якіх гутарылі на Рынкавай плошчы або згадвалі як прыклады поспеху ў працы і ў жыцці. Так званыя "жоўтыя старонкі" пачатку XX ст., зборнік "Вся Россия" ў артыкуле "Крынкі" звяртаюць увагу на гэтыя прозвішчы[230], а таксама на Вольфа Борухавіча Іваніцкага (10 гадоў працоўнага стажу на 1899 г.), Айзіка Тавелавіча Брускіна (30 гадоў стажу), Элі Шмойлавіча Залкіна (23 гады стажу)[231]. Іх імёны, як і Міклашэвічаў, Яновічаў, Мічэек, Скроўбаў, Касацкіх, Анісімовічаў, былі на слыху ў крынкаўчан.

Росквіт гарбарства ў лепшыя для імперыі 1912 і 1913 гады прывёў да таго, што адных толькі гарбарных заводаў налічвалася ў мястэчку 28, а майстэрань – 64[232]. Сярод іх гаспадароў былі тыя, чый бізнес пачаўся ў сярэдзіне, а то нават у першай палове XIX стагоддзя. Эля-Абрам Мардхелавіч Лістокін меў у 1899 г. уласную вытворчасць ужо на працягу пяцідзесяці гадоў. Столькі ж часу займаліся гарбарствам Шавель Мардхелавіч Рабіновіч, Абрам Мееравіч Фінк, Аншэль Мардхелавіч Кнышынскі. Яшчэ больш – шэсцьдзесят гадоў – гарбарствам займаліся прадпрымальнікі Ачыер Шаевіч Голуб, браты Янкель і Лейба Гарберы, Янкель Вігдоравіч Блох. "Старажыламі" ў гарбарстве можна лічыць і Юдэля Янкелевіча Штэйнсапера, і Копеля Шмойлавіча Залкіна, капіталістычны стаж якіх налічваў сорак гадоў[233]. Такі ўзрост прадпрыемстваў ускосна пацвярджаецца статыстычнымі дадзенымі за 1837 год па Гродзенскаму павету, па якіх у гэтым годзе з дваццаці найменняў рамесных прафесій гарбароў не было ўвогуле[234].

---

[230] Крынкі // Вся Россия. – 1901. – С. 247 (Эла і Янкель Блохі, Голуб, Янкель Гарбер, Копель Залкін, Аншэль Кнышынскі, Лістокін, Фінк, Штэйнсапер).
[231] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 962. Арк. 5 адв.-6.
[232] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 77. Воп. 1. Адз. зах. 59. Арк. 72-72 адв., 73-74.
[233] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 962. Арк. 5 адв.-6.
[234] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 14. Воп. 1. Адз. зах. 639. Арк. 101-102 адв., 104-105 адв.

Але ж у гарбарства ў Крынках, як і ўвогуле ў кожнай прамысловай вытворчасці, быў добры падмурак, які складалі шматлікія раміснікі першай трэці XIX стагоддзя. У раздзеле пра насельніцтва мы называлі іх імёны, але згадаем геаграфію іх навучання майстэрству. Школа крынкаўскага майстэрства, акрамя ўласнай дынастыйнай местачковай, пераймала вопыт з Варшавы, Вільні, Гродна, Беластока, Крулеўца, Брэст-Літоўска, Цікоціна, Вішнёва, Ліды, Ваўкавыска, Дамброва. Некаторыя майстры ездзілі вучыцца ў Прусію.

У верасні 1894 г. аб узроўні прамысловай дзейнасці ўзгадвалі сяляне Крынак – дванаццаць найбольш аўтарытэтных і "добрасумленных", па словах прыстава, тагачасных старажылаў Крынак[235]. Вельмі паказальная гэтая дэталь кантактаў унутрыместачковай грамады, якая сведчыць аб адсутнасці якой-колечы ізаляванасці паміж рознымі нацыянальнымі групамі, калі гаворка ішла пра гаспадарчае жыццё.

Названыя прадпрымальнікі прайшлі ўсе этапы станаўлення прамысловасці ў XIX–пачатку XX стст. у заходніх раёнах Расійскай імперыі, пачынаючы ад зараджэння іх вытворчых магутнасцей з удзелам 44 чалавек з аб'ёмам вытворчасці да 20 600 штук у год, як у Нахума Аншэля Кнышынскага[236]. Абарот самага вялікага гарбарскага прадпрыемства мястэчка дасягаў некалькіх соцен тысяч рублёў[237].

Працэс канцэнтрацыі вытворчасці ў гарбарнай галіне ў Беларусі ў апошняй чвэрці XIX стагоддзя прывёў да істотнага павелічэння колькасці рабочых на прадпрыемствах. Буйныя крынкаўскія прадпрыемствы (Элі Залкіна – 25 чалавек, Янкеля Гарбара – 25 чалавек, Копеля Залкіна – 20 чалавек) можна параўнаць з вытворчасцямі ў Смаргоні – адным з вядомых цэнтраў гарбарства ў Беларусі, а згаданая вышэй фабрыка Кнышынскага  будзе побач са смаргонскім прадпрыемствам Бычкоўскага, дзе працавалі 48 рабочых і аб'ём вытворчасці складаў 119,9 тыс. рублёў[238]. Для параўнання: кошт нерухомай

---

[235] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 962. Арк. 7 (Мацвей Адамавіч Астроўскі, Казімір Мацвеевіч Руднік, Аляксандр Аляксеевіч Скроўба, Канстанцін Казіміравіч Скроўба, Іван Барталамеевіч Кукіш, Марцін Антонавіч Пратасевіч, Аляксандр Міхайлавіч Будроўскі, Казімір Марцінавіч Будроўскі, Клемент Мікалаевіч Сахаркевіч, Міхаіл Фабіянавіч Кандратовіч, Сямён Кляменцьевіч Жамойда, Іван Міхайлавіч Саковіч і тагачасны староста Мацвей Іванавіч Яновіч).
[236] Вся Россия. – 1901. – С. 247.
[237] Ярошевский, Я.М. Кринки. Гродненский уезд / Я.М. Ярошевский // Гродненские губернские ведомости. – 1900. – № 194.
[238] Абезгауз,  З.Е. Развитие капитализма и формирование пролетариата Белоруссии во 2-й половине XIX в. / З.Е. Абезгауз. – Минск: Наука и техника, 1971. – С. 49.

маёмасці ў 1897 г. складаў 356 348 рублёў, а падаткі з яго – 1269 руб. 5 кап. для Крынак і 202 916 руб. і 722 руб. 63 кап., адпаведна, – для Скідзеля[239].

Агульная гадавая вытворчасць Крынак у 1912 г. складала ўжо 3½ мільёнаў рублёў пры 2000 працуючых[240]. Карэспандэнт штодзённай газеты "Наше утро" паведамляў у тыя дні, што "ў настроі нашага гарбарнага рынку выдатнае становішча. На ўсе тавары крынкаўскай вытворчасці больш павялічаны попыт"[241].

Дваццаць гадоў росквіту гарбарства ў Крынках – з 1896 па 1912 гг. – умясцілі цэлую эпоху сацыяльна-эканамічнага развіцця, палітычных зрухаў у імперыі і ў мястэчку адначасова.

Ускосна, але ўсё ж істотна на рост гарбарства паўплывала далёкая руска-японская вайна[242].

Пералічаныя ў трох выданнях "Вся Россия" спісы найбуйнейшых гаспадароў-фабрыкантаў ужываюць розныя паказчыкі ўзроўню вытворчасці (штукі, колькасць працуючых, рублёвы абарот у год). Таму параўнаць іх немагчыма. Але можна ўбачыць, што з 28 згаданых розных імёнаў тых, хто быў пачынальнікам, і тых, хто працягваў справу гарбарства ў Крынках, толькі тры чалавекі лічыліся самымі знакамітымі на працягу гэтага часу – Янкель Гарбэр, Ізраэль Барухавіч Іваніцкі і Аншэль Кнышынскі[243].

Такі ўзровень прамысловага развіцця быў дасягнуты не адразу, хоць пра пэўны росквіт гарбарнай вытворчасці можна казаць. На пачатак XX стагоддзя ў Крынках ужо былі сямейныя дынастыі гарбароў. Уласныя этапы прамысловай вытворчасці мелі памешчыцкія прадпрыемствы.

У гісторыі прамысловасці Крынак расійскага часу можна вызначыць некалькі перыядаў. Кожны з іх мае адметны характар, удзельнікаў, памеры вытворчасці. Агульнымі заставаліся сыравінная база, якая была прывязана да мясцовай сельскагаспадарчай вытворчасці, а таксама рынак продажу, які ахопліваў заўсёды як наваколле Крынак,

---

[239] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 77. Воп. 1. Адз. зах. 59. Арк.72; Гродненские губернские ведомости. – 1907. – № 9. – 30 января.
[240] Наше утро. – 1912. – № 65. – 5 августа.
[241] Тамсама. – 1912. – № 36. – 3 июля.
[242] Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry. – S. 64.
[243] Вся Россия – М., 1896. – С. 247; Вся Россия. – М., 1901. – С. 377; Вся Россия. – М., 1912. – С. 1043-1044, 1075-1076.

так і Гродна з Беластокам, а далей Вільню, Мінск і нават Санкт-Пецярбург.

Арганізацыя вытворчасці – той шлях, які кожны прадпрымальнік Крынак прайшоў самастойна. Сярод markdown рознага кшталту складанасцей, перашкод, якія піянеры вытворчасці вымушаны былі пераадольваць, трэба было для атрымання дазволу на будаўніцтва завода перш за ўсё пацвердзіць сваю плацежаздольнасць, адпаведную заможнасць, якая дазваляла арганізоўваць вытворчасць па ўсіх правілах і патрабаваннях, уласцівых той ці іншай галіне прамысловасці. Красамоўным пацвярджэннем гэтых слоў з'яўляецца справа селяніна Івана Іванавіча Высоцкага. Ён быў тыповым “моцным” мужыком, кемлівым і спрытным у жыцці, меў добрую прадпрымальніцкую “жылку”. Родам Высоцкі быў з Борак, вёскі на адлегласці 25 км ад Крынак. Займаўся, як усе, земляробствам і яшчэ, як далёка не ўсе, гандляваў лесам. У гэтай справе меў поспех. Пятнаццаць гадоў запар ён набываў на таргах дзялкі скарбавага лесу, сёк яго і прадаваў. Вялікае кола пакупнікоў-кампаньёнаў Высоцкага складалася як з габрэяў-прадпрымальнікаў, так і з сялян. “Усе жыхары Крынак набывалі лясны матэрыял у яго”, – пісалі мясцовыя сяляне Якаў Лаўрэнцьевіч Касацкі, Іван Адамавіч Анісімовіч, Іван Іванавіч Анісімовіч, Іван Паўлавіч Газоўскі, Іван Мікалаевіч Кішкель у 1896 годзе. Іх папрасілі пацвердзіць заможнасць Івана Высоцкага. Яны звярнулі ўвагу мясцовых уладаў і на той факт, што Высоцкі вядомы як чалавек багаты, што ён набыў маёнтак у Сакольскім павеце[244]. Пра заможнасць гэтага селяніна ведалі і чыноўнікі. Валасны старшыня ў рапарце гродзенскаму павятоваму спраўніку дакладаў, што прыбытак Івана Высоцкага ў бягучым годзе складае 5000 рублёў, капітал у 1896 г. – 2000 рублёў, у валоданні знаходзіцца больш за 20 дзесяцін зямлі і маюцца пабудовы на зямлі на 2000 рублёў. Усё гэта, маўляў, пацвярджае вартасць яго як прадпрымальніка[245].

Жаданне стварыць гарбарны бізнес у Івана Высоцкага супала з запазычанасцямі, якія меў перад ім Аўсей Лейбавіч Затц[246]. Гэты прадпрымальнік рэгулярна набываў лес у Высоцкага, але разлічваўся

[244] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 8. Адз. зах. 1747. Арк. 10-11.
[245] Тамсама. – Арк. 11.
[246] Тамсама. – Арк. 1.

за яго часткова, бо меў давер да сябе як сталы кампаньён. Поўны разлік планаваўся Затцам пасля адкрыцця ўласнага гарбарнага завода. Аднак завод у 1894 г., як меркавалася, дзейнічаць не пачаў. Прадпрыемства планавалася на чыншавых землях памешчыцы Раслаўлёвай, як амаль усе вытворчасці ў Крынках. Павінна яно было быць пабудавана ў працяг Нятупскай вуліцы мястэчка. Але "добразычліўцам" селянінам Антонам Мухарскім была звернута ўвага ўладаў на той факт, што завод на самай справе размесціцца па-за мяжой габрэйскай аселасці, там, дзе габрэям не дазвалялася мець нерухомасць паводле антысеміцкай дзяржаўнай расійскай палітыкі[247]. Гэта і вырашыла справу. Затц пераўступіў чыншавыя правы на зямлю і драўляныя пабудовы на суму 1600 рублёў крэдытору Івану Высоцкаму[248].

Звернем увагу, што гэта быў 1895 год, час, калі гарбарства ў Крынках яшчэ не прадэманстравала стопрацэнтнай выгады ўсім і кожнаму. Але "нюх" Івана Высоцкага ўжо дазволіў яму зразумець, што абяцаў гэты промысел. Спрактыкаваны прадпрымальнік, Высоцкі дзейнічае разважліва і адначасова спрытна. Яго ацэнка сітуацыі на рынку прыярытэтаў мясцовага бізнесу вызначаецца трапнасцю адукаванага эканаміста. Селянін-прадпрымальнік адзначае, што "ліквідаваў усе свае справы па лясному промыслу... накіраваў на новае задуманае прадпрыемства ўсе матэрыяльныя сродкі... Таму што поспехі, якія робяць мясцовыя прамыслоўцы гарбарнай вытворчасці, сам род фабрычна-завадской прамысловасці, пры якой немагчыма банкруцтва, бо тавары гарбарства заўсёды прадаюцца за наяўны разлік, падштурхнулі мяне да таго, што, спадзяючыся на станоўчы вынік, я набыў усё неабходнае для гарбарнай вытворчасці – матэрыялы, сыравіну, прыстасаванні"[249].

26 верасня 1896 года Высоцкі атрымаў дазвол з працяглым пералікам умоў, якія трэба было стварыць для арганізацыі гарбарнай вытворчасці: наяўнасць бетонных падвалаў са стокамі ў цэментаваную зборную яму, студняў з водаправодным кранам, вентыляцыі побач з дымаходамі і цераз фіранкі, арганізацыя сушкі скураў не бліжэй шасці метраў ад завода ў прыстасаванай для гэтага клуні, пабудова спецыяльнай ямы для адходаў[250]. Гэтыя прэтэнзіі Аўсею Затцу ўжо

---

[247] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 930. Арк. 2, 7 адв.
[248] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 8. Адз. зах. 1747. Арк. 2-2 адв., 5.
[249] Тамсама. – Арк. 15-15 адв.
[250] Тамсама. – Арк. 18-18 адв.

прад'яўлялі дзяржаўныя санітарныя ўстановы, калі той толькі пачынаў арганізацыю ўласнай гарбарнай вытворчасці[251]. Выкананне ўсяго гэтага патрабавала немалых грошай, часу і арганізацыйных намаганняў, але галоўнае для Высоцкага было тое, што дазвол быў атрыманы – яго палічылі вартым займацца гарбарствам.

Прамысловасць Крынак не абмяжоўвалася гарбарствам, хоць яно і было пераважаючым па ўсіх паказчыках: па колькасці прадпрыемстваў, па аб'ёмах вытворчасці, па лічбе занятых. Агульны пералік гаспадароў гарбарных заводаў і майстэрань, аб'ёмаў вытворчасці і колькасці працуючых на 1913 год прыведзены ў табліцы 1[252].

Табліца 1

| № п/п | Прадпрымальнік | Аб'ём вытворчасці (штукі) | Колькасць занятых на прадпрыемстве |
|---|---|---|---|
| **Гарбарныя заводы** | | | |
| 1. | Бронак Сара-Двэйра | 4600 | 8 |
| 2. | Брусцін Тэвель | 4200 | 7 |
| 3. | Бурсцін Хана | 6000 | 13 |
| 4. | Вайнер Рэйзля | 4300 | 8 |
| 5. | Гарбэр Арон | 3600 | 6 |
| 6. | Гарбэр Лейба | 10 500 | 18 |
| 7. | Гарбэр Моўша | 7600 | 8 |
| 8. | Гарбэр Янкель | 10 200 | 16 |
| 9. | Герц-Нагдыман Ізраіль | 16 700 | 20 |
| 10. | Глікман Абрам | 3200 | 6 |
| 11. | Голуб Арон | 350 | 1 |
| 12. | Грэйсман Гешэль | 6500 | 10 |
| 13. | Кнышынскі Аншэль | 20 600 | 28 |
| 14. | Кнышынскі Берка | 10 800 | 24 |
| 15. | Кугель Янкель | 7000 | 10 |
| 16. | Марголіс Янкель | 10 700 | 25 |
| 17. | Агушэвіч Палтыель | 4300 | 9 |
| 18. | Пружанскі Айзік | 4700 | 8 |
| 19. | Пружанскі Моўша | 6500 | 9 |
| 20. | Пружанскі Хаім Гершан | 3800 | 5 |
| 21. | Тарлоўскі Ёсель | 8200 | 14 |
| 22. | Шамшыновіч Моўша | 4600 | 8 |
| 23. | Штэйнберг Вольф | 6200 | 12 |
| 24. | Штэйнберг Іцка | 200 | 1 |
| 25. | Фабрыкант Шмуэль | 8600 | 15 |
| 26. | Фінк Аўсей Лейб | 6200 | 10 |
| 27. | Фінк Янкель | 350 | 1 |
| 28. | Юрдзікі Слоер і Леў* | 3200 | 6 |

[251] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 930. Арк. 6-6 адв.
[252] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 77. Воп. 1. Адз. зах. 59. Арк. 72-72 адв., 73-74 (зорачкай пазначаны прозвішчы, якія былі закрэслены ў спісе архіўнага дакумента як прадпрымальнікі, якія на момант выкарыстання па нейкіх прычынах не мелі вытворчасці).

| Гарбарныя майстэрні | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Айзенштэйн Янкель | 1600 | 6 |
| 2. | Анцыс Іцка | 1000 | 8 |
| 3. | Астрынскі Арон | 850 | 5 |
| 4. | Бернбаум Зелік* | 1000 | 3 |
| 5. | Брусцін Шымель | 760 | 3 |
| 6. | Вайн Сандэр | 650 | 3 |
| 7. | Віленскі Шлёма* | 1200 | 3 |
| 8. | Гербеўскі Шмуель | 1400 | 3 |
| 9. | Гендлер Давід і Кірзнер | 600 | 4 |
| 10. | Глембоцкі і Леў* | 1700 | 4 |
| 11. | Глікман Абрам  і (Фін Хаім*) | 980 | 6 |
| 12. | Гольдшміт Маркель* | 1000 | 4 |
| 13. | Готліб Эфраім | 900 | 5 |
| 14. | Готліб Юдэль | 830 | 4 |
| 15. | Гросман Сімха* | | |
| 16. | Дабравольскі і Гурвіч* | 2000 | 4 |
| 17 | Дубінскі Моўша* | 400 | 5 |
| 18 | Дрэйзік Борух-Лейб | 890 | 4 |
| 19 | Дрэйзік Меер | 3500 | 4 |
| 20 | Залкін Хаім-Эля* | 1200 | 3 |
| 21 | Здзітоўскі Пейсах | 860 | 5 |
| 22 | Івяніцкі Арон | 850 | 4 |
| 23 | Івяніцкі Ізраіль* | 1500 | 5 |
| 24 | Ілін Іцка | 1800 | 5 |
| 25 | Каплан Аўсей-Гірш* | 1500 | 4 |
| 26 | Кау Ёсель | 800 | 4 |
| 27 | Кірзнер Моўша | 1000 | 3 |
| 28 | Кройгель Шлёма* | 2000 | 4 |
| 29 | Котляр Ёсель | 760 | 4 |
| 30 | Котляр Цалька* | 1500 | 5 |
| 31 | Кроук і Каплан* | 1200 | 4 |
| 32 | Леў Ошэр* | 1800 | 5 |
| 33 | Лейбовіч Арон | 750 | 3 |
| 34 | Ляйбовіч Мордхель | 780 | 5 |
| 35 | Ліўшыц Хаім-Янкель* | 1000 | 3 |
| 36 | Лістокін Арон | 900 | 5 |
| 37 | Лістокін Арон* | 2500 | 9 |
| 38 | Мархеловіча Шымеля (нашчадкі)* | 1000 | 4 |
| 39 | Нішт Шлёма | 870 | 4 |
| 40 | Новік Гірш і Слапак Іцка | 1200 | 8 |
| 41 | Адзінак Сімха | 1200 | 6 |
| 42 | Пружанскі Ізраіл | 780 | 3 |
| 43 | Рубінштэйн Абрам | 1000 | 7 |
| 44 | Рубінштэйн Міхель | 900 | 5 |
| 45 | Сікорскі Абрам | 800 | 2 |
| 46 | Сокал Хацкель* | 900 | 3 |
| 47 | Трашчан Ліпа* | 1900 | 4 |
| 48 | Турскі Нохім | 960 | 5 |
| 49 | Фінк Ізраіль* | 1200 | 4 |
| 50. | Фрыдман Абрам* | 1400 | 2 |
| 51. | Фрыдман Лейзер | 1400 | 8 |
| 52. | Фурман і Хасід* | 1600 | 6 |
| 53. | Хаст Шэпшэль* | 1600 | 6 |
| 54. | Ш. Слоер і Я. Леў | 1200 | 8 |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 55. | Шафер Сендэр* | 1000 | 4 |
| 56. | Швейцар Хона-Шлёма | 500 | 2 |
| 57. | Шарашэўскі Алцэ | 950 | 4 |
| 58. | Шустэр Абель* | 1400 | 5 |
| 59. | Чэслер Янкель* | 730 | 4 |
| 60. | Эпштэйн Мэер | 700 | 4 |
| 61. | Эпштэйн Моўша* | 1500 | 5 |
| 62. | Юдзік Моўша | 1000 | 6 |
| 63. | Юдзік Моўша* | 1300 | 6 |
| 64. | Ятвязскі Зелік | 1200 | 5 |
| 65 | Яхес Герш* | 1600 | 4 |

Склад гэтага спісу пастаянна змяняўся, што сведчыць пра натуральныя працэсы рыначных зносін, якія ўжо паўнавартасна панавалі ў Крынках. Такая колькасць прадпрыемстваў, названых заводамі, тлумачыцца тым, што ў дробнай вытворчасці ўрадавай статыстыкай былі заўважаны два тыпы прамысловых прадпрыемстваў: машынізаваны і рамесны. Таму большую частку заводаў, па сутнасці, можна лічыць майстэрнямі, на якіх чыноўнікі, якія збіралі інфармацыю аб характары вытворчасці, звярнулі ўвагу на тое, што "матэрыялы апрацоўваюцца пераважна з дапамогаю хімічных працэсаў, што (на думку МУС) складае характэрную асаблівасць завадской вытворчасці"[253].

Акрамя гарбарства, у мястэчку ў 1913 годзе дзейнічалі тры "заводы" газавай вады: Хайкеля Ольяна, Вольфа Шындэра і Абрама Мардхелевіча, на якіх працавалі ўсяго чацвёра рабочых[254]. Адным з найбольш даўніх прадпрыемстваў быў вінакурны завод з шасцю наёмнымі працоўнымі[255]. У той час ён належаў нашчадкам У. Вірыёна. Гэтае прадпрыемства прыносіла ўстойлівы прыбытак сваім гаспадарам. Два мукамольныя заводы, адзін з якіх быў ва ўласнасці сялян 1-га Крынкаўскага таварыства, а другі – У. Вірыёна, цалкам забяспечвалі патрэбы местачкоўцаў[256].

Яшчэ адзін мукамольны завод Вірыён меў у Слушках. Былі ў Крынках чатыры фарбавальні гаспадароў Юдэля Віленскага, Наваха Шахнеса, Хаіма Фарбэра і Аўсея-Лейб Фінка. На іх працавалі 8 чалавек. Агульную карціну індустрыі мястэчка дапаўнялі майстэрня па вырабу кашалькоў Хаіма Гендлера, паравы карамолачны млын у

[253] Шыбека, З. Гарады Беларусі... / З. Шыбека. – С. 106.
[254] Тамсама. – Арк. 69 адв.
[255] Тамсама.
[256] Тамсама. – Арк. 71.

маёнтку Вірыёна і шкіпідарны завод у фальварку Засценнікі[257]. Дробнатаварная вытворчасць Крынак, дзе на 104 прадпрыемствах стала працавалі 619 чалавек, была тыповай для краю. Астатняя вялікая колькасць працуючых была занята на сезонных работах. У сярэднім на прадпрыемствах працавалі пяць чалавек, хоць разыходжанні з найбуйнейшымі прадпрыемствамі складалі дзесяткі разоў. Такі выгляд прамысловасці Крынак адпавядае агульнаму стану эканомікі беларускіх губерняў таго часу. Своеасаблівасць яе была ў тым, што тут у значных памерах захавалася дробная прамысловасць, адной з форм якой былі рамёствы. Існуючыя дробнакапіталістычныя прадпрыемствы, колькасць працоўных на якіх складала ад 1 да 15 рабочых, па сутнасці, нічым не адрозніваліся ад рамесных майстэрань[258]. У 1885 г. на гэтай стадыі развіцця капіталізму знаходзілася 62,8 % гарбарных прадпрыемстваў Беларусі[259].

Але патрыярхам фабрычна-завадской індустрыі Крынак трэба лічыць тэкстыльную вытворчасць. Прадпрыемствы гэтай галіны пераважалі сярод іншых напрамкаў прамысловай вытворчасці ў 30–40-я гг. XIX ст. У 30-я гг. яны складалі 36 з 70 мануфактурных прадпрыемстваў Гродзенскай губерні[260].

Пачатак тэкстыльнай вытворчасці Крынак прыходзіцца на 20-я гг. XIX стагоддзя, але і заняпад таксама назіраўся ў тым самым стагоддзі. У 80-я гг., падчас росквіту гарбарства, тэкстыльныя прадпрыемствы заставаліся, але ўжо не былі вызначальнымі ў аб’ёмах крынкаўскай прамысловай вытворчасці. Найбольш раннія звесткі аб суконных фабрыках у мястэчку адносяцца да 1826-1827 гг. Архіўная справа “Аб колькасці фабрык і заводаў у Гродзенскай губерні” за 1927 год узгадвае суконнае прадпрыемства Ёселя Тодрыкавіча Геля, якое ў 1826 г. яшчэ не мела аб’ёмаў вытворчасці, а ў наступным годзе займалася вырабам баю і “коўдраў”[261]. У папярэднія гады – 1821, 1824 і 1825 – у аналагічных спісах губернскай вытворчасці аб Крынках нічога не згадваецца[262].

---

[257] Тамсама. – Арк. 70 адв., 74-74 адв.
[258] Абезгауз, З.Е. Развитие капитализма и формирование пролетариата Белоруссии... / З.Е. Абезгауз. – С. 25, 26.
[259] Тамсама. – С. 28.
[260] Лютый, А.М. Социально-экономическое развитие Белоруссии... / А.М. Лютый. – С. 148.
[261] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 2. Адз. зах. 500. Арк. 644.
[262] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 2. Адз. зах. 500. Арк. 489. Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 2270. Арк. 116.

Фабрыка Ёселя Геля знаходзілася ў асобным драўляным будынку побач з яшчэ трыма драўлянымі вытворчымі пабудовамі, у тым ліку фарбавальняй. Прадукцыяй гэтага прадпрыемства было сукно шэрага колеру, цёмна-зялёны бай і белая байка. На фабрыцы працавалі 5 чалавек. У дакументах захавалася імя падмайстра Ёселя Геля – Лейгяровіча. Працэс вытворчасці патрабаваў адпаведнай сыравіны – воўны, крэйды, фарбаў, галыны, кіпарысавага алею. Усё гэта набывалася ў Крынках і Гродне. Менавіта там рэалізоўвалася ўсё выраблenae. Увогуле геаграфія продажу тавару з фабрыкі Геля ахоплівала розныя мясцовасці Гродзеншчыны і Віленшчыны[263]. Хутчэй за ўсё фабрыка была адчынена ў 1827 годзе. Тады было выраблена 1000 аршын баю і 90 аршын байкі белай[264]. Сукно пачалі вырабляць не адразу. У дакументах пазначаны 1828 год, тады яго было выткана 400 аршын[265]. У 1828 годзе фабрыка Геля – адзіная прамысловая вытворчасць у Крынках[266]. Яна будзе існаваць да 1833 г., калі па прычыне хутчэй за ўсё высокага сабекошту прадукцыі дзейнасць яе была амаль прыпынена[267]. У наступны, 1834 год, фабрыка Геля ўжо не фігуруе ў дакументах гродзенскай індустрыі[268].

Яшчэ адна старонка развіцця тэкстыльнай галіны ў Крынках звязана з імёнамі фабрыкантаў Івана Мольке і Івана Шульца, якія пасяліліся ў мястэчку ў 1840 г. і ў 1842 годзе арганізавалі ўласныя суконныя прадпрыемствы. Шульц зрабіў гэта сумесна з крынкаўцам Аўсеем Кучарам, а Мольке – з Бучкай Волманам[269]. У першы год дзейнасці фабрыка Мольке вырабляла два гатункі тканіны: цёмна-шэрае сукно і сукно цёмных колераў. Прадпрымальнік меў тры станы, дзе выраблялася 8000 аршын матэрыі на суму 6814 рублёў 85 капеек[270]. Як і ў Геля, сыравіна на фабрыкі Мольке і Шульца трапляла з навакольнай мясцовасці. Продаж ажыццяўляўся ў Крынках, Гродне і Вільні. Часткова тавары адпраўляліся ў Мінскую губерню[271]. Іван

[263] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 3. Адз. зах. 72. Арк. 4 адв., 5.
[264] Тамсама. – Арк. 16 адв., 124.
[265] Тамсама.
[266] Тамсама. – Арк. 126.
[267] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 27. Адз. зах. 486. Арк. 40.
[268] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 27. Адз. зах. 487. Арк. 45.
[269] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 20. Адз. зах. 478. Арк. 11, 12; Ф. 1. Воп. 20. Адз. зах. 679. Арк. 125.
[270] Тамсама. – Арк. 122 адв.
[271] Тамсама. – Арк. 123.

Шульц вырабляў толькі адзін гатунак тканіны – цёмна-шэрае сукно. Вытворчасць у 1928 годзе базавалася на 4 станах з агульным аб'ёмам 10 000 аршын. Кошт выробленага таксама складаў 10 000 рублёў. Для вытворчасці такой колькасці тэкстыльнай прадукцыі было выкарыстана 400 пудоў сыравіны[272]. Праз чатыры гады фабрыка Шульца выпускала ўжо два гатункі сукна: цёмна-карычневае і светлае. Дзейнічалі на ёй цяпер два станы і выраблялася 3340 аршын на агульную суму 3340 рублёў. Колькасць працуючых зменшылася ўдвая, было восем вольнанаёмных рабочых і майстар[273].

Тэкстыльная вытворчасць мела прыхільнікаў і сярод гаспадароў Дзівапола. Аляксандр фон Ліпхарт першую фабрыку заснаваў у 1842 годзе, а пасля таго, як яна была знішчана падчас пажару ў маі 1849 г., пабудаваў новую, якая пачала дзейнічаць у красавіку 1850-га[274]. У 1846 годзе вытворчасць Ліпхарта называлася суконна-фланелевай фабрыкай, на якой выраблялася чатыры гатункі тканін – цёмна-шэрае і светлае сукно і фланель, у тым ліку цёмна-зялёнага колеру. Для вырабу сукна былі наладжаны 3 станы, для фланелі – 4. На адзінаццаці машынах працавалі 18 рабочых і майстар. Як і іншыя крынкаўскія фабрыканты, у 20–30-я гг. сыравіну для суконнай вытворчасці Ліпхарт знаходзіў у Крынках, а выраблены 6240 аршын сукна і 18 900 аршын фланелі на агульную суму 11 044 рублёў збываліся ў тых жа гандлёвых кропках[275], што былі адзначаны вышэй.

Ужо ў кастрычніку 1847 года фабрыка Ліпхарта істотна пашырылася. У двух памяшканнях выраблялася таксама сукно двух гатункаў, але большым аб'ёмам – 14 880 аршын агульным коштам 16 320 тысяч рублёў[276]. Колькасць рабочых павялічылася да 20 чалавек, аб'ём сыравіны – да 800 пудоў супраць 450 пудоў у мінулым годзе[277]. Чатыры будынкі Ліпхарт прыстасаваў для вырабу толькі фланелі, аб'ём вытворчасці якой таксама значна ўзрос. Цяпер яе выткана двух гатункаў 23 200 аршын на суму 10 560 рублёў[278]. На 16 машынах і 6 станах па вытворчасці фланелі ў Ліпхарта працавалі чатыры

---

[272] Тамсама. – Арк. 124 адв.
[273] Тамсама. – Арк. 464 адв. – 465.
[274] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 29. Адз. зах. 339. Арк. 39 адв. – 40.
[275] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 21. Адз. зах. 30. Арк. 151 адв. – 152.
[276] Тамсама. – Арк. 462 адв.
[277] Тамсама. – Арк. 463.
[278] Тамсама. – Арк. 464 адв. – 465.

вольнанаёмныя рабочыя і два майстры[279]. Параўноўваючы развіццё фабрыкі А. Ліпхарта ў 1850 і 1853 гг., адзначым, што для росту вытворчасці спатрэбілася павялічыць колькасць машын з 8 да 13 і колькасць рабочых з 30 да 90[280].

Табліца 2[281]

| Час | 1850 | | | 1853 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | станы | колькасць (шт.) | кошт (руб.) | станы | колькасць (шт.) | кошт (руб.) |
| Чорнае сукно па 20 руб./арш. | 7 | 1000 | 2000 | 11 | 9400 | 18000 |
| Цёмна-карычневае сукно па 1 руб. 20 кап./арш. | | 6000 | 720 | | | |
| Светла-шэрае сукно па 1 руб. 20 кап. /арш. | | | | | 7500 | 9000 |
| Цёмна-шэрае сукно па 90 кап./арш. | | | | | 1500 | 1350 |
| Светла-шэрае сукно па 1 руб. 5 кап./арш. | | 400 | 420 | | | |
| Аліўкавае сукно па 2 руб. 25 кап./арш. | | | | | 4000 | 9000 |

Усю працу выконвалі вольнанаёмныя з ліку мясцовых жыхароў. Для вырабу прадукцыі ў 1853 годзе было выкарыстана 1400 пудоў воўны. У 1853 годзе гэтае буйное прадпрыемства з'яўляецца адзінай суконнай фабрыкай у Крынках[282]. Памеры вытворчасці тэкстылю ў Крынках не былі вялікімі. Наадварот, аб'ёмы крынкаўскіх і нават панскіх магутнасцей істотна саступалі буйнейшым прадпрыемствам Беластока і Лодзі. Напрыклад, фабрыка Ліпхарта з аб'ёмамі ў 20 000 рублёў гадавога абароту непараўнальная з прадпрыемствамі купца Захерта (250 000 руб.) ці Бухгольца (99 000 руб.) у Супраслі, Альберціна (75 000 руб.), Міхайлава памешчыка Міхайлаўскага (205 000 руб.), Харошчы (200 000 руб.), прамыслоўцы Малхі Блахоўскай з Беластоку (82 000 руб.) [283].

У парэформенны перыяд індустрыяльнае развіццё Крынак вызначалася дзейнасцю прадпрыемстваў розных галін. Побач з тэкстыльнай развіваюцца гарбарства, вінакурэнне. Архіўныя матэрыялы дазваляюць паслядоўна прасачыць працэс індустрыялізацыі мястэчка.

[279] Тамсама. – Арк. 465.
[280] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 29. Адз. зах. 339. Арк. 39 адв. – 40; Ф. 1. Воп. 28. Адз. зах. 430. Арк. 1 адв.
[281] Тамсама.
[282] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 28. Адз. зах. 430. Арк. 183.
[283] Материалы для географии статистики России. Гродненская губерния… – С. 283-284.

Каштоўна тое, што дакументы змяшчаюць такія характарыстыкі, як аб'ёмы вытворчасці, кошт прадукцыі, колькасць працуючых, аб'ёмы і склад сыравіны, згадваюць геаграфію гандлю вырабленымі таварамі. Для аналізу возьмем 70-я гг. XIX стагоддзя. Наш выбар абумоўлены як найбольшай калекцыяй крыніц, так і тым, што гэтае дзесяцігоддзе было апошнім адрэзкам расійскага перыяду, калі ў Крынках суіснавалі дзве вельмі развітыя галіны вытворчасці: суконная і гарбарная. У далейшым абставіны жыцця і кан'юнктура рынку павернуцца ў бок гарбарства*. Пакуль жа, у 1870 годзе, побач з суконнымі фабрыкамі дзейнічаюць два вінакурныя заводы і шэсць гарбарняў.

На вінакурным заводзе Вірыёна працавалі шэсць рабочых, якія выраблялі 40 000 вёдзер спірту. Завод Марыі фон Ліпхарт, які знаходзіўся ў той час у арэндным валоданні купца 2-й гільдыі Бучкі Крынскага і на якім працавалі восем чалавек, выдаваў у год 15 370 вёдзер на суму 22 094 рублі[284].

Словам, вінакурствам называлася вытворчасць водкі. Ужо адзначалася, што гэтым відам прадпрымальніцтва па заканадаўству Расійскай імперыі маглі займацца толькі памешчыкі. Хаця практычнае яго ажыццяўленне знаходзілася ў руках упраўленцаў вінакурняў, вінакураў, арандатараў з ліку крынкаўскіх мяшчан. У маёнтках Крынкі яшчэ з часоў Сакалова і Дзівова былі вінакурні. Дробная вытворчасць паступова ператварылася ў фабрычна-завадскую ў 1862 годзе. Тады ў мястэчку былі арганізаваны два заводы: завод № 23 (Івана Вірыёна) і завод № 24 (Аляксандра фон Ліпхарта). З гэтага часу яны будуць заўсёды фігураваць разам як прыклад вінакурства ў Крынках. На працягу іх развіцця (№ 23 – ажно да 1915 года, а № 24 – да 11 лютага 1905 г.) на іх служылі і працавалі многія прадпрымальнікі мястэчка. Вінакурства заўсёды будзе прываблiваць іх, бо заўжды дае ўстойлівы і немалы прыбытак. У 1885 г. управіцелем завода Вірыёна быў нават будучы "кароль скуры" Аншэль Кнышынскі. З наступнага года даволі працяглы тэрмін арганізатарам вытворчасці з'яўляўся Юрка Іцкавіч Берэк. Яго зменіць С.А. Ляспіцкі ў 1897 г. За ўвесь час дзейнасці завода № 23 змянілася нямала вінакураў, прафесійным абавязкам якіх

---

* Распаўсюджанасць суконнай прамысловасці на 1900 г. звузілася ў сувязі з заняпадам у Беларусі танкаруннай авечкагадоўлі (Шыбека, З. Гарады Беларусі... / З. Шыбека. – С. 111).

[284] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 14. Воп. 1. Адз. зах. 372. Арк. 454 адв. – 455, 457 адв. – 458.

было кантраляваць узровень прадукцыі. Да 1885 г. фігуруе вінакур Сроль Грынфельд, яго мяняе В. Серліг, у пачатку 90-х прыходзіць Пётр Кракавяк, якога ў 1899 годзе змяняе Стэфан Пясецкі. Да 1915 г. на заводзе Вірыёна працавалі вінакуры Ігнат Скаржыцкі, Станіслаў Квасавец і Чэслаў Гаўронскі[285].

Адметнаю асаблівасцю гаспадарання на заводзе № 23 было тое, што Вірыёны ўвесь час самі кіравалі вытворчасцю, без арандатараў. На заводзе № 24, наадварот, частая змена гаспадароў і вялікая запазычанасць Дзівапола абумовілі фактычнае ўсеўладдзе на заводзе арандатараў. Першым з іх быў Берка Крынскі[286]. Ён гаспадарыў да 1872 г., потым яго змяніў купец Рафалоўскі[287]. З 1883 г. арандатарам завода становіцца вядомая Энта Якаўлеўна Рафалоўская-Вольфсан[288]. Маштабы вытворчасці на заводзе ў часы яе кіравання былі максімальныя за ўсю гісторыю яго існавання. Гэта дазволіла Рафалоўскай-Вольфсан неаднаразова фігураваць на старонках "жоўтай" прэсы як буйнейшай вытворцы водкі ў Крынках.

Кіраўніком на заводзе Дзівапола пэўны час быў Берка Берэк (1884-1885 гг.), які пазней будзе, як мы ўжо адзначалі вышэй, выконваць гэтую ролю ў Вірыёна. У 1887 г. гэтая пасада ўжо ў Меера Сяркоцкага. Вінакурамі ў розныя часы на заводзе № 24 былі Навіцкі, Вольф Айзікавіч Леў, Вітольд Адольфавіч Длугапольскі, Шлойма Давыдавіч Далінскі[289].

Параўноўваючы заводы Крынак з іншымі тагачаснымі вінакурнымі прадпрыемствамі, іх нельга назваць заможнымі. Але аб'ёмы іх вытворчасці цалкам задавальнялі попыт мясцовага рынку.

Пасля падзелу маёмасці памерлага 24 лютага 1897 г. Уладзіміра Іванавіча Вірыёна вінакурны завод атрымаў ягоны сын Уладзімір. Пасля смерці гэтага памешчыка кіравалі заводам апякуючыя маёмасцю, сярод якіх крынкаўскі ўрач Генрых Іванавіч Ржэчкоўскі. Завод Ліпхартаў стаў ахвяраю вялікіх запазычак яго гаспадароў Віленскаму зямельнаму банку. Гандаль з гэтай нагоды адбыўся ў ліпені 1904 г. у Вільні, дзе разам з маёнткам Ліпхартаў завод быў

[285] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 30. Воп. 1. Адз. зах. 6. Арк. 57, 65, 94, 137, 184, 490, 533.
[286] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 30. Воп. 1. Адз. зах. 7. Арк. 13.
[287] Тамсама. – Арк. 26.
[288] Тамсама. – Арк. 52.
[289] Тамсама. – Арк. 67, 77, 172, 186.

прададзены А.Г. Цвету. 11 лютага 1905 г. Цвет увогуле ліквідаваў гэтую вытворчасць[290].

Першымі, хто пачаў вытворчасць гарбарных вырабаў у вялікіх памерах, быў Якаў Копель Залкін, які меў мянушку “саф’янік”. Акрамя яго, на вялікія аб’ёмы выйшлі Нахум Аншэль Кнышынскі з партнёрамі Айзікам Крушынянскім і Хайкелем Алендам, якія набылі невялікую гарбарную вытворчасць у Моўшы Гімзшаса. Таксама трэба ўзгадаць Янкеля Матэса і Хершэля Гросмана, Лейбу Матэса, Янкеля Маўшэлеса, Януша Затца, Хершэля Янкеля Элкса, Севаха Элкса, Шмуэля “Амерыканца”, Ашэра Шыяса, Блохаў, Моўшу Шымхановіча, Элі Копеля, Ізраэля Эрцкі, Арчыка, Вельвеля і Ізраэля Лейбаў Рэйшэляў[291].

Табліца 3

| | Коль-касць чанаў | Рабо-чыя | Характар вытворчасці | Колькасць выраблenага (шт.) | Кошт выраб-ленага | Пабудовы, тэхніка, прыстасаванні |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Я. Блох | 4 | 2 | Выраб жывёльных і конскіх скур | Валоўі –100<br>Кароўі – 100<br>Цялячыя – 100<br>Конскія – 20 | 800 | Завод драўляны |
| М. Голуб | 4 | 1 | Тое самае | Валоўі – 80<br>Кароўі – 60<br>Цялячыя – 60<br>Конскія – 20 | 500 | Завод драўляны |
| К. Залкін | 5 | 2 | Тое самае | Валоўі – 100<br>Кароўі – 120<br>Конскія – 40<br>Апойкі – 50 | 1000 | Завод драўляны |
| А. Штурман | 3 | 1 | Тое самае | Валоўі – 50<br>Кароўі – 20<br>Конскія – 50<br>Апойкі – 50 | 300 | Завод драўляны |
| М. Гарбэр | 4 | 2 | Тое самае | Валоўі – 100<br>Кароўі – 100<br>Конскія – 20<br>Апойкі – 100 | 800 | Завод драўляны |
| А. Лістокін | 2 | 1 | Тое ж | Валоўі – 50<br>Кароўі – 50<br>Конскія – 20<br>Апойкі – 30 | 300 | Завод драўляны |

[290] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 30. Воп. 1. Адз. зах. 7. Арк. 189─191.
[291] Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry. – S. 45.

Прывядзем дадзеныя адносна дзейнасці ў 1870 годзе прадпрыемстваў, якія былі ў руках Янкеля Блоха, Шаі Голуба, Копеля Залкіна, Абрама Штурмана, Мотыся Гарбэра і Абрама Лістокіна[292].

Як бачна з дадзеных табліцы, гэтыя прадпрыемствы па колькасці працуючых на іх больш падобны на майстэрні. Толькі характар вытворчасці сведчыць аб кроку наперад у прамысловым развіцці ў бок фабрычнай вытворчасці. Характэрныя для гэтага этапу капіталізму ўзровень выкарыстання працоўнай сілы, імкненне за кошт абмежавання колькасці працуючых і адпаведнага росту аб'ёма работ павялічыць прыбыткі ў поўнай ступені назіраюцца і ў крынскіх гарбароў. Звяртае на сябе ўвагу і тая акалічнасць, што працуючыя на гарбарнях вольнанаёмныя паказаны ў дакументах як "рускія", гэта значыць, беларусы з мясцовых сялян. Дарэчы, аўтары "Pinkas Krynki" заўважаюць, што першымі наёмнымі рабочымі на гарбарнях былі татары і іх жонкі. Гэта не супярэчыць вышэйзгаданаму, бо нацыянальнай прыналежнасці "прамысловыя паперы" губернскіх уладаў не надавалі ўвагі.

Дакумент за 1872 год дае магчымасць уявіць памеры суконнай вытворчасці, а таксама развіцця гарбарства ў Крынках. На гэты год у мястэчку дзейнічае пяць суконных фабрык, шэсць гарбарных прадпрыемстваў, вінакурныя заводы Ліпхартаў і Вірыёнаў, піваварня Ліпхартаў і прадзільная фабрыка. Гэтая колькасць крынкаўскай індустрыі складала 100 % усіх суконных фабрык у Гродзенскім павеце, 10 % вінакурных заводаў, 100 % прадзільных, 40 % гарбарных прадпрыемстваў[293].Імёны Элі Віленскага, Хаіма-Янкеля Абрама Рыўкінда, Герца Герцкеса, Файвеля Шахновіча Копеля і Юдэля Марголіса – гэта імёны фабрыкантаў-текстыльшчыкаў Крынак у гэты час. У нас ёсць магчымасць параўнаць іх вытворчасць з папярэднікамі-пачынальнікамі тэкстыльнай індустрыі ў мястэчку. Табліца 4 змяшчае дадзеныя за два гады – 1872 і 1873[294].

Плату рабочыя на гэтых прадпрыемствах за сваю працу атрымлівалі розную: ад 15 рублёў у год у Герцкеса да 120 рублёў у Марголіса (па 15 капеек за аршын). Але практычна сума заработнай платы вагалася ад 45 да 50 рублёў.

---

[292] Тамсама. – Арк. 864 адв. – 865, 866 адв. – 867, 868 адв. – 869, 870 адв. – 871, 872 адв. – 873, 874 адв. – 875.
[293] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 23. Адз. зах. 165. Арк. 7 адв., 9, 17 адв., 82.
[294] Тамсама. – Арк. 80– 84; Ф. 14. Воп. 1. Адз. зах. 374. Арк. 3–6.

Табліца 4

| | Гатункі тканіны | | Аб'ём вытворчасці (арш.) | | Кошт выраб-ленай пра-дукцыі (руб. срэбрам) | | Станы (шт.) | | Рабочыя | | Пабудовы, тэхніка, пры-стасаванні |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1872 | 1873 | 1872 | 1873 | 1872 | 1873 | 1872 | 1873 | 1872 | 1873 | 1872/1873 |
| Э. Віленскі | Трыко суконае па 1 руб. 60 кап./арш. | Тое самае па 75 кап./арш. | 1600 | 800 | 2560 | 600 | 4 | 1 | 4 | Сам | Станкі драўляныя, ручныя, аднапавярховы драўляны будынак |
| Х.-Я. Рыўкінд | Простае трыко па 75 кап./арш. | Тое самае | 1000 | 700 | 750 | 750 | 4 | 1 | 5 | Сам | Тое самае |
| Г. Герцкес | Трыко па 1 руб./арш. | Няма дадзе-ных | 700 | Няма дадзе-ных | 1050 | Няма дадзе-ных | 6 | Няма дадзе-ных | 6 | Няма дадзе ных | Ручныя станкі, мураваны двухпавярховы будынак |
| Ф.Ш. Копель | Трыко па 1 руб. 50 кап./арш. | Тое самае | 300 | 300 | 450 | 450 | 2 | 2 | 2 | 2 | Ручныя станкі, аднапавярховы драўляны будынак |
| І. Марголіс | Трыко па 60 кап./арш. | Трыко па 75 кап./арш. | 2400 | 800 | 1400 | 600 | 3 | 1 | 3 | Сам | Ручныя станкі, аднапавярховы драўляны будынак |

Прадзільная фабрыка Беркі Крынскага ўтрымлівала восем драўляных машын, на якіх працавалі 15 рабочых з ліку "рускіх" пад кіраўніцтвам майстра. Размяшчаліся яны ў двухпавярховым драўляным будынку. Аб'ём вытворчасці гэтай адзінай у павеце прадзільнай фабрыкі склаў у 1872 годзе 800 пудоў пражы на суму 12 680 рублёў срэбрам. Заробак прадзільшчыкаў складаў 40 рублёў у год, майстар меў у тры разы болей – 150 рублёў[295].

[295] Тамсама. – Арк. 270.

Вінакурні Вірыёна і Ліпхартаў у 1872 годзе выраблялі 16 800 і 20 000 вёдзер адпаведна на суму 53 760 і 60 200 рублёў[296]. На гэтых прадпрыемствах рабочыя зараблялі за год 46 рублёў у Вірыёна і 60 рублёў у Ліпхарта[297]. Вытворчасць Вірыёна размяшчалася ў двухпавярховым будынку, першы паверх якога быў мураваны. Ліпхарты свой завод размясцілі ў драўлянай двухпавярхоўцы. Кошт выробленай водкі з акцызам (як занатавана ў дакументах "Віно 40º") складаў у Вірыёна 3 рублі 20 капеек. Ліпхартаўскі прадукт быў на 10 капеек таннейшы.

Акрамя вінакурнага завода, у Дзіваполе ў драўляным двухпавярховым будынку варылася звычайнае піва. Гаспадарыў на ўмовах арэнды на той час у піваварні купец 2-й гільдыі Янкель Гірш. У 1872 годзе піваварня Ліпхартаў прадстаўляла на рынак, пераважна мясцовы, 60 400 вёдзер піва. Два рабочыя за такую працу атрымалі за год па 100 рублёў.

Гарбары працавалі ў тым жа складзе, што два гады назад. Звяртае ўвагу той факт, што за непрацяглы час усе яны зменшылі сваю вытворчасць (гл. табліцу 5), але кошт яе ўзрос удвая і болей. Праблем са збытам у Гродне, Беластоку, саміх Крынках у фабрыкантаў не было. 50–75 рублёў у год атрымлівалі іх рабочыя. Выключэннем з'яўляецца непісьменны Абрам Лістокін, які не меў рабочых і працаваў сам. Спатрэбіцца дваццаць чатыры гады жыцця, каб прозвішча Лістокіна з'явілася ў найбольш папулярным інфармацыйным зборніку Расійскай імперыі "Вся Россия" сярод буйных крынкаўскіх гарбароў-прадпрымальнікаў. Аб'ёмы вытворчасці Лістокіна згодна з дадзенымі гэтага зборніка складалі 5000 штук скур у год. У 1872 годзе гэта пакуль звычайная саматужная вытворчасць.

Вынікі вытворчасці крынкаўскіх тэкстыльшчыкаў дэманструюць тэндэнцыю змяншэння аб'ёмаў прадукцыі і адначасова павялічэнне яе кошту. Праз два гады, у 1875 годзе, у Крынках згадваюцца суконныя фабрыкі Э. Віленскага, Ю. Марголіса, Х.Я. Рыўкінда, а таксама прадпрыемствы Беркі Хаіма Рызкінда і Зундэля Шмуклера. У

---

[296] Тамсама. – Арк. 350, 351.
[297] Тамсама.

Нетупе дзейнічае фабрыка Хаіма-Янкеля Гіршэвіча Маўшовіча[298]. Гэта ўсё суконныя магутнасці Гродзенскага павета, і кожная шостая – у губерні[299]. Шэрагі крынкаўскіх гарбароў папоўніліся асобай прадпрымальніка Юдэля Ліпніка[300]. Крынскія вытворцы скур складалі больш паловы ўсіх гарбароў павета і 7% – губерні.

Табліца 5[301]

| | Колькасць чанаў | Рабочыя | Колькасць вырабленага (штук) | Кошт вырабленага (руб.) | Пабудовы, тэхніка, прыстасаванні |
|---|---|---|---|---|---|
| Я. Блох | 3 | 2 | Валоўі – 100<br>Кароўі – 100<br>Конскія – 50<br>Апойкі – 50 | 1325 | У драўляным будынку |
| М. Голуб | 4 | 2 | Валоўі – 80<br>Кароўі – 30<br>Конскія – 100 | 1030 | Тое самае |
| М. Залкін | 4 | 2 | Валоўі – 100<br>Кароўі – 100<br>Конскія – 50<br>Апойкі – 50 | 1325 | Тое самае |
| А. Штурман | 4 | 2 | Валоўі – 80<br>Кароўі – 30<br>Конскія – 20 | 1030 | Тое самае |
| М. Гарбэр | 4 | 2 | Валоўі – 600<br>Кароўі – 100<br>Конскія – 20<br>Апойкі – 50 | 1600 | Тое самае |
| А. Лістокін | 2 | Без рабочых | Валоўі – 40<br>Кароўі – 30<br>Конскія – 20<br>Апойкі – 40 | 805 | Тое самае |

У канцы 70-х гг. у мястэчку налічвалася адзінаццаць суконных фабрык. Сярод вядомых нам іх гаспадароў – З. Шмуклер (750 аршын), Ліпхарты (11 175 аршын), Э. Віленскі (1500 аршын), Ю. Марголіс (1350 аршын). Большасць фабрыкантаў з’явілася, напэўна, у другой палове дзесяцігоддзя[302]. Найлепшыя памеры вытворчасціназіраліся ў Ю. Тамлібга – 20 000 аршын за 1879 год на суму 10 800 рублёў. Вінакурні памешчыкаў давалі стабільна па 20 000 вёдзер спірту[303].

[298] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 14. Воп. 3. Адз. зах. 79. Арк. 1.
[299] Тамсама. – Арк. 16.
[300] Тамсама. – Арк. 4, 6, 10 адв.
[301] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 23. Адз. зах. 165. Арк. 781–786.
[302] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 14. Воп. 1. Адз. зах. 378. Арк. 1 (новыя імёны – Юдэль Тамлібг, Берк Рафкінт, Шмойла Фарбер, Мэер Беластоцкі, Селгел Гдаль, Моўша Марголіс, Янкель Зейлiковіч).
[303] Тамсама. – Арк. 5.

Колькасць гарбароў павялічылася дзякуючы ўступленню ў іх шэрагі Абрама Фінка і прадпрымальніка з прозвішчам Штурман З.[304]. Аб’ём вытворчасці за дзесяцігоддзе ўзрос у некалькі разоў і найбольшым быў у Я. Блоха (5800 штук у год на суму 4000 рублёў срэбрам). Абрам Лістокін за сем гадоў павялічыў сваю вытворчасць больш чым у 10 разоў.

За тры дзесяцігоддзі Крынкі канчаткова ператвараюцца ў сапраўдны горад з даволі разгалінаванай індустрыяй і шматвектарным гандлем. Толькі геаграфія набыцця скур для гарбарняў уключала ў сябе рынкі Сібіры, Каўказа, Германіі, Аўстрыі, Францыі, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі[305]. Нягледзячы на тое, што першыя гарбарныя прадпрыемствы з’явіліся ў Крынках не адно дзесяцігоддзе назад, сапраўдны “бум” гэтай вытворчасці назіраўся ў канцы 80 – 90-я гг. XIX стагоддзя[306]. Ужо на самым пачатку дваццатага стагоддзя ў мястэчку было 14 гарбарных заводаў з больш чым 1000 рабочых. У 1904 г. 16 гарбарных заводаў Крынак выраблялі прадукцыю на 1 500 000 рублёў[307]. Пры чатырохтысячным тагачасным насельніцтве такая колькасць працуючых у гарбарстве рабіла гэтую сферу вытворчасці Крынак горадазаснавальнай. Пра яе памеры мы ўжо згадвалі, але звернем увагу на тое, што працэс прамысловага росту прыпыніцца толькі вайной і рэвалюцыйнымі катаклізмамі.

Да апошняга, да прымусовага бежанства 1915 г., ствараюцца новыя і пашыраюцца вытворчыя магутнасці старых прадпрыемстваў. Ніколі не прыпынялася тэхнічнае ўдасканаленне вытворчасці, аб якім мы пагаворым асобна.

Увесь час пашыралі сваю вытворчасць таленавітыя прадпрымальнікі Аншэль і Бэр Кнышынскія. Маючы адзін з найбольшых сярод крынкаўскіх гарбароў прыбытак, Аншэль працягвае будаваць новыя вытворчасці. У 1909 годзе ім быў зроблены шэраг новых прыбудоў для розных этапаў апрацоўкі і захавання скуры[308].

---

[304] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 14. Воп. 3. Адз. зах. 79. Арк. 16.
[305] Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry. – S. 64.
[306] Гродзенскія губернскія ведамасці. – 1900. – № 194.
[307] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1689. Арк. 73.
[308] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1959. Арк. 1, 5.

Ва ўмовах ваеннага становішча і штодзённай небяспекі эвакуацыі пачынаюцца новыя гарбарныя справы. У студзені 1915 года план будаўніцтва завода, зацверджаны Будаўнічым камітэтам Гродзенскай губерні, атрымаў Пейсах Барухавіч Здзіткоўскі[309]. Новыя вытворчыя будынкі павінны былі з'явіцца паміж заводамі Моўшы Гарбэра і Хайкеля Ольяна. Пры Гранічнай і Парэцкай вуліцах у 1914-1915 гг. сваю вытворчасць ладзіць Янкель Юдэлевіч Леў[310]. Сын вядомага Аншэля Кнышынскага, Бэр у чэрвені 1914 г. таксама атрымаў дазвол на пашырэнне свайго завода ў Гранічным завулку[311]. У 50 квартале, дзе можна было размяшчаць гарбарні, пачаў будаваць тры заводы купец Янкель Моўшавіч Марголіс[312]. Дазвол на буйное будаўніцтва ён атрымаў 28 красавіка 1915 года, амаль за два месяцы да пачатку масавага наступлення кайзераўскіх войск на Усходнім фронце, якое стане прычынай так званага "Вялікага адступлення", у тым ліку і з Крынак. Тады ж прыступіў да будаўніцтва свайго завода Ольян Гіршавіч Хайкель[313].

Увесь час поруч з развіццём прамысловай вытворчасці ў Крынках ішоў гандаль. Арганізатары вытворчасці і арганізатары гандлю арганічна дапаўнялі адзін аднаго ў агульнай карціне крынкаўскага капіталізму. Сума гадавога гандлёвага абароту ў мястэчку на 1901–1904 гг. у сярэднім складала 1 200 000 рублёў[314]. Погляды крынкаўскіх прадпрымальнікаў, якія мелі заводы, былі накіраваны на буйныя гандлёвыя цэнтры Расіі, Еўропы і нават Амерыкі. У Расіі адным з іх улюбёных месцаў не адзіны год была Ніжнегародская ярмарка, куды штораз накіроўваліся крынкаўскія прадпрымальнікі. Менавіта на ёй вызначаўся кошт на сыравіну мясцовай вытворчасці амаль на цэлы год. Чуйны аптовы рынак уплываў як на расійскіх, так і на замежных пакупнікоў. Уласны карэспандэнт "Нашага слова" дазваляе сабе паставіць крынкаўскую вытворчасць у адзін шэраг з амерыканскай гарбарнай вытворчасцю. Аргументам яго з'яўляецца

[309] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 2084. Арк. 10-11.
[310] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 2025. Арк. 21, 24.
[311] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 2171. Арк. 3.
[312] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 2183. Арк. 4, 10.
[313] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 2251. Арк. 21.
[314] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 18. Воп. 1. Адз. зах. 5. Арк. 286 адв. (для параўнання: гэты ж паказчык на той час для Скідзеля складаў 210 000 руб., а для Індуры – 50 000 рублёў).

аналіз набыцця сырых конскіх скур[315]. Ён паказвае адметныя рысы крынкаўскай вытворчасці, а таксама яе месца на еўрапейскім рынку скураных вырабаў. “Амерыканскія гарбары, – кажа карэспандэнт “Нашего утра”, – набываюць коней у вялікай колькасці для рэзкі, але бяруць толькі пярэднія часткі скуры і пакідаюць заднюю частку тут. Ад колькасці закупак для Амерыкі заўсёды залежаць цэны, з якімі нашым заводчыкам вымушана давядзецца лічыцца. Акрамя таго, амерыканцы заўсёды плацяць значна больш, конскую скуру ўжываюць на больш каштоўныя вырабы, у той час калі ў нас скура каня ідзе толькі на мяккія боты, так званы “гамбургскі” тавар”[316]. Прамысловасць і гандаль Крынак спрыялі перыядычным пад’ёмам мястэчка: росту ўвагі да яго з боку ўладаў, а значыць, і большаму прытоку фінансавых сродкаў. Пасля эпохі Тызенгаўза гэта быў другі ўздым Крынак перад чарговым заняпадам, выкліканым вайною і рэвалюцыямі.

[315] Наше утро. – 1912. – № 65. – 5 августа.
[316] Тамсама.

# Тэхнічны прагрэсс

Тэхнічны прагрэс у індустрыі стаў адметнасцю Крынак спачатку ў тэкстыльнай, а потым у гарбарскай галінах, дзе ўладары ўласнай вытворчасці імкнуліся ўжыць чарговыя "ноу-хау" для павелічэння прыбыткаў. І гэта зразумела. Бо без новых тэхналогій нельга было разлічваць на годны ўзровень вытворчасці. Таму амаль адразу пасля арганізацыі першых вытворчых магутнасцей іх гаспадары "бамбардзіравалі" губернскія ўстановы зваротамі аб дазволе пераабсталяваць сваю вытворчасць, свае заводы і майстэрні.

Паравыя катлы на галоўных гарбарных заводах працавалі даўно, ужо не менш за 30 гадоў, з сярэдзіны 60-х. Іх усталяванне, "поруч са стагоддзем", было сведчаннем грунтоўнасці гарбарнай традыцыі ў мястэчку. З цягам часу кожны фабрыкант спрабаваў замяніць, ва ўсялякім выпадку, капітальна адрамантаваць гэтую выключна важную частку сваёй вытворчасці. На час першага дзесяцігоддзя ХХ стагоддзя прыходзіцца хваля такіх рамонтаў.

Адной з перашкод на гэтым шляху была не нейкая тэхналагічная акалічнасць, а звычайнае адміністрацыйнае парушэнне. Справа ў тым, што нямала гарбарных ды іншых прадпрыемстваў Крынак былі створаны... самавольна. Гэта значыць, без афіцыйнай згоды губернскіх мясцовых грамадзянскіх уладаў ці ўладароў чыншавых зямель мястэчка, памешчыкаў Крынак. Гэта тычылася і Аншэля Кнышынскага, і Копеля Залкіна, і Элі і Цэлькі Блохаў[317]. Без дазволу пабудавалі ў 1871 г. двухпавярховыя будынкі Іосіф Марголіс і Герц Герцкес[318]. Таму і адказы ўладаў на прапановы тэхнічнага ўдасканалення былі адмоўныя.

Але час браў сваё. Патрэбныя пераабсталяванні адбываліся, бо павелічэнне прыбытку фабрыкантаў цягнула за сабою развіццё гандлю, інтэнсіфікацыю таварна-грашовых адносін у краі, рост заможнасці насельніцтва. А гэта давала спадзяванне на спраўджанне дзвюх галоўных мэт кожнай улады: спакой сярод насельніцтва і грошы ў скарбе. Таму тэхнічнае абсталяванне паступова і непахісна адбывалася. Сваю ролю ў гэтай справе адыграў і хабар[319].

[317] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1138. Арк. 4.
[318] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 1. Адз. зах. 1596. Арк. 1.
[319] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1159. Арк. 6.; Адз. зах. 1076. Арк. 12.

Першыя тэкстыльныя прадпрыемствы ў Крынках, і яны ж першыя прадпрыемствы ў мястэчку ўвогуле, ужо мелі адпаведнае тэхнічнае абсталяванне. У 1827 годзе фабрыка Ёселя Геля мела дзве прадзільныя машыны, чатыры станкі, вялікі медны кацёл для фарбавання, дзве машыны для змотвання знітаванай пражы ў маткі і яшчэ 8 машын[320]. У гаспадароў Івана Шульца і Івана Мольке ў 40-я гг. было ўжо іншае абсталяванне. Мольке меў Фуршып-машыну, Грэмп-машыну, Фані- і Фані-шпіль машыны, Флік-машыну. На іх працавалі 16 чалавек пад кіраўніцтвам майстра[321]. На фабрыцы Шульца працавалі 18 рабочых з майстрам на дзвюх Грэмп-машынах, дзвюх Форшпін-машынах, трох Фані-машынах і адной Флік-машыне[322]. Такая самая тэхніка была і ў Ліпхарта, толькі ў значна большай колькасці. Форшпіль-машын памешчык меў чатыры, столькі ж было Флік- і Фані-шпіль машын, дзве Фані-машыны, Грэмп-машын было восем[323]. Усе машыны прыводзіліся ў рух цяглавай сілай коней[324].

Машыны, якія выкарыстоўвалі ў тэкстыльнай вытворчасці крынкаўскія прадпрымальнікі, былі featureзнай якасці. Зразумела, што набыць новую і дарагую мадэль не кожнаму было па кішэні. Таму куплялі тыя, на якія хапала сродкаў, нават “з трэціх рук”[325]. Рабоце такой тэхнікі нярэдка спадарожнічалі смурод, вялікая задымленасць, што ў сваю чаргу выклікала шматлікія нараканні і скаргі з боку суседзяў прадпрымальніка. Напрыклад, домаўладальнік Ёсель Лейбавіч Карэнгольд з прычыны пажарнай бяспекі або, можа, звычайнай чалавечай зайздрасці (хто цяпер даведаецца?) звярнуўся са скаргаю на фабрыкантаў Зундэля Шмуклера і Баткоўскага. Змест скаргі заключаецца ў патрабаванні да гэтых гаспадароў не ставіць набытыя імі паравыя машыны як тэхніку дрэнную, якая, маўляў, небяспечная для двара Карэнгольда і пабудоў на ім[326]. Справа ў тым, што гэтыя прадпрымальнікі для павелічэння вытворчасці вырашылі замяніць конскі прывад паравымі машынамі. Справа была ў 1867 годзе. Яны закупілі гэтыя паравыя машыны, Шмуклер – новую і

[320] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 3. Адз. зах. 72. Арк. 4 адв.
[321] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 20. Адз. зах. 679. Арк. 123.
[322] Тамсама. – Арк. 124 адв.
[323] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 21. Адз. зах. 30. Арк. 465, 469 адв.
[324] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 29. Адз. зах. 339. Арк. 40; Ф. 1. Воп. 28. Адз. зах. 430. Арк. 196.
[325] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 1. Адз. зах. 1593. Арк. 10.
[326] Тамсама. – Арк. 10-11 адв.

ўдасканаленую на 6 атмасфер, Баткоўскі – на чатыры атмасферы, але ўжо далёка не новую[327]. Вытворчы плац Шмуклера знаходзіўся ў цэнтры Крынак і выходзіў на галоўную плошчу. Пабудовы Баткоўскага размяшчаліся на крынкаўскай ускраіне, каля ракі. Карэнгольд убачыў у суседстве з Шмуклерам небяспеку, але камісія, якая разглядала скаргу, небяспекі не знайшла. Дарэчы, у Крынках, як, прынамсі, і ў іншых чыншавых мястэчках, акрамя дзяржаўных уладаў, быў яшчэ адзін накірунак даслання сваіх прашэнняў – двор маёнтка. Таму Карэнгольд звярнуўся да Ліпхарта. Ён адмовіў Шмуклеру ва ўсталяванні паравой машыны ў цэнтры мястэчка і параіў яму пабудаваць вытворчасць на ўскраіне[328].

Гэты прыклад не адзінкавы і па-свойму паказальны. Ён, апроч іншага, сведчыць аб агульным працэсе прыстасавання жыхароў Крынак да павелічэння колькасці тэхнікі вакол іх, уздзеяння яе на іх жыццё і здароўе. Гэтыя навіны выклікалі зразумелую негатыўную рэакцыю, тым больш, што часта (дзеля гэтага і рабілася) тэхнічны прагрэс суседстваваў з ростам дабрабыту яго завадатараў-прадпрымальнікаў. Разуменне, што тэхнічнае абсталяванне павялічвае вытворчасць і зніжае сабекошт тавараў, успрымалася горш, чым факт заможнасці суседа.

Інтэнсіфікацыя вытворчасці адбывалася ў кожнай галіне прамысловасці. Так, энергічная гаспадыня ліпхартаўскага маёнтка ў Крынках, якая дзейнічала ад імя ўнучкі заснавальніка Дзівапола Е.А. Раслаўлёвай, купчыха 2-й гільдыі Энта Янкелеўна Рафалоўская нездарма фігуравала на старонках усерасійскай “жоўтай” прэсы як галоўная прадпрымальніца ў вінакурстве Крынак. Яшчэ ў 1883 годзе яна распарадзілася, каб на старым ліпхартаўскім вінакурным заводзе ўсталявалі новыя катлы з вялізным дымавым комінам[329]. У выніку адно з самых старых крынскіх прадпрыемстваў набыло новае жыццё.

Бесперапынна, і ўзімку, і летам, вытворчасць вялася пераважна экстэнсіўнымі сродкамі. Яна ўражвае выключна цяжкай і практычна ручной працай. Фабрычна-завадскі тып прадпрыемстваў не быў распаўсюджаны. У мястэчку пераважала дробная вытворчасць[330].

---

[327] Тамсама. – Арк. 10.
[328] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 1. Адз. зах. 1478. Арк. 9.
[329] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 1. Адз. зах. 425. Арк. 2.
[330] Абезгауз, З.Е. Згад. твор / З.Е. Абезгауз. – С. 25, 26.

Выключна адмоўныя ўмовы працы кідаліся ў вочы самім сучаснікам. На кожным гарбарным прадпрыемстве мелася два аддзяленні: мокрае і сухое. У мокрым, дзе працавалі як сяляне суседніх вёсак, так і габрэі мястэчка, скура ачышчалася ад валасоў і мяздры – ніжняй мясістай паверхні скуры. Збіванне мяздры рабілася і ўручную, і з дапамогаю машын. Напрыклад, была такая машына Жульена[331]. Але архіў не згадвае пра набыццё і ўсталяванне такіх машын. У сухім памяшканні канчаткова скуры апрацоўвалі і фарбавалі бычынай крывёю, а таксама надавалі ёй бляск. Прылады працы выкарыстоўвалі вельмі простыя. Тым не менш, уся вытворчаць патрабавала пэўных навыкаў. Тыя з рабочых, хто толькі сутыкаўся з гэтым працэсам, прызвычайваўся да яго і авалодваў яго працэсамі на працягу года, а то і больш.

Праца ў "сухім" аддзяленні была больш складанай і мела пэўнае падзяленне. Пераважна яе выканаўцамі былі габрэі-мяшчане. Усе працавалі з сямі раніцы да паловы дзевятага, маючы два перапынкі на снеданне і абед. Можна было працаваць з пяці гадзін раніцы да васьмі вечара.

Рабочыя падзяляліся на дзве катэгорыі. Майстры выконвалі ролю адміністрацыі завода. Яны кіравалі працай і мелі непасрэдныя стасункі з гаспадарамі завода. Апошнім было больш зручна мець адносіны з майстрамі, чым з усімі рабочымі прадпрыемства. Па тэхнічных ведах майстры амаль не адрозніваліся ад асноўнай, шматлікай групы рабочых – падручных. Майстры ж іх і наймалі.

Заробак майстра "сухога" аддзялення ў тыдзень складаў да 25 рублёў. Падручныя мелі ад 3 да 6 рублёў за той самы час працы[332]. У цэлым за працу, якая ішла ўвесь год, максімальны заробак майстра «сухога» аддзялення складаў да 1300 рублёў, падручнага – крыху болей за 300. Тыя, хто працаваў у «мокрым» аддзяленні на першых стадыях апрацоўкі скур, мелі зусім іншыя суадносіны заробкаў. Майстры тут атрымлівалі 7 рублёў у тыдзень, а падручны – ад 3 да 5½ рублёў. Калі мець на ўвазе мізэрнасць заробкаў сельскагаспадарчых рабочых, заробкі гарбароў можна лічыць нядрэннымі. Але гэта – толькі ў

[331] Кожевенное производство // Энциклопедический словарь Брокгауза и Эфрона. – СПб., 1895. – Т. XV. – С. 568.
[332] Гродненские губернские ведомости. – 1900. – № 194.

ідэальным выніку, калі штрафы за спазненне або пропускі працы істотна не змяншалі колькасць грошай, калі заробак выплачваўся своечасова, а галоўнае, калі шкодная вытворчасць яшчэ не сапсавала здароўе. Усё гэта ў рэальным жыцці часцей за ўсё не выконвалася, і таму адным з галоўных патрабаванняў гарбароў у час рэвалюцыйнага ўздыму будзе патрабаванне павелічэння заработнай платы.

Санітарныя камісіі, якія спрабавалі навесці парадкі на прадпрыемствах, у лепшым выпадку канстатавалі нездавальняючыя ўмовы працы. Штрафы за такога роду парушэнні аказваліся значна ніжэйшымі за той прыбытак, які давала гарбарства, а таму і неэфектыўнымі. У аддзяленнях, дзе сушылі скуры, тэмпература была вельмі высокая. Адначасова ў такіх памяшканнях выконваліся іншыя аперацыі апрацоўкі скур. Таму галаўны боль, зуд, астма былі звычайнымі хваробамі рабочых-гарбароў. «Мокрае» аддзяленне шкодзіла такімі рэчывамі, як вапна і дубільныя кіслоты, ад якіх рукі рабочых пакрываліся зеўранымі ранамі. Гэта выклікала непрацаздольнасць, прыводзіла да інваліднасці. Элементарныя гумавыя рукавіцы, якія прадугледжваліся тады для такой працы, маглі б выратаваць ад цяжкіх наступстваў, але на такую экіпіроўку грошай не знаходзілася. Карэспандэнт «Гродненских ведомостей" так апісвае адну з работ у "сухім" аддзяленні: "Скура кладзецца на дошку, і рабочы падчас працы вымушаны ўпірацца ў яе грудзямі трошкі ніжэй грудной клеткі. Калі такая праца адбывалася адразу пасля снядання ці абеду, яна выклікала ваніты, увогуле спрыяла развіццю грудных хвароб. На гэтай працы не сустракаліся рабочыя, старэйшыя за 35 год, бо больш сталыя людзі не здужаюць яе выканаць"[333]. Гэтая аперацыя мела назву «на кабылцы». Шкоднасць яе была яшчэ і ў тым, што рабочы шмат часу праводзіў у сагнутым становішчы, што прыводзіла да захворванняў жывата і дыхальных шляхоў[334].

Умовы працы рабочых-гарбароў як характарыстыка небяспечнага тэхналагічнага працэсу часта станавіліся прадметам увагі прэсы. Газета «Северо-Западное слово» згадвала аб гэтым неаднаразова. У студзеньскім нумары 1899 года яе карэспандэнт адзначаў, што рабочыя ў набрынялай смуроднай вадкасцю вопратцы знаходзіліся ўвесь

---

[333] Тамсама.
[334] Кожевенное производство… – С. 568.

дзень у немагчымых абставінах і, ідучы дахаты, неслі заразу паўсюль. Рабочыя-гарбары пераносяць да членаў сваіх сем'яў сібірскую язву і іншыя страшныя захворванні, якімі былі заражаны скуры жывёл[335].

Яшчэ адным адметным бокам развіцця індустрыі, і гарбарства перш за ўсё, былі наступствы, звязаныя з навакольным асяроддзем Крынак. Невядомае ў той час для крынкаўчан слова "экалогія" вельмі прыдатнае для характарыстыкі асаблівага роду наступстваў гарбарнага "выбуху" пачатку XX стагоддзя. Тэхнагеннае ўздзеянне на навакольнае асяроддзе Крынак і іх ваколіц прасочваецца па крыніцах з пачатку арганізацыі прамысловай вытворчасці, гэта значыць, з першай трэці XIX стагоддзя. Найбольшымі формамі антрапагеннага ўплыву на прыроду Крынак можна лічыць вырубкі лесу, забруджванне ракі Крынкі, грунтовых водаў вакол мястэчка і паветра. На санітарны стан мястэчка як нездавальняючы звяртала ўвагу прэса.

М. Ярашэўскі, карэспандэнт "Губернских ведомостей", бачыць прычыну ў гарбарных заводах, якія часткова знаходзяцца ў межах самога мястэчка і да такой ступені атручваюць паветра сумессю пахаў скуры, дубільных кіслот і нясвежай крыві, што на вуліцах, якія прылягаюць да гэтых прадпрыемстваў, проста немагчыма дыхаць[336]. Такі тэхнаціск на прыроду выклікаў адмоўную рэакцыю як насельніцтва, так і ўладаў. Гэта цягнула за сабою судовыя спрэчкі, скаргі, стварэнне і выданне рознага кшталту прадпісанняў, тэхнічных патрабаванняў да фабрыкантаў. Звычайным фактам жыцця мястэчка стала палітыка спагнання штрафаў з прадпрымальнікаў за парушэнні санітарных нормаў.

У пачатку XX стагоддзя рачулка Крынка была крыніцай пітнай вады і вадапоем для скаціны[337]. Гэты левабярэжны прыток Свіслачы агульнай даўжынёй 8,5 км пачынаецца на паўднёвым захадзе Крынак і цячэ праз мястэчка[338]. Такія абставіны былі адной з прычын жорсткага кантролю, які праводзіўся з боку дзяржаўных службаў. Карныя санкцыі альбо ўвогуле забарона будаўніцтва маглі тычыцца кожнага: ад арандатара Вірыёнаў С.А. Ляспіцкага, якому не дазволілі

[335] Абезгауз, З.Е. Згад. твор / З.Е. Абезгауз. – С. 134.
[336] Ярошевский, М.М. Кринки. Гродненский повет / М.М. Ярошевский // Гродненские губернские ведомости. – 1900. – № 194.
[337] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1459. Арк. 9.
[338] Ocena jacosci wod rzeki Krynki w latach 1985–1994. – Warszawa, 1995. – S. 30 (49 s.).

будаўніцтва ўверх па Крынцы, да шматлікіх прадпрымальнікаў з ліку мяшчан і сялян[339].

Як прыклад невыканання тэхнічных патрабаванняў дзеля бяспекі прыроднага асяроддзя згадаем ацэнку завадскога абсталявання Гіршы Сальніцкага і Аўсея Затца за 1896 год. “1. Фільтраў на дадзеных заводах няма ўвогуле. Брудная завадская вада як гэтага завода, так і двух іншых па суседству (Вайнера і Фабрыканта), таксама не маючых ніякага ачышчальнага абсталявання і нават адстойных рэзервуараў, цячэ па звычайнай канаве на бераг ракі, расцякаючыся ў балота і трапляючы ў самую рэчку”[340]. У тым жа дакуменце адзначаецца, што такое становішча – не выключэнне. Абсталяванне заводаў на правым баку Крынкі таксама пагражае стану ракі.

Уздагон нарастаючаму працэсу стварэння гарбарных вытворчасцей губернскія ўлады выдалі “Абавязковую пастанову” ад 23 лістапада 1899 г. Змест гэтага дакумента быў заснаваны на раней (1898 г.) выпрацаваным законе. Артыкулы гэтай пастановы канкрэтныя і зразумелыя. Яны, у прыватнасці, звяртаюць увагу на тое, каб “гарбарныя заводы ўсталёўваліся і адкрываліся з дазволу губернскага начальства”. Не менш актуальным для Крынак быў пункт, які не дазваляў “пасярод населеных пунктаў усталяванне заводаў”. Забаранялася “пабудова заводаў на беразе ракі, ручаю і іншых натуральных водасховішчаў”. Пастанова ўтрымлівала таксама патрабаванні, каб фабрыканты ўстанаўлівалі прыстасаванні для добрай вентыляцыі. Размяшчэнне жылля рабочых пад адным дахам з заводам было недапушчальна па ўсіх пажарных нормах. Асобная частка пытанняў закранала і працэс гарбарнай вытворчасці. Прасушванне скур неабходна было рабіць у асобных зачыненых і прыстасаваных для гэтага памяшканнях. Ні ў якім разе такімі сушыльнымі прыстасаваннямі не маглі быць платы і плятні. Прамыўная вада з майстэрань павінна была прапускацца праз фільтры так, каб вада, якая з іх выходзіла, была празрыстая, неафарбаваная і не ўтрымлівала прадметаў арганікі і шкодных рэчываў. Яна не павінна была спускацца ў Крынку ці ў сажалкі. Гэта можна было рабіць толькі пасля абясшкоджвання і дэзінфекцыі і толькі ў тыя месцы, якія

[339] Тамсама. – Арк. 10 адв.; НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1229. Арк. 9-9 адв.
[340] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1229. Арк. 9.

вызначыць паліцыя. Замочванне і прапалосканне скуры і воўны ў рэчцы таксама катэгарычна забараняліся[341]. Брудную ваду планавалася выліваць на бліжэйшыя палі. Такі варыянт бачыўся больш ашчадным, чым зліванне тэхнічнай вады ў Крынку[342]. Абавязковасць выканання гэтых радкоў пастановы парушалася ў кожным сваім пункце. І ўся гісторыя гарбарства ў Крынках ёсць гісторыя барацьбы гэтых (і іншых) нормаў з неўтаймоўнаю людской прагаю да вялікіх прыбыткаў за кошт, у тым ліку, мінімізацыі выдаткаў на быццам бы другасныя (як экалогія) рэчы.

Штрафныя санкцыі прымушалі хоць у нейкай ступені выконваць патрабаванні санслужбаў. Будаўнічае кіраванне Гродзенскай губерні мае шмат падрабязна апісаных працэсаў. Вось адзін такі прыклад. Канстанцін Міхайлавіч Будроўскі, гаспадар майстэрні для прамыўкі конскага воласу, у 1904 годзе даводзіць да ведама гэтай службы, што ў майстэрні плануецца штодзень прамываць да 20 пудоў воўны. Вада, прыблізна 50–60 вёдзер, будзе вылівацца ў яму, як належыць, абсталяваную, а далей – у поле, на ўгнаенне. Мыццё воўны будзе здзяйсняцца ў прасторным драўляным аднапавярховым будынку, у якім будуць знаходзіцца драўляныя чаны. Гэтыя чаны напоўнены чыстай вадою. На гэтых жа чанах з чыстай вадою будзе адбывацца дзённае ручное мыццё воўны. Пасля дзённага мыцця вада з гэтых чанаў вылівaецца ў мураваны рэзервуар[343]. Але такія прыстасаванні рабіліся пасля працяглай перапіскі з чыноўнікамі і нярэдка штрафаў.

Вінакурныя заводы – трэція па памерах вытворчасці, былі ад пачатку свайго стварэння паравыя. Вада на завод падавалася з дапамогаю помпаў, якія ў сваю чаргу прыводзіліся ў рух машынай. Машына мела конскі прывад. Для гэтага пры кожным заводзе мелася прыбудова, дзе працавалі коні[344]. У 1883 годзе на заводзе Вірыёна выкарыстоўваўся ўжо не толькі паравы кацёл, але і паравы рухавік[345]. Аднак агульныя памеры завода Ліпхартаў у час кіравання ім Энтай Рафалоўскай былі больш за вірыёнаўскія. У лепшыя часы ён меў

[341] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1229. Арк. 24.
[342] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 930. Арк. 18.
[343] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1672. Арк. 5, 12-12 адв.
[344] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 30. Воп. 1. Адз. зах. 6. Арк. 2-3; Адз. зах. 7. Арк. 2-3.
[345] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 30. Воп. 1. Адз. зах. 6. Арк. 119.

трохпавярховы мураваны будынак, тры вінныя чаны, шэсць дрожджавых чанаў, шэсць квасцовых і пяць для ахалоджвання. Завод Ліпхарта займаў плошчу ў 464 кв. сажані[346].

Яшчэ адным распаўсюджаным антрапагенным уздзеяннем на наваколле было вынішчэнне лясоў. Гэты спадарожнік тэхнічнага прагрэсу не абмінуў Крынак. Гандаль лесам заўсёды быў прыбытковым, а ва ўмовах росту горадабудаўніцтва, развіцця тагачаснага транспарту яго аб'ёмы ўзрасталі неаднаразова. Асабліва драпежніцкаму высячэнню навакольных лясоў садзейнічалі арандатары. «Чужая», часова трапіўшая ў рукі і абяцаючая хуткія грошы лясная дзялка не спыняла арандатара перад высечкай тысячагадовых волатаў – рэшткаў былой Крынкаўскай пушчы. Знакамітая Энта Рафалоўская-Вольфсан за кароткі час, ужо да 1898 года, паспела высекчы амаль цалкам самы вялікі па плошчы лясны ўчастак Дзівапола. З 100,25 дзесяцін лесу гэтая арандатарша са згоды С.М. Нолькен у «вытворчую драўніну»ператварыла 87 дзесяцін лесу.

Гэта былі дрэвы як 30–40, так і 80–90-гадовага ўзросту. Суцэльная высечка стала прадметам абмеркавання на ўзроўні Гродзенскага губернскага лесаахоўнага камітэта. Камітэт прызнаў высечку вынішчальнай. Але на гэтым і разышліся [347].

Пранікненне тэхнічных вынаходніцтваў у жыццё было вызначальнай рысаю другой паловы XIX – пачатку XX стагоддзяў. Менавіта эканамічнае развіццё ланцужком цягнула адну за другой сферы жыцця ў накірунку тэхнічнага ўдасканалення. Рухавіком новых тэмпаў вытворчасці і гандлю стаў транспарт.

Ён заўсёды вызначаў многае, але цяпер за кароткі часператварыўся ў ключавы элемент гаспадарчага прагрэсу краю. Развіццё транспартнай сеткі наканавала кірункі гандлю (ілюстрацыя 4)[348]. Пачатак XX стагоддзя для адсунутых ад чыгункі Крынак быў звязаны з будаўніцтвам шашы Крынкі-Масты, якая звязвала крынкаўскія ваколіцы з вялізнай сеткаю чыгунак Сядлец-Балагое і Палескіх[349]. Тады ж на працягу некалькіх гадоў пракладваўся новы шлях з Крынак у Саколку[350]. Са стварэннем гэтага сучаснага гасцінца крынкаўскае

[346] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 30. Воп. 1. Адз. зах. 7. Арк. 168-169.
[347] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 19. Воп. 1. Адз. зах. 528. Арк. 67-67 адв.
[348] Карта Гродненской губернии. XIX век // www.genealogia.ru / уладар карты DEEP (Дарагуш Яўген).
[349] Наше утро. – 1912. – № 65. – 5 августа.
[350] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 13. Воп. 1. Адз. зах. 360. Арк. 156.

купецтва і фабрыканты звязвалі істотнае павелічэнне свайго бізнесу. Будаўніцтва шашы Крынкі-Саколка ішло ў 1902–1904 гг. Гэты параўнальна невялікі адрэзак часу ў дадзены перыяд прамысловага ўздыму мястэчка паказаўся фабрыкантам Крынак доўгім. І нездарма, бо за год па ім правозілі толькі гарбарнай прадукцыі больш за мільён пудоў[351]. За час будаўніцтва шашы тубыльцы карысталіся кругавым, даўжэйшым на дзесяць вёрст, шляхам. Да таго ж, увосень і ўвесну аб'язная дарога ўяўляла сабою суцэльнае бездарожжа, шлях па якой зацягваўся. Гэта негатыўна адбівалася на якасці тавараў і цягнула дадатковыя выдаткі. З просьбаю паскорыць будаўніцтва новай шашы звярнуліся да гродзенскіх уладаў найбуйнейшыя фабрыканты мястэчка Э. Блох, І. Залкін, Я. Марголіс, Х., Л. і М. Гарберы. І іх непакоілі тэрміны будаўніцтва, і драбнейшых вытворцаў. Пад ціскам грамадскай незадаволенасці, хваляў скаргаў і хадайніцтваў дарога з Крынак у Саколку была адкрыта для руху ў чэрвені 1904 года. Канчаткова ж шаша была прынята ў падрадчыка будаўніцтва Сцілевіцкага толькі праз год[352]. Але ў пачатку ХХ ст. роля грунтавых дарог істотна зменшылася[353]. Больш выгаднымі станавіліся водныя і чыгуначныя шляхі. Але мястэчка знаходзілася ад бліжэйшай чыгункі Санкт-Пецярбург–Варшава на адлегласці 20 вёрстаў, а ад суднаходнай ракі – на 48 вёрстаў[354]. Гэта з'яўлялася перашкодай для далейшага развіцця Крынак.

У дадзеным раздзеле кнігі мы нагадалі элементы тэхнагеннага працэсу ў мястэчку. Ён меў вялікі ўплыў на жыхароў Крынак, прычым усіх, без розніцы, мелі яны дачыненне да індустрыі мястэчка ці не. Іх рэакцыі, эмоцыі, уражанні, спробы прыстасавання вартыя далейшага даследавання, бо з'яўляюцца характэрнымі праявамі паводзін людзей у час пачаўшагася стагоддзя навукова-тэхнічнай рэвалюцыі.

---

[351] Тамсама. – Арк. 156 адв.
[352] Тамсама. – Арк. 187, 211–213.
[353] Шыбека, З. Гарады Беларусі (60-я гады ХІХ – пачатак ХХ стагоддзя) / З. Шыбека. – Мінск: ЭўраФорум, 1997. – С. 79.
[354] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 2. Воп. 32. Адз. зах. 1501. Арк. 61 адв.

# Дынастыі

Як зразумець учынкі людзей населенага пункта, калі не засталося ні эпісталярнай спадчыны, ні ўласных успамінаў, ні мемуараў? Якім чынам растлумачыць тую складанасць лёсаў, якая ў рознай ступені напаткала кожную сям'ю, бо кожны этап у развіцці мястэчка – гэта шмат крокаў, зробленых яго жыхарамі? Адна з крыніц для пошуку адказаў на такія пытанні – гэта ніці радаводаў. Па іх, бы па правадах, перадавалася самая важная інфармацыя. У першую чаргу аб папярэдніках. Яна выхоўвала, дзе трэба – стрымлівала, дзе было неабходна – надавала моцы. Гэта дзіўным чынам магло адбыцца праз пакаленні, а магло звязваць іх адно з другім у непарыўны, апантаны дынастычны вектар развіцця. Магло здацца, што адной сям'і. Але праз шэраг такіх сем'яў гэта быў вектар развіцця ўсяго мястэчка. Разбураная памяць, расцярушаныя сувязі, знішчаныя радаводныя ніці – галоўная прычына пазнейшага ператварэння мястэчка ў населены пункт. Наколькі гэтыя ніці яшчэ працуюць, настолькі жыхары свядома жывуць у сваёй мясцовасці і свядома рэагуюць на розныя выпрабаванні лёсу.

Свет крынкаўскага насельніцтва, нягледзячы на лакальны местачковы характар, стракаты і складаны. Стагоддзе расійскага панавання адзначылася ўласцівай дзяржаўнай палітыкай у адносінах да розных яго сацыяльных, нацыянальных і рэлігійных груп. Але ў гэтай стракатасці і складанасці можна заўважыць цэментуючыя жыхарства канструкцыі – дынастыі. Аграрны, прамысловы і гандлёвы крынкаўскі "бамонд" налічваў не адну сялянскую, мяшчанскую і купецкую дынастыі.

З сялянскіх дынастый возьмем, для прыкладу, Яновічаў – адну з тых, чые прадстаўнікі пакінулі след у жыцці Крынак.

Такім чынам, Яновічы. 1795 г. 5-я рэвізія згадвае сям'ю Андрэя Яновіча (70), сыноў Матэўша (18), Пятра (12), Варфаламея (32) з жонкаю Кацярынай (26) і дзецьмі Станіславам (1/2) і Марыянай (4), якія пражывалі на Новай вуліцы.

Таксама там жа пазначана сям'я Кацярыны Яновічавай (50, удава) з сынам *Пракопам* (12), зяцем Казімірам Неймановічам (21), яго жонкаю Настассяй (25) з вуліцы Свіслацкай.

Яшчэ дзве сям'і Яновічаў – Эльжбеты Яновічавай (52, удава) з сынам Якубам, зяцем Паўлам Юзэфовічам (28), жонкаю яго Марыянай (23).

І яшчэ Сільвестра Яновіча (36) з жонкаю Канстанцыяй (28), дзецьмі Андрэем (7), Леанам (3), Лукашам (1), Кацярынаю (5), якія пражывалі на вуліцы Гродзенскай[355].

Рэвізскія казкі за 1816 г. больш чым праз дваццаць гадоў згадваюць у ліку прыгонных сялян П.Г. Дзівова сям'ю 32-гадовага *Пракопа Яновіча* з жонкаю Фядораю (30) і дзецьмі Мікалаем, які памёр у чатырохгадовым узросце ў 1812 г., Міхаілам, таксама памерлым у 1813 г., Іванам (3) і Ганнаю (1)[356].

Там жа ёсць звесткі аб сям'і Мацвея Яновіча (51), ягонай жонкі Зоф'і (43) і дзецях Фёдары (20), ужо ажанатым з Зоф'яй (18), Іване (14), Магдалене (15) і Разаліі (10).

Сярод прыгонных Сакалова пазначана сям'я Пятра Яновіча (28), памерлага ў 1813 г., і яго жонкі Агаты, якая ўцякла з невядомай прычыны на наступны год пасля смерці мужа; сям'я Мікалая Яновіча (38), яго жонка Мар'яна (40) і сын Міхайла (4) і сям'я *Варфаламея Андрэевіча* Яновіча (52). Сям'я Варфаламея была вялікая, бо разам з дзецьмі Зоф'яй (18), Мар'янай (10), сынам Станіславам (20) жыла сям'я брата Варфаламея – Матэўша (38): жонка Эльжбета (40) і дзеці Міхаіл (11) і Вікторыя (12).

Наступныя звесткі аб сем'ях знаходзім у інвентарах маёнткаў Вірыёнаў і Ліпхартаў. Сярод ліпхартаўскіх сялян за 1845–1850 гг. (мінула 29–34 гады, цэлае пакаленне) згадваюцца Іван Фёдаравіч Яновіч (34) з жонкаю Варвараю (32) і дзецьмі Фамой (5,5) і Паўлінаю (2). Разам жыла і маці Івана – Агата (58)[357]. Другой сям'ёю прыгонных Дзівапола былі Лукаш Сільвестравіч Яновіч (51) з жонкаю Пракседаю, сынам Сымонам і яго жонкаю Зоф'яй, дачкой Ганнаю, другім сынам Антонам, трэцім – Іванам, унучкаю Мар'янаю (дачка

[355] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 16.
[356] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 32а. Арк. 1082.
[357] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 367. Арк. 49 адв.

Сымона)[358]. Станіслаў Андрэевіч Яновіч (50) жыў разам з сям'ёю сына Паўла (жонка Соф'я) і дзецьмі Станіславам, Грыгорыем, Сцяпанам і Паўлінкай. Тут жа, сярод цяглых Ліпхарта, былі і Іван Мацвеевіч Яновіч (44), яго жонка Ганна (34), дзеці Іосіф, Антон, швагерка Апалонія Міклашэвіч[359].

Сярод паўцяглых Ліпхарта была сям'я Івана Яновіча (33) – яго жонка Ганна (35), дзеці Іван, Антон, Мар'яна, сёстры Ганна (31) і Мар'яна.

І яшчэ сям'я Іосіфа Яновіча (21) – жонка Апалонія (22), брат Павел, маці Ева[360]. Сярод адзінокіх пазначаны Сямён Яновіч[361].

Сярод Вірыёнаўскіх сялян, што жылі на Новаастроўскай вуліцы, значыцца толькі сям'я Міхаіла Яновіча з чатырох чалавек. Гэта быў сын альбо Варфаламея, альбо Мікалая Яновічаў.

Па казках 1857 г., у Вірыёна лічылася сям'я Станіслава Варфаламеевіча Яновіча (52), які жыў з сынам Іванам (20), яго жонкаю Канстанцыяй (26) і дачкамі Магдаленаю (26) і Еваю (22). Разам жыла пляменніца Кацярына (23)[362].

За гэты ж год спісы сялян Ліпхартаў утрымліваюць звесткі пра ўжо згаданую намі сям'ю Івана Фёдаравіча Яновіча (32?, апіска) з жонкаю Варвараю (42). Але ўжо ў стане дваравых сялян. Таксама дзеці, якія згаданы праз 10 гадоў падчас папярэдняй дэмаграфічнай фіксацыі гэтай сям'і, іншыя: Павел (11), Мікалай (6), Магдалена (7), Дамініка (3). Згаданых раней Фамы і Паўліны няма. Памерлі, праданы? Як пра памерлых – “мёртвых душах” казкі, аднак, не кажуць[363]. Сярод ужо дваравых значыцца Іван Іванавіч Яновіч (25), які раней быў цяглым, з маці Ганнаю (39), братамі Антонам (22), Юрыем (9) і сястрой Мар'янай (14). Тут жа, сярод сялян Ліпхарта, запісаны ў сям'і Іосіфа Іосіфавіча Царэвіча Павел Якаўлевіч Яновіч (28) з маці Еваю (61)[364].

У 1856 г. памёр Лукаш Сільвестравіч Яновіч (55). У яго хаце засталіся сын Сямён (42) з жонкаю Соф'яю (36) і дзецьмі Сцяпанам і

---

[358] Тамсама. – Арк. 51 адв.
[359] Тамсама. – Арк. 52 адв.
[360] Тамсама. – Арк. 58.
[361] Тамсама. – Арк. 66 адв.
[362] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 89. Арк. 1099 адв.
[363] Тамсама. – Арк. 1078.
[364] Тамсама. – Арк. 1077 адв.

Мар'янаю (14), Пракседаю (10) і братам Антонам (25) – яго жонка Пелагея (23) і братам Іванам (16). У 1851 г. памёр Фёдар Мацвеевіч Яновіч (54). Пасля яго на гаспадарцы засталіся браты Грыгорый (24), Сцяпан (22) і ўнукі сына Паўла (23), памерлага ў 1854 г., якія гадаваліся жонкаю Паўла Соф'яй (28). Гэта Юльян (9), Даніла (6) і Пётр (3)[365]. У гэтам жа спісе за 1857 г. значыцца сям'я Івана Мацвеевіча Яновіча (55) – жонка Ганна (45) і дзеці Іосіф (17), Антон (14), Грыгорый (8) і Міхаіл (5). І Іосіфа Якаўлевіча Яновіча (25), які быў адпраўлены ў рекруты ў 1854 г. У хаце яго застаўся брат Павел (28), пазначаны як пераведзены ў лік дворнага. Гэта пакаленні Яновічаў, якія можна сустрэць у рэвізскіх казках да апошняй, праведзенай напярэдадні адмены прыгону (1858 г.). Далей імёны гэтых сем'яў згадваюцца ў розных спісах або справах выпадкова. Можна заўважыць, што сярод згаданых сям'я Івана Мацвеевіча Яновіча будзе красамоўнай ілюстрацыяй пранікнення таварна-грашовых адносін у сялянскае асяроддзе, пра яе лёс мы казалі вышэй. Можна толькі здагадвацца, як гэта было ў сям'і Восіпа Іванавіча Яновіча, але нельга не быць упэўненым, што гэта было абавязкова – выхаванне на памяці пра прадзеда Мацвея, які ў далёкім 1826 меў смеласць падпісаць ліст звароту да расійскага самадзержца. Такі эпізод гэтай дынастыі шмат тлумачыць у разуменні прагі нашчадкаў Мацвея Яновіча да таго, каб "людзьмі звацца" ў новых жорсткіх капіталістычных часах гісторыі мястэчка. Тым больш, што ў гісторыі гэтай сям'і ўчынак Мацвея не быў адзінкавым. Яго сын Фёдар таксама быў адным з таго кола крынчан, хто ўжо ў 1829 г. патрабавалі ад уладаў належнай волі.

У 1866 г. адным з першых, а магчыма і першым, але і не ў першы раз на пасаду крынкаўскага сельскага старасты выбіраецца 35-гадовы Антон Сільвестравіч Яновіч, брат вядомага барацьбіта за мяшчанскія правы крынчан Лукаша Сільверставіча Яновіча, які, як ужо згадвалася раней, тройчы (!), у 1826, 1829 і 1843 гг., спрабаваў супрацьстаяць уладдзе. Чаго былі варты для яго сям'і гэтыя ўчынкі, не зафіксавана нідзе. Можна толькі здагадвацца аб тых праклёнах, слязах, размовах і спрэчках, якія папярэджвалі кожнаму такому выступу. Аднак справа была зроблена і ў любым выпадку далей

[365] Тамсама.

міжволі фарміравала тых, хто быў побач, хто спачуваў, калі і не верыў да канца. Стараства – невыпадковая, выбарная пасада, і паверым, што без папярэдняга выхавання заняць яе было б у Крынках складана. Не той быў дух у сялянскай грамадзе.

Прадпрымальніцкія дынастыі габрэйскай часткі Крынак таксама маюць свае прыклады моцных сямейных традыцый, якія спрыялі развіццю і абаранялі ад выпрабаванняў жыцця. Кожны населены пункт глыбінкі перажывае ўсе калізіі вялікай эканамічнай і сацыяльнай палітыкі, толькі "робіць гэта на свой правінцыяльны манер", дадаючы пераменам уласныя традыцыі і акалічнасці ці пазбаўляючы ад іх. Крынкі – не выключэнне.

Арганізацыя гарбарных і тэкстыльных майстэрань і заводаў была, як вядома, адной з галоўных старонак жыцця габрэйскага крынкаўскага кагала, а па сутнасці, і ўсяго насельніцтва мястэчка. У гэтым сацыяльна-эканамічным працэсе знайшлі адлюстраванне як вынікі агульнарасійскага развіцця капіталізму, так і мясцовыя асаблівасці дэмаграфічнага, сацыяльнага, нацыянальнага і геапалітычнага кшталту. А разам з імі ўсе спрадвечныя чалавечыя якасці. У калекцыі скаргаў жыхароў па быццам бы слушных прычынах, напрыклад, адносна тэхналагічных парушэнняў, якія пагражаюць іх здароўю, прысутнічае і зайздрасць да чалавечага поспеху. Адной з такіх дынастый былі Нагдыманы, купцы і прамыслоўцы. Пачынальнікам яе быў Сроль Герц Залманавіч Нагдыман. Пасля пераходу з рук у рукі гарбарны завод Штурманаў у 1900 г. перайшоў Шэйне і Сролю Нагдыманам[366]*.

Гарбарную справу Сроля і Шэйны Нагдыманаў працягнуў іх сын Зельман, які ў 1914-1915 гг. будуе чарговы завод[367]. Стыль і лексіка ананімнага допісу аб гарбарным заводзе Зельмана Нагдымана і вынікі ўсёй справы – толькі адзін з шэрагу прыкладаў другога роду складанасцей. Жыхары просяць змілавацца над імі і загадаць правесці вышук, але не з дапамогаю паліцыі (няма даверу!), ці справядлівы іх словы, і гэтым пазбавіць насельніцтва ад такой страшэннай небяспекі,

---

[366] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1484. Арк. 5-5 адв.* Чарговы яго ўладар, Вольф Айзікавіч Штурман, у канцы 80-х гг. XIX ст. прадаў завод мешчаніну Юдэлю Штэйнсаперу. Потым, у кастрычніку 1898 года, гэтая вытворчасць перайшла ў рукі купца Натана Язерскага, які, у сваю чаргу, прадаў яе Янкелю Штэйнсаперу.

[367] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 2162. Арк. 23–25.

як забруджванне паветра[368]. Іх аргументы: 1) завод вядомага крынкаўскага купца пабудаваны на ўчастку 31, дзе нельга размяшчаць гарбарныя прадпрыемствы; 2) ён вырашыў пабудаваць новы завод для выпрацоўкі скур на незаконнай адлегласці ад жылых дамоў; 3) Нагдыман разлічвае на свае матэрыяльныя сродкі, якіх мае ў вялікай колькасці; 4) паблізу ўчастка Нагдымана ёсць дамы Стэфана Латыша, Абрама Моўшы Абрамовіча, Лейбы Гендэля, Моўшы Шамшановіча і многіх іншых[369]. Аднак вердыкт прыстава 2-га стану, складзены разам з сельскім урачом Крынак Івановым, быў не на карысць ананімшчыкаў: "Завод З. Нагдымана не з'яўляецца небяспечным у санітарных адносінах". Што стала прычынай такога рашэння, сказаць складана. Можа, шчодры хабар Нагдымана? А магчыма, і сапраўдная дарэмшчына, якой, на звыклай глебе шматлікіх парушэнняў, вырашылі "добразычліўцы"-местачкоўцы штурхнуць вядомага здольнага мясцовага нуварыша. Спадарожнікамі росквіту гарбарнай вытворчасці былі і ўзаемныя прычэпкі з боку саміх фабрыкантаў. Падставаў для гэтага было дастаткова[370]. Прайсці скрозь усе выпрабаванні можна было, толькі абапіраючыся на сямейны падмурак. Гэтым былі моцныя, дзеля гэтага і супрацiўляліся.

---

[368] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 2162. Арк. 3.
[369] НГАБ у г. Гродне. Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 2162. Арк. 9, 10-10 адв.
[370] НГАБ у г. Гродне.  – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1237. Арк. 10-10 адв.

# Асветніцтва

Асветніцтва ў Крынках было, з аднаго боку, габрэйскім, а з другога – афіцыйна-дзяржаўным. Паміж гэтымі адукацыйнымі “парафіямі” размяшчаліся намаганні уніятаў (да пэўнага часу) і касцёла.

Свецкае афіцыйнае асветніцтва ў Крынках не пакінула яскравых слядоў, бо было, як вядома, прыціснутае цэнзурай і абмежавана сціплым фінансаваннем. У 1895 годзе ў мястэчку згадваюцца дзве школы, з іх адна габрэйская[371]. Памятная кніжка Гродзенскай губерні на 1900 год утрымлівае звесткі аб сельскім народным вучылішчы ў Крынках на чале з дырэктарам Віктарам Далгарукавым[372].

У 1900 годзе пачалі ладзіць публічныя чытанні па фізіялогіі і гігіене. Цікава, ці шмат людзей наведвала іх? Невядома гэта з архіўных крыніц, як невядома, колькі было такіх заняткаў, якой была праграма гэтых асветніцкіх курсаў. Аднак аўдыторыя, на якую стваральнік гэтых заняткаў мясцовы ўрач С. Сыркін-Шклоўскі разлічваў, вядома: працоўныя гарбарных заводаў[373]. Такая катэгорыя слухачоў, цалкам зразумелая і не бачыцца выпадковай. Пра антысанітарыю на гарбарных заводах і ў майстэрнях гаворка ішла, але непісьменнасць ды звычайнае невуцтва таксама былі распаўсюджанай з’явай сярод працоўных.

Адзінкавыя настаўнікі, праваслаўная царква, вайскоўцы, якія амаль бесперапынна знаходзіліся на пастоі ў Крынках, адміністрацыя – усе яны былі крыніцамі рускага асветніцтва сярод крынчан. Рускае асветніцтва ўзмацнялася тым, што з пэўнага часу ў Крынках пачынаюць дзейнічаць палітычныя партыі, якія свае ідэі і заклікі даводзілі да насельніцтва на рускай мове і ідыш, калі адрасавалася габрэям-рабочым. Носьбітам рускай культуры была і частка

---

[371] Крынки // Энциклопедический словарь. – СПб.: Изд-во Ф. Брокгауза и И. Ефрона, 1895. – С. 748.
[372] Памятная книжка Гродненской губернии. – Гродно, 1900.
[373] Гродненские губернские ведомости. – 1900. – № 113. – 26 апреля.

местачковага габрэйства[374]. Падчас разгортвання на Беларусі з сярэдзіны 90-х гг. сіяніцкага руху і ўзнікнення сацыялістычных партый Бунда, БСГ рускае асветніцтва пачынае спалучацца з габрэйскім, беларускім і польскім.

Гэтага нельга сказаць пра стан габрэйскай, іудзейскай адукацыі. Выхаванне адукаванага падрастаючага пакалення было адной з галоўных турбот яўрэйскага грамадства. Вучоныя мелі высокі статус, а прысутнасць сярод сваякоў высокаадукаванага чалавека ўзвышала аўтарытэт усёй сям'і. Словы з кнігі В. Сабалеўскай пра гродзенскіх габрэяў адлюстроўваюць сутнасць стаўлення да асветніцтва ў габрэйскім асяроддзі ўвогуле[375]. "Вецер асветніцтва" – так названа адпаведная частка кнігі "Pinkas Krynki". І гэта невыпадкова. Апошняя чвэрць XIX стагоддзя сапраўды стала значным крокам у пашырэнні адукацыі ў мястэчку. Звернемся зноў да старонак кнігі В. Сабалеўскай, каб пазнаёміцца з парадкам набыцця элементарных ведаў у габрэйскай абшчыне. "Неабходныя для жыцця веды габрэйскае дзіця набывала праз асвету, асноўнымі крыніцамі якой з'яўляліся сям'я, сінагога, грамадскае жыццё і фармальная адукацыя – хедэр, талмуд-тора ці іешыва, – цытуе гродзенская даследчыца радкі зборніка XIX ст. "Из истории воспитания евреев в древнем мире". – Усе гэтыя інстытуты служылі мэтай захавання традыцыйных каштоўнасцей і перадачы іх новаму пакаленню. Сістэма фармальнай адукацыі габрэяў захавалася са старажытных часоў і мела наступную структуру: першапачатковыя веды давала вучоба ў хедэрах, талмуд-торах ці ў прыватных настаўнікаў-меламедаў (да 13 гадоў жыцця), вышэйшым звяном былі іешывы. Кожны кагал пад страхам адлучэння ад сінагогі павінен быў утрымліваць пачатковую школу. Калі беднасць не дазваляла абшчыне набыць для школы асобны будынак, заняткі павінны былі праводзіцца ў сінагозе"[376].

Таму школа крынкаўскіх габрэяў згадваецца ў адпаведных архіўных дакументах за ўвесь расійскі тэрмін часу. Сярод тых, хто шырока разгортваў справу асветніцтва сярод габрэйскага грамадства

---

[374] Шыбека, З. Гарады Беларусі... / З. Шыбека. – С. 196.
[375] Сабалеўская, В. Спрадвечныя іншаземцы... / В. Сабалеўская. – С. 52.
[376] Сабалеўская, В. Спрадвечныя іншаземцы... / В. Сабалеўская. – С. 53.

Крынак, быў Якаў Лейба Залескі. Яго намаганнямі была адкрыта спачатку школа для хлопчыкаў, а потым і для дзяўчынак[377]. У пачатку ХХ стагоддзя Малка і Сіма Гросманы таксама адчынілі габрэйскую школу для дзяўчынак[378].

Важную ролю ў галіне асветы адыгрывала дзейнасць крынкаўскіх равінаў. Найбольшую вядомасць мелі Борух Лаўскі і Залман Сандэр.

Борух Лаўскі выдатную адукацыю атрымаў у сусветна вядомай Валожынскай іешыве. Увесь свой вопыт і сваю мудрасць ён накіраваў на тлумачэнне і папулярызацыю “Торы”, стаў вядомы далёка за межамі краю. Настаўніцтва яго ў Крынках равінам з 1883 па 1903 гг., да смерці, стала для мястэчка і яго габрэйскай абшчыны часам набыцця выдатнай адукацыі[379].

Залман Сандэр Каханэ Шапіра, які быў равінам у Крынках з 1903 па 1915 гг., працягваў справу свайго папярэдніка. Маючы рэпутацыю выдатнага знаўцы “Талмуда”, ён узначаліў крынскую іешыву “Anaf Etz ha Chaim”[380]. Яго намаганнямі напярэдадні Першай сусветнай вайны, пасля якой ужо ўсё развалілася надоўга, а штосьці – назаўсёды, у Крынках захаваліся сінагога з равінам, пяць малітвенных габрэйскіх дамоў з 18-цю настаўнікамі. Акрамя гэтага, з 1913 года ў мястэчку налічвалася 13 хедэраў, у якіх займаліся 315 чалавек, пераважна хлопчыкі (235). Колькасць гэтых устаноў узрасла за год удвая[381]. Падзеі рэвалюцыі ў Расіі далі моцны штуршок для павелічэння ўвагі да рускай пісьменнасці і рускай літаратуры. Гэта быў велізарны крок у развіцці, калі лічыць, што 46 гадоў назад на ўсе Крынкі габрэяў, якія маглі чытаць і пісаць па-руску, налічвалася 30 чалавек, яшчэ 35 па-руску маглі толькі чытаць. (Нагадаем, што ў 1847 годзе ў Крынках было 1686 габрэяў[382].)

---

[377] Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry. – S. 52.
[378] Ibid. – S. 91.
[379] Ibid. – S. 50.
[380] Ibid. – S. 89.
[381] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 77. Воп. 1. Адз. зах. 59. Арк. 3, 164, 165 адв.–166 (сінагога была адноўлена пасля пажару, які істотна пашкодзіў старую каменную сінагогу і знішчыў драўляную габрэйскую школу. НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 643. Арк. 1).
[382] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 14. Воп. 3. Адз. зах. 83. Арк. 18; Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry. – S. 62.

Пасля паўстання 1863 г. школа пры крынкаўскім касцёле была зачынена. Таму адукацыя па-польску вялася ў хатніх умовах і не віталася дзяржаўнымі ўладамі. Выйсцем з такога становішча пасля 1905 г. былі спробы саматужнага развіцця нацыянальнай адукацыі. Актыўнасць у гэтай справе праяўляла каталіцкае духавенства, асабліва на Гродзеншчыне. Ксёндз Б. Ляшчынскі прымаў удзел у адкрыцці польскай школы ў мястэчку[383]. У 1910 г. тайная польская школа працавала ў хатах Іядкоўскага і Матулевіча. Яна функцыянавала пры падтрымцы ксёндза Людвіга Балабана, дзеці ў ёй вучыліся рэлігіі, польскай і рускай мовам[384].

Высокі ўзровень непісьменнасці крынкаўскага насельніцтва не быў выключэннем не толькі для становішча ўвогуле ў гэтай галіне, у краіне, але і на фоне індустрыяльнага ўздыму і пашырэння гандлёвых кантактаў местачкоўцаў выглядаў балючаю і ўсё больш выразнаю праблемаю, якая ператваралася ў сапраўдны тормаз агульнага развіцця мястэчка. Імперская ўлада была ад гэтай праблемы вельмі далёка.

---

[383] Смалянчук, А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй... / А. Смалянчук. – С. 209.
[384] Belski, J. Krynki i okolice... / J.  Belski. – S. 99.

# Горад Крынкі

Горад Крынкі – назва, якую да 2009 года можна было сустрэць толькі ў архіве. Аднак у ранейшы час такі погляд на мястэчка і сённяшнюю вёску быў даволі звыклы. Хаця мы ведаем, што быць гараджанамі крынкаўчанам ужо прыходзілася. Мяшчанскую волю часоў магдэбургскага права, пацверджаную тагачаснымі каралямі і вялікімі князямі літоўскімі, заўсёды тут памяталі. І мы ведаем, як гэта памяць адгукалася. Да таго ж, час ад часу патрэбы чыноўнікаў прымушалі звяртацца да спраў крынкаўскай магдэбургіі, якая захоўвалася ў архіве Гродзенскай палаты Грамадзянскага суда[385].

Як ужо згадвалася, горадаўтваральным фактарам для мястэчка Крынкі стала гарбарства. Гэта было характэрным працэсам генезісу тагачаснага горада. Менавіта мястэчкі былі асноўнай крыніцай з'яўлення новых гарадоў[386]. Дзякуючы гарбарству з яго прыбыткамі і адначасова заробкамі нястача ў Крынках не так кідалася ў вочы, як у іншых кутах "рысы аселасці", – заўважае карэспандэнт "Гродненских ведомостей"[387]. За стагоддзе мястэчка прайшло шлях ад катэгорыі дробнага да буйнога (звыш 5000 чалавек насельніцтва)[388].

Насельніцтва Крынак у лістападзе 1914 г. налічвала 8125 чалавек[389]. Гэта больш чым у тры разы перавышала колькасць жыхароў Індуры і ў шэсць разоў – Вялікай Бераставіцы. З улікам колькасці сялян, працуючых на шматлікіх прадпрыемствах, лічба людзей у Крынках дасягала амаль дзесяці тысяч.

Гарадскія прыкметы ў Крынках у пачатку ХХ стагоддзя ўзнікалі адна за другой. На 1912 год у мястэчку дзейнічае пазыка-ашчаднае таварыства з кіраўніцтвам з трох чалавек, якое было створана некалькі

[385] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1119. Воп. 2. Адз. зах. 3. Арк. 21-22.
[386] Шыбека, З. Гарады Беларусі (60-я гады ХІХ – пачатак ХХ стагоддзя) / З. Шыбека. – Мінск: ЭўраФорум, 1997. – С. 94.
[387] Гродненские губернские ведомости. – 1900. – № 194.
[388] Шыбека, З. Гарады Беларусі... / З. Шыбека. – С. 79.
[389] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 77. Воп. 1. Адз. зах. 59. Арк. 615.

гадоў назад. За час сваёй працы яно займела ўстойлівае кола кліентаў[390].

У пачатку XX стагоддзя пажарная служба з’яўлялася абавязковай часткаю гарадскога жыцця. Стыхія агню кожны раз дзейнічала спусташальна, руйнуючы дабрабыт местачкоўцаў – гараджан Крынак. Пажары былі нярэдкім спадарожнікам драўляных населеных пунктаў. 30 мая 1849 г. чарговы пажар вынішчыў 1/3 габрэйскай забудовы мястэчка. У выніку яго габрэі Крынак былі на два гады вызвалены ад “фурманкавай” павіннасці і павіннасці браць на доўгатэрміновы пастой вайскоўцаў[391]. Буйны пажар 15 чэрвеня 1888 года знішчыў 2/3 мястэчка. Пашкоджаны агнём былі 156 дамоў і 58 грамадскіх пабудоў, у тым ліку старая сінагога, тры малітвенныя габрэйскія дамы і габрэйская лячэбніца[392]. “Крынкі спальваліся да апошняй халупы, – заўважыў у сваім артыкуле пра гэты пажар А. Чобат, – разам з сінагогаю, царквой і касцёлам, каб не Дзмітрый Карыбут-Дашкевіч – гаспадар суседняга з Крынкамі маёнтка, вядомы актывіст польскага нацыянальнага руху на Гродзеншчыне, пазней сябра ККПЛБ і дэпутат І Дзяржаўнай думы[393]. Ён разам з уласнастворанай ім у 1885 г. пажарнай камандай праявіў сапраўдны гераізм у выратаванні людзей і іх маёмасці”[394].

Чарговы раз, у маі 1900 г., з клуні селяніна А.Л. Касацкага за 12–15 хвілін агонь ахапіў усе бліжэйшыя драўляныя пабудовы. З-за ветра за гадзіну было знішчана ўшчэнт 29 хлебных гумнаў і хлявоў для хатняй жывёлы, што прынесла страты селяніну на 5300 рублёў[395]. Гэта стала пэўным штуршком для арганізацыі пажарнай службы ў Крынках.

Калі ў самым пачатку XX стагоддзя ў Крынках яшчэ не было пажарнай дружыны, то ў 1913 годзе пажарная каманда мястэчка

[390] Наше утро. – 1912. — № 53. – 22 июля.

[391] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 5. Адз. зах. 881. Арк. 6,9 адв.—10,12.

[392] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1689. Арк. 73 адв.

[393] Смалянчук, А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864—люты 1917 г. / А. Смалянчук. — СПб.: Неўскі прасцяг, 2004. – С. 252, 256.

[394] Czobat, A. Wielki pozar Krynek w 1888 r. / A. Czobat // Tutaj w Krynkach i okolice. – 2002. – № 10(20). – С. 9–11.

[395] Гродненские губернские ведомости. – 1900. – № 151. – 4 июля.

налічвала 35 чалавек, з якіх трое былі прафесійнымі пажарнымі[396]. Гэта было адным з першых крокаў у гэтай справе ўвогуле ў краіне, бо толькі ў 1914 г. былі сабраны разам у “Сборник законов о противопожарных мерах в Империи” раскіданыя па мноству розных законаў артыкулы аховы ад пажараў[397]. А з 12,5 млн. гаспадарак, якія існавалі ў еўрапейскай Расіі на 1905 г., за 15 гадоў згарэў кожны чацвёрты дом[398].

Аднак створаная каманда, узброеная трыма пажарнымі трубамі, трыма рукавамі, пятнаццаццю баграмі, дваццаццю пяццю сякерамі, дзесяццю бочкамі для вады, адным чанам і шасцю вёдрамі, мела сціплае фінансаванне: толькі 120 рублёў на год. І выходзіла, што справа бяспекі заставалася справаю пільнасці і арганізаванасці саміх крынкаўчан, як гэта было пасля таго страшэннага пажару 1888 года, калі сотні пагарэльцаў страцілі ў адзін момант усё і калі ўсім мястэчкам пад кіраўніцтвам Камітэта па дапамозе на чале з У.І. Вірыёнам пры падтрымцы ксяндза І. Кярсноўскага і святара Г. Пранеўскага, равіна Б. Лаўскага, урача Г. Ржэчкоўскага, а таксама мяшчан Д. Марэйны і З. Вольфсана было сабрана 879 рублёў ахвяраванняў[399]. Такія зборы практыкаваліся ўвесь час.

Адметнай рысаю кожнага горада з’яўляюцца яго навучальныя ўстановы, бібліятэкі і кнігарні. У пачатку ХХ стагоддзя ў дзесяцітысячным мястэчку не было бібліятэкі, але ў ёй мелася вялікая патрэба. Было ўзнята пытанне пра публічную бібліятэку ў мястэчку. Гэта сведчыць аб істотным культурным кроку, які зрабіла насельніцтва. Пакуль жа, у пачатку другога дзесяцігоддзя ХХ стагоддзя, жыхары Крынак вымушаны былі “задавальняцца толькі штодзённай газетай з прычыны, што іншай літаратуры здабыць у мястэчку не было дзе”[400]. Былі, тым не менш, дзве кнігарні. Адной кіраваў Арон Давыдавіч Леў, які і стварыў першую ў Крынках

[396] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 77. Воп. 1. Адз. зах. 59. Арк. 93адв.–94.
[397] Суднік, С. Лідскія брандмуры... / С. Суднік. – С. 25.
[398] Анфимов, А.М. Экономическое положение и классовая борьба крестьян Европейской России (1881–1904) / А.М. Анфимов. – М.: Наука, 1984. – С. 87.
[399] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 17. Адз. зах. 1447. Арк. 1, 7, 8, 21-21 адв.
[400] Наше утро. – 1912. – № 73. – 17 августа.

невялікую бібліятэчку[401]. Гаспадаром другой значыцца ў дакументах архіва Хана Юселеўна Бярковіч[402].

Згаданыя ўстановы культуры станавіліся ўсё больш запатрабаванымі, бо з'яўляліся адной з эфектыўных форм баўлення вольнага часу вялікай часткі тагачасных жыхароў горада-мястэчка. Працоўныя дні заканчваліся, наступалі і выхадныя, і святочныя дні. Праблема вольнага часу крынкаўчан вырашалася па-рознаму. Сведчанняў аб п'янстве насельніцтва мястэчка няма. Звернута ўвага на рабочых гарбарных прадпрыемстваў, што гэта "народ малады, не п'е", а "цягу да выпіўкі", маўляў, маюць толькі татары з навакольных вёсак[403]. Магчымасцей правесці вольны час за бутэлькай у мястэчку было шмат. Мясцовае шынкарства чакала кліентаў, былі б грошы. Габрэйскае насельніцтва валодала ідыш, большай часткаю жыло кагалам, але адначасова мала хто з іх ведаў рускае пісьмо. У пачатку 1900 года на адным з заводаў была створана аднакласная народная школа, у якой, праўда, вучыліся толькі дзеці.

Не абмінуў Крынкі і кінематограф. Кінатэатр знаходзіўся ў Сакольскім завулку і меў адпаведную свайму новаму прызначэнню назву – "Мадэрн"[404]. Яго гаспадар Берка Моўшавіч Вальфовіч арандаваў для гэтага ўвесь верхні паверх Крынкаўскага пазыка-ашчаднага таварыства, перапланаваў і перабудаваў яго для размяшчэння 112 гледачоў. Пачаткам работы крынкаўскага кінематографа можна лічыць 24 сакавіка 1914 года[405].

У 1900-1901 гг. была пабудавана новая дзяржаўная лячэбніца. Падрад на будаўніцтва новай бальніцы ўзяў Навух Ёселевіч Рудэнраут, гродзенскі мешчанін, які за два летнія перыяды ўзвёў у мястэчку медыцынскую ўстанову. Кошт пабудовы склаў 20 372 рублі[406].

Крынкаўская лячэбніца ўяўляла сабою драўляны будынак, пакрыты дахам з чырвонай пафарбаванай гонты, са сценамі жоўта-карычневага колеру. Пабудова мела шэсць пакояў і асобнае

[401] Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry. – S. 91.
[402] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 77. Воп. 1. Адз. зах. 59. Арк. 563.
[403] Гродненские губернские ведомости. – 1912. – № 194.
[404] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 2084. Арк. 1.
[405] Тамсама. – Арк. 6, 14.
[406] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 13. Воп. 1. Адз. зах. 58. Арк. 39, 53, 54.

памяшканне для заразных хворых. У комплекс бальніцы ўваходзілі таксама лабараторыя, якая ўяўляла сабой асобны жоўты будынак з сінім дахам, баня і хлеў. Уся тэрыторыя лячэбніцы была абнесена чырвоным плотам[407]. У 1914 годзе было вырашана правесці ў лячэбніцу водаправод, для чаго быў заключаны кантракт з беластоцкім мешчанінам Айзікам Мардхелевічам Файнгольдам, які аднучасова і капітальна адрамантаваў увесь будынак[408].

Галоўным урачом гэтай установы быў Генрых Іванавіч Ржэчкоўскі.

Памеры фінансавання новай бальніцы бачны з акта за першую палову 1901 г., гэта пачатак дзейнасці ўстановы. Толькі ў ліпені на "аптэкарскія патрэбы" (бінты, марля, вата) было выдаткавана 87 руб. 20 кап. Матэрыялы для правядзення дэзінфекцыі патрабавалі 11 руб. 40 кап. Астатнюю частку расходаў склалі выдаткі на святло, дровы, харчаванне, гаспадарчыя прыналежнасці. У астатняй частцы года, адзначанай у акце, амаль усе грошы ішлі толькі на вышэйпералічаныя немедыцынскія артыкулы расходаў. Усяго было выдаткавана 187 рублёў 24 капейкі[409]. Пры такім раскладзе фінансавання галоўнай дапамогаю гэтай установы ўсё ж былі бальнічны спакой і догляд[410].

Яшчэ адзін будынак сведчыў аб бурлівым, ужо гарадскім жыцці Крынак. У мястэчку ў 1904 годзе пры станавой кватэры з'явіўся ўласны арыштанскі дом[411]. Патрэба ў ім з'явілася з-за "амаль штодзённых", як ацэньвалася ў рапарце гродзенскага павятовага спраўніка губернатару, выпадкаў затрымання рабочых-гарбароў. Трымаць жа "палітычных" са звычайнымі дробнымі злачынцамі з ліку мяшчан і сялян лічылася небяспечным. Крынкаўскія гарбары, "прасветленыя" палітычнымі ідэямі, маглі шкодна ўплываць на непісьменных "цёмных" сялян. У мястэчку для затрыманых дагэтуль быў толькі

[407] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 13. Воп. 1. Адз. зах. 386. Арк. 37-38 адв.
[408] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 13. Воп. 1. Адз. зах. 1556. Арк. 10.
[409] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 13. Воп. 1. Адз. зах. 143. Арк. 26 адв., 33 адв., 112 адв., 127 адв., 169, 182 адв., 237 адв.
[410] "Былі толькі слабыя пачатковыя крокі санітарнай арганізацыі. У 1914 г. у губерні працавалі ўсяго 3 санітарныя ўрачы і 2 санітарныя фельчары. У паветах пасада санітарных урачоў ніколі не ўводзілася" (Игнатович, Ф.И. Развитие гигиенической науки и санитарной практики в западных регионах Беларуси: автореф. дис. … канд. ист. наук / Ф.И. Игнатович. – Гродно, 2001. – С. 10).
[411] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 13. Воп. 1. Адз. зах. 583. Арк. 1-1 адв. – 2, 4–6.

будынак Крынкаўскага валаснога праўлення. Яго памяшканняў не хапала, а наймаць прыватныя было і дорага, і мала хто з мяшчан гатовы быў на такі "гешэфт" з уладаю. Так з'явілася ў мястэчку ўстанова пеніцыярнай сістэмы. Як у ваду глядзелі, на наступны год рэвалюцыйны "выбух" дасць нямала працы гэтай установе.

Вышэй мы назвалі прыкметы часу, якія паступова мянялі воблік мястэчка. Аднак былі і такія ўнутраныя характарыстыкі местачковага жыцця, якія ў пэўны момант пачалі разглядацца ў якасці прычын, каб Крынкам з мястэчка ператварыцца ў горад. Такіх прычын было дастаткова. Кожная з іх складалася не адразу і на пачатак XX стагоддзя ўяўляла сабою сур'ёзную адміністрацыйную, сацыяльную і камунальную праблему. Мясцовае начальства бачыла такі стан рэчаў. Бачылі і ўладары Дзівапола. Якраз адна з гаспадароў С.М. Нолькен сваім хадайніцтвам да міністра ўнутраных спраў фактычна пачала працэс рэарганізацыі мястэчка Крынкі ў горад[412]. Яе пераемнікі, І.В. Шахновіч і А.Г. Цвет, таксама выказваліся, ужо гродзенскім уладам, аб згодзе на ўключэнне часткі зямлі маёнтка ў склад уласнай тэрыторыі мястэчка. Такая ініцыятыва памешчыкаў супадала з пазіцыяй уладаў і вынікала з наступнай карціны рэчаіснасці Крынак мяжы XIX–XX стагоддзяў.

У 1901 годзе мястэчка займала 40 дзесяцін зямлі. На гэтай тэрыторыі пражывалі 4993 чалавекі[413].

Крынкі таго часу – гэта 444 жылыя пабудовы і 202 будынкі сацыяльна-эканамічнага грамадзянскага прызначэння. Такая колькасць пабудоў на тэрыторыі мястэчка складала першую сур'ёзную прычыну для змены яго адміністрацыйнага статусу. Перанаселенасць і цясноцце. У 1883 годзе быў зацверджаны чарговы план Крынак. Гэтая падзея давала магчымасць уладарам маёнткаў, Вірыёнам і пераемнікам Ліпхарта, здаваць землі мястэчка новым арандатарам[414]. Як адзін з вынікаў новага становішча – нястрымны рост узвядзення будынкаў – жылых, гандлёвых, фабрычных. Яны

412 НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1689. Арк. 2-2 адв.
413 Тамсама. – Арк. 73 адв.
414 Тамсама. – Арк. 70.

будаваліся побач, бо былі звязаны адным працэсам эканамічнага росту. На пачатак стагоддзя план забудовы быў выкананы.

З-за немагчымасці пашырыць тэрыторыю мястэчка, акружаную прыватнымі зямельнымі ўладаннямі, назіралася скучанасць. Гэта выклікала і вялікую пажарную небяспеку (пераважная колькасць будынкаў былі драўляныя), і антысанітарыю.

Пабудовы ўзводзіліся "ледзь не за адну ноч", гаспадарчыя будынкі ператвараліся ў жылыя. Пры адсутнасці неабходных памераў розныя дамы, якія належалі розным гаспадарам, розным сем'ям, часта знаходзіліся пад агульным дахам. Гэта парушала элементарныя патрабаванні гарадской жыллёвай забудовы.

Хвалі скаргаў, даносаў, побытавыя сутычкі разбіраліся пастаянна мясцовымі, а то і павятовымі і губернскімі ўладамі.

Скучанасць пабудоў выклікала і нездавальняючае санітарнае становішча мястэчка. Нямала выпадкаў, калі двары не мелі сметнікаў, далёка не кожны меў прыбіральню. Часам жыхары некалькіх двароў карысталіся адным і тым жа адхожым месцам. Зборам бруду, смецця і памыяў былі прамежкі паміж пабудовамі, вуліцы, на якіх "ледзь не спраўлялі патрэбы жыхары"[415].

Такое становішча ўзмацнялася вядомым фактам развіцця гарбарнай фабрычна-завадской вытворчасці. З цягам часу ўзведзеныя на адпаведных квадратах-кварталах прамысловыя забудовы (а колькі было зроблена ў іншых месцах) апынуліся сярод жылых дамоў. Кошт чыншавай зямлі, працяглы час, які прайшоў з моманту пабудовы найбольш старых і найбольш буйных прадпрыемстваў, а таксама крайняя ашчаднасць, калі не сквапнасць гаспадароў, прывялі вытворчыя будынкі да даволі непрыгляднага выгляду. Па словах павятовага спраўніка, у такім разе "не можа ісці і гаворкі аб выкананні для такіх устаноў санітарных правіл. Скураная вытворчасць сама па сабе вельмі нячыстая. Агідны выгляд розных адкідаў, страшэнны смурод з'яўляюцца натуральнымі, бо абумоўлены самою

[415] Тамсама. – Арк. 50.

вытворчасцю, але існаванне іх у мястэчку, сярод жылых дамоў, безумоўна, непажадана”[416].

Выйсце з такога становішча бачылася ў пашырэнні тэрыторыі, за кошт чаго маглі з’явіцца новыя вуліцы і завулкі. Жыхары мястэчка, страціўшыя з-за перапланавання свае землі, атрымлівалі бы іх на гэтай далучанай тэрыторыі. Такі крок даў бы магчымасць перанесці ад ракі Крынкі заводы і майстэрні, асабліва тыя, што знаходзіліся побач з жылымі дамамі[417].

Чарговы пажар 2 ліпеня 1904 года рэзка абвастрыў сутнасць азначанай вышэй праблемы[418]. Большая частка Крынак ізноў выгарэла. Шэраг вуліц, Беластоцкі, Аляксандраўскі, Тахарскі завулкі патрабавалі найскарэйшага пашырэння. Такая перапланіроўка абавязкова выклікала змяншэнне ці поўную ліквідацыю гаспадарчых двароў (плацаў) мяшчан. Павелічэнне тэрыторыі мястэчка выглядала неабходным з усіх бакоў.

Такім чынам, рост колькасці насельніцтва, развіццё вытворчасці, істотнае павелічэнне забудовы мястэчка на зыходных плошчах прымусілі мясцовыя ўлады да прыняцця дзейсных мер. Але, як адзначалі ўсе, і на тое асобна звяртала ўвагу сталічных уладаў С.М. Нолькен, мясцовая сістэма кіравання Крынкамі не была здольна станоўча вырашаць гэтыя новыя для яе пытанні. “Мяшчанскае кіраўніцтва, – адзначае баранеса ў сваім хадайніцтве, – прыстасавана да дробных мястэчак з мяшчанскім пераважна насельніцтвам, відавочна, зусім не адпавядае сучаснаму развіццю м. Крынкі з яго фабрыкамі і заводамі і 5-тысячным насельніцтвам”[419]. “Назіралася неадпаведнасць прававога становішча мястэчкаў гарадскога тыпу і эканамічнай ролі, якую яны адыгрывалі на мясцовым рынку. Гэтыя мястэчкі не мелі гарадскога самакіравання і камунальнай гаспадаркі, а таксама магчымасці сфарміраваць іх без дазволу ўрада”, – піша пра тагачасную характэрную для Крынак з’яву даследчык гісторыі беларускага горада З. Шыбека[420].

---

[416] Тамсама. – Арк. 51 адв.
[417] Тамсама. – Арк. 52.
[418] Тамсама. – Арк. 92.
[419] Тамсама. – Арк. 2 адв.–3.
[420] Шыбека, З. Гарады Беларусі... / З. Шыбека. – С. 82.

Трэба вызначыць яшчэ адну праблему, якая не магла пакінуць абыякавым ні ўлады, ні заможную частку, перш за ўсё жыхароў Крынак. Гэта праблема росту злачыннасці, якая абвастрылася ў пачатку XX ст. Увесь пералік новых рысаў жыцця мястэчка быў пералікам тлумачэнняў таго, што з 1684 года  411 (24,4 %) крымінальных і грамадзянскіх спраў Гродзенскай судовай акругі, якая складалася з адзінаццаці мястэчак, такіх, напрыклад, як Лунна, Воўпа, Індура, Вялікая Бераставіца, Масты, Азёры, Скідзель, Друскенікі, што былі пачаты ў 1900 г., было з Крынак. Вызначаліся тры катэгорыі злачынстваў: “крыўда гонару пагрозаю і гвалтам” (58, ці 22,8 %, з 254 выпадкаў), “самавольнае карыстанне чужой маёмасцю” (43, ці 32 %, з 132 выпадкаў) і махлярства, крадзёж (45, ці 22 %, з 204 выпадкаў)[421].

Да слова кажучы, у Крынках было нямала рознай мясцовай улады. Кожны населены пункт знаходзіўся ў каардынатах адпаведнага адміністрацыйнага кіравання. Акрамя валаснога кіравання з 1861 г. (валаснoе праўленне і валасны суд) і мяшчанскай управы з 1877 г., Крынкі  ўваходзілі ў склад 3-га ўчастка судова-міравой Гродзенскай акругі. У мястэчку размяшчаўся  2-і ўчастак міравога пасрэдніка. Тэрыторыя мястэчка была аб’яўлена аб’ектам надзору 2-га аддзела судовага следчага, а ў ваенных адносінах крынкаўскае мужчынскае насельніцтва адносілася да 2-га прызыўнога ўчастка Гродзенскага павета. Таксама Крынкі былі цэнтрам 6-га земскага ўчастка, у які, акрамя самой Крынскай воласці, уваходзілі Галынкаўская і Вяліка-Бераставіцкая тэрыторыі воласцей.

Такая сістэма мясцовай дзяржаўнай адміністрацыі спалучалася з наладжанай сістэмай мясцовага самакіравання ў асобе старастата Крынскага мяшчанскага таварыства. Пераважная колькасць насельніцтва габрэйскай нацыянальнасці прымусіла дзяржаўныя губернскія ўлады згадзіцца на ўдзел габрэяў у мяшчанскім кіраванні мястэчкам[422]. Першым мяшчанскім старастам пасля ўтварэння мяшчанскага кіраўніцтва ў мястэчках у 1882 г. стаў Моўша Мэеравіч Марголіс[423]. Праз год быў назначаны на гэтую пасаду Іцка Шмуйлавіч

[421] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 18. Воп. 1. Адз. зах. 5. Арк. 75.
[422] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 17. Адз. зах. 1054. Арк. 79.
[423] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 17. Адз. зах. 142. Арк. 9.

Копель[424]. З 1884 па 1891 гг. выбранымі старастамі былі розныя прадстаўнікі яўрэйскага кагала Крынак. Абрам Эпштэйн быў абраны з пасады памочніка гродзенскага равіна ў Крынках. Шмойла Бярковіч быў звязаны са скандалам з-за ананімных лістоў на імя губернатара аб парушэннях выбараў (вельмі распаўсюджаная дэталь выбараў увогуле). Юдэль Абрамавіч Леў быў абвінавачаны яго апанентамі ў тым, што “хацеў, маўляў, ператварыць управу ў нейкае гандлёвае месца для ўласных карысных мэтаў”.  Янкель Мойшавіч Абрамаў Зямковіч і Эфраім Цынкоў Эфраімзон, з якіх першы меў найбольшую папулярнасць сярод местачкоўцаў, быў выбраны на гэтую пасаду адразу на тры гады і быў прапанаваны на чарговы тэрмін, але... яго кандыдатура не была  зацверджана ўладамі. Маўляў, у свае 62 гады А. Зямковіч “чытаць і пісаць па-рускі не можа, а можа толькі падпісваць сваё прозвішча”. Так гаварылася ў рапарце гродзенскага павятовага спраўніка[425].

Акрамя гэтага, у мястэчку ў пачатку XX ст. размяшчаліся памочнік акруговага акцызнага назіральніка, два акцызныя піцейныя кантралёры, акцызны назіральнік, пешы паліцэйскі ўраднік, конны ўчастковы паліцэйскі ўраднік. Была паштова-тэлеграфная станцыя.

Адміністрацыйнае кіраўніцтва Крынак немагчыма ўявіць без іх парафіяльнага значэння. Крынкаўская праваслаўная і каталіцкая парафіі вызначалі не толькі тэрытарыяльныя межы адказнасці Крынак за  царкоўнае жыццё, але і геаграфію найбольш шчыльных кантактаў іх жыхароў у штодзённым жыцці. Яны перш за ўсё адбываліся ў межах гэтых парафій.

Крынская каталіцкая парафія ў 1906 г. пасля вядомага далучэння Мала-Бераставіцкай уключала: м. Крынкі, ваколіцы: Белакозы, Жаповіцэ, Праневічы, Ігнатовічы, Нетупа, Кундзічы, Пуляновічы, Малыя Эйсманты, маёнткі: Сямёнаўка, Камяніца, Малая Бераставіца, Вайцэхоўшчына, Горка, Рудава, Лішкі, Жылічы, вёскі: Астапкоўшчына, Служкі, Парэчча, Лідзянка (Плябанава), Геніушы, Калеснікі, Каменка, Кавалі, Дзяневічы, Малыя і Вялікія Азераны,

[424] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 17. Адз. зах. 358. Арк. 6, 8.
[425] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 17. Адз. зах. 796. Арк. 11, 12, 13 адв., 27, адз. зах. 1054. Арк. 26, 49, 80-80 адв., 138, 140-141.

Ямашэ, Белагорка Тры вуглы, Цімічы, Радунін, Падзелукі, Ліпаў Мост, Юзэфова, Нетупа, Слабодка, Лешчана, Халодна, Влокі, Сарачашчызна, Азёрскае, Грыбаўшчызна, Новая і Старая, Гаруны, Паліпкі, Плянты, Барсуковіна, Новы і Стары Востраў, Маркаў Выган, Пачопак, Сасновік, Талкаўшчызна, Трыцяна, Азеркі, Ровак, Слойка, Бараўшчызна, Баратыньшчызна, Козі Луг, Булы Луг, Навінка, Шудзялова, Кнышэвічы, Суковічы, Астравок, Піражкі, Спудзвілы, Куркіш, Паўднёвы Востраў, Перакат[426].

У такой сітуацыі пытанне аб усталяванні ў Крынках гарадскога кіравання і ўключэння ў склад будучага горада мяжуючыя з ім землі маёнтка нараджала новыя праблемы[427]. Па праўдзе кажучы, гэтыя новыя пытанні былі выкліканы асаблівасцямі расійскіх адміністрацыйна-палітычных парадкаў гарадскога кіравання. Першае, што непакоіла ўлады: якая частка насельніцтва Крынак у выпадку арганізацыі жыцця мястэчка па гарадскому палажэнню магла б задаволіць адпаведным умовам гэтага дакумента, згодна з якімі для ўдзелу ў гарадскіх выбарах улічваўся маёмасны цэнз? Да таго ж, трэба было зважаць на тое, што габрэі па антысеміцкаму зместу палажэння не мелі права ўдзельнічаць у выбарах, а толькі гараджане з ліку землеўладальнікаў-хрысціян, маёмасць якіх павінна быць не ніжэй за 400 рублёў. Другое пытанне, якое турбавала сталічную і губернскую адміністрацыю: якія з крыніц даходаў у выпадку гарадскога становішча будуць выкарыстаны на патрэбы гарадскога жыцця? І далей: ці будзе гэтых сродкаў дастаткова? Немалаважным было і пытанне, якім чынам перавесці сялян Крынак у мяшчанскае становішча. Такая змена сацыяльнага статуса выклікала б істотныя перамены ў ладзе жыцця гэтых сялян.

Згаданыя пытанні пацягнулі за сабою даволі складаную працэдуру бюракратычнай падрыхтоўкі, якая заняла не адзін год. На месцы, у Крынках, у губернскім Гродне, у сталічным Санкт-Пецярбургу чыноўнікі аналізавалі вартасць мястэчка стаць горадам не фактам жыцця, што ўжо адбылося, а  юрыдычна-фармальна. У выніку быў вынесены вердыкт: “ Беручы за ўвагу, што недастае належных па

[426] Belski, J. Krynki i okolice / J. Belski. – Poznan, 1972. – S. 172.
[427] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 17. Воп. 1. Адз. зах. 289. Арк. 2.

закону для ўдзелу ў гарадскіх выбарах цэнзаў, а таксама з-за таго, што ў самім МУС зараз распрацоўваецца агульнае папярэдняе палажэнне аб арганізацыі ў паселішчах, якія маюць гарадскі характар, але не адпавядаюць умовам гарадскога ўладкавання.., асобнае, яшчэ больш спрошчанае кіраванне, прызнана больш зручным адкласці пераўтварэнне м. Крынкі ў горад да вырашэння дадзенага пытання”[428].

Вось так, пры насельніцтве *звыш 5000 тысяч* чалавек на 1904 год толькі 115 мяшчан разглядаліся на прадмет магчымасці палітычнага мясцовага волевыяўлення. І з іх толькі *трое* (sik!) задавальнялі неабходным патрабаванням. Астатнія 112 або не мелі ніякай маёмасці ў Крынках, або лічыліся прапісанымі ўвогуле не ў гэтым мястэчку. Як вядома, зямельныя ўгоддзі пад пабудовамі мястэчка знаходзіліся ў іх валоданні на правах вечнага чыншу.

Акрамя таго, маёмасць яшчэ 793 сялян мястэчка была надзельнай зямлёю на правах выкупу са скарбу. Нягледзячы на тое, што большасць з іх мела неабходны для выбараў цэнз, пераходзіць у гарадское саслоўе ніхто не збіраўся. Прыгавор 1-га крынскага сялянскага схода ад 5 мая 1902 года сведчыў аб катэгарычнай пазіцыі сялян у гэтым пытанні: “Прапанову г. прыстава 2-га стана Гродзенскага павета аб пераходзе нас у гарадское саслоўе адхіліць, а нам застацца ў цяперашнім сялянскім саслоўі”[429]. Такая пазіцыя сельскай часткі крынкаўскіх жыхароў тлумачыцца тым, што сяляне пры набыцці статуса гараджан істотна пагоршылі б сваё і без таго незайздроснае становішча з-за існуючай сістэмы падаткаабкладання[430].

Не мелі права ўдзельнічаць у выбарах і жанчыны.

Вось такі жарт зрабіла з мястэчкам заканадаўства імперыі. Праз яго “рагаткі” не здолелі прабіцца ні растучыя вытворчасці, ні балючыя сацыяльна-бытавыя праблемы. Змена ж адміністрацыйнага статуса дала б Крынкам істотную магчымасць на гэтых няпростых ростанях Беларусі і Польшчы.

Тым больш, што і для І. Шахновіча, і для А. Цвета перадача часткі сваіх зямель у валоданне ўладаў было справаю вырашанай. З

[428] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 8. Воп. 2. Адз. зах. 1869. Арк. 91.
[429] Тамсама. – Арк. 6.
[430] Шыбека, З. Гарады Беларусі... / З. Шыбека. – С. 45.

тэрыторыі Дзіваполу планавалася саступіць плошчу ў 38 дзесяцін[431]. З гэтай колькасці больш за 9 дзесяцін планавалася пад месца агульнага карыстання, акрамя таго, 2 дзесяціны – пад могілкі. Такое павелічэнне зрабіла б тэрыторыю мястэчка пашыранай удвая. Таму на дакладзе выканаўчага абавязкі губернскага інжынера Плотнікава ад 24 верасня 1904 года стаіць рэзалюцыя: "З прычыны зместа даклада прапанаваць у план 1898 года далучыць да м. Крынкі цяпер належных А. Цвету зямлі.., але гэтак, каб у мяжу гэтага мястэчка не былі ўключаны сялянскія надзельныя землі"[432].

Такім чынам, Крынкі не сталі горадам. Але мястэчка ўсё болей дэманстравала гарадскую адметнасць сваёй вытворчасцю і неместачковым характарам палітычных паводзін насельніцтва. Яно мела ўсе характарыстыкі, неабходныя для ператварэння ў горад: больш за пяць тысяч насельніцтва, шматгаліновую прамысловасць і шматгаліновы гандаль. Гадавыя абароты прамысловай вытворчасці і гандлю складалі значна больш за 200 тысяч рублёў[433], пакуль не напаткала гэтыя землі вялікая вайна і крынскую гарбарную вытворчасць не ахапіў крызіс[434]. Ён (хаця, вядома ж, не толькі ён) выклікаў масавую іміграцыю, з прычыны чаго эканоміка мястэчка ўжо ў поўным памеры не акрыяла.

---

[431] Тамсама. – Арк. 90.
[432] Тамсама. – Арк. 92 адв.
[433] Шыбека, З. Гарады Беларусі... / З. Шыбека. – С. 87.
[434] Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry. – S. 62.

# ЗМАГАННЕ

## Памяць пра волю

Барацьба прыгонных сялян супраць паноў – агульная рыса ў гісторыі феадальных адносін. Сродкі і формы яе ў Крынках не вызначаюцца чымсьці асаблівым. Тыя ж скаргі, допісы ў розныя ўстановы ўлады. Сялянскія прашэнні траплялі ў губернатарскія канцылярыі ў вялікай колькасці. Неаднаразова сяляне накіроўвалі да губернатара “хадакоў”. Часам звярталіся да генерал-губернатара або намесніка цара вялікага князя Канстанціна[435]. Якраз з гэтай старонкі гісторыі мястэчка бачыцца важным пачаць расказ пра яго час пад Расіяй.

Анісімовічы, Кішкелі, Міклашэвічы, Яновічы, Скроўбы, Кузьмы, Беганскія… Гэта прозвішчы сучасных крынкаўчан. Ці не важна даведацца, што ў сучасных жыхароў цячэ кроў тых грамадзян Крынак, якія мелі рашучасць казаць адкрыта рознага кшталту ўладарам (аж да цара!) праўду аб жыцці і ўпарта патрабаваць годнасці для сябе. Ніжэйзгаданыя падзеі 150-гадовай даўніны – напамін пра тыя ўчынкі крынкаўцаў.

Быў жнівень 1862 года. Спякотны час збору ўраджаю, калі кожны дзень на ўліку. Хто, як не сяляне, ведалі цану кожнай хвіліны. Аднак якраз у апошні жнівеньскі дзень тагачасны гродзенскі губернатар Іван Уладзіміравіч фон Галер, які заняў гэтую пасаду чатырма месяцамі раней, што было якраз праз год пасля вядомага лютаўскага маніфэсту аб скасаванні прыгону, атрымаў пасланне са штаба корпуса жандараў, у якім адзначалася, што сяляне Крынкаўскага сельскага таварыства памешчыка Аляксандра Ліпхарта (і яшчэ Парэчскага) не сталі выконваць некаторыя павіннасці і ўвогуле не слухаюць нікога з тых, хто з пазіцыі сваіх пасад спрабаваў “неаднаразова растлумачыць

[435] Чепко, В.В. Классовая борьба в белорусской деревне в 1-й половине XIX в. / В.В. Чепко. – Минск, 1972. – С. 24.

ім “марнасць” учынку[436]. Гэтак Крынкі, як дразга, мулялі ўжо не першаму гарадзенскаму кіраўніку.

Вось і зноў словы мясцовага прыстава, міравога пасрэдніка крынкаўскага ўчастка Г. Шантэра, таксама і хутка пасланага гродзенскага земскага спраўніка, і сваіх вясковых святароў абодвух цэркваў – нядаўна (у 1857 г.) заняўшага пасаду адміністратара касцёла айца Антонія Эйсманта і праваслаўнага Грыгорыя Пранеўскага – засталіся па-за ўвагаю сялян[437]. Святары звярталіся да непакорных неаднаразова. Але безвынікова.

Пагрозы казакоў таксама не давалі ніякага плёну[438].

Сяляне выказвалі нежаданне згаджацца са зместам устаўной граматы і адбываннем дадатковай павіннасці. У якасці доказу слушнасці сваёй пазіцыі паказвалі нейкі памятны медаль і гаварылі, што ён вызваляе іх ад працы[439]. Адначасова ж, як убачыў сам афіцэр жандарскага корпусу Гродзенскага губернскага штаба, сяляне не адмаўляліся ад паншчыны. Выконвалі яе цалкам, аднак тут жа ад дадатковых раздзелаў паншчыны рашуча адмаўляліся.

Сялянскі сход прасіў адно – адцягнуць час прыняцця Устаўной граматы да вырашэння пытання па іх пасланню ў Варшаву на імя… вялікага князя Канстанціна Мікалаевіча. Аналагічныя прашэнні сяляне падавалі губернатару і жандарскаму начальніку, які двойчы збіраў іх на сход[440].

Пад паперамі сялян стаялі невыпадковыя прозвішчы крынкаўчан: Андрэй Дамброўскі, Антон і Іван Анісімовічы, Клеменс Касацкі, Рыгор Кузьмін, Сільвестр Міклашэвіч[441]. Антон Анісімовіч ды Сільвестр Міклашэвіч былі прадстаўлены ў паперах мясцовых начальнікаў губернатару як мяцежнікі, што выказвалі асаблівую “зацятую ўпартасць і незадавальненне”[442]. Таму перш чым

[436] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 226. Арк. 1; Швед, В.В. Губернскі Гродна / В.В. Швед. – Баранавічы: Баранав. узбуйн. друкарня, 2003. – С. 8.
[437] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 226. Арк. 2; Bielski, T. Krynki i okolicy / T. Bielski. – S. 80.
[438] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 226. Арк. 2 адв.
[439] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 226. Арк. 2.
[440] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 226. Арк. 11-12.
[441] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 226. Арк. 32 адв., 35.
[442] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 226. Арк. 2.

прадоўжыць разгляд справы аб згаданым хваляванні, пазнаёмімся бліжэй з яго пачынальнікамі.

Анісімовічы – прозвішча ў Крынках слыннае. Род распаўсюджаны. У інвентары апісання Вірыёнаў ад 1845 г. Анісімовічы не згадваюцца, аднак у інвентары Ліпхартаў за 1850 г. такіх прозвішчаў некалькі. Сярод цяглых сялян згадваецца сям'я Івана Анісімовіча з сямі чалавек[443]. Там жа пазначаны Антон Анісімовіч, якому было чым рызыкаваць, бо меў у доме таксама сем душ[444]. Да паўцяглых сялян адносіліся Іосіф Анісімовіч з жонкаю і Іван Анісімовіч з жонкаю і трыма дзецьмі[445]. Адзін з Анісімовічаў – Міхаіл Т. – сустракаецца ў спісе сярод дваравых. Калі ж пагартаць старонкі рэвізійных казак гэтак за гадоў шэсцьдзесят да разглядаемых падзей, то мы заўважым Анісімовічаў і там. 1795 год. Перапіс вольных людзей на чале з …Анісімовічам Іосіфам, бургамістрам мястэчка Крынкі[446]. Пражываў гэты бургамістр з жонкаю, сынам, дачкою, служанкаю і жабруком, шляхціцам Ігнаціем Ляўковічам на Гродзенскай вуліцы. На вуліцы Свіслацкай жылі яшчэ дзве вялікія сям'і Анісімовічаў – Лукаша і Ігнація[447].

Другі актывіст выступлення – Сільвестр Міклашэвіч, у інвентары Ліпхартаў лічыцца сярод паўцяглых сялян і, як яго паплечнік Антон Анісімовіч, быў чалавек сямейны і ведаў, што можа страціць у выпадку расправы[448].

Вялікія сем'і мелі цяглыя Андрэй Дамброўскі і Клеменс Касацкі (у інвентары Ліпхартаў запісаны як Кляменцій Касіцкі)[449]. Навачавідкі, што хвалявалася не галота, а ўзрушыліся ў Крынках заможныя сяляне. Без гісторыі тут не абысціся. Вернемся зноў у апошняе пяцігоддзе XVIII стагоддзя, у векапомныя дні пасля разбору Рэчы Паспалітай. Раздача зямель і сялян рускім памешчыкам пачалася Кацярынай II і працягвалася пры Паўле I. За 5 год (1796 –1800) на беларускіх землях у маёмасць 51-га памешчыка перайшло каля 28 170

[443] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 367. Арк. 48 адв.
[444] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 367. Арк. 44 адв.
[445] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 367. Арк. 53 адв.
[446] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 16. Арк. 76 адв.
[447] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 16. Арк. 70, 73.
[448] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 367. Арк. 54 адв.
[449] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 367. Арк. 48 адв.

душ сялян[450]. Тады ж сталі прыгоннымі і крынскія мяшчане. “Мястэчка Крынкі з вёскаю Парэчча ды фальваркамі, пустымі землямі, дварамі, вёскамі “харомнымі і гароднымі”, пабудовамі, пашамі, залевамі, лясамі, сенажацямі і рыбнымі пасткамі, з маючымі быць наяўнымі і збеглымі сялянамі, нічога не выключаючы з таго, што да таго мястэчка Крынак і вёсцы Парэчча належала”[451]. Гэта закрэслівала 364 гады волі Крынак, узмоцненыя жалаванымі прывілеямі Жыгімонта ІІІ, Жыгімонта Аўгуста, Стэфана Баторыя, Уладзіслава IV (1633), Яна Казіміра (1661), Міхаіла (1670), Яна ІІІ Сабескага (1679), Аўгуста ІІІ (1745), Станіслава Аўгуста (1791)[452]. Дарэчы, спасылкі на пералічаныя прывілеі манархаў былі адной з асаблівасцей сялянскага руху ў Беларусі 1-й паловы ХІХ стагоддзя. Жыхары шматлікіх мястэчак, якія раней знаходзіліся на становішчы “месцаў”, падчас уключэння зямель у склад Расіі страцілі статут гараджан, мяшчан і ператварыліся ў прыгонных сялян – памешчыцкіх, калі мястэчка было прыватнаўласніцкім, і дзяржаўных, калі траплялі ў скарб[453].

Страціўшы правы мяшчанскага саслоўя, сяляне Крынак, як і астатніх мястэчак Беларусі (бо ўсе мястэчкі беларускіх губерняў знаходзіліся на землях памешчыцкіх), не мелі відавочных правоў. Красамоўны пералік дадзены ў данясенні аднаго з мясцовых губернатараў у Вільню ў 1838 г.: “Жыхары ўсіх (прыватнаўласніцкіх) мястэчак знаходзяцца на чыншах з правамі весці дробны гандаль, трымаць шынкі, займацца рознымі рамёствамі і карыстацца зямлёю. Але правы гэтыя *па мясцовых звычаях* (заўважым, так пра сваю “парафію” можа казаць толькі заезжы чыноўнік, каланіст!) маюць паходжанне з волі ранейшага польскага ўрада...”[454]. Крынскім мяшчанам, як былым уладарнікам магдэбургскага права, было што памятаць. Згодна з прывілеямі, мяшчане-крынчане маглі апеляваць пасля войтаўскага суда адразу ў каралеўскі –вялікакняскі. Прадпісвалася збудаваць у мястэчку ратушу, каля яе – крамы і карчмы. У

[450] Чепко, В.В. Згад. твор / В.В. Чепко. – С. 24.
[451] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 92. Воп. 1. Адз. зах. 258. Арк. 265 адв.; Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 226. Арк. 58-58 адв.
[452] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 226. Арк. 61 адв.
[453] Чепко, В.В. Згад. твор / В.В. Чепко. – С. 88.
[454] Лютый, А.М. Згад. твор / А.М. Лютый. – С. 17.

ратушнай краме дазвалялася “мёд сыціць, піва варыць і гарэлку паліць для патрэб мясцовых і за гэта капшчызна на двор ані маркі не даваці”. У Крынках таксама дазвалялася праводзіць штотыднёвыя таргі па чацвяргах і суботах. На іх “усім і кожнаму, паасобна купцам, фурмарам, карчмарам, перакупшчыкам, рамеснікам, мяшчанам, сялянам і людзям усялякага стану з усялякімі таварамі і рэчамі прадажнымі, будзь якім імем названымі, вольна прыйсці, прыехаць, тавары і рэчы выкласці і прадаваць, *купаваць* і мяняць”[455].

Аб страчанай волі ўспомніла ўжо наступнае пакаленне пасля тых, у каго гэтую волю забралі. 10 снежня 1820 года стацкі радца Міхаіл Фадзеевіч Бутаўт-Анджэйковіч, тагачасны гродзенскі губернатар, атрымаў прашэнне на імя цара за подпісам Паўла Касацкага і Мікалая Мачэйкі ад імя грамадства мястэчка Крынкі. Павел Касацкі «размяняў» тады шосты дзесятак і добра памятаў і ведаў часы, калі крынкаўцы жылі ў іншых сацыяльных і эканамічных умовах[456]. Гэта і было ўзгадана ў тэксце прашэння: *“Усеаўгусцейшы манарх. Усеміласцівейшы Гасудар. У Гродзенскай губерні і павеце мае быць мястэчка Крынкі, якое здаўна мела кіраванне паводле прывілеяў магдэбургскага права, якія мы мелі на руках па ўзору месца Гродна, пазбавіліся гэтых прывілеяў з-за самаўладдзя і карысці кіруючага ў часы польскага ўрада скарбавымі маёмасцямі Літоўскага падскарбія Тызенгаўза”*.

Тут трэба патлумачыць наступнае. Для гэтага звернемся да даследавання В. Голубева, які, аналізуючы сельскае землеўладдзе і землекарыстанне на Беларусі, адзначыў наступнае: “Паставіўшы перад сабою мэты павелічэння даходнасці дзяржаўных уладанняў, каралеўская адміністрацыя пайшла па шляху пашырэння фальваркавай гаспадаркі. Ініцыятарам і праваднікам стаў А. Тызенгаўз. На ўвазе мелася забраць у сялянства эканомій зямлю, якая раней, у другой палове XVI–XVII стст., была панскім ворывам, і ўтварыць, а дакладней, аднавіць фальваркі. З гэтай мэтай уводзіліся дзве катэгорыі сялянства – цяглыя і зямяне. Уводзіўся шэраг

---

[455] Габрусевіч, С. Бераставіца і магдэбургскае права / С. Габрусевіч, М. Пацэнка // Памяць: гіст.-дакумент. хроніка Бераставіцкага раёна. – Мінск: БЕЛТА, 1999. – С. 41-42.
[456] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 16. Арк. 71 адв.

дадатковых павіннасцей: шарваркі, мядовыя, грыбныя, праца на агародах і г.д.[457] Пра гэта і згадваюць крынчане. Чытаем далей: *“З часоў выдання Канстытуцыі 1776 г., якая скасоўвала ў розных літоўскіх мястэчках Судовыя месцы з прычыны заўважаных Урадам беспарадкаў, але згодна з якой мяшчане абавязаны толькі да грашовага штогадовага плацяжу, Тызенгаўз абклаў усіх мяшчан, акрамя грашовых плацяжоў, і некаторымі асабістымі павіннасцямі пад назвамі талок, шарваркаў, пасылак, старажовак і гвалтаў для збору хлеба, робячы, аднак, розніцу, каб мяшчане да баршчыны прымушаны не былі. У адпаведнасці з тагачасным інвентарным вопісам, адноўленым у 1796 г., кожны жыхар мястэчка Крынкі абавязаны адбываць праз год: 1) у зімовы час два разы адвезці хлеб у Гродна на судне; 2) у летні час выйсці з сям’ёю чатыры разы гвалту для збору хлеба; 3) для пасылак даць фурманку ў год тры разы на 6 міль. Пры гэтым зроблена выключэнне, калі ў пасылцы дваравое начальства не мела неабходнасці, то можна выкарыстаць на іншыя работы, толькі каб збруйныя не былі ўключаны да ворных работ, а таксама да абмалоту хлеба, д.с. каб не адбывалі паншчыны, якую штодзень выконваюць прыгонныя сяляне. Гэтымі і іншымі павіннасцямі абкладзены розныя мястэчкі, хоць за Польскім урадам скардзіліся каралю Станіславу і хоць атрымалі ахоўны рэскрыпт, але самаўладдзе падскарбія Тызенгаўза і безуладдзе, якое было ў Польшчы, не далі скасаваць злоўжыванні... Пасля раздзелу Польшчы паміж трыма дзяржавамі мястэчкі, што адышлі да каралеўства Прускага.., не толькі вызваліліся ад асобных павіннасцей, як Янава, Карыцын, Сухаволя, Дабраволя, Кузніца, Саколка, але аднавілі ў іх мясцовае начальства, якое пасля далучэння Беластоцкай вобласці пад скіпетр Вашай Імператарскай Вялікасці... аднавілі прывілеі... Акрамя вышэйзгаданых мястэчак, у Беластоцкай вобласці засталося толькі адно, за прускім урадам ад асобных павіннасцей не пазбаўленае, – гэта Адэльск, які адстаяў сваю вольнасць па Загаду Сената 1819 года ад 14 снежня.*

[457] Голубеў, В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі ў XVI–XVIII стст. / В.Ф. Голубеў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – С. 123 (176 с.).

*Гледзячы на аднаўленне першабытнага – нашых суродзічаў, а ў асаблівасці ў дзве толькі мілі ад Крынак – стану мястэчка Адэльск, падавалі гаспадзіну міністру юстыцыі прашэнне аб дазволе ў дачыненні нашых прывілеяў... Між тым, паколькі м. Крынкі пасля раздзелу Польшчы пажалавана г-ну Дзівову, дваравое начальства, якое не прытрымліваецца таго інвентарнага вопісу, па якому атрыманы Крынкі, і насуперак гэтаму вопісу павярнула да паншчыны, ...што мяшчане трапілі ў суцэльную нэнзу і галечу, іншыя жа з-за жорсткіх пакаранняў вымушаны былі пакінуць жыхарства, з'ехаць без дазволу і шукаць прытулак за мяжою. Дзеля таго ажыўлены мы, Усеміласцівейшая Ваша Імператарская Вялікасць, выдадзеным у 23 дзень сакавіка 1818 г. Маніфестам, які ахоўвае ўсіх, каб гасподскія работы выконваліся не больш як у адпаведныя дні згодна з інвентаром, падалі ў Гродзенскае губернскае праўленне прашэнне, каб... член (Земскага суда) паехаў на месца і абавязаў начальства Дзівова, каб да рашэння справы аб вольнасці нашай прытрымлівацца інвентарнага вопісу, па якой прыняў нас г. Дзівоў у Скарбовага ведамства. Па гэтаму прашэнню не толькі мы не атрымалі ніякага задавальнення, але больш таго, начальства Дзівова, калі даведалася аб нашым хаджэнні, увогуле стала ціснуць жыхароў рознымі мерамі, распаўсюдзіла па ваколіцах, каб ніхто не набываў ад нас нашых прадуктаў пад пагрозай штрафу 10 руб. срэбрам...*"[458].

Прашэнне было дастаўлена ў Варшаву цэсарэвічу Канстанціну Мікалаевічу сялянамі Мацвеем Міклашэвічам і Лаўрэнціем Балінскім. Выхад быў тыповым для такога кшталту інцыдэнтаў. Цэсарэвіч у лісце да гродзенскага губернатара піша аб тым, што, маўляў, "сяляне... падалі... прашэнне на найвышэйшае імя, пісанае са скаргаю *на эканамічнае таго мястэчка* становішча, *аб прыгнёце ім* і іншым жыхарам чынімым, ...і *на гродзенскае начальства* аб неаказанні ім законнай абароны". Той ліст цэсарэвіч перадаў... Літоўскаму ваеннаму губернатару генералу ад інфантэрыі Рымскаму-Корсакаву для разгляду. За гэта сялян-кур'ераў чакаў арышт. 14

[458] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 2005. Арк. 6–8 адв.

студзеня 1821 г. іх этапіравалі дадому закаванымі ў жалеза[459]. Мікалай Мачэйка быў прыгавораны да "рэкрутчыны" ў 47-ы егерскі полк, а Павел Касацкі жорстка збіты салдатамі[460].

У ліпені 1824 года Рашэнне Сената анулявала сілу прывілеяў і Соймавай Канстытуцыі 1776 года для м. Крынкі[461].

У снежні 1825 года сяляне Крынак ізноў назвалі сябе мяшчанамі ў прашэнні да гродзенскага губернатара і скардзіліся на прымус да павіннасцей і паншчыны, якія супярэчылі іх прывілеяванаму становішчу. Вышэйпералічаныя прывілеі манархаў былі галоўным аргументам сялян у патрабаванні волі[462]. Як вынік, Дзівову было загадана ўстрымацца ад патрабавання ад сваіх сялян дадатковых павіннасцей, акрамя тых, што пералічваліся ў прывілеях (зазначым – ужо адмененых), а сялянам пазней, у 1828 годзе, аб'яўлялася, што, маўляў, яны адпрацоўвалі паншчыну больш за 30 год і права на перагляд свайго стану таму страцілі. Такі паварот справы падмацоўваўся мясцовымі ўладамі Меркаваннем Дзяржаўнай рады, зацверджаным у лютым 1814 года, якое ставіла крынкаўскія землі, што былі дадзены Дзівову на адным прыступку з жалаванымі дваранам[463]. Яшчэ адзін аргумент губернскага кіраўніцтва заключаўся ў тым, што жыхары мястэчка яшчэ "падчас Польшчы абкладзены былі як сяляне асобнымі інвентарнымі павіннасцямі і падатнымі былі на той час у валоданні імі Асалінскім, і ў такім стане трапілі ў скарб (Расіі)"[464].

Зімою 1826 года крынчане робяць яшчэ адзін захад. Напісанае па іх просьбе крынкаўскім арганістам Янам Віткоўскім прашэнне на імя Яго Імператарскай Вялікасці Цэсарэвіча было дастаўлена непасрэдна адрасату ў Варшаву Мікалаем Анісімовічам і Мацвеем Міклашэвічам[465]. Пад пасланнем стаялі прозвішчы, акрамя кур'ераў Паўла Касацкага, Мікалая Мічэйкі, Мацвея Яновіча. Змест прашэння нязменны: пра мяшчанскія правы. Разам з прашэннем сяляне

[459] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 2005. Арк. 11.
[460] Тамсама. – Арк. 1 адв., 17-17 адв.
[461] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 226. Арк. 61.
[462] Тамсама. – Арк. 60-61.
[463] Тамсама. – Арк. 61 адв.
[464] Тамсама. – Арк. 64.
[465] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 216. Арк. 5.

прыводзілі тэкст Каралеўскіх прывілеяў[466]. Рэакцыя уладаў таксама паўтарылася. Міклашэвіча і Анісімовіча пакаралі біццём палкамі. А сялян Крынак азнаёмілі з пастановай губернатара, а таксама Загадам Сената ад 10 жніўня 1826 г. Ад крынчан патрабавалася супакоіцца і ні ў якім разе не пакідаць без спецыяльнага дазволу мястэчка. Забараняліся ўсе самавольныя паездкі[467]. У якасці згоды з гэтым патрабаваннем сяляне павінны былі паставіць свае подпісы... Але яны гэтага не зрабілі, што выклікала неверагодную абуранасць губернскага начальства: "Вышэйшая воля не была выканана ў поўным памеры"[468]. Дакументы нічога не кажуць, што ў крынчан, нарэшце, вырвалі згоду, але паперы судовай справы захавалі імёны тых сялян, якія цвёрда стаялі на сваім і былі вызначаны начальствам як "найбольш актыўныя ў супрацьстаянні ўладам". Гэта Антон і Юры Анісімовічы, Антон Хлябіч, Іосіф Кузьма, Пётр Жамойда, Сільвестр Федзюкевіч, Фёдар і Лука Яновічы[469].

У якасці пацвярджэння нязломнай волі крынчан да пошуку вольнасці палеміку з дзяржаўнымі ўстановамі працягвалі 30-гадовы Лукаш Яновіч і 50-гадовы Антон Хлябіч. Яны падалі ў 1829 годзе ад імя ўсіх сялян Крынак прашэнне аб абароне ад ціску з боку Дзівова[470]. Аднак, зыходзячы з пералічаных акалічнасцей, павятовы суд 12 сакавіка 1834 года ў чарговы раз не прызнаў мяшчанскіх правоў крынкаўскіх сялян, а словы пра паводзіны Дзівова былі разгледжаны як дзёрзкасць[471].

Чарговы раз у 1843 годзе Сільвестр Федзюкевіч, Іосіф Кучэвіч, Лука Яновіч, Якаў Касацкі, Тэадор Рудзіла, Міхаіл Макарэвіч і шэраг іншых "турбавалі" чатырма прашэннямі расійскага цара[472]. Ці трэба гаварыць, што ў вачах палкоўніка Ліпхарта сяляне-актывісты скардзіліся "без усялякіх падстаў на тое". Якаў Касацкі бачыўся памешчыку толькі "астрожнікам", а Сільвестр Міклашэвіч разглядаўся ім як жадаючы пазбегнуць усялякімі шляхамі

[466] Тамсама. – Арк. 5-6.
[467] Тамсама. – Арк. 33-33 адв., 39.
[468] Тамсама. – Арк. 35.
[469] Тамсама. – Арк. 33 адв.
[470] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 226. Арк. 63.
[471] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 367. Арк. 65, 66.
[472] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 20. Адз. зах. 1127. Арк. 1.

“рэкрутчыны” (нават выбіў два пярэднія зубы)[473]. Між іншым, тлумачальны ліст змяшчае дэталі жыцця сялян-крынчан, якія сведчаць аб жахлівым становішчы насельніцтва Крынак і наваколля ў часы масавых эпідэмій тыфу і ліхарадкі. Хоць і звяртаецца ўвага, што “хворыя сяляне пакідаюцца ім (памешчыкам) у хаце або бяруцца ў двор на лячэнне”, але і прызнаецца, што “ў абодвух фальварках Вірыёна было шмат хворых”[474]. Да таго ж, у гэтым лісце не адмаўляецца, што “побыт шмат якіх сялян памешчыка Вірыёна ў найбяднейшым стане, амаль усе яны не маюць уласнага хлеба і атрымліваюць... з двара... агародніну ці бульбу, па аднаму гарнцу жыта ў тыдзень на кожную дарослую душу, а на дзяцей памешчык Вірыён асобна адлічвае на дзень на кожнага па адной квартцы (1/16 гарнца) круп і адной квартцы гароху і ¼ квартцы солі. Тыя, якія не маюць так званага “варыва” або бульбы, атрымліваюць, акрамя гарнца жыта на душу, па паўгарнцы “яравога на прыварак”[475]. Аб стане сялян сведчаць і радкі гэтага ліста пра рацыён: “ з жыта, хлеба, бульбы ... мелюць.., а з мукі вараць гатунак кашы “зацірку”, якую ядуць без хлеба”[476].

Праз шэсць год сяляне памешчыка Івана Вірыёна  Казімір Будроўскі, Станіслаў Яновіч, Казімір Скроўба, Ігнацій Грыгаровіч, Максім Юрыла скардзіліся на жорсткія адносіны да іх з боку пана і спасылаліся на разыходжанне патрабаванняў Вірыёна са зместам інвентара. Безвынікова[477].

У 1857 годзе Кляменцію Касацкаму, Паўлу Міклашэвічу, Івану Мічэйку асабліва строга было ўказана на тое, што тыя “не згодны, што правы іх былі скасаваны”, што зацята патрабуюць свабоду, гэта неправільна”[478]. За спіною гэтых трох актывістаў была значная група ліпхартаўскіх сялян, якія падпісалі чарговы зварот аб волі. Гэта Франц Міклашэвіч, Каспар Федзюкевіч, Антон Федзюкевіч, Іван Анісімовіч, Андрэй Царэвіч, Лаўрэнцій Касацкі, Іван Задароўскі, Варфаламей Шамрукевіч, Адам Анісімовіч, Даніла Міхневіч, Андрэй Дамброўскі,

[473] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 20. Адз. зах. 1451. Арк. 1-2 адв.
[474] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 20. Адз. зах. 1451. Арк. 9 адв.-10.
[475] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 2005. Арк. 9.
[476] Тамсама.  – Арк. 9 адв.
[477] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 21. Адз. зах. 981. Арк. 1-2.
[478] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 5. Адз. зах. 1912. Арк. 7, 7 адв.

яго сын Лаўрэнцій Дамброўскі, Адам Мічэйка, Павел Міхневіч (на той час – вучань гродзенскай гімназіі), Рыгор Кішкель, Леан Кішкель, Рыгор Кузьма і Сямён Яновіч[479]. Сялянам было аб’яўлена, што ў павятовым судзе хоць і не скончана справа па заяве, заведзеная ў 1844 годзе, аднак яе змест “зусім не пра свабоду, а пра падпарадкаванне сялян мястэчка Крынкі”[480].

Новая хваля звароту да ўладаў назіралася ў 1858 годзе, калі дваццаць восем сялян накіравалі гродзенскаму губернатару прашэнне. Ім ізноў нагадалі пра рашэнне дваццацічатырохгадовай даўніны, дзе гаварылася, што “крынскія жыхары прызнаны прыгоннымі і не маюць праў на свабоду”[481].

І вось, нарэшце, той выпадак 1862 года, з якога мы пачалі. Паказальна, як інерцыйна рухалася прававая ментальнасць уладаў. Мысленне губернскіх чыноўнікаў за больш чым паўстагоддзе не змянілася. Дык што для яе год рэформы!? Што падмацаваная спадчыннай памяццю, прага некалькіх пакаленняў крынкаўцаў да свабоды!? Устаноўчая грамата мястэчка Крынкі Ліпхартаў ад 27 снежня 1862 года была ўведзена ў дзеянне без увагі на гэтыя “дробязі”[482]. Крынкі заставаліся ў рэчаіснасці імперыі, а ў іх грамадзян заставалася памяць пра волю. Яна яшчэ не раз будзе нагадваць аб сабе[*].

У канцы стагоддзя сярод статыстычных звестак аб сацыяльна-эканамічным і дэмаграфічным стане мястэчка ў адным з губернскіх дакументаў ёсць даволі дзіўныя радкі: “Аб прывілеях мястэчка. Дакументаў аб прывілеях няма, а існуе *чутка*, што дакументы гэтыя прадстаўлены ў былой Гродзенскай грамадзянскай палаце ў 1845 годзе”[483].

---

[479] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 5. Адз. зах. 1912. Арк. 8, 8 адв., 38 адв.
[480] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 5. Адз. зах. 1912. Арк. 9.
[481] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 6. Адз. зах. 226. Арк. 67 адв.
[482] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 367. Арк. 78.
[*] З данясення гродзенскага губернатара міністру ўнутраных спраў аб масавай адмове сялян Гродзенскай губерні прымаць Устаўныя граматы (28 лютага 1863 г.): “Па звестках, атрыманых ад міравых пасрэднікаў, земскіх спраўнікаў, часоваабавязаныя сяляне... з 17 па 23 лютага адмовіліся ад выканання на карысць памешчыкаў павіннасцей у наступных мясцовасцях... па Гродзенскаму павету ў валасцях: ...Крынскай... Сяляне і службовыя асобы валасцей... Крынскай… ужо былі мне (гродзенскаму губернатару) прадстаўлены...” // Памяць: гіст.-дакументальная хроніка Бераставіцкага раёна. – Мінск: БЕЛТА, 1999. – С. 80-81.
[483] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 2. Воп. 32. Адз. зах. 1501. Арк. 54.

# 1863 год

У Крынках ёсць ці не самы вялікі на абшарах, якія былі ахоплены хваляю вызваленчага мецяжу, помнік тым падзеям – узвышша, якое мае ў народзе назву "Шыбеніца". Уздымаецца "Шыбеніца" на ўскрайку мястэчка ля праваслаўных могілак. Месца гэтае вядома кожнаму крынчаніну з дзяцінства, як і яго назва. Паданне кажа пра тое, што на гэтай гары спачатку каралі паўстанцаў, а потым яна стала месцам гвалту над непакаранымі мяцежнікамі. Магчыма, гэта рабілі часці 2-й пяхотнай расійскай дывізіі, якія дыслацыраваліся ўзімку 1863 г. у гэтай мясцовасці з мэтаю "вынішчэння мяцежнікаў у краі"[484].

Выбух 1863 г. не мог не ахапіць Крынкі. Ён уцягнуў мястэчка ў самы гушчар супрацьстаяння дзяржаўных расійскіх войск і паўстанцаў. Месцазнаходжанне Крынак паміж Беластокам, дзе К. Каліноўскі з паплечнікамі абсталяваў тайную беларускую друкарню, у якой выдаваліся некаторыя беларускія агітацыйныя творы, Вялікай Бераставіцай – аднаго з асяродкаў гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, дзе кіравалі бліжэйшыя паплечнікі Каліноўскага – Фелікс Ражанскі і Ігнат Казлоўскі, і Гродна ставіла мястэчка ў эпіцэнтр асноўных падзей. Падрыхтаванае Ануфрыем Духінскім і Валерыем Урублеўскім у канцы сакавіка-пачатку красавіка ў Беластоку ўзброенае паўстанне стала часткаю агульнага паўстання на Гродзеншчыне, якое выбухнула 12 красавіка[485].

Вядома, што ў маі 1863 г. атрад паўстанцаў увайшоў у мястэчка. Адзіны дакумент – урывак службовага данясення ў губернатарскую канцылярыю – дазваляе ў нейкай ступені ўявіць падзеі тых дзён. Атрад паўстанцаў рушыў да панскіх двароў. Спачатку да Ліпхарта. Там мяцежнікі ўзялі з панскай стайні двух коней і сядло. Там жа, каля панскага дома, патрабавалі ад тагачаснага ўпраўляючага маёнткам Глябовіча пачаставаць усіх гарэлкай. Прыняўшы пачастунак, як асобна адзначаецца ў данясенні, "не злазячы з коней", атрад

---

[484] Виленский временник. – Вильна, 1913. – Кн. VI: Архивные материала муравьёвского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863-1864 гг. в пределах Северо-Западного края. Ч. 2: Переписка по политическим делам гражданского управления с 1 мая 1862 г. по май 1863 г. / сост. А. Миловидов. – С. 13, 426.

[485] Каліноўскі, К. За нашу вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад. Г. Кісялёва. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. – С. 210, 404.

накіраваўся ў бок Пагулянцы і далей у в. Белагорцы. У ноч з 5 на 6 мая атрад інсургентаў з 20 чалавек ізноў быў у Крынках. Шукалі пана Пачобута, упраўляючага дваром Вірыёна, пагражаючы расправаю. Ізноў патрабавалі коней з сёдламі, абрабавалі краму, захапілі палову бочкі аўсу, набралі сена, пацягнулі за сабою і фурманку. З усёю здабычаю з'ехалі ў цемру ночы. Аднак удзень атрад ізноў вярнуўся ў Крынкі. Накіраваўся ў канцылярыю мястэчка. Патрабавалі ў валаснога пісара скарбовых грошаў і абвясцілі, што праз пэўны час жыхары мястэчка павінны быць сабраныя на Рынкавай плошчы. Пасля паўстанцы прымусілі пісара паабяцаць, што той не будзе дакладаць пра гэты візіт свайму начальству, і рушылі ў бок рынка[486]. Людзі сабраліся каля плябаніі. Там жа, каля драўлянага касцёла, крынчане і пачулі маніфест, у якім абвяшчалася, што з гэтага часу сяляне вызваляюцца ад усіх павіннасцяў і зямля, якой яны валодалі, з'яўляецца іх маёмасцю. Рэкрутчына змяншаецца на пятнаццаць гадоў. Усім абяцалася роўнасць "без розніцы". Далей паўстанцы заклікалі ўсіх жадаючых уступіць у атрад дзеля "вяртання... Старапольшчыны"[487].

19 мая атрад паўстанцаў з Крынак рушыў далей і ўступіў у Малую Бераставіцу[488].

Ці павялічыўся ён за кошт крынчан? Напэўна, так. Прыхільнікаў мецяжу ў мястэчку было нямала. Вядомы дакладныя звесткі аб удзеле ў паўстанні 22-гадовага селяніна Івана Васільевіча Курцэвіча, высланага за гэта ў ліпені 1864 года ў Смаленскую арэстанцкую роту[489].

Неабыякавым да мяцежнікаў быў тагачасны аканом маёнтка Крынкі Канстанцін Віктаравіч Вінардзін. Гэты 34-гадовы дваранін разам з жонкай Анэляй неаднаразова даваў прытулак паўстанцам, карміў іх, перадаваў неабходныя рэчы і дапамагаў перапраўляць цераз Буг у Царства Польскае параненых мяцежнікаў[490]. Як часта бывала, яго "здалі" самі сяляне, да якіх той неаднаразова звяртаўся з заклікамі і перакананнямі ў слушнасці мяцежнай справы. Вінардзін з жонкаю быў перададзены суду і адпраўлены ў Гродзенскую турму[491].

---

[486] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 3. Воп. 1. Адз. зах. 15. Арк. 132-132 адв.
[487] Токць, С. Беларуская вёска на мяжы эпох: змены этнічнай самасвядомасці сялянства ва ўмовах распаду традыцыйнага аграрнага грамадства (па матэрыялах Гарадзеншчыны XIX – пачатку XX стст.): манаграфія / С.М. Токць. — Гродна: ГрДУ, 2003. – С. 56.
[488] Пацэйка, М.І. Паўстанне 1863 г. на Бераставіччыне / М.І. Пацэйка // Памяць: гіст.-дакумент. хроніка Бераставіцкага раёна. – Мінск: БЕЛТА, 1999. – С. 74—79.
[489] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 3. Воп. 1. Адз. зах. 43. Арк. 1 адв.
[490] НГАБ г. у Гродне. – Ф. 1. Воп. 34. Адз. зах. 1805. Арк. 1 адв.–2.
[491] Тамсама. – Арк. 2.

У Гродзенскім архіве захавалася справа прыстава 2-га стану Румеля, якога выдаў уладам салдат Украінскага пяхотнага палка з мясцовых Гірша Нятупскі. Данос на Румеля ўтрымліваў той факт, што, маўляў, ён неаднаразова надвячоркам збіраў у сябе ў хаце людзей – ад 30 да 50 чалавек. Быццам бы прыязджалі да яго і на карэтах, і на конях, і вялі размовы да ночы[492]. Румеля арыштавалі, пачалося следства. Людзей, якія прыходзілі да прыстава, не знайшлі, але некаторую зброю, пра якую таксама пісаў даносчык – дзве стрэльбы, шашку і кінжал – далучылі да справы. Лёс гэтага прыстава невядомы. Але ў спісах "палітычных злачынцаў, пазбаўленых па суду маёмасці, канфіскаванай у скарб з 01.08 па 01.09.1864 г.", пазначаны памерлы адстаўны капітан Румель[493]. Можа, гэта і ёсць крынскі прыстаў?

Таксама вядома, што Іван Восіпавіч Вірыён і яго сын Станіслаў, якому ў той час споўнілася 69 год шэсць месяцаў, знаходзіўся пад следствам па падазрэнні ў прыхільнасці і падтрымцы ўдзельнікаў мецяжу.

Не быў у баку ад паўстанцаў і касцёл. У яго так званых "плябальных" пабудовах, якія былі пératвораны ў лазарэт, хаваліся і лячыліся параненыя мяцежнікі[494].

Усё гэта дае падставу думаць, што паўстанцы выйшлі з Крынак, дзе папоўнілі не толькі свае прыпасы харчавання і адзення, але і павялічыліся колькасна. У Малой Бераставіцы паўтарыўся такі самы сход з заклікамі і абяцаннямі волі. У наступны дзень атрады рушылі на Вялікую Бераставіцу і занялі яе. У кожным новым месцы яны аб'яўлялі аб сваёй уладзе і рабілі рэйды ў навакольныя вёскі. Трэцім мястэчкам на шляху змагароў была Свіслач[495]. І тут ім удалося перамагчы і затрымацца на пэўны час. У Свіслачы да паўстанцаў далучылася нямала новых байцоў, якія былі вельмі дарэчы, бо ўслед рушыла расійская рэгулярная армія.

Пройдзе час, і праз дваццаць гадоў пасля абвешчанага 15 мая 1883 г. маніфеста некаторыя паўстанцы будуць вяртацца з месцаў пакарання. У Крынкі "з былых палітычных ссыльных 1863 г." не вярнецца ніхто[496].

---

[492] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 34. Адз. зах. 190. Арк. 3.
[493] Хурсік, В. Трыумф белай гвардыі. Беларускія дваране ў паўстанні 1863-1864 гг. Гістарычны нарыс і спісы / В. Хурсік. – Мінск: Пейто, 2001. – С. 132.
[494] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 18. Арк. 7 адв.
[495] Пацэйка, М.І. Згад. твор / М.І. Пацэйка. – С. 79.
[496] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 77. Воп. 2. Адз. зах. 4. Арк. 11.

# Крынкі ў рэвалюцыі 1905–1907 гг.

Калі падчас палітычных перамен 1917 года ў Расіі Крынкі былі пад кайзераўскай акупацыяй і цераз кардон лініі фронту хвалі рэвалюцыйнага разбурэння ледзь працiскваліся, то падзеі 1905–1907 гг. ахапілі мястэчка цалкам. Асноўнай падставаю для пераўтварэння правінцыйных Крынак у адзін са знакамітых цэнтраў рабочага рэвалюцыйнага руху ў імперыі стаў індустрыяльны ўздым.

Крынкі маглі застацца ў гісторыі рэвалюцыі ўжо таму, што з іх паходзіў адзін з рэвалюцыянераў-тэрарыстаў, гарбар і эсэр Лейба Сікорскі. У 1904 г. ён разам з Ягорам Сазонавым і Сяргеем Каляевым забілі сумнавядомага царскага міністра Плеве. Сваю бомбу Сікорскі не выкарыстаў, таму што справу завяршыў Каляеў, пасля чаго трапіў у Сібір[497]. Аднак у кнізе “Pinkas Krynki” зазначана, што ў 1905 годзе “рэвалюцыйныя Крынкі сталі цэнтрам свету: тэлеграфныя агенцтвы змяшчалі навіны аб выступленні працоўных у Санкт-Пецярбургу і... Крынках”[498].

Трэба паўтарыцца, што палітычная барацьба ў гэтым мястэчку на рубяжы XIX–XX стст. – найбольш даследаваная старонка яго гісторыі[499].

Уздым рэвалюцыйнага руху меў не толькі сталічны расійскі штуршок, але і ўнутранакрынскі ў выглядзе жудасна цяжкіх умоў працы гарбароў, якая суправаджалася выключна высокай ступенню іх

---

[497] Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry. – S. 63.
[498] Ibid. – S. 68.
[499] Пацэнка, М.І. Ветры новага веку (1901─1905) / М.І. Пацэнка // Памяць: гіст.-дакумент. хроніка Бераставіцкага раёна. – Мінск: БЕЛТА, 1999. – С. 99─103; Bielski, T. Krynki i ocolicy / T. Bielski. – Posnan, 1972; Czobat, A. Straiki garbagzy u Krynkach / A. Czobat // Tutaj w Krynkach i okolicy. – 2003. – № 3. – С. 10-11; 2003. –№ 4. – С. 9–11; Czobat, A. Styczen 1905 w Kruzynianach / A. Czobat // Tutaj w Krynkach i okolicy. – 2002. – № 12. – С. 24-25; Korzeg, P. Perwsze straiki w Krynkach / P. Korzeg // Biuletyn zydowskie Institutu Historycznego. – Warszawa, 1962. – № 43-44; Korzeg, P. Pol wieku dziejow ruchu rewolucyinego Bialostoczyzny (1864–1914) / P. Korzeg. – Warszawa, 1965; Mark, N. Problemat zydowski w okresie walk stuczniowo-lutowskich 1905 / N. Mark // Biuletyn zydowskie Institutu Historycznego. – Warszawa, 1956. – № 17-18; Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry. – S. 68.

эксплуатацыі[500]. "У вачах самой габрэйскай грамадскасці гарбар-рабочы знаходзіўся на ніжэйшай ступені, нават ніжэй за астатніх рабочых – яго вобраз суправаджаўся пахам скуры, крыві і кіслаты", – тлумачаць аўтары "Pinkas Krynki"[501]. На дваццаці буйных фабрыках працавалі сотні рабочых. Яны прагнулі істотных зменаў, іх адчуванне жыцця ўжо рознілася ад папярэдняга светапогляду габрэйскага кагала. С. Дубнова-Эрліх слушна заўважае, што "новая генерацыя фабрычна-завадскіх рабочых з габрэйскіх кварталаў – гэта не тыя, хто старанна вывучаў Тору, а тыя, хто мае моцны кулак і байцоўскі тэмперамент"[502]. Гэтая частка насельніцтва мястэчка гатова была актыўна ўдзельнічаць у сацыяльнай барацьбе. Аб умовах працы ў гарбарнях ужо згадвалася. Праца за трыццаць капеек у дзень з небяспекаю захварэць на сібірскую язву, з пяці раніцы да васьмі вечара, не пакідала ніякай жыццёвай перспектывы.

Габрэі Беларусі адзначаліся сацыяльнай актыўнасцю, аб чым сведчыць сіяніцкі і сацыялістычны рух у Мінску, Бабруйску, Гродне, Беластоку, іншых буйных гарадах і амаль ва ўсіх мястэчках. У сярэдзіне 90-х гг. у Мінску была створана сіяніцкая арганізацыя пад назвай "Першы сіяніцкі гурток"[503]. А першая забастоўка гарбароў-рабочых, у асноўным габрэяў, у Крынках адбылася ў 1897 годзе. Крынкі ліхаманіла болей за паўгода. Пачатак быў пакладзены ў маі, а доўжыліся стачкі да лістапада. У забастоўцы 5 ліпеня прынялі ўдзел 200 чалавек[504]. Традыцыйныя патрабаванні павялічыць заробак і палепшыць умовы працы, перш за ўсё зменшыць працоўны дзень, урэшце рэшт мелі плён. А. Чобат піша, што 15 лістапада забастоўшчыкі збіраліся на так званую "маёўку" ў мясцовым лесе Звярынец. Асобнага кіраўніцтва ў забастоўшчыкаў не было[505]. Але ўвогуле падчас хваляванняў гэтага года кіраўнікі ўсё ж былі. Гэта

[500] Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry. – S. 69.
[501] Ibid. – S. 69.
[502] Ibid. – S. 66.
[503] Скир, А. Еврейская духовная культура в Беларуси / А. Скир. – Минск: Мастацкая літаратура, 1995. – С. 10.
[504] Bielski, T. Krynki i ocolicy / T. Bielski. – Posnan, 1972. – S. 91.
[505] Czobat, A. Straiki garbagzy u Krynkach / A. Czobat // Tutaj w Krynkach i okolicy. – 2003. – № 3. – C. 10.

Гэршаль Ткач, Мэер Квят і Фердынант Залескі[506]. Былі выкарыстаны войскі 103-га пяхотнага палка, які дыслацыраваўся ля Гродна. Мэта хваляванняў – павелічэнне заробка да 50 капеек і змяншэнне працоўнага дня з 15-ці гадзін да 12-ці. Падзеі 1897 года ў Крынках адзначыліся як адно з першых выступленняў габрэйскага рабочага руху і былі ацэнены як учынак, які "высунуў крынскіх рабочых у першыя яго рады". У верасні 1897 г. у недалёкай ад Крынак Вільні быў арганізаваны сацыялістычны рух "Бунд". Яго газеты на ідыш хутка пачалі з'яўляцца ў Крынках.

З гэтага часу Крынкі становяцца месцам, дзе падобныя факты сацыяльна-палітычнага супрацьстаяння ўжо не здзіўлялі, а сталічныя і губернскія ўлады добра разумелі, што гэтае мястэчка сацыяльна небяспечнае і патрабуе пільнай увагі. Стачкі адна за другой праходзілі ў 1899, 1901, 1903 гг.[507] У 1901 годзе не менш чым 70 гарбароў сабраліся ў лесе, дзе казалі рэвалюцыйныя прамовы і спявалі песні[508]. У дні хваляванняў 1901 года Аншэль Кнышынскі спрабаваў арганізаваць супраціўленне рабочым з боку фабрыкантаў не толькі Крынак, а і Смаргоні, вядомага гарбарнага цэнтра ў краі[509].

У 1903 годзе баставалі каля 500 чалавек[510]. Палітычную барацьбу кантралявалі палітычныя партыі – Бунд або анархісты. У мястэчку знаходзілася шмат іх прыхільнікаў. Барацьбітамі за свае правы былі пераважна маладыя людзі. У хваляванні 1901 г. гэта была моладзь 18–22 гадоў, а гарбароў ва ўзросце 27–30 гадоў было толькі трое. У 1904 годзе, калі ў Амстэрдаме адбыўся чарговы з'езд Бунда, з 2240 дэпутатаў 250 рэвалюцыянераў былі крынчане[511]. Кіраўніком крынкаўскіх анархістаў быў пісьменнік Якаў Крапляк[512].

3 мая 1904 года ў Крынках – чарговы выбух сацыяльнага незадавальнення. Рабочыя зноў патрабавалі павелічэння заработнай платы і заклікалі насельніцтва ваколіц падтрымаць іх.

---

[506] Bielski, T. Krynki i ocolicy / T. Bielski. – Posnan, 1972. – S. 91.
[507] Czobat, A. Straiki garbagzy u Krynkach... / A. Czobat. – S. 10.
[508] Czobat, A. Straiki garbagzy u Krynkach / A. Czobat. – S. 76.
[509] Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry. – S. 74.
[510] Bielski, T. Krynki i ocolicy / T. Bielski. – Posnan, 1972. – S. 97.
[511] Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry. – S. 76.
[512] Ibid. – S. 77.

І вось вядомы дзень 17 студзеня 1905 года. У мястэчку было больш за 1500 рабочых. Каля сінагогі сабраліся амаль усе. У зводках паліцыі і жандармерыі гэта назвалася “скопішчам” – колькасць людзей уражвала. Заводы, усе без выключэння, не працавалі. Забастоўшчыкі ад сінагогі рушылі па мястэчку, збіваючы і знішчаючы ўсё, што нагадвала дзяржаўную ўладу. Натоўп уварваўся ў станавую кватэру, потым у валасную, пацярпелі вучылішчы і кватэра жандарскага унтэр-афіцэра. На ўрадніка Мацапуру з дэлінаю ў руцэ кінуўся Гірш Губінскі[513]. Асобным аб’ектам стала вінная лаўка, ці, як яе называлі, “манаполія”. Набіўшыся ў памяшканне гэтай крамы, забастоўшчыкі пачалі знішчаць усё. Тут вылучыўся 35-гадовы Балтазар Янкель Бах[514]. Адначасова з крынкаўскай была абрабавана вінная лаўка ў Крушынянах. “Жонка карчмара, – піша А. Чобат, – назвала на следстве прозвішчы актывістаў пагрому: Аляксандра Казлоўскага, Міхаіла Курцэвіча, Вольфа Паплаўскага, Івана Шымука, Андрэя Лушчы, Максіма Рагажэўскага”[515].

“Крынкі вызначыліся больш за Пецярбург. Учынілі забастоўку, казалі прамовы, ...напалі на “манаполію” і разбурылі яе, рабілі пагромы ў цывільных установах... карацей, туды прыбылі войскі,” – чытаем у адным з прыватных лістоў крынкаўскага мешчаніна Цыркеля[516].

Наступны дзень жыцця мястэчка быў адзначаны дэманстрацыяй і прыбыццём войск 63-га пяхотнага палка. Спачатку надышла адна рота, потым яшчэ дзве. Дэманстрацыя суправаджалася выклікамі “Прэч самадзяржаўе!” і стрэламі. Салдаты пад кіраўніцтвам афіцэраў разам з прыставам і ўраднікамі Каласоўскім і Мацэпурай рушылі па плошчы і памежных з ёю вуліцах. Часам 7–12-гадовыя хлопчыкі з’едліва клікалі салдат і паўтаралі лозунгі, якія чулі ад дарослых падчас шэсця. Даганяць іх і страляць, вядома ж, не было магчымасці. Настрой быў нервовы, і дзяржаўныя прадстаўнікі не адчувалі сябе ўтульна ў Крынках. Афіцэры паспрабавалі дамагчыся выканання

[513] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 139. Воп. 2. Адз. зах. 27. Арк. 134.
[514] Тамсама.
[515] Czobat, A. Styczen 1905 w Kruzynianach / A. Czobat // Tutaj w Krynkach i okolicy. – 2002. – № 12. – С. 24.
[516] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 139. Воп. 2. Адз. зах. 27. Арк. 8.

распараджэння, каб рабочыя не збіраліся на плошчы і разыходзіліся па хатах. Рэакцыі на гэта ніякай не было. Частка тых, хто быў у цэнтры мястэчка і падкрэслена ігнаравалі заклікі афіцэраў, яшчэ і падбухторвалі салдат не падпарадкоўвацца, а "рушыць ў вінную лаўку"[517]. Сярод іх – Казімір Сцепанчук і Бранiслаў Эдуард Хін. Іх і яшчэ Войцэха Паўлавіча Баха з Парэчча, Андрэя Мікалаевіча Сіцько з Малой Бераставіцы, Рафаіла Станіслававіча Пячко з Астапкаўшчызны і Шмуеля Медэля Каплана з Росі салдаты арыштавалі як найбольш дзёрзкіх.

19 студзеня рабочыя рушылі з Крынак у Крушыняны і планавалі накіравацца ў Галынку і Вялікую Бераставіцу. Але рух ім быў перакрыты ўрадавымі войскамі. Пайшлі масавыя арышты. Тры дні "крынкаўскай рэспублікі" скончыліся. Праводзілася следства, а потым і суд над яе стваральнікамі[518]. У 1908 годзе справы аб беспарадках у Крынках склалі 12 тамоў. Сотні людзей былі затрыманы, апыталі дзесяткі сведкаў. Справа цягнулася да 1909 года[519]. Перш за ўсё пад следствам апынуліся крынчане, але былі і жыхары іншых мясцін. Пералічаныя ніжэй 66 чалавек на 1908 г. згадваюцца ў ліку асуджаных. Гэта *Міхаіл Якаўлевіч Талькоўскі*, Йосель Якаўлевіч Бекеровіч, Восіп Якаўлевіч Паплаўскі, *Невах Лейба Герцавацкі*, Лэйзер Борух Гардон, Пінхус Абрам Гяршчынскі, Гірш Шмуловіч Губінскі, *Хацкель Хаім-Шмуйла Каплан, Ёсель* і Шахна Хацкалёвы Тэркелі, *Адольф-Юльян Фандро, Браніслаў Эдуард Хін, Лейба Ёселевіч Шэйна*, Кусель-Нохім Абрам Іцковіч Шустэр, Юльян Іванавіч Цюхай, Андрэй і Балтазар Францавы, *Балтазар і Іван Яцкавы*, Браніслаў, Аляксандр, Вікенцій, Якаў, Іван, Казімір Бахі, Генрых Аляксандравіч Будроўскі, Антон пазашлюбны Гушча, Вікенцій Францавіч Дзядзель, Юрый Раймундавіч, Канстанцін Міхайлавіч і Восіп Якаўлевіч Камінскія, Платон Мікалаевіч Кетурка, Станіслаў Ігнацьевіч Кішкель, Міхаіл Іванавіч Клімук, Аляксандр Антонавіч Казлоўскі, Аляксандр Сямёнавіч Кузьма, Міхаіл Іпалітавіч Курцэвіч, Станіслаў Мікалаевіч

[517] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 139. Воп. 2. Адз. зах. 105. Арк. 40-40 адв.
[518] Наша Ніва. – 1908. – № 24.
[519] Czobat, A. Styczen 1905 w Kruzynianach / A. Czobat // Tutaj w Krynkach i okolicy. – 2002. – № 12. – С. 25.

Лукашэвіч, Андрэй пазашлюбны Лушча, Балтазар Платонавіч Місюкевіч, Венедзікт і Сямён Піліпавічы Наумовічы, *Антон Адамавіч Невель*, Антон Мікалаевіч Наско, Ігнацій Венедзіктавіч Пячко, Аляксандр Дамінікавіч Піцэвіч, Віктар Міхайлавіч Пуль, Емяльян пазашлюбны Пухальскі, Максім Мікалаевіч Рагачэўскі, Уладзімір Аляксеевіч Рудкоўскі, Аляксандр Станіслававіч Сіпко, Антон Лаўрэнцьевіч Стоцкі, *Іван пазашлюбны Усціновіч*, Міхаіл Мікалаевіч Хобец, Павел Якаўлевіч Царэвіч, Станіслаў Сцяпанавіч Царнецкі, Іван Андрэевіч Шымак, Іван Восіпавіч Янкевіч, Шлёма-Злоты Вайнер, Янкель-Носель Курзнер, Аран Ласкоўскі, Моўша Мілер, Хаім-Герш Мордхелевіч, Цалка Нашнес, Пінхус Рабіновіч, Альтэр Шыес, Хаім-Нахман Шнайдэр, Мэер Эпштэйн, Пётр Будроўскі, Фёдар Дарошка, Юсцін Кузьма, Аляксандр Лекуц[520]. Вызначаны курсівам тыя асобы, знаходжанне якіх пад арыштам пацвярджалася, за астатніх можна было заплаціць заклад у 500 рублёў. Толькі ў 1908 годзе адначасова былі апраўданы, бо не "знайшлося падстаў для абвінавачвання", 77 чалавек з раней затрыманых[521].

"Крынкаўская рэспубліка", як гэтыя дні называла прэса, была своеасаблівай кульмінацыяй уздыму тутэйшага рабочага руху ў часу рэвалюцыі 1905–1907 гг. Аднак заканчэнне гэтых дзён разбэшчанай вольнасці не завяршыла руху ў мястэчку. Звыклаю з'яваю штодзённага жыцця былі рознага роду лістоўкі, пракламацыі, якія можна было сустрэць на рынку, у крамах, вінных лаўках. Яны не толькі прывозіліся ў мястэчка, але нярэдка складаліся і друкаваліся ў саміх Крынках. То тут, то там – выпадкова, у сінагозе, пасля пажару 15 снежня 1907 г., па звестках "сэксотаў" жандараў, у доме Капіцы знаходзілі розныя доказы нелегальнай дзейнасці: шрыфты, прылады друку, паперу, тэксты са "злачынным зместам"[522].

Прысутнасць Бунда і іншых рэвалюцыйных партый адчувалася ў Крынках таго часу заўсёды. Яны заклікалі гарбароў-габрэяў не толькі звяртаць увагу на сваё становішча, мэты і задачы барацьбы, але і падштурхоўвалі да кансалідацыі са змагарамі іншых прамысловых

[520] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 139. Воп. 2. Адз. зах. 105. Арк. 16-16 адв.
[521] Тамсама. – Арк. 17.
[522] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 369. Воп. 1. Адз. зах. 25. Арк. 8; Адз. зах. 16. Арк. 10 адв.

цэнтраў (Гродна, Вільні, Смаргоні, Беластоку і г.д.)[523]. Жандарскія даносы стракацяць звесткамі аб “зборышчах” бундаўцаў, анархістаў і іншых “злачынных элементаў” у хатах местачкоўцаў[524]. Сярод выступленняў рабочых мястэчка ў час заняпаду рэвалюцыі 1905–1907 гг. трэба адзначыць працяглыя хваляванні і стачкі на ўсіх заводах мястэчка з 26 сакавіка па 8 красавіка 1907 г.[525] Без працы пасля гэтага засталіся каля пяцісот рабочых. 19 верасня таго ж года ў Крынках былі арыштаваны 11 чалавек. Гэта былі тыя, каго здолелі схапіць пры разгоне мітынгу, гэта каля 50 маладых людзей мястэчка. Сабраўшыся на ўскрайку Крынак, яны выказваліся ў падтрымку чарговай галадоўкі гарбароў[526].

У дні рэвалюцыйных перамен, пасля Маніфеста Мікалая ІІ 17 кастрычніка 1905 г. аб абавязковай думскай дзейнасці, выбары ў гэты новы дзяржаўны ўсерасійскі орган не абмінулі мястэчка. Вядома, што ў спісах выбраных дэлегатаў у ІІ Думу з ліку ўпаўнаважаных ад рабочых прамысловага ўчастку Гродзенскай губерні, выбраных 12 студзеня 1907 г. з правам удзелу ў з’ездзе, значыўся Міхель Шмуйлавіч Ківансон з завода Аншэля Кнышынскага[527]. Прычына выбару менавіта гэтага завода ў тым, што толькі гэтае прадпрыемства падпадала пад патрабаванні да фабрычна-завадской і горна-здабываючай прамысловасці, у якіх “ колькасць рабочых мусіла быць не менш за 50 чалавек”.

Спісы Гродзенскай губерні па выбарах членаў у Дзяржаўную думу прадстаўнікоў крынскіх рабочых не ўтрымліваюць[528]. З ліку асобаў, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах, з Крынак пазначаны тры чалавекі: святар Георгій Пранеўскі і мяшчане “польскага паходжання” Станіслаў Іванавіч Вірыён і Мечыслаў Іванавіч Вірыён[529].

Вопыт рэвалюцыйнага змагання не быў дарэмным. Да 1911 г. у мястэчку ўжо склаўся ўплывовы прафсаюзны рух. Разам з партыямі ён вызначаў розныя сацыяльна-эканамічныя патрабаванні, што дазваляла

[523] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 369. Воп. 1. Адз. зах. 26. Арк. 8.
[524] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 369. Воп. 1. Адз. зах. 5. Арк. 12 адв., 13.
[525] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1168. Воп. 1. Адз. зах. 3. Арк. 115.
[526] Тамсама. – Арк. 324-325.
[527] Гродненские губернские ведомости. – 1907. – № 5. – 16 января.
[528] Тамсама. – 1907. – № 78.
[529] Тамсама. – 1907. – № 54. – 10 июля.

праводзіць час ад часу працяглыя забастоўкі (н-д: у 1912 г. – 15-тыднёвая) з выкананнем пэўных умоў забастоўшчыкаў. Крынскія прафсаюзы гарбароў знаходзілі магчымасць супрацоўніцтва як з партыямі, якія часам ігнаравалі іх легальную дзейнасць, так і з фабрыкантамі, якія, у сваю чаргу, думалі перш за ўсё аб усталяванні жорсткага кантролю над рабочымі, у тым ліку за кошт павелічэння пільнасці мясцовых карных органаў. Хаця палітычная апатыя, ці, як пісалася тады, “крайняя абыякавасць” часткі крынкаўскага насельніцтва да чарговых выбараў у Думу ў 1912 годзе была яшчэ адным з шматлікіх пацвярджэнняў адносін людзей да грамадска-палітычных падзей у той час, у іншых раёнах гарбарнай вытворчасці назіраўся суцэльны заняпад барацьбы, Крынкі заставаліся “адным з тых цэнтраў рэвалюцыйнай барацьбы, якія вызначаліся сваёй актыўнасцю да канца”[530].

[530] Наше утро. – 1912. – № 111. – 4 октября; Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry.

# ВОЙНЫ
## Крынкаўскі эпізод вайны 1812 года

Спрадвеку Крынкам была напаткана доля мястэчка, якое "размясцілася на лініі агню паміж перастрэліваючыміся акопамі, на вялікім ваенным шляху сусветнай гісторыі" (П.А. Фларэнскі). З пачатку "невядомая" для савецкіх беларусаў вайна 1654–1667 гг., за ёй Паўночная вайна Расіі і Швецыі 1700–1721 гг. кожны раз істотна выбівалі мясцовае насельніцтва. Пацвердзіўся гэты лёс і ў пачатку дзевятнаццатага стагоддзя. Вялікая вайна Напалеона з Расіяй прайшлася па Крынках і іх ваколіцах, пакінуўшы свой змрочны след.

Напраўду кажучы, крынчане за весь час гісторыі звыкліся з вайскоўцамі. Не аднойчы тыя заставаліся на пастой у мястэчку. У местачкоўцаў адным з абавязкаў было забеспячэнне фурманкамі вайсковых падраздзяленняў, якія праходзілі цераз крынкаўскія мясціны[531]. Абавязковая пры расійскай уладзе для ўсіх крынкаўскіх мужчын рэкрутчына штогод забірала па 4–6 чалавек у войска[532]. Прывядзем некаторыя дадзеныя пра дэмаграфічныя зрухі ў складзе крынкаўскага насельніцтва, прама ці ўскосна выкліканыя вайной 1812 г.[533]

Табліца 6

| Абшара | Насельніцтва паводле рэвізскага перапісу 1811 г. | Страты (памерла) | У рэкруты | У войсках Напалеона | Уцяклі з французскімі або расійскімі войскамі | Наяўнае насельніцтва на 1813 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Крынкі маёнтка Дзівова | 429 | 53 | 1 | 4 | 8 | 363 |
| Крынкі маёнтка Сакалова | 322 | 69 | 1 | 4 | – | 252 |
| Плебанія Крынская | 19 | 4 | – | – | 3 | 8 |

531 НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 365. Арк. 6 адв.
532 НГАБ у г. Гродне. – Ф. 864. Воп. 1. Адз. зах. 1. Арк. 30 адв., 31 адв., 53 адв. Адз. зах. 2. Арк. 268 адв., 276 адв. Адз. зах. 3. Арк. 6, 35. Адз. зах. 4. Арк. 351 адв.–354.
533 НГАБ у г. Гродне. – Ф. 1. Воп. 1. Адз. зах. 296. Арк. 10—18 адв., 14 адв.-15.

Але вайна 1812 г. мела велізарныя памеры і таму была зусім іншай справаю. Цяпер складана высветліць, як, калі і ад каго крынчане даведаліся пра вайну. Толькі на самым рубяжы Імперыі пераход Напалеона цераз Нёман на ўсход не мог быць незаўважаным адразу. Мабілізацыя ў 1812 г. у расійскае войска праводзілася, як і раней. Але не выключаецца, што ў ваенных дзеяннях прымалі ўдзел і ранейшыя прызваныя ў войска крынчане.

Баявых дзеянняў альбо якіх-небудзь адметных манеўраў у першы этап вайны ў крынскай мясцовасці не адбылося. У хуткім часе пачалася французская акупацыя, і доўжылася яна да канца вайны, да снежня. Галоўны цяжар новай улады быў эканамічны. Забеспячэнне расійскай арміі змянілася забеспячэннем французаў. У Гродзенскім архіве захавалася справа аб рэквізіцыях з насельніцтва на карысць абедзвюх армій. Дзіўна, што аркуш запатрабаванняў (галоўны паказчык для даследчыка аб яго папярэдніках) быў без пазначэнняў. Звесткі аб рэквізіцыях у 1812 і 1813 гг. склаў люстратар Station Станіслаў Клішэўскі. Дзякуючы рупліва сабраным ім лічбам і пераліку рэчаў, якія падлягалі рэквізіцыі з Дзівапола, двара Сакалова і плябаніі Крынак, мы можам пазнаёміцца з памерамі і характарам эканамічнай палітыкі абедзвюх армій. Як вядома, і маёнтак, і плябанія ўключалі ў сябе не толькі Крынкі, але і адпаведныя вёскі, аднак местачкоўцы былі значнаю часткаю кожнай часткі крынскай парафіі.

Агульная колькасць маёмасці, забранай рускай арміяй і французамі ў 1812–1813 гг., складалася з грашовых падаткаў, жыта азімага, пшаніцы, грэчкі, ячменя, гароха, аўса яравога, сена скошанага, саломы, хлеба, крупы, птушак (гусі, індзейкі, качкі, куры), масла, венжаніны, сала, солі, піва, гарэлкі, мёда, сотаў[534]. Дваццаць найменняў – ці не ўвесь пералік вытворчасці сялянскай гаспадаркі, якая ў поўным аб'ёме забяспечвала акупантаў усім неабходным.

Каб ацаніць колькасныя дадзеныя, а значыць, уявіць эканамічны ціск ваюючых бакоў на жыццё мястэчка, трэба параўнаць лічбы С. Клішэўскага з тагачаснымі аб'ёмамі вытворчасці, ураджаямі, цэнамі на рынку. Неабходна таксама ўлічваць агульны стан гаспадаркі крынчан Дзівова і Сакалова і мяшчан Крынак у першай палове XIX

[534] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 12. Адз. зах. 425. Арк. 51 адв.–52, 101 адв.–102.

стагоддзя. Прыведзеная табліца ўтрымлівае выніковыя паказчыкі рэквізіцый, аб'яднаныя С. Клішэўскім[535].

Табліца 7

| № п/п | Аб'ект рэквізіцыі | Рускае войска колькасць/кошт на лістапад 1812 г. | Французскае войска колькасць/кошт на лістапад 1812 г. |
|---|---|---|---|
| 1. | Грошы | 1008 руб. 80 кап. | 10 299 руб. 26½ кап. |
| 2. | Жыта азімае ў снапах | 1 бочка | 24 моргі 14,2½ капны |
| 3. | Жыта азімае ў зёрнах | 2 бочкі/8 злотых | 60 бочак 5½ асьмін/240 злотых |
| 4. | Гарох і ячмень яравы ў зёрнах | 22 бочкі 1 асьміна | гарох – 22 моргі 39½ капны, ячмень – 27 моргі 6½ капны |
| 5. | Грэчка і авёс яравы ў зёрнах | 171 бочкі 3 асьміны/26 злотых | 209 бочкі 4½ асьмін/32 злотыя |
| 6. | Сена скошанае | 5925 пудоў | 14 265 пудоў |
| 7. | Салома | 61 пуд | 30 пудоў |
| 8. | Хлеб | 6 пудоў | 679 пудоў 7 фунтаў |
| 9. | Крупа | 5 бочак | 3 бочкі 3 асьміны 3 гарнцы |
| 10. | Птушка (гусі, індзейкі) | 80 штук | 928 штук |
| 11. | Птушка (качкі, куры) | 71 штука | 1140 штук |
| 12. | Масла | 61 гарнец | 107½ гарнец |
| 13. | Венжаніна | 5 пудоў | 8 пудоў 20 фунтаў |
| 14. | Мяса свежае і салёнае | 4 пуды | 96 пудоў 18 фунтаў |
| 15. | Соль (шэрая і белая) | 45 гарнцаў | 108 гарнцаў |
| 16. | Піва | 200 гарнцаў | 100 (+1184 ардзінарнае) гарнцаў |
| 17. | Гарэлка | 10 гарнцаў/32,8 злотыя | 1266 гарнцаў/4152 злотыя |
| 18. | Мёд | 4 гарнца | 9½ гарнцы |
| 19. | Пшаніца азімая ў зёрнах | ------ | 1 бочка 3 асьміны |
| 20. | Пшаніца азімая ў копнах | ------ | 1 морг 3 капны |
| 21. | Соты | ------ | 99 штук |

Як вядома, на нашых землях працяглы час у грашовым абарачэнні былі як расійскія, так і польска-літоўскія грашовыя адзінкі. Нават у пастанове ад 1831 г. "Аб лічэнні пазначанай у Літоўскім статуце манеты ва ўсіх выпадках, дзе ўзыманні адбываюцца па Літоўскаму статуту", агаворваўся курс копы літоўскіх грошаў і расійскага рубля[536]. Па гэтаму курсу 27 рублёў, якія павінны былі сяляне плаціць, складалі каля 7 копаў. Злоты адпавядаў 15 капейкам

[535] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 12. Адз. зах. 425. Арк. 26, 40, 51 адв.–52, 101 адв.–102; Ф. 1168, Воп. 1, Адз. зах. 6. Арк. 42.

[536] Рябцевич, В. О чём рассказывают монеты / В. Рябцевич. – Минск: Народная асвета, 1977. – С. 172-173.

срэбрам, значыць, 1 рубель быў роўны 6 злотым 20 грошам[537]. Гэтая ўвага да грашовых курсаў выклікана тым, каб параўнаць кошт рэквізаванага з тагачаснымі цэнамі на рынку. Яшчэ болей бачны цяжар, які цярпела насельніцтва мястэчка на карысць ваюючых армій.

Напрыклад, з двара Сакалова: 1) грашовы падатак расійскіх войск склаў 20 рублёў, а з сялян – 27 рублёў 85 капеек; 2) азімае жыта (у зёрнах); 3) яравая грэчка і авёс (у зерне) – з двара 8 бочак, з сялян – 1 бочка 7 асьмін; 4) хлеб з двара 10 пудоў, з сялян – 34 пуды; 5) сена на фураж з двара 300 пудоў, з сялян – 729 пудоў; 6) птушка (гусі, індзейкі, качкі, куры) з двара 10 штук, з сялян – 30 штук; 7) саломы з сялян 20 пудоў[538].

Спадчынай Сакалова, як вядома, будуць валодаць Вірыёны. Таму, каб асэнсаваць згаданыя памеры экспрапрыяцый акупантамі, выкарыстаем некаторыя звесткі з інвентара маёнтка Крынкі Івана Вірыёна за лістапад 1845 г. Яшчэ адной крыніцай эканамічных статыстычных дадзеных можна з’яўляцца інфармацыя П. Баброўскага за 1843–1857 гг. аб усёй Гродзеншчыне. На падставе пералічаных крыніц можна зрабіць адпаведныя высновы аб ступені таго цяжару, які мела *толькі* эканамічная частка акупацыйнай палітыкі.

Вядома, што на адну дзесяціну высейвалася азімай пшаніцы і азімага жыта па 60 гарнцаў[539]. Ураджаі азімага і яравога збожжа па губерні за пятнаццацігадовы перыяд (1843–1857 гг.) складалі ў сярэднім, адпаведна, сам $3^{1}/_{20}$ і сам $2^{3}/_{5}$. У Гродзенскім павеце такія паказчыкі можна лічыць нават высокімі, бо, як заўважае П. Баброўскі, ураджаі тут былі вельмі сярэднія ў параўнанні з іншымі мясцовасцямі губерні[540]. Азімага збожжа на кожнага чалавека ў Гродзенскай губерні прыходзілася ў сярэднім 9,5 чацверыкоў[541]. Колькасць насельніцтва ў Крынках абодвух маёнткаў на пачатак XIX стагоддзя складала не менш за 1230 чалавек[542]. Тут дакладных лічбаў няма, і мы

---

[537] Материалы для географии статистики России. Гродненская губерния: в 2 ч. / сост. П. Бобровский. — СПб., 1863. – Ч. 1. — С. 362.

[538] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 12. Адз. зах. 425. Арк. 40.

[539] Материалы для географии и статистики России, составленные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния: в 2 ч. / сост. П. Бобровский. – СПб., 1863. – Ч. 2. – С. 41.

[540] Тамсама. – С. 45, 48.

[541] Тамсама. – С. 53.

[542] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 24. Воп. 7. Адз. зах. 16. Арк. 59 адв.–65, 66–69 адв., 70–78.

карыстаемся звесткамі на 1795 г. Паколькі дадзеныя С. Клішэўскага пра азімае жыта і пшаніцу прыведзены ў такой даўняй меры сыпучых рэчываў на Беларусі і Літве, як бочка віленская (406,54 л), трэба перавесці ўсе паказчыкі ў гэтую меру. Такім чынам, доля азімага збожжа на чалавека складала 0,56 бочкі, а ўраджай з дзесяціны як азімай пшаніцы, так і азімага жыта – па 1,4 бочкі. З простых арыфметычных разлікаў, якія, вядома ж, даволі прыблізныя і не ўлічваюць усёй складанасці сельскагаспадарчага года, вынікае, што на насельніцтва Крынак у год патрэбна было ў сярэднім 688,8 бочак збожжа. У Вірыёнаў на 1845 г. пазначана было 2577 ворнай зямлі, на якой высейвалася, у прыватнасці, азімых жыта 117 чвэрцяў і пшаніцы 14 чвэрцяў (58,5 бочак і 7 бочак адпаведна)[543]. Ураджай можна было чакаць 175,5 і 21 бочак. Нават калі іх павялічыць удвая (быў жа яшчэ ў Крынках Дзівапол), колькасць сабранага збожжа не дасягае патрэбнай для ўжывання колькасці. Таму ваенныя экспрапрыяцыі, як рускіх, так і французскіх войск, адчувальна адбіваліся на дабрабыце крынчан і жыхароў вёсак крынкаўскіх маёнткаў. Дарэчы, такія культуры, як ячмень, гарох, грэчка, высейваліся яшчэ ў меншай колькасці, а памеры рэквізаванага акупантамі такога харчавання, як бачна з табліцы, яшчэ большыя за жыта і пшаніцу. Такая ў пэўнай ступені схематычная спроба ўяўлення аб адносных памерах рэквізіцый паказвае вялікую ступень гаспадарчага ціску вайсковых улад на крынкаўскае насельніцтва. Калі зрабіць зразумелыя папраўкі на неўраджаі, няроўнасць сярод сялянства і мяшчан, карціна будзе выглядаць больш цяжкай і брутальнай.

Другі, восеньска-зімовы этап вайны быў звязаны з адступленнем французскіх войск і адпаведным пераможным рухам расійскай арміі. Ён закрануў Крынкі ў снежні 1812 г. Пасля пераправы цераз Беразіну М.І. Кутузаў накіраваў для назірання за аўстрыйскім фельдмаршалам К.Ф. Шварцэнбергам атрады Д.І. Давыдава і А.П. Ажароўскага. З Вільні паступіў загад рушыць супраць Шварцэнберга корпусу Тучкова, войскам Сакена і Эсена, а таксама авангарду Галоўнай арміі пад камандаваннем генерала І.В. Васільчыкава з некалькімі карпусамі

[543] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 96. Воп. 1. Адз. зах. 365. Арк. 4 адв.

пад агульным камандаваннем Міларадавіча з задачай адсунуць аўстрыйскія часці ў Галіцыю. Увогуле супраць 30-тысячнага атрада Шварцэнберга накіраваліся каля 45 тысяч рускіх войск... Звесткі аб разгроме Напалеона ў аўстрыйскай арміі былі сустрэты з жахам. Шварцэнберг па загаду з Вены раптоўна пакінуў Беларусь і рушыў у Герцагства Варшаўскае[544].

Гэты эпізод вялікай вайны ў некаторай ступені адбіўся і на крынскай мясцовасці. Пра гэты накірунак аўстрыйскіх сіл напалеонаўскіх войск нагадвае вядомы турыстычны “напалеонаўскі шлях”[545]. А тады ў ваколіцах Крынак апынуліся, з аднаго боку, два палкі пяхоты аўстрыйскага генерала фон Флакса. Сам генерал знаходзіўся ў мястэчку. З рускага боку да яго падыходзілі войскі генерала А.П. Ажароўскага, якія рухаліся на Беласток праз Лунна і Адэльск, а таксама казакі і драгуны пад камандаваннем палкоўніка Юзэфовіча і штабс-капітана Лавенштэрна[546].

Ваенная перапіска расійскіх афіцэраў Юзэфовіча і Лавенштэрна з камандаваннем дазваляе зразумець характар і памеры снежаньскіх манеўраў каля Крынак. З яе вынікае, што 9 снежня атрад Юзэфовіча знаходзіўся ў Крынках, з якіх фон Флакс з двума палкамі пяхоты і адным драгунскім палком выступілі напярэдадні ў бок в. Востраў (каля 6 км ад Крынак). У Крынках рускім атрадам вельмі пашанцавала, бо ва ўмовах суцэльнага разбурэння ў мястэчку нават працаваў магазін з запасам фуража і харчавання. Доўгі час у Крынках расійскія вайскоўцы тады не знаходзіліся, бо прыйшлі звесткі аб наступленні атрада аўстрыйскай пяхоты па дарозе з Вострава на бліжэйшай вышыні. Гэта былі дзве роты вянгерскіх грэнадзёраў. Супраць іх палкоўнікам Юзэфовічам былі накіраваны супольныя сілы пяхоты і казакаў. Але ўзброенага сутыкнення не адбылося. Абмен прывітаннямі паміж аўстрыйскімі і расійскімі камандзірамі і выказванне рашучасці наступаць з боку рускіх і адначасова гатоўнасці апошніх даць грэнадзёрам “з мірам” адступіць, прывялі да хуткага

[544] Бескровный, Л.Г. Отечественная война 1812 г. / Л.Г. Бескровный. – М., 1962. – С. 590-591.
[545] Pusza Knyszynska. Park Krajobrazowy Puszczy Knyszynskiej. Mapa tur.-pryrod. 1:85000.
[546] Рапорт полковника Юзефовича декабря 7 дня 1812 г. м. Мосты господину генерал-адьютанту и кавалеру Васильчикову // Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора актов. – Вильно, 1912. – Т. XXXVI: Документы и материалы, относящиеся к истории Отечественной войны 1812 г. – С. 24.

адыходу ар’ергарда аўстрыйцаў. Нават той факт, што агульная перавага сіл аўстрыйскіх часцей у крынкаўскай мясцовасці на той час была значна большай (у вёсках Лішкі, Сямёнаўка, Галынка стаялі іх атрады), не змяніў становішча. Агульным стратэгічным рухам было адступленне ўсіх напалеонаўскіх сіл, а Крынкі ў гэтым перамяшчэнні былі кропкай, дзе можна было знайсці хоць нейкую ежу і фураж для коней. Але, як паказалі падзеі, ужо не коштам чалавечага жыцця. Таму атрад Лавенштэрна, які быў у хуткім часе ў Востраве, знайшоў там толькі рэшткі ар’ергарда аўстрыйцаў. Палохаць набліжэннем вялікай расійскай арміі і аргументам, што “вопыт даравання, якое было аказана пры Крынках, не будзе прыкладам наперад”, не было каго. Штабс-капітан аднаго з аўстрыйскіх батальёнаў ар’ергарда меў ужо загад на золку выступіць далей, на Цікочын[547]. Вось што піша ў сваім рапарце генерал-ад’ютанту графу А. Ажароўскаму аб гэтых падзеях сам Лавенштэрн: “Прыбыў я з даверанай мне казачай камандай у м. Крынкі і быў на шляху далей да сялення Востраў, на палове шляху знайшоў аўстрыякаў, якія вярталіся назад да мястэчка Крынкі, але я ім аб’явіў, што гэтага не можа быць без крывапраліцця, і яны прыпыніліся ў сяленні Востраў і ідуць заўтра далей...”[548].

Часці пад камандаваннем Юзэфовіча яшчэ 12 снежня знаходзіліся ў Крынках, адкуль таксама рушылі ў Востраў[549]. 20 снежня дывізія генерала Флакса накіравалася з раёна в. Востраў у накірунках Супраслі і Каралева Маста, а рускія часці ўздагон занялі пакінутыя аўстрыйцамі пазіцыі. Штаб Юзэфовіча размяшчаўся ў Крынках практычна да 21 снежня, адкуль таксама накіраваўся ў Беластоцкім напрамку[550]. Пройдзе кароткі, але вельмі ёмісты на падзеі час 1813 і 1814 гадоў, і ў Крынках (у дакуменце – *Крынцы*) у жніўні

---

547 Рапорт полковника Юзефовича декабря 9 дня 1812 г. М. Крынки // Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора актов. – Вильно, 1912. – Т. XXXVI: Документы и материалы, относящиеся к истории Отечественной войны 1812 г. – С. 25.

548 Рапорт штабс-капитана Лавенштерна декабря 9 дня 1812 г. Его Сиятельству господину генерал-адьютанту и кавалеру графу Ожеровскому // Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора актов. – Вильно, 1912. – Т. XXXVI: Документы и материалы, относящиеся к истории Отечественной войны 1812 г. – С. 27.

549 Рапорт полковника Андрианова 1-го // Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора актов. – Вильно, 1912. – Т. XXXVI: Документы и материалы, относящиеся к истории Отечественной войны 1812 г. – С. 31.

550 Рапорт полковника Юзефовича генерал-адьютанту и кавалеру Васильчикову декабря 21 дня 1812 г. // Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора актов. – Вильно, 1912. – Т. XXXVI: Документы и материалы, относящиеся к истории Отечественной войны 1812 г. – С. 32.

1814 г. пасля замежнага пахода апынуцца на кватэры, іншымі словамі, на адпачынку, часці расійскіх войск, дзе і прабудуць восем месяцаў. Менавіта з крынкаўскіх пазіцый яны 1 красавіка 1815 г. накіруюцца па загаду камандавання зноў на Францыю, дзе ў той час Напалеон, збегшы з Эльбы, спрабуе вярнуць страчаную ўладу[551]. Але галоўным следам вайны для Крынак, як, дарэчы, для кожнага населенага пункта, былі людскія страты, аб якіх ужо згадвалася ў раздзеле, прысвечаным дэмаграфічнай характарыстыцы мястэчка. Можна зазначыць, што адмоўны натуральны прырост насельніцтва за 1812 г. (пры большай, чым звычайна, дзіцячай смяротнасці) у Крынках, без перабольшвання, быў і з-за значнага пагаршэння эканамічнага становішча местачкоўцаў.

## Навала Першай сусветнай

Першая сусветная вайна ўсімі жахамі абрынулася на Крынкі. Больш небяспечнага месца, у сваім родзе, немагчыма сабе ўявіць. На скрыжаванні трох крэпасных раёнаў – Брэсцкага, Гродзенскага і Асавецкага, Крынкі па ўсіх планах падпадалі пад тэрыторыю, якая мелася быць вынішчанай як месца будучых ваенных аперацый. Не абмінулі выпрабаванні і насельніцва Крынак – мабілізацыя ў расійскае войска, праца па забеспячэнню абедзвюх армій – спачатку расійскай, а потым кайзераўскай. Як і ўсё насельніцтва Гродзенскай губерні, крынчане сталі часткай шматмільённых бежанцаў на абшарах Расіі ў 1915–1923 гг.

Пакуль ваенныя дзеянні не падышлі непасрэдна да Крынак, яны, як і ўсе абшары Гродзеншчыны, знаходзіліся на ваенным становішчы. Гэта азначала жорсткую ваенную цэнзуру, абмежаванне перамяшчэн-

[551] Из воспоминаний М.П. Романова “Записки отставного подполковника Михаила Петровича Романова, посвященные военным действиям в России и за границей с 1812 и по 1817 год, в которых он участвовал. 1838 год” // 1812 год. Воспоминания воинов русской армии: из собрания Отд. письменных источников Гос. ист. музея / сост. Ф.А. Петров [и др.]. – М.: Мысль, 1991. – С. 407.

няў, гандлю, шматлікія прымусовыя працоўныя мабілізацыі для насельніцтва і мабілізацыі ў дзеючую армію. Як ужо згадвалася раней, час 1914 і нават пачатак 1915 гг. быў перыядам, калі працягвалася пашырэнне гарбарнай вытворчасці. Адначасова не ў такіх памерах, як у пачатку стагоддзя, але ўсё ж згадваў пра сябе рэвалюцыйны рух. Там-сям жыхары сустракалі пракламацыі, змест якіх выкрываў сэнс вайны. У адной з такіх лістовак, знойдзеных у актывіста крынкаўскай арганізацыі "Бунда" 19-гадовага мешчаніна м. Воўпа Абрама Гіршавіча Агуніна, гаварылася: "Вайна вайне! Далоў дзеючую армію! Няхай жыве народная міліцыя, далоў прыгнёт нацыянальнасцей, няхай будуць роўнасць у правах усіх народаў, аўтаномія Польшчы, міжнародная салідарнасць працоўных. Няхай жывуць роўнасць габрэяў у правах, нацыянальна-культурная аўтаномія. Мы патрабуем 8-гадзіннага працоўнага дня, 8 гадзінаў на сон і 8 гадзінаў вольнага часу. Мы патрабуем панавання рабочых. Далоў панаванне памешчыкаў. Няхай жыве дэмакратычная рэспубліка!"[552].

Але час ваеннага становішча выключна жорстка адносіўся да такіх ўчынкаў. Усялякія спробы выступленняў караліся судом або адпраўкаю на фронт.

З 1 жніўня 1914 года і да лета 1915, да таго, як пачалося на Гродзеншчыне адступленне расійскіх войск, праводзіліся масавыя мабілізацыі салдат апалчэння I і II разрадаў. Крынкаўскія землі спазналі мабілізацыі 18.07, 22.07, 22.09 (дзве), 12.11, 12.12, 20.12 у 1914 г., 02.01, 01.04 у 1915 г. Была яшчэ абавязковая кастрычніцкая мабілізацыя навабранцаў[553]. Такім чынам, 10 з 22 мабілізацый, праведзеных за вайну Расійскай імперыяй, прыйшліся на Гродзеншчыну, а значыць, і на Крынкі. Ёсць меркаванне, што да верасня 1915 года з гэтай губерні было прызвана каля 103 тысяч чалавек[554]. Гэта складала 12 % ад усяго мужчынскага даваеннага насельніцтва гэтага рэгіёну, з ліку працаздольнага мужчынскага насельніцтва колькасць прызваных

[552] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 366. Воп. 1. Адз. зах. 335. Арк. 1–3.
[553] Карнялюк, В. Пра колькасць прызваных у Расійскае войска з Віленскай, Віцебскай, Гарадзенскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў у часы Першай сусветнай вайны (1914–1918 ) / В. Карнялюк // Гістарычны альманах. – Гродна, 2000. – № 3. – С. 177.
[554] Тамсама. – С. 179.

складае 38 %[555]. Гэтыя статыстычныя дадзеныя дапамагаюць уявіць памеры мабілізацыі з Крынак. Дакладна вядома, што толькі ў ходзе адной мабілізацыі 2 студзеня 1915 г. з мястэчка накіраваліся на фронт 66 прызыўнікоў-габрэяў[556].

Крынкі знаходзіліся на шляху велізарных ваенных дзеянняў, якія разгарнуліся ў 1915 годзе на Усходнім фронце. Краіны Траістага альянсу выбралі Расію новым накірункам ваеннай кампаніі, і гэта летам-восенню выклікала вялікае адступленне з тэрыторый Усходняй Прусіі, Польшчы і Беларусі расійскіх войск. У ходзе гэтых перамяшчэнняў першая буйная ваенная аперацыя недалёка ад Крынак адбылася ў Аўгустоўскіх лясах узімку 1915 г.[557] Наступленне летам 1915 г. скончылася, у прыватнасці, акупацыяй Гродна 21 (3) жніўня[558]*.

Яшчэ да таго, як у віхуры гэтых падзей пойдзе эвакуацыя крынскага насельніцтва, у мястэчка набіліся бежанцы з пакінутых расійскай арміяй тэрыторый Польшчы, вызначаных у расійскіх дзяржаўных паперах Прывісленскім краем. Габрэі і палякі спрабавалі прыпыніцца ў Крынках, як і ў іншых мястэчках навокал, бо, як і ўсе бежанцы, не хацелі далёка ад'язджаць ад родных мясцін. Справаю ачольвання бежанцаў, як вядома, займаліся шмат арганізацый, як дзяржаўных, так і грамадскіх[559]. Сярод кіраўнікоў і актывістаў адной з такіх габрэйскіх арганізацый былі Соня Фель, Якаў Кірзнер, Вендэт Ніхт, Пінкас і Менес Гарбэры. Яны са сваімі паплечнікамі ўсяляк спрабавалі зменшыць турботы і хваляванні ўцекачоў[560].

Пры падыходзе фронту эвакуацыі падлягалі ўсе дзяржаўныя ўстановы, вайсковыя і грамадзянскія. Насельніцтву прапанавалася

---

[555] Тамсама. – С. 180.
[556] НГАБ у г. Гродне. – Ф. 2. Воп. 30. Адз. зах. 1155. Арк. 64 адв.–75 адв.
[557] Гэта было знішчэнне ў акружэнні 20-га пяхотнага армейскага корпуса генерала Булгакава. Толькі два палкі рускіх здолелі прарвацца да фартоў Гродзенскай крэпасці (аб гэтым у кнізе: Каменский, М. Гибель XX корпуса / М. Каменский. – М., 1926).
[558] Плешавеня, А. Каля Гродзенскіх фартоў / А. Плешавеня //Гродненская правда. – 1993. – № 113; Аб падзеях адступлення з пазіцый Гродзенскай крэпасці ў артыкулах: Плешавеня, А. Каля Гродзенскіх фартоў / А. Плешавеня // Памяць: гіст.-дакумент. хроніка горада Гродна. – Мінск: БелЭн, 1999. – С. 214–224 і Карнялюк, В. Гродзенскі эпізод Першай сусветнай вайны / В. Карнялюк // Беларуска-нямецкія грамадска-культурныя ўзаемаадносіны: гісторыя, сучаснасць, перспектывы // Albaruthenika-7. – Мінск, 1996. – С. 34–38.
[559] Карнялюк, В. Фактары гісторыка-дэмаграфічных змен у складзе насельніцтва Беларусі ў 1913–1918 гг.: дыс. … канд. гіст. навук / В. Карнялюк.– Гродна, 2001. – С. 66.
[560] Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry. – S. 94.

бежанства. Як і ў іншых мясцовасцях Гродзеншчыны, падставамі для высялення, фактычна выгнання насельніцтва былі, па-першае, стаўленне расійскіх царскіх уладаў як да айчыннай. Таму намаганні ўрадавах чыноўнікаў былі накіраваны на фарміраванне варожасці і страху перад нямецкімі войскамі. Нямала шчыравалі ў гэтым праваслаўныя святары, "цэлымі прыходамі вывозячы іх (насельніцтва) у цэнтральную Расію"[561]. Запалохванні, прымус з боку святароў, войска і грамадзянскіх улад зрабілі сваю справу: насельніцтва ў вялікай колькасці пакінула мястэчка. Разам са сваімі вучнямі ў Тулу з'ехаў галоўны равін Крынак Залман Сандэр Шапіра[562].

Бежанства ў гады Першай сусветнай вайны – адна з найбольш страшэнных і складаных старонак гісторыі. За час з пачатку акупацыі і да рээвакуацыі ў пачатку 20-х гг., калі бежанцы вярталіся на сваю Бацькаўшчыну, якая ўжо знаходзілася ў складзе новай дзяржавы, яны назапасілі вялікі досвед у сацыяльна-палітычным і культурна-нацыянальным жыцці. Іх свядомасць істотна крочыла ў бок беларускай (калі гаворка пра гэтую частку местачкоўцаў) самаідэнтыфікацыі[563]. Адным з шматлікіх доказаў гэтаму з'яўляюцца ўспаміны былых бежанцаў, выдатны вопыт збору якіх атрымалі беластоцкія гісторыкі. Сярод гэтых мемуарных нарысаў ёсць сведчанні Аляксандры Яновіч, якая з усёю сям'ёю апынулася ў бежанстве "ажно за Волгаю, за Самараю, у вялікім кацапскім сяле"[564]. "Бабуля Барбара, – згадвае Аляксандра Яновіч, – не на шмат гадоў перажыла сына, памерла ў Баранавічах, у польскім каранціне падчас вяртання на радзіму (заразілася дызентэрыяй). Смерць скасіла і маленечкіх сясцёр, імёны якіх забыліся за гэтулькі веку. Дзіцячая смяротнасць у тую эпоху ўяўлялася звычайнай справай, змучаныя мацеркі, можа, нават і не плакалі па малечах, мацней шкадавалі гадаваных, што людзьмі ставіцца"[565]. Жахлівыя карціны бежанскага руху магла ўзгадаць кожная крынская сям'я, якой лёс напаткаў рушыцца з нажытых мясцін і, кінуўшы амаль усё, накіравацца на Усход імперыі.

[561] Цвікевіч, А. Адраджэнне Беларусі і Польшча / А. Цвікевіч // Вызваленне. – 1921. – С. 58-59.
[562] Pinkas Krynki // http:/www:jewishgen.org./yizkor/krynki/kry. – S. 90.
[563] Карнялюк, В. Маргінальнасць бежанцаў-беларусаў як фактар росту іх нацыянальнай самасвядомасці / В. Карнялюк // Этносоциальные и конфессиональные процессы в современном обществе: материалы научно-практической конференции, Гродно, 16–18 ноября 1999 г. – Гродно, 2000. – С. 314.
[564] Бежанства 1915 года. – Беласток, 2000. – С. 357.
[565] Тамсама. – С. 360.

Аднак перад тым як адступіць і пакінуць Крынкі, урадавыя чыноўнікі разам з вайскоўцамі праводзілі неаднаразовыя рэквізіцыі. Гэта была вельмі марудная справа па збіранню на карысць дзяржавы маёмасці, якую бежанцы не маглі ўзяць з сабою. Адпаведна выпрацаваным правілам пад рэквізіцыю падпадалі ў першую чаргу коні, фурманкі, жывёлы, пасевы, прадукты харчавання больш за аднамесячную норму, машыны, станкі, уся медзь, усе вырабы з алюмінію, цынку, тканіны, скуры, цукар. Уся маёмасць павінна была ацэньвацца камісіяй з 4-х чалавек, у якую ўваходзілі прадстаўнік губернскай адміністрацыі, прадстаўнік войска і два панятыя з жыхароў. Кошт усяго забранага павінен быў адпавядаць рынчнаму, і гаспадары павінны былі атрымліваць дакумент аб рэквізіцыі[566]. Толькі так адбывалася далёка не заўсёды. На справе тэмп пакідання насельніцтвам сваіх гаспадарак быў хуткі, а ўлады клапаціліся аб сабе, вайскоўцы з пачатку масавай эвакуацыі сутыкаліся са значнымі цяжкасцямі, таму што павінны былі вырашаць шмат складаных гаспадарчых, арганізацыйных пытанняў мясцовага насельніцтва[567]. Прывядзем урывак з тэлеграмы камандуючага 1-й расійскай арміяй генерала ад кавалерыі Ліцвінава ад 1 жніўня 1915 года: “У тылавых раёнах корпусаў цалкам адсутнічаюць чыны грамадзянскай адміністрацыі. Няма нават старастаў. Пакінутае самое па сабе насельніцтва з усімі патрэбамі звяртаецца да прадстаўнікоў вайсковай улады, ... якія самі абцяжараныя спецыяльнай працай. Шляхі запоўнены бежанцамі, якія не ведаюць, куды ехаць, не ўсе ведаюць аб рэквізіцыі і азнаёмлены з яе правіламі, не ведаюць зборных пунктаў губернскіх камісій. Пасевы застаюцца зусім не рэквізаванымі ўладамі. Вайсковыя камісіі, знаходзячыся ўвесь час у руху з войскамі, не маюць ніякай магчымасці рэквізаваць усё. Для гэтага няма ў іх ні часу, ні сродкаў, ні дапамогі з боку грамадзянскіх улад”[568].

Тады, у першай палове 1915 года, з Крынак – мястэчка і вёскі было рэквізавана 99 коней з агульнай колькасці 695 па Крынска-Міхайлаўскай воласці. Бачыцца патрэбным згадаць імёны тых гаспадароў мястэчка ўжо таму, што гэта частка тых, хто ўрэшце рэшт

---

566 НГАБ у г. Гродне. – Ф. 92. Воп. 1. Адз. зах. 11. Арк. 4-4 адв.
567 Карнялюк, В. Фактары гісторыка-дэмаграфічных змен... / В. Карнялюк. – С. 62.
568 НГАБ у г. Гродне. – Ф. 7. Воп. 9. Адз. зах. 1994. Арк. 226-227.

